# КАСТУСЬ КІРЭЕНКА

## ЗБОР ТВОРАЎ У ТРОХ ТАМАХ

ТОМ

2



## ВЕРШЫ
## ПАЭМЫ

1962—1981

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# КНІГА СТА ПЕСЕНЬ

* * *

Забараніце піць і есці —
Я ўсё сцярплю, пераражыву.
Але на міг не дайце песні —
І я душу сваю парву.

Якой бы страшнаю пакутай
Жыццё ні ўздумала чарніць —
Адно хай мне пакіне:
смутак,
Дзе песня ціхая звініць.

Не зломяць сэрца ні замовы,
Ні боль, ні лютая бяда,
Пакуль магу ісці і словы
У песні любыя складаць...

* * *

Была вясна, хадзіла рэха
Па волкіх сцежках берагоў,
Як быццам ранак зноў праехаў
З наборам бомаў між лугоў.

Ах, колькі дзіў жыло наўкола,
І так званіў світальны дым!
А я чакаў,
чакаў твой голас
Пачуць у водгаласе тым.

Чакаў: вось ты паклічаш чула...
Прайшлі гады... маўчаць званы...

Ды хоць і ўсё б жыццё мінула,
Я не пакіну той вясны!

* * *

Не тое слова, не, не тое
Душу ўзнясе, дзе бляск і зман.
А тое простае, святое,
Ў якім жыве душа сама.

Святое слова праўды светлай
І шчырай роднасці людской,
Якое так патрэбна свету,
Як сэрцу — жаль і неспакой.

Дзеля такога варта падаць
І варта зноў устаць і жыць.
О, дай жа, лёс, мне гэту радасць —
Такому слову век служыць!

* * *

Гарыць спатканняў нашых зорка,
Шуміць пад ёй той самы гай,
Дзе клёны нам крычалі: «Горка!»,
А сосны пелі ўслед: «Бывай...»

І сёння нас, як родных, стрэлі
Яны, такія ж, як тады.
А мы... Няўжо так пастарэлі?
Няўжо стамілі нас гады?

Стаім. Бы ў роздуме, па струнках
Ідзём сцяжынцы — і маўчым.
І памяць даўніх пацалункаў,
Відаць, не ўзрадуем нічым...

* * *

Няма журбы на свеце лепшай,
Чым у красе сярод дуброў.
І ад хвароб яна палечыць,
І ад няшчырых слоў сяброў.

Устань світанкам, выйдзі ціха,
Дзесь пад асінкамі прысядзь.
І ўбачыш, як з ласём ласіха
Над ласянятачкам трымцяць,

І ўбачыш, як да траў нястрымна
Струменьчык выб'ецца з глыбінь,—
І раптам нешта ў сэрцы грымне...
І гэта будзе шчасцю гімн!

* * *

Не трэба ясным быць прарокам,
Каб зразумець, чаму баліць
Душа па любасці далёкай,
Якой нічым не замяніць.

Але па ўсмешцы, блізкай самай,
Што тут вось, побач, расцвіце,
Хіба не журымся таксама,
Як зорка спадная ў рацэ?

Хіба не хочацца часамі
Паплакаць голасна, хоць міг,
Па ўсім, па ўсім, што любім самі
І што чакаем для саміх?..

* * *

Вам, юным, скажам без ухмылкі
І не ударым па плячу.
Свае сумлівыя памылкі
На вас узвальваць не хачу.

Хачу, каб вы і красавалі
І даспявалі без кіўкоў.
Вы прад багамі не спявалі,
Дык не спявайце на бажкоў.

Жывіце мудра і шырока.
І добра памятайце век:
Што калі лётаць — дык высока
Заўсёды прагнуў чалавек.

* * *

Жывыя падаюць на рукі,
А мёртвым — як ім падаць лепш?
А ты — і ў лютасцях прынукі
Стой горда, мой каханы верш!

Перад жывымі будзь прыветны,
Але паклонаў ты не бі
І лепш у праўдзе запаветнай
Адвагу простую любі.

І толькі мёртвым пакланіся
Паклонам поясным, зямным.
Ты помнік ім яшчэ не высек,—
А як жа ты адмовіш ім?

* * *

Заўжды, заўжды чамусьці верым,
Што там, за сіняю вадой,
Зусім інакшы ззяе бераг,
Чым гэты, свой, з яго бядой,

З яго клапотамі, адчаем...
О дальні бераг, бераг мар!..
І вось, парэшце, адплываем
Туды, ў праменісты абшар.

І бачым самі, чым нядаўна
Так захапляліся не раз...

І бераг родны — як ён слаўнай
Красой засвеціцца для нас!

* * *

Давайце, хлопцы, проста, шчыра
Прысядзем кругам ля цяпла.
Распалім дружна люльку міру,
Якой бы смешнай ні была.

Давайце ўспомнім дні дзіцячых
Прыгод, і казак, і надзей.
Мо, іх згадаўшы, мы іначай
На свой супольны глянем дзень?

Давайце ў мару пойдзем разам,
Хай там адказам празвініць:
А можа, мы не ўмеем часам
Сяброўскай вернасці цаніць?

* * *

Пагасла зорка дзесь над полем.
Пасля яшчэ вунь і яшчэ...
Што мне да іх?.. А нейкім болем
Раптоўна сэрца апячэ.

Як быццам зараз нешта страціў,
Кагосьці болей не вярнуць.
І ўспомніш фронт, балоты, гаці,
І згадкі памяць разануць.

І нешта стане ў горле комам,
І здасца раптам: сам гарыш...
А зоркі падаюць са звонам.
І звон такі — што не сасніш...

* * *

Зямля ўзарвецца страшным громам,
Асядзе ўсцяж пякельны пыл,
І ўсё...
І свет, такі знаёмы,
Замрэ без енкаў і магіл.

І ўсё, што бралі і любілі,
Пагасне ўраз...
Але нашто,
Нашто мне знаць пра тыя хвілі
І думаць сёння пра нішто!

Я жыць хачу, хачу смяяцца,
Я прагну — значыць, я магу!
І ўсё ж...
Таму, відаць, і сняцца
Мне ў хмарах кветкі на лугу...

* * *

Пастылі кроплі росаў летніх.
Гарошак кудзеркі пляце.
І ўсё вышэй, усё прыкметней
Паўзе гуркоўнік на пляцень.

Да рысы нейкай дойдзе лета
І жоўтай хусткаю ўзмахне.
Тады — ёсць даўняя прыкмета —
Павесь вяночак на сцяне.

І будзе першая дзяўчына,
Што ўбачыць той вянок,— твая...
Я так зрабіў... Была прычына,
Каб не цябе прывеціў я...

* * *

Я многа пеў — спагадна, звонка,
Смяяўся, біўся, сумаваў.
Але святое слова «жонка»
Ні разу ў песню не пазваў.

Усё чакаў нагоды нейкай,
Усё саромеўся як бы...
А ёй — як слёзная жалейка,
Былі ёй дні маёй журбы.

А ёй душы маёй трымценне
Паліла сэрца, як агонь...

Павер, я знаў. І ўсё натхненне
З табой звязаў я, дарагой...

* * *

Раве над морам, б'е віхура,
За валам вал, нібы гайня.
Ды толькі б як ні выла бура —
Жыве па-свойму глыбіня.

Там мір святла, там спеюць сілы,
Там свой заўжды, глыбінны, свет...
Вось так і ты для справы мілай
Настрой душу сваю, паэт.

Хоць як шалеюць злыдні свету,
Хоць як вярзуць на нас і час —
Ісці на свой маяк да мэты —
Такі ў паэта свой наказ.

* * *

І сонца ёсць, і маю неба,
Як песня даўняя пяе...
Ах, божа, што яшчэ мне трэба?
Чаго для сэрца не стае?

Каму крычу, чаго чакаю,
Куды без роспачы лячу?..
Туга з гадамі не знікае...
Ды я тугі і не лячу...

Напэўна, нешта ёсць такое,
Чаго вось так не назавеш...
А можа,
          лепшае, зямное
Даўно ірвецца слова ў верш?..

* * *

Я не шукаў ніколі бога
І залатых яго ікон.
Адно туга —
               дарог трывога —
Заўжды гукала ад акон.

Ісці, ісці — усё спачатку
Рабіць: шукаць, спяваць і днець.
І загарацца без астатку,
І да астатку палымнець.

І хоць, магчыма, самы першы
Я на шляхах яшчэ не быў,
Але скажу: не толькі ў вершах
Я край свой бачыў і любіў.

* * *

З усім наўкол душою зліцца,
Высока кронай зелянець,
І раптам — грымнуцца, зваліцца,
Каб непрыкметна спарахнець.

І гэта ёсць жыццё, якому
Ні заказаць, ні загадаць?
Так, гэта ўсё. Але нікому
Яго не згодны мы аддаць.

Жывём, пакутуем, як быццам
У пекле выпала згарaць...

Але каб зноў хоць раз радзіцца —
Сто раз гатоў я паміраць!

* * *

Пяе гармонь.
                    Далёка ў вёсцы
Ёй адгукнуўся сум дзяўчат.
А хлопец, стрыжаны, ў матросцы,
Напэўна, гэтаму не рад.

Стаіць пад ліпаю,
                    на вулку
Зірне і роспачна ўздыхне.
Па кладцы пойдзе за рачулку —
Ды зноў назад...
                    І шкода мне...

Чаго ты, хлопча?
                    Калі цяжка,
Дай сум твой, я з ім пастаю.
А ты ідзі, спяшай, цяльняшка,
Ваюй за русую сваю!..

* * *

Я ўстану рана — з сінім ветрам,
Калі яшчэ дыміцца бор,
Калі сцяжыначка прыкметна
Па тым адным — цвіце чабор.

Будзіць не буду. Спі, дзяўчынка.
Па ўзросту — мне амаль дачка.
Адно ля воч бяжыць маршчынка,
Як цень ляснога раўчука.

Што будзе з намі? Снег на скроні
Апаў, падзе і ападзе.
А ты?.. Мой сум цябе дагоніць.
Ды ці стрымае толькі дзе?..

* * *

Лісток апаў, зляцеў з галінкі
І прычапіўся да пянька,
І там трымціць на павуцінках —
На кроснах яснага дзянька.

І так ён хоча тут астацца,
Як бы ратунак свой абраў,
Аж вецер перастаў ганяцца
За спрытным конікам між траў.

Стаіць, глядзіць асенні вецер
І ціха думае: ну, што ж...
І з ласкай хіліцца да вецця,
І росы капаюць у Сож...

* * *

— Вазьмі мяне на сто, на дзвесце,
На трыста год, хоць і рабом.
Вазьмі,— казаў юнак нявесце,—
Усё сабе, я ўвесь з табой...

Ён так казаў, але не ведаў:
Усё яна даўно ўзяла,
Што ёсць, што будзе: радасць, беды,
І сэрца кругам абвяла.

Бо каб яна не чула сэрцам,
Што ёй усё прынёс юнак,
Не пагадзілася б да смерці
Яго ахоўваць. Толькі так.

* * *

Мой сын, мой сын, ты ў свет далёкі
Паехаў раптам без мяне.
І я, як востраў адзінокі,
Стаю,
        хоць рукі на стырне.

І я прашу вятры і зоры
Цябе вярнуць на бераг мой.
Вярнуць такім жа ўсё бадзёрым,
Хоць з буры вырваўшы самой.

Але павер: у грозных дзеях
Я не хачу цябе стрымаць,
Бо сам жа ведаеш:
                                цябе я
Любіў і песціў нездарма.

* * *

Сябе не стану перайначваць.
Ці раз заплачу ад тугі?..
Адны сцягі нідзе не плачуць,
Хоць і схіляюцца сцягі.

Калі і схіляцца — ўсё роўна
Не патухаюць пад жальбой.
Яны ва ўсім і безумоўна
Вядуць бясконцы, мужны бой...

Перарабляць сябе не стану.
Бывае слабасць... як пазбыць?
Але на сцяг нязгасны гляну —
Хачу такім хоць трохі быць.

* * *

Ах, залатыя, залатыя
Па пояс косы,
                    дзве касы,
Укрыйце, цёплыя, густыя,
Мяне ад золкае расы.

Ад злой укрыйце буры-сцюжы,
Ад сумных знічак на ляту.
І вочы я тады прымружу,
І ўбачу толькі дабрату.

І ласкай светлай, а не згубай
Пярун у небе запяе...
Укрыйце твар мне, косы любай,
Укрыйце, пахкія мае...

* * *

Гляджу: матуля песціць сына...
А недзе ў вочы б'е напалм.
І зноў па нейкую краіну
Раптоўна вылюдак напаў.

І зноў з агнём хлусня ў хаўрусе.
У катаў — рукі мяснікоў...
І я, прызнаюся, баюся
За мацярок і хлапчукоў.

Убачу: маці песціць сына,
І чую, як гудзе напалм...
Глядзі, глядзі, мая краіна,
Каб кат знячэўку не напаў...

* * *

Павесялелі ўсе разлогі,
Снягі праменнямі зняло.
Павысыхалыя дарогі
Удалеч клічуць за сяло.

Пакіну стол, аловак, сшытак,
Вазьму кіёчак — і гайда.
Дзень добры, дымныя ракіты,
Дзень добры, кнігавак арда.

Там, дзе свячэнне дня ўзнікае,
Дзе спеў, дзе гул, дзе бляск ракі,
Даўно-даўно мяне чакаюць
Мае найлепшыя радкі...

* * *

Калода карт. Адна калода.
Яе тасуюць сяк і так.
Адна ў банкрутаў асалода —
Сарваць, прайграўшы, хоць пятак.

Пацеюць, тужацца, гіруюць,
Хто больш — збіраюць казыры.
Часамі брудна захітруюць,
Часамі пусцяць пухіры.

І хай бы!.. Што ж... Няхай гуляюць,
Пакуль яшчэ бягуць іх дні...
Ды вось бяда —
яны жадаюць,
Каб свет быў з імі ў той гульні...

* * *

Маланкі неба пакрамсалі,
Зарніцы ціха адгулі,
І там, дзе воблакі звісалі,
Блакіт, як неба, на зямлі.

Пасля дажджу на луг, на поплаў
Праменняў хлыне вадаспад,
І пад смугой вячэрняй, цёплай
Пяшчотна млее далягляд.

Палеткі дыхаюць, як дзеці.
І я шчаслівa ім кажу:
— Спачніце. Заўтра на дасвецці
Я вас абдымкам разбуджу.

* * *

Матуля, як хачу я зараз,
Каб і ў галошанні завей
Прыйшоў мой голас, голас мары,
На твой сівенькі юбілей.

Я пасылаў зімой і летам
Паклон табе, твайму жыллю.
А сёння песню шлю вось гэту,
Табе вось гэта слова шлю.

Жыві, ступай, на ўцеху сыну.
У векавечны шлях святла.
І я тады жыццё не кіну,
Каб ты самотнай не была.

* * *

Вярніце мне жывое зерне
З тае гарматнай калатні.
Вярніце любасць мне і вернасць,
Што вывяраліся ў агні.

Вярніце ўсмешкі, казкі, гулі.
Але ў каго патрабаваць?..
Хіба чым-небудзь іх расчуліш,
Вось тых, што прагнуць забіваць?..

Яны адну вучылі мову:
Агонь, і сталь, і гром — у твар...

Дык будзь жа цвёрдым, маё слова,
І будзь бязлітасным, удар!

* * *

Якая справа мне да тронаў,
Да троннай пыхі, да вяльмож!
Маё каханне — лес зялёны,
Лугоў прыволле, ціхі Сож,

Палі, красуючае жыта,
Шляхі з задумаю прысад.
Маё жаданне — свет абжыты,
Як у падпорках спелы сад.

Якая справа мне да пыхі
Вяльмож! Яе б не ўспомніў век.
Ды чую жаль —
Сіроцкі, ціхі,—
І крык бяздомных і калек...

* * *

Парог бацькоўскай мілай хаты,
Як ты мне сніўся! Як заўжды
З тых дзён, калі дыханнем мяты
Правёў за пырнік родных меж!

Як многа я пасля
на свеце
Прайшоў і сцежак і дарог!
Як многа бачыў, як увеціў,
І што жадаў — заўсёды мог.

Але ва ўсіх турботах плодных
Я помніў добра, мой парог,
Што гэта ты мяне, мой родны,
Вучыў зрабіць свой першы крок.

* * *

Кахаем, пэўна, раз — і толькі.
А ўсё астатняе — шуга.
Сухія выцвілыя болькі
І пацяруха-мітульга.

Каханне ходзіць толькі ціха,
Яно не чуецца здаля.
Яно — як маці-парадзіха,
Што песціць вокам немаўля.

Каханне ходзіць толькі горда,
Але балюча боль нясе.
Бо сэрца, хоць і будзе цвёрдым,
А крыўды вынесе не ўсе.

* * *

Шуміце, вёсны, буйна, гулка,
Гарыце, смолкі, на лугах.
Бушуйце, рэкі і рачулкі,
Не засынайце ў берагах.

Спявайце, леры і калыскі,
І слаўся, дзён і ўзлёт і сум...
За ўсё, за ўсё паклон свой нізкі
Табе, жыццё, я прынясу.

Адно, прашу, не дай пабачыць,
Адно нідзе не дай пазнаць,
Як людзі ад няпраўды плачуць,
І крыўды іх з труны не ўзняць...

* * *

Бунтуе сэрца ў чыстым слове,
І мара свеціцца здаля.
Я зноў іду к табе на споведзь,
Мая любімая зямля.

Кідаю ў бездань страхаў цені,
Душу кладу на твой алтар.
І калі стану на калені
Перад табой —
прашу, не ўдар.

Не ўдар, не кінь ахвяру ў прысак,
А падымі і асвяці.
Бо я ж яшчэ тых слоў не высек,
З якімі б мог
к табе прыйсці.

* * *

Ты знаеш добра, як ішоў я,
Як нёс агонь, як палымнеў,
Дзе сустракаў жыццё любоўю,
А дзе, што бомбу, кідаў гнеў.

Ты знаеш добра, як парою
Трымцеў над хваляй мой масток
І як не выйшаў я са строю,
Хоць біў у скронь смяротны ток.

Ты знаеш добра — з вечным болем
Я нёс і славу на гарбе...
Усё ты знаеш, бо ніколі
Я не хаваўся ад цябе!

* * *

Аж ззяе луг: рамонкі, смолкі,
Гарошак, слёзкі і званкі
Бягуць, бягуць пад вецер волкі
Па светлым беразе ракі.

Кусты шыпшын спяшаюць з бору,
Хутчэй на ўзгоркі — там даспець.
А лог так пахне ад чабору,
Што аж баіцца дуб самлець.

Гарыць зямля ад фарбаў летніх,
Спявае шчодра зноў і зноў...
А ты чаму — скажы, бяссмертнік,—
Заўжды маўчыш ля курганоў?

* * *

Бывае, выйдзеш на дарожку,
Глядзіш — а там пасля дажджу
Чыесьці босенькія ножкі
Стапталі росную мяжу.

Бяжыць слядок, пабег кудысьці,
Нібы між хваль віляў чаўнок.
І радасць просіцца між лісцяў —
Дазнацца: дзе ж ён, бегунок?

Ці ён шукаў чаго, ці проста
Насустрач сонцу вёў разгон?
І мо таму й пяе бяроста,
Што тут прабег з жалейкай ён?..

* * *

Маленькі хлопчык крыкнуў: — Мама!
А бомбы голас быў гучней...
І боль пакутнага В'етнама
Стаў, як рака, яшчэ паўней.

Пыл паклубіўся з дымам чорным,
Укрыў бяду, і жах, і кроў.
І ў небе гулка, нават горда,
Заакіянскі кат зароў.

Стаю, ўбіраю гром экрана.
Душа крычыць — хутчэй з кіно!
Мой ранак! Дзе ты, сіні ранак?
Я адчыню табе акно.

* * *

Крынічкі, ціхія крынічкі,
Як я люблю вас, як люблю!
Жывы струменьчык невялічкі
Мне апявае ўсю зямлю.

З паклонам схілішся напіцца —
І раптам спынішся, замрэш:
Як быццам з гулкае зарніцы
Табе адкрыецца бязмеж,

Гадоў світанні, пошум алы,
Нязнаны нейкі свет святла...
А то ж крыніца нагадала
Твой шлях і ўсмешкай абдала.

* * *

Так, гэта праўда, што таіцца —
Даруй мне, любая, мой грэх:
Грыміць у жылах навальніца,
І смуткам б'е мяне твой смех.

І не магу я так, як колісь,
Ісці ў бяздумную тугу.
Такім, як быў, ужо ніколі
К табе вярнуцца не змагу.

Ты не сярдуй. Бо як іначай?
І дуб часамі бура гне.
Вунь глянь — пад громам камень плача.
А што ж ты хочаш ад мяне?..

* * *

Зялёным сном заснула жыта
Пад палавеючай зарой.
І сумны я стаю,
нібыта
Ты — зорка, там, за той гарой.

Ах, гэта жыта, дым над кручай,
Мой любы водар палявы!
Няўжо ўсё будзе немінуча —
Усё міне?..

Што быў жывы,
Чакаў цябе, чаканнем дыхаў
І прагнуў дзіва на дваіх...

— Было... — прад смерцю ўспомніш ціха.—
Святло...
Святло вачэй тваіх!

* * *

«Скажы мне, што такое шчасце?» —
Пытаеш ты. А я маўчу.
Хоць знаю: лепей крылле скласці,
Чым выжыць з крыўдаю ўваччу.

Хоць знаю: сны і мары — зоркі,
А боль і гнеў — наш плён зямны.
І хлеб парой бывае горкі,
І дабраце мы ўсе жадны.

Ах, шчасце... Што ж яно такое?
Дачушка... Хіба знаю сам?
Мо — слёзы ласкі і спакою?
Мо — сум той, што на здзек не дам?

* * *

Калі каса лагчыну косіць,
З высокіх траў кладзе валы,
Хто чуў, як жыць сцяблінкі просяць,
Хто думаў пра іх лёс малы?

А хто — калі і дзе на свеце —
Пытаў у стромістай сасны,
Што лепш ёй: кідацца пад вецер
Ці быць ёй дошкай для труны?

Даруй мне, сябра, хвілю смутку.
Але баюся — і ў мяне
Ударыць хтось... і нічагуткі...
Ніхто і пальцам не кіўне...

* * *

На сінім золку, на світанні,
У залатым лясным кутку,
Як бору светлае пытанне,
Гучыць між дрэў: ку-ку, ку-ку.

Ку-ку... — бяжыць, пытае рэха,
Гудуць хваіны, як званы.
І раптам — смех... Дзявочым смехам
Аж калыхнула кут лясны.

Зязюля змоўкла. За аблогай
Шуміць, гарыць ракі рукаў...
Дык вось ён, той адказ, якога
Вячысты светлы бор чакаў!

* * *

Паўстанне скрозь, заўжды паўстанне,
Паўстанне ўсюды, дзень у дзень!
Такім ты будзь, а іншым станеш —
Дык лепей вырвіся з грудзей.

Там, дзе камусьці ў скрусе гнуцца,
Там, дзе камусь адзін спалох,—
О сэрца, гулам рэвалюцый
Будзі вятры маіх дарог.

Няхай не будзе млявай цішы,
Ні супакою мне нідзе,
Пакуль туга надзеі крышыць
І боль у радасці гудзе...

* * *

Не ўсё я вывeрыў, паверце,
І ўзяў ад радасці не ўсё.
Жыву паміж жыццём і смерцю
Штодня — вясёлы навасёл.

Жыву і веру ў праўдалюбства,
Хоць выйшаў з бітваў немалых,
І часта, як у цьмяным люстры,
Мігціць прамень надзей маіх.

Бывае — сціснe нешта сэрца,
Крычыць яно: «Я гіну, ўсё!..»
І ўсё ж пайду далей, паверце,
Пайду, вясёлы навасёл.

* * *

Як мудра ўсё жыццё стварыла,
Як многа мне дало дабра!
Ёсць жаль і сум — чаканняў крылы,
І вернасць — сталасці пара.

Чыясь рука спаліць хацела
Страху ў цябе над галавой,
Ды меч праўдзівы ўзняўся смела —
І вунь ён, дом, пад сінявой

Стаіць, жыве. А дзе напасці,
Дзе ўдары чорных іх ветроў?..
І будзе, дружа, ў доме шчасце,
Пакуль ёсць добры свет сяброў.

* * *

Сябры, з якімі ў бітвах крочыў,
З якімі курчыўся ў агні,—
Я з вамі ўсюды, і не збочу
З дарогі слаўнае радні.

Мілей, прасцей, чым паша, верце,
На свеце дружбы не знайшоў,
Хаця і выпіта без меркі
Нямала хмелістых каўшоў.

Дык, значыць, што ж? Патрэбна
гора,
Каб стала чыстаю душа?
Не. Але дружба гасне скора,
Калі ўзыходзіць на грашах...

* * *

Я не баяўся, браце, сцюжы,
Але ўцякаў ад мітусні,
Калі зайшоў к табе, мой дружа,
Паціху дзверы расчыніў.

Мне, ведай, трохі стала цяжка
Быць сярод злыдняў аднаму.
Не пагарджай маёй сярмяжкай,
Дай цябе, дружа, абніму.

За дарагімі берагамі
Ёсць маладосць і наш баркас...
Ну вось... Ізноў ты з пірагамі...
Ізноў гасціннасць напаказ...

* * *

І я ўставаў пад гэтым сонцам,
Што вам навек перадаю.
Усё ў ім ёсць: святло, і стронцый,
І спеў, што ўзняў душу маю.

Усё ў ім ёсць, і ўсё магчыма
З ім, непагасным, на зямлі.
Бо з ім не дасць, не дасць Айчына,
Каб вы забылі, дзе ўзраслі.

Калі матуля клікне: «Дзе ты?» —
Успомніш дні свае вясны
І ўсіх, хто нёс вам сонца гэта
І даў навек імя: сыны.

* * *

А зоры зыркія ірдзяцца,
А песні з далечы плывуць.
Старым — юнацтва дні прысняцца.
А юных — мары пазавуць.

Старым пяюць аб даўнім зоры,
А юным — заўтра між тых зор
Ісці ў нязнаныя прасторы
Па трасах зорных непакор.

І ўсё ж — адзін і ўсіхны Млечны
Гарыць усім пароўну Шлях.
І сніцца ўсім адна нам вечнасць —
Матуляй
З думаю ў вачах.

* * *

Чакае спраў вялікіх сталасць,
І веліч верыць ёй заўжды.
Якое шчасце, што не старанць
Надзей нясконччаных гады.

Якое шчасце — вызнаць мару
І чуць заўжды яе агонь,
Які так радасна ўладарыць
Над лёсам песні дарагой.

І ўдарыць гром, і бура ўзвее,
І шчасце ўвойдзе ў дні твае.
Бо вечна юная надзея,
Што крылы сталасці дае.

* * *

Сышлі за дол сцямнелы хмары,
І па-над намі, нібы сцяг,
На ўсе падзорныя абшары
Закалыхаўся Млечны Шлях.

Глядзі, глядзі — вунь зноў над краем
Хтось высек іскры з сініх зор.
Ляцяць яны —
і не згараюць —
На медуніцы, па чабор.

Глядзі — мігцяць у росах цёплых
І на губах тваіх мігцяць...
Як незабудкай пахне поплаў,
Як гулка травы шалясцяць!

* * *

Вунь зноў, вунь зноў заранка росіць
Пад колер сэрца небакрай.
— Матуля... — зноў дзяўчына
просіць.—
Матуля... маці... не карай...

Я не прасплю...
Я ўстану рана...
Я ўсё, матуля, параблю!.. —
І сіні позірк закаханы
Ліе святло на ўсю зямлю.

Матуля строга — як жа йначай? —
Бурчыць, злуецца:
— Ну, глядзі ж...
А ў марах ясна ўнука бачыць:
Ну, быццам сонейка, малыш!..

* * *

Шукаем славы ў бляску вуліц,
Між сцен расквечаных дамоў.
А шчасце ўчуем, як атуліць
Цяпла начлежнага дымок.

Гукаем быць мацней ад сталі,
А самі ў слёзныя дзянькі
З трымценнем крочым там,
дзе ўсталі
Рудой сям'ёй баравікі.

Адным святлом жыццё злучыла
Гром плошчаў, цішу, дух лясны...
Скажы мне ўсё ж — у чым прычына
Красы тваёй, мой век зямны?

* * *

Калі ты ў свет прыйшла, нянавісць?
Няўжо тады, як і любоў?
Адкуль ты?
Дзе ўзяла ты завязь —
У душах панства ці рабоў?

Стаю, як цень, перад табою,
Пра літасць нават і не сню.
Усё даўно пазнаў я:
з боем
Выходзіў з бур, вады, агню.

Усё, здаецца, мог бы здужаць.
А твой сакрэт і не спасціг.

Вунь людзі, нібы лісце, кружаць...
Як ад цябе забраць мне іх?

* * *

Навошта мучыцца, вініцца,
Бясплодна мроіць,— кажаш ты.
А мне дзівоснай кайстрай сніцца
І сёння месяц залаты.

Усё чакаю: выйдзе некалі
Па-над сцяжынкай зорнай ён
І сыпане над нашым векам
Бясконцы скарб чароўных дзён.

І будзе ў скарбе тым, напэўна,
Спакой душы і цішы плён...
— Не! Не! — чамусь твой голас гнеўна
Гучыць.— Святых не трэба дзён!

* * *

Сабраць іх ціха, без пагрозы,
З усіх зямель, з усіх краін,
Глухіх, падточаных склерозам
Прэм'ераў, прагных да руін.

Сабраць іх трэба ў цёмнай яме.
Пакінуць костку ім на дне.
Ваюйце. Ды без нас. І самі
Канчайце дні свае ў вайне.

А ў гэты час ударацць струны —
Праслявяць мір для ўсіх часін.
І новы век, бясхмарны, юны,
З'яднае ў шчасці лёс краін.

* * *

І ў бель зімы, і ў квецень мая,
І ў хлябу восеньскай пары,—
Сцяжынка радасці прамая,
Хутчэй са мной пагавары.

Закінь далей ад гіку, тлуму,
Ад крывадушных вестуноў.
Хачу жывую думу думаць,
А ёй балюча ад званоў.

Аж цьмее кожная крывінка
Ад адзіноты ў мітусні.
Прашу цябе, мая сцяжынка,
Спакой сяброўства мне вярні.

* * *

І ў барабаны біў, і ў бубны,
І ў трубы гучныя трубіў.
Каханне славіў, адналюбны,
І без кахання век свой быў.

Шукаў зіхотны ў свеце вэлюм,
А збоку чуў, як нейкі сон:
«Ты захапляйся, брат, не вельмі
Няпэўнай, зменлівай красой.

Успомні — як кідалі сэрцы
Сам Пушкін з Байранам на злом...»
Хай так, хай так,
 але да смерці
Хаця б адна душа з цяплом!..

* * *

Чытаю сэрцам кнігу жалю,
Што свету створана жыццём,
І бачу ў ёй свае скрыжалі —
Паміж агнём і пачуццём.

Адна — з тугой на слёзах чыстых,
Другая — з клятвай шчырых дум,
А ў трэцяй — як далёкі выстрал,
Наказ пра вечную бяду.

Ідзі, крычыць наказ, на гора!
Не забывай, што ты паэт!..
І я іду... Прыйду ці скора...
Але з табой я ўсюды, свет!

* * *

Ці так вянкі свае сплялі мы,
Ці так шляхі свае вялі.
Па сэрцы матухны-Радзімы
Звяраем думы на зямлі.

Не для забаў прымаем права
Яе надзейнай быць рукой.
Радзіма. Першы ўзлёт. І слава.
І ўпэўненасць. І неспакой.

Радзіма ўся — лятункаў мова.
І скрозь, заўжды пад сінявой,—
Як шчасця звонкая падкова,
Яе сярпок над галавой.

* * *

Радзіма,
твой прастор і межы
Я пакідаў за век не раз.
Вятрамі бур мае мярэжы
Не раз ірваў суровы час.

Але заўжды, заўжды са мною
Быў, як чароўны, мудры дар,
Твой кліч — дзявочы спеў вясною,
Гром капяжоў, маланкі з хмар.

Птушыны грай, вятры ў прыволлі,
І ўсё мацней свой чуў я боль
Па шчасці, што нідзе, ніколі,—
Не! — не расстануся з табой!

* * *

Вянок любімай Беларусі —
З праменняў весніх і зарніц,
З надзей, якіх маўчаць не змусяць,
З пачуццяў, што не ўпадуць ніц.

Вянок з гадоў, з напеваў наскіх,
З крыві маёй і чыстых слёз,—
Усё жыццё,
як віцязь з казкі,
Я праз вятры і буры нёс.

Стаю, схіляюся ўлюбёна,
Гляджу адданымі вачмі...
Мой сын, вянок жыцця зялёны —
То сэрца спадчына... Вазьмі.

* * *

Таварыш мой, сапёр бязвусы,
Які быў юны твой узрост,
Калі, як майстар, нават з густам
Ты збудаваў свой першы мост.

Па ім, праз пекла чорнай буры,
Мы ў смерці бралі рубяжы.
А ты?
Дзе ты пасля віхуры?
Ты, ўпаўшы
Ў ранішняй імжы?

Цяпер мне знацца зноў з пальбою,
Цяпер мне зноў ісці наўпрост.
Вярніся ж, дружа мой! Для бою
Збудуй яшчэ адзін мне мост!

* * *

Няхай з байніц — агнём у вочы,
Няхай гарматы — ў грозны рад.
Тады,— ці дым, ці морак ночы,—
А бачыць ворага салдат.

Тады кірунак знае куля,
І гнеў — карае ўсіх пачвар.
А вось цяжэй —
не знаць, адкуль ён
Раптоўна прыйдзе, хцівы ўдар.

Тады глядзі, не вер ухмылкам,
Штоміг душу бяры на ўзвод.
І помні: за тваю памылку
Адказваць будзе ўвесь народ.

* * *

Далі травінцы назву — слёзкі.
А з ёй — паданне для вякоў.
Ішла вайна. Чужынец
з вёскі
Забраў дзяўчыну ад бацькоў.

Дзяўчына ў цьме-журбе вялікай
Сама
пад хмурнай сінявой
Аб дол ударылася з крыкам
І стала слёзкамі-травой.

Глядзі: вунь колькі гэтых слёзак!
І ўсюды, дзе бягуць яны,—
Шляхі, шляхі да родных вёсак,
З палону, з роспачы вайны.

* * *

На свеце нас не так і многа,
І як нядоўга разам жыць!
Чаму ж смяротная трывога
Між нас пакутліва імжыць?

Няўжо так многа мы любілі,
Так многа лашчыліся ўсе,
Што зачарсцвелі і забылі,
Як трэба кланяцца красе?

Няўжо нам так нялюбы мроі,
Няўжо няма чаго жадаць,—
Што з крыўдак дробненькіх парою
На свет звыкаем выглядаць?

* * *

Сто песень... Сто жывых паданняў...
Сто дум... І сто адказаў ім...
І сто — са ста дарог — жаданняў,
І сто пытанняў перад тым.

Ці ўсё прызнаў з таго, што спела?
Ці ўсё збярог, што браў навек?
Чым жыў? Чым славіў тую смеласць,
Што не дае жыцця на здзек?

Якім святлом, якой турботай
Душу выводзіў з нематы?..
Сто песень... Як дайсці да сотай
З агнём ад першае вярсты?..

* * *

Трымціць на ўзмежку верасовым
Трывожным зумерам пчала.
Стой! Ці не роздум-кліч дубровы
Яна вызвоньваць пачала?

Ці не праз гэты ціхі, шчыры
Напеў мядовае струны
Нясе зямля з бясконцай шыры
Наказ бацькоўскай стараны?

Наказ жыцця: быць вечна з плёнам,
Заўжды імкнуцца ў свой палёт.
І на зыходзе, перад сконам,
Усё ж збіраць у соты мёд.

* * *

Былі ў блуканнях дні і ночы,
Былі ў красе шляхі вясны.
Быў жаль: не тое дзесь прарочыў,
Быў боль: не тыя бачыў сны.

Было святло, была жалоба,
Была ўрачыстасць, быў спакой...
А ўсюды, скрозь,— і там, і побач,—
Жыў свет з бязмежнасцю людской.

Ішло жыццё — спявала, грала,
Тужыла, плакала, цвіло...
Скажы,— а так ці ж не бывала,
Што з ім цябе і не было?

* * *

З глыбінь прыйшла, з глыбінь прынесла
Нязмоўклы, думны, чысты звон
Рачулка, ціхая, як песня,—
І мне душу трывожыць ён.

Мігцяць, гамоняць срэбра пасмы,
Бруіць на жвіры плынь вады.
І што ты б'ешся так, нязгаслы
Лятунак мой, завеш куды?

Куды бяжыш, з якім пытаннем?
Які вячысты бачыш знак?
Няўжо ты нейкае вітанне
Пачуў, якога мне не знаць?..

* * *

Дай мне хаця б яшчэ старонку
Майго жыцця, мой добры лёс.
Пабач, яшчэ ж мая сасонка
Не стала кражам між бяроз.

Дай мне хаця б яшчэ часцінку
Жывых надзей, мой добры лёс.
Хаця б адну яшчэ слязінку
Мне б асушыць у моры слёз.

Дай мне хаця б яшчэ на трошкі
Святла з цяплом, мой добры лёс.
Мне б каласы сабраць з палоскі,
Дзе мой — глядзі — пасеў прарос!

* * *

Плыве, плыве зямля паволі,
Расой абмыўшыся, ў зару.
Як лёгка мне свой лес і поле
Вітаць у гэткую пару.

Плыве, плыве зямля, нанова,
Як маці, ўсім рыхтуе дар.
Як добра гэткім часам слова
Пасланць людзям — пра свет без хмар.

Плыве, плыве зямля пад промні
І песціць радасцю жыццё.
Як лёгка мне тварыць ёй помнік —
Любіць з ёй рунь, траву, лісцё.

* * *

Яшчэ не раз тут пыхне смолка,
І бор не раз гукне: — Ку-ку!
Не раз, не раз з лугоў вясёлка
Нырне ў прыціхлую раку.

Не раз, не раз красой грымотнай
Пярун акрэсліць вышыню.
І з песняй добрай край мой родны
Устане тут насустрач дню.

І што ж, калі не мне сардэчна
Заўжды тут быць з цяплом сваім,—
Я шчасны тым, што край мой вечны
І вечна ўсё жывое ў ім.

* * *

Даўно, даўно, вясной зялёнай,
Зачараваны цішынёй,
Хацеў я быць ля хаты клёнам,
Ўзвышацца стройна па-над ёй.

Пасля, пазнаўшы ўсе нягоды,—
У самы, самы грозны міг
Я дубам сніў сябе заўсёды,
Што ставіць грудзі супраць крыг.

Што стала сёння? Быць хачу я
Хаця б лісточкам тым, які,
Як толькі сонца ўсход пачуе,
Пяе ля матчынай рукі...

* * *

Ад медуніц пылок жаўцяны,
І сок барвяны ад ажын,—
Дзе быў ты, дзе спаткаў свой ранак,
Я, сынку, бачу, не кажы.

Я нават ведаю, чаму ты
Адзін яшчэ да сонца ўстаў,—
Хоць там, за вольхаю прыгнутай,
Тваіх клапот не падглядаў.

Але, каб мог, як мог калісьці,
І я пабегчы басаནож,—
З табой і я б там ладзіў выйсце
Крынічцы стомленай у Сож.

* * *

Нічога ў свеце не баюся,
Я з сынам смела крочу ў век!..
(Адно часамі здрыгануся —
Ад гвалту самазваных Мекк.

Баюся новае Галгофы,
Навуходаносараў — цароў.
Баюся, каб маю эпоху
Не залілі крывёю зноў.

Цалую попел твой, краіна.
Хатынь жальбою грудзі рве...)
І ўсё ж я смела крочу з сынам:
Бо таткам ён мяне заве!

* * *

Бяры ўсяго мяне — і сілу,
І зрок, і волю,— не пытай.
Усё бяры сабе, мой мілы,
Мой спеў, і вышай узлятай.

Нямала — знаю — будзе крыўды
Для нас з табой, для нашых мар.
Настане час, і я не выйду
На кліч твой гучны, як змагар.

Урослы ў свежы дол плячамі,
Не ўбачу твой палёт з-пад траў.
А ты ляці! І свет вачамі
Мілуй, як сёння мілаваў.

* * *

Бяжыць дзяўчынка на спатканне,
Хусцінка сінім сцягам з плеч,—
Забудзьце ўсе расчараванні,
Адкіньце, людзі, страхі прэч.

Чакайце, вось яна ўсміхнецца,
Глядзіце — хутка стане ззяць,
Не прапусціце міг — ад сэрца
Да вас праменні паляцяць,

І пераважаць яны шалі
Навал, што мо кагось гнялі,—
Каб мы заўсёды заўважалі,
Як ходзіць шчасце па зямлі.

* * *

І колькі б хто ні кідаў бруду
У свет лятункаў, свет надзей,—
Ты будзеш вечна сэрцаў цудам,
Каханне, жыць сярод людзей.

Ты шызым птахам будзеш сніцца,
І гімнам шчасця ліцца ў медзь,
І ў жылках ясным сонцам біцца,
І ў слёзах словам веры спець.

І нават там, дзе бой суровы,—
Гармата, сціхнуўшы, ўздыхне.
Бо прад тваёй прарочай мовай
Каго туга не ўскалыхне?

* * *

Калі мне будзе так гаркотна,
Як не было яшчэ не раз,—
Прашу цябе: будзь самай роднай,
Зрабі, каб я душой не згас.

Прашу цябе: вярні нанова,
Хаця б на міг адзін вярні,
Акно, дзе, як надзей ахова,
Жывуць вачэй тваіх агні.

Вярні ля тых агнёў чаканне,
Які б ні быў ён, твой прысуд.
І хай ні слова, хай маўчанне...
А толькі б ведаць: ты ўсё тут...

* * *

Не, не хачу мальбою слёзнай
Спагаду вырваць у кагось.
Не абняслаўлю помнік грозны,
Што ўзнесла ў сэрцы маладосць.

Як ні было б балюча ў скрусе,
Маліць і чуліцца не мне.
Не пахіснуся, не зламлюся,
Хоць лёс і громам секане.

Хай будзе чорствасць, хай суровасць,
Хай просты дол, а не граніт,—
Не стану жыць адной паловай,
Другой сыходзячы ў нябыт.

* * *

А як жа мне слязе не верыць,
А як пазнаць — ці шчыры смех?
А ты сардэчнай мерай мерай,
А ты пра свой успомні грэх.

А ты свае шануй трывогі,
А ты шкадуй спалох чужы.
А ты глядзі ў пачуцці многіх,
А ты ў сваіх не варажы.

А ты гартуй сваю заранку,
А ты прымнож дабру дабра.
А ты на золата чаканку
Глядзі праз вартасць серабра.

* * *

Пад сінім полагам купалля
Цвіла мне папараць здавён.
Не я шукаў — мяне шукалі
Спагада, ўцеха і паклон.

На самых вольных, самых ясных
Шляхах у роднай старане
Не я шукаў — а ўсюды шчасце
Само спяшала да мяне.

Дык што ж я часам б'ю трывогу,
Чаму, пра што хачу згадаць?
Ці не таму, што, ўзяўшы многа,
Не змог на столькі ж і аддаць?

* * *

А толькі, верце, самым грозным
Выпрабаваннем мечан я,—
Пабыць я мусіў без барознаў,
Дзе мова след знайшла мая.

Прыбіты грукатам і смогам
Дзесь на нью-йоркскай авеню,
Я не схіліўся перад богам
З бетону, золата, агню.

Глядзеў на вычварную пыху
І чужакоў гнявіў: стаю!
Ці знаць ім, што ў тым тлуме
ціха
Матулю клікаў я сваю.

* * *

Матулю клікаў: дай бароню,
Матулю чуў: абараню.
І бачыў я здалёку гоню,
І чуў над ёю цішыню,

І маці бачыў над сабою:
Сярпок паклаўшы пад снапок,
Мяне люляла і з журбою
Казала, хрысцячы: — Сынок,

Глядзі, вунь там, дзе сонца,— неба,
А тут — зямля, і ёй хвала...
І пахла мне скарынка хлеба,
Што ўсё жыццё святой была.

* * *

І калі б недзе — з позвай чыннай
Прыйшоў я ў самы страшны суд,—
Я б папрасіў, каб ён пакінуў,
Караючы, адзін мне цуд.

Хай мне пакінуў бы ён хвілю —
З маленства, усяго адну,—
Калі праз матчын позірк мілы
Я ў свет бязмежны зазірнуў.

Што там было — навек чароўна! —
Слязінка, Сож, мядункаў цвет
І сонца, сонца — поўна, поўна! —
Без хвілі той — нашто мне свет...

* * *

Але нядарма ў век касмічны
Жывём,— так нас настроіў час,—
Пяшчотны, вабны спеў крынічны,
Бывае, не кранае нас.

Грымотны чуем гул ракеты —
Хоць дым і ў вочы палыхне,—
Ўсе недасяжныя сусветы
І ў мроях бачацца і ў сне.

І нават ціша, нават ціша,
Здаецца, кліча ўвысь, да зор...
Хаця з любой, найлепшай вышы
Спяшаем на зямны прастор...

* * *

І так было — ляцеў за межы,
Сігаў ажно за акіян.
Шукаў нянаскіх дзіў, бязмежжаў,
Чароўных лекаў, новых яў.

Якое шчасце, што сягоння
Той чадны пал перагарэў!
Якое шчасце — толькі помніць
Свае імёны, назвы дрэў,

Свой кветак пах, свой свіст птушыны,
Свой плёскат хваль між чарацін,
Свой сонца ўсход — такі адзіны,
Свой кут жыцця — навек адзін.

* * *

Тут, толькі тут ёсць тая сіла,
Што утаймоўваць можа боль,
Тут, толькі тут — сяброў магілы,
Што і па смерці ўсе з табой.

Сябры, вы, што ў паходзе ўпалі,
Нат не сказаўшы і «бывай»,—
Ах, каб вы зналі, колькі жалю
Нашу ў душы сваёй па вас.

Ах, каб вы ведалі, як горка
За вас, бязмоўных, лёс судзіць.
І толькі ўцеха — на пагорку
Для вас каліну пасадзіць.

* * *

Над берагам, над самай кручай,
Каліна чырванню гарыць.
З усіх бакоў сюды пявуча
Ляцяць вятры пагаварыць.

Адзін прыносіць вестку з краю,
Другі — з падвоблачных дарог.
І кожны вецер нешта мае,
Каб не заснуў палёў разлог.

Але заўжды гамонку спыняць,
Як прыйдзе стомлена сюды
Матуля, скажа: «Спіш, мой сыне?
Спі...» — і заплача ля вады.

* * *

Спі, дружа любы. Ты між іншых,
Быць можа, самы шчыры быў,
Шукаў сяброўства не па чыну
І не за выслугу любіў.

Прымаў пачуцці сціпла, проста,
Быў па-хлапечаму грубы.
Але такога сэрца росту
Мог пазайздросціць і любы.

І проста — пад агнём, пад сцюжай —
Упаў — на вочы дождж імжыў.
І ўсё аддаў бы я, мой дружа,
Каб так пражыць, як ты пражыў.

* * *

Адзін, магчыма, крок, не болей
Ступіў ты ў вогненны прасцяг,—
Але ў тваіх руках над полем
Узвіўся наш гвардзейскі сцяг.

Звычайны крок. Адзін. Апошні.
А пакаленням ён урок.
Перамаглі мы — знае кожны —
Таму, што ты ступіў свой крок.

І кожны — думай, марай, снамі
Жыве,— вось так ступіць, як ты.
Каб сцяг, узняты ў бітвах намі,
Панеслі ўдаль сыны, браты.

* * *

Зара мая, зара надзеі
І веры цёплая зара,
З табой тварыў усё, што спее
Майго на высевах дабра.

Зара мая, зара трывогі,
Нястомных клопатаў зара,
Са мной
ва ўсе мае дарогі
Ішла ты за правадыра.

Зара мая, зара натхнення
І шчырых пошукаў зара,
Пара мне за тваё гарэнне
Паклон аддаць табе, пара!

* * *

Сто песень... І нямнога быццам...
А як няпроста іх здружыць...
І сто разоў наноў радзіцца.
І сто разоў наноў пражыць.

І сто разоў, а мо сто тысяч
Стаяць над роспаччу тугі.
І ўваскрасіць, і к сонцу высіць
Спамін, да веку дарагі.

І без канца знаходзіць словы,
Да ўсіх даходзячы прыкмет.
І чуць — дакорам і вымовай:
Ты — ўсім павінен, ты — паэт.

* * *

Сто песень сэрцам праспявана,
Ну што ж, ідзіце ўдалячынь.
На ўсіх шляхах накавананых
Няхай ваш роздум прагучыць.

Сто песень. Не біблейскіх прымхаў,
А сто крывінак ад крыві.
Сто бітваў за сусвет без ліха.
Сто пісем з клічам:
— Свет, жыві!

Красуй, мой свет, з табой мужнею,
З табой расце душа мая.
І спеў не гасне, спеў гучнее,
Бо не магу без песні я.

* * *

Пакуль дыханне ёсць у сэрцы,
Пакуль пячэ душу агонь —
Ніхто не спыніць снеў, паверце,
Не спыніць,— хоць і кулю ў скронь.

Забараніце піць і есці,
Я ўсё сцярплю, перажыву.
Але на міг не дайце песні,
І я душу сваю парву.

Якой бы страшнаю пакутай
Жыццё ні ўздумала чарніць,
Адно хай мне пакіне: смутак,
Дзе песня ціхая звініць!..

*1967—1971*

## СЛУХАЙЦЕ ЛАСТАВАК

Адкіньце ўсё —
І смутак, і жальбу.
Забудзьце крыўду
Позіркаў няласкавых.
Станьце каля хаты пад вярбу,
Слухайце ластавак.

Слухайце,
Як скрушна шалясцяць
Крылцы іх,—
На льдзінкі
Голас колецца.
Ластаўкі
Заўтра адляцяць,
Сёння
На радзіму яны моляцца.

Моляцца
На ціхую павець,
На страху,
замшэлую і цёплую.
Ой, далёка
Ластаўкам ляцець!
Ці абзвоняць свет
жывымі кроплямі?

Ці прысудзіць лёс ім
Дасягнуць
Выраю,
Спаткаўшыся з навалamі?
Слухайце! —
Вось яны пяюць...
Слухайце! —
А вось ужо й не стала іх...

Жнівень позні
Ходзіць па мяжы,
Азірае з клопатам аселіцы:
— Можа, ты хоць ведаеш,
скажы,
Чалавек,
Дзе ластаўкі падзеліся?

Я стаю збянтэжаны,
тужу,
Быццам
Нада мной
Планеты скруха ўся...
Што табе я,
жнівень,
адкажу?
Я і сам іх
Добра не наслухаўся...

*Верасень 1969,*
*Мінск — Нью-Йорк*

* * *

Вось табе кніжка новая.
Сіняя. Штамп і пячаць.
І помні: умей і маўчаць,
І кінуць, як выбухам, слова.

Жыў ты на свеце? Пажыў!
Многае бачыў? Пабачыў!
Помні ж: на лютым нажы
Не захлыніся плачам.

Вось табе друга рука.
Ласкі крупіначка-ўцеха.
І не забудзь: у вяках
Ёсць і ад роздуму рэха!..

*Верасень 1969,*
*Нью-Йорк*

# ПА ДАРОЗЕ НА ФОРУМ МІРУ

І вось рэактыўны —
пявучай каметай.
І недзе Радзіма — світаннем здаля.
А ўнізе... А што там унізе?.. Наша планета?..
Няўжо гэта ўсё яшчэ наша Зямля?..
Любая, колькі ж, колькі ў ёй красы,
Колькі адкрытай велічы чыстай!
Ляжаць кантыненты, нібы паясы,
І рэкі між горамі, нібы маністы.
Купкі лесу — вяснушкі гор.
Хрыбты — парэпаныя грудзі мамантаў.
Ціха свецяцца думы азёр
Перад сцюжаю акіянскага лямanту.
Вунь Осла. Прыляпіўся на сіняй падашве,
Дымным фіёрдам абвіўся весела.
Ці яна стаіць, Нарвегія, ці плыве,
Частаколам скальным абнесеная?
Здаецца, палова свету ляціць, адарваўшыся
ў акіян.

А можа, вяртаецца да зямлі-маці.
І ныраюць праменні ў смужны туман,
Як дазор кантынентаў,—
не стрымаць, не дагнаць іх.
А вунь Грэландыя. Астравы — як айсбергі.
Зацененыя і задуманыя берагоў адхоны.
З поўдня — паводка лістоты зялёнай,
З поўначы — сцюжныя бліскаюць радугі.
Быццам асілак, у сне патрывожаны,
Вось ён — гудзе Ледавіты Паўночны.
Верх — стынь, сіняе шкло,—
і параніцца можна,
Ніз — белая бель, завея,
аж мружацца вочы.
Самалёт б'е ліхаманкай,
хвалюецца рэактыўны асілак.
Але вытрымаў,— плавіцца паветра аб сталь.
І ўперад, і ўперад! Сіла!
І новая, новая свеціцца даль.
Новыя берагі, новыя моры, прылівы,
На прылівах — яхты, на яхтах — снег парусоў.
Паглядзіш — і радуешся:
які ж ён шчаслівы,

Свет,—
У праменнях,
У хвалях,
У зелянiне лясоў.
Якi ж ён шчаслiвы ў кiпеннi жыцця веснавога!..—
Так i крычаў бы, здаецца, наноў i наноў.
Але што гэта? То з аднаго кутка, то з другога
Разанулi планету ўспышкi —
маланкi гарматных цi бомбавых перуноў...
Яны палыхнулi i знiклi, i праменняў паводка
Запаланiла зноў без канца далягляд...
Ды толькi ўжо для сэрца
утульнасцi няма салодкай,—
Успомнiлася нядаўняе — з бясконцай жалобнасцю
страт.
Успомнiлася жудасць навалы —
асiрочаныя плачуць дзецi...
Успомнiлася —
над закатаванымi роспачныя галасы...
А самалёт iмкне...
i бягуць, бягуць на планеце
Усё новыя далягляды, акiяны жыцця i красы.
Жыццё так цвiце i буяе... А ўсё гэта магло ж
загiнуць...
I можа загiнуць...
Калi не станем за гэта грудзьмi...
I, нiбы чуючы роздум
усхваляванай душы
няспынны,
Самалёт як хутчэй адкрывае свет прад вачмi...
Пiкi114 гораў, i моры, i лясоў, i палеткаў кiлiмы...
I над iмi гучыць мне велiчна —
са свiтання, здаля —
Благаслаўленне Радзiмы i загад Радзiмы:
— Беражы Зямлю ад згубы!
Бо яна ў нас адна — Зямля!..

*1969—1975*
*Нью-Йорк — Мiнск*

## ДЫПЛАМАТЫ

Хлопцы мае любыя,
Няўжо, няўжо вы з Мінска,
Беларусы, мужыкоў былых сыны?..
Сыплюць словы
адмыслова
па-англійску,—
Бы з калыскі гэтак мовілі яны.

Рослыя,
Асаністыя,
Пры манішках белых.
Чынныя,
Гасцінныя,
Дасціпныя паслы.
...То ён, пільны, слухае.
То рэжа праўду смела.
То сам сабе ўсміхаецца,
Адчуўшы фальш хвалы...

У шумлівых залах
Аб'яднаных Нацый
Дзень бясконцы —
бы ў рашаючым баі
За жыццё —
Дзе людзі
Могуць людзьмі звацца,
Загарацца кветкі,
Пець песні салаўі.

За зямлю
без полымя
Вогнішчаў грымотных,
За зямлю
Зялёную,
Гордую сабой,—
За спакой прастораў
І родных,
І няродных,
Сэрцы ахвяруючы,
Ім трэба весці бой.

І некалі ім, хлопцам,
Што выраслі ў прыволлі

Ля вербаў каля Свіслачы,
Ля Сожавых бароў,—
Некалі і ўспомніць,
Як пахнуць росы ў полі,
Як на світанку жыта
Бяжыць пад спеў вятроў.

Але надыдзе вечар —
І між грамоў Нью-Йорка
Такая па Радзіме
Агорне іх туга!
Па вольнасці палеткаў,
Па мігатлівых зорках
Над сцежкамі,
Па водары
Чабору на лагах.

Тады прыціхнуць стрыты,
Пачуўшы спеў пра рэчаньку,
Пра мройныя на хвалях
Дзявочыя вянкі.
І кожны зразумее,
Што іх любоў — навечна,
І кожны скажа —
хто яны,
Якія ў іх бацькі...

*1969—1974*
*Нью-Йорк — Мінск*

## ПЛІЗ [1]

Хоць і свечкай і з трэскам
ляці сабе ўніз,
Хоць і з выбухам танка
гары і чарней,—
Не збяднее ленд-ліз,
Пліз, рашн, пліз,
Вагой, рашн,
о'кей!..

[1] Калі ласка.

Ваявалі, і падалі,
і крывёю напойвалі дол,
Надрываючы жылы
пад націскам лютых орд.
А Форд
пыхкаў сігарай.
Чуў енк удоў.
І чакаў
нашай роспачы
Форд.

Забіваючы цэнтамі
верх залатога мяшка,
Перамерваў-прыкідваў
дарогу ў Расію без віз:
«Саветам цяжка...
у Саветаў аслабла рука.
Выруч, Форд...
Пліз...»

Не счакаў,
Не счакаў!
Не збылося на Фордаў манер!
На суровай вярсце
прыгваздзілі
чужынцаў палкі!
Выстаяў,
Выжыў,
Цвёрда ступіў
СССР,—
Крок — у век,
Два — у вякі!

Па Амерыцы
Сёння
Іду — паўнамоцны пасол
Тых герояў,
што свету
далі перамогу ў вайне.
Я іду
Як пасол Сталінградаў і Брэстаў,
І Хатыняў — нескораных сёл.
І цікуе за мною Форд,—
баіцца мяне.

Ён цікуе за мною
з усёй сваёй хцівай раднёй,
На сігарах — астылы попел,
а ў позірках — люты агонь.
І я знаю,
чаго ён сягоння
цікуе за мной,
І я знаю, я знаю
прычыну
спалоху яго.
Ён баіцца,
што я
ад імя маіх паўшых сяброў
Прад'яўлю яму грозны прысуд:
ану, пакажы свой сейф!
І адкрыецца золата,
на якім — сяброў маіх кроў,
І адкрыецца змова,
якой гандляваў фарысей,
І адкрыецца свету
страшных тых акцый пакет,
Што на горы народным
фордаўскі трон залаціў...
І нервуецца Форд:
а раптам свет
Загадае ўладарна:
— За ўсё заплаці!
— Пліз! Пліз, сэр! —
хаваючы злосны ашчэр,
Запрашаюць мяне лісліва
пабыць за багатым сталом.
І я плюнуў бы з гневам
і на лёкаяў, і на гэта «сэр»,
Калі б не лічыў я сябе
паўнамоцным паслом.
Самых светлых герояў
Я —
паўнамоцны пасол,
І святую іх светласць
нідзе не заплямлю нічым.
Не трымці, не кідайся,
залатасейфавы хлебасол,
Бо высокая гордасць
у сэрцы маім.

Не трымці, не цікуй,
не стрыжы вачмі, Форд,
Мне не трэба працэнтаў
ад ганебных тваіх спраў.
Не пра золата думаў
мой народ,
Калі ў бітвах
мільёнамі душ
паміраў.
Я б мог, я б мог
рукавы закасаць,
Я б мог дабрацца
да скляпенняў тваіх.
Ды не я буду
сховы твае вытрасаць,—
Я і так гэта ведаю —
што там у іх.

Але помні, хаваючы мех залаты,
Што відушчы ўсё бачыць
гісторыі суд,—
Знае ён
і што думаў і што яшчэ думаеш ты,
Ты —
бяссільны стрымаць
пераможны над светам салют.
Ад герояў паслом
я іду да людзей
па зямлі
І цыліндрам бліскучым
з праклёнам
ты хілішся ўніз.
Ну, і што ж. І кляні. І хлусі.
Я іду.
Мы такімі былі,
І такімі мы будзем.
Ведай гэта, Форд.
Пліз. Пліз!

*1969—1971.*
*Нью-Йорк — Мінск*

## АМЕРЫКА РОБІЦЬ ЗОЛАТА

Крык сірэн, гвалт неона
над сполахам ночы
да золаку,
І ўвесь дзень несціхаючы лямант —
На біржах,
ля кас,
ля станкоў,
ля вітрын,
ля магіл.

Амерыка.
Амерыка ліхвяроў робіць золата.
Золата.
Азараючы да крыві небасхіл.

Бы ў малітве, глядзяць небаскробы
з маркотай на бога.
— О, магутнейшы самы,
спыні гэту гонку, спыні!..
А Амерыка ліхвяроў
не чуе і бога самога,
Усё куе сваю жудасць у страшным агні.

Ні хвіліны няма ёй спакою:
грукае, грукае, грукае.
Па надзеях, па сэрцах
б'е сквапнасці молат цяжкі.
Чалавечую кроў і людскую муку
Яна кідае ў топку,—
хай плавіць на злітак важкі.

Колькі тых ужо зліткаў,—
бажкоў з залатога метала!
А яна цягне рукі на Месяц,
глядзіць і на Марс,
А ёй усё мала, мала, мала,
А яна ўсё імчыцца,
забыўшы на час.

Не сціхае, стукоча, стукоча
агністае кола,
Падграбае да цэнта,
усюды, дзе можна сарваць.

І бяжыць чалавек, хапіўся за голаў:
— Дзе, скажыце,
ўцалее мая галава?!

Падбівае рахункі крывая статыстыкаў:
І ў Нью-Йорку вайна.
Па ахвярах не лепш, чым В'етнам.
«Дык спяшайся ж у джунглі,
на бераг Меконга імглісты.
Бо ўсё роўна загінеш.
Загінеш, загінеш! —
ці тут, а ці там»...

І бяжыць чалавек, і не ведае,
дзе аддадуць яго Молаху,
І бяжыць, адчувае — ўсё менее, менее, менее сіл!
А Амерыка — ўслед:
ліхвярам яе трэба золата.
Золата!
Хай палае крывёй небасхіл!

Хто судзіць яе будзе,
хто прыпыніць хаця б на хвіліну?
Хто ёй скажа: падумай,
падумай хоць трошкі, пастой?
Хто параіць?
Ніхто.
Бо даўно і няспынна
Усё больш ёй сціскае сумленне
пятлёй залатой.
І кавадла грыміць,
хай крывяняцца сэрцы пад молатам,
І крычыць чалавек,—
як пылінка, пад стомленым небам,
адзін...

Золата!
Золата!
Золата!
Золата!
Амерыка...
Ліхвярам яе трэба золата!
— Прэч,— раве,— адыдзі!..

*1969—1970*
*Нью-Йорк — Мінск*

## САНЕТЫ З ФІЛАДЭЛЬФІІ

Свабоды звон з глыбокай трэшчынай,
са шчэрбай.
Цьмяныя позіркі партрэтаў з глухлых сцен.
«Страйк» на грудзях у хлопца. І Радэн
З пажарам мыслі пад спалохам вербаў.

Музей мастацтваў. Рэмбрандт і Далі.
Як карты, перablытаны эпохі.
Світанне. Ноч. Сум і літаўры...
Мо таму патрохі
І гэтыя санеты наплылі.

Чамусьці глянец вылізанай плошчы
Нагадвае бязладдзе чорных скал.
Чамусьці ў цішы чуецца абвал,—
Здаецца, загрукоча і захвошча
Якаясь сіла страшная навокал...
А паратунак — дзе ён?..
Ён — далёка!..



Лянотных слоў пра мудрасць Джэферсона,
Ах, болей не казаў бы ты, мой гід.
Травінка, што прабілася з-пад пліт,
Пра волю лепей сведчыць, чым твой голас
сонны.

Цяпер я разумею. Як ён, мусіць,
Свабоды звон, званіў у свой трывожны міг!
Як ён стагнаў, каб сытых і глухіх
Пачуць свой кліч пакутлівы прымусіць.

І гэта шчэрба-трэшчына — як рана,
Якую не загоіць вечны сон...
Спыніся, гід! Паслухай!.. Джэферсон?..

Так! Джэферсон крычыць з зямлі калянай,
Крычыць,— няўжо не чуеш? — «Сціхні,
годзе!
Не прыніжай хоць мары аб свабодзе!..»



Дэльфінаў, бы дзяцей, амерыканка
Частуе, песціць, ухваляе: гуд!
І гэты мне малюнак — нібы цуд:
Такая ж у мяне сястра ёсць на радзіме —
Ганка!

Вось гэткая ж — з душою галубінай,
Усё жывое люба ёй да слёз!..
Ды раптам — стрэл... І вецер гул панёс...
І каля ног амерыканкі — кроў дэльфіна...

Стракоча кінакамера. Схіліўшы галаў,
Стаіць амерыканка. І маўчыць.
Каля яе паскудны смех гучыць.
Яна ж — маўчыць. Яна свой атрымала долар...
Ах, божа мой. Даруй мне, Ганка.
Параўнаў цябе няўдала.
Не, ты прад катам так бы не стаяла!..



Латунная пампезнасць, гром латунны,
Пыхлівых поз крыклівасць, шык вітрын.
А гэта?.. Што за дым — нібы з руін?..
Кроў на асфальце... Бы прайшлі тут гуны...

Паліцыянты... Свіст... Дубінкі свенцяць
Па тварах дэманстрантаў маладых.
Прэч, жаль і асцярога!..
І на ўсё, стаіўшы дых,
Глядзяць, нібы дзяды, ў задуме дзеці.

Глядзяць на мардабой,
на гвалт, на шык вітрын, на сейфы.
Пра што іх мроі зараз? — пра бяздушны кольт?
Ці ўжо гняце іх невымоўны боль
Тугі? Ці вабіць кліч: «Пакуты сейце!»?
Ці можа, ўсё ж, дайшоўшы з дзён няблізкіх,
Збудзіў іх сэрцы звон філадэльфійскі?

*

Даруйце вы, святыя прашчуры,—
Петрарка,
Камоэнс і Шэкспір,—
што сённяшні паэт
У ваш задумны, сонечны санет
Пусціў жальбу і боль з жудою-перастаркай.
І я б хацеў святло пачуццяў славіць,
Красу душы пяшчотную ўхваліць,
Ды што рабіць, калі душа свая баліць,
Як апынешся ў непяшчотнай яве.

Амерыку хацеў знайсці ў красе і волі,
А ўбачыў у гарачцы й калатні.
Здаецца ёй самой: ляціць яна, нясе жыцця
агні.
А збоку бачна: ў цемры сунецца паволі.
Маўчыш, Свабоды звон... Што ж, не журыся,
звон Свабоды,—
Ёсць факел ля Нью-Йорка —
ледзь мігціць і ён пад наступам нягоды...

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

* * *

Я бачыў людзей —
Яны з лянотай жавалі сігару над нябожчыкам,
Я бачыў людзей —
Яны выкрадвалі цэнты ў жабрака,
Я бачыў людзей —
Яны глумліва коўзаліся па прыгожым целе.
Я бачыў людзей —
Яны разраджалі ў сяброў сваіх кольт,
Я бачыў людзей —
Яны выракаліся роднай маці,
Я бачыў людзей —
Яны з шумам садзіліся на караблі,

Я бачыў людзей —
Яны ехалі забіваць немаўлятак,
Я бачыў людзей —
Яны крычалі: «Амерыка, о'кей!» —
І пры гэтым ні разу
ніхто не жахнуўся!..

*Кастрычнік 1969,*
*Нью-Йорк*

## РОЎНАСЦЬ

Белы хлопец бярэ чорную дзеўку,
Вядзе за магноліі ў парку «Сентрал».
Хіба не роўнасць?
О'кей!
І на распісаным дрэўку
Ускінецца сцяг паласаты.
І грымне харал.

А зусім побач —
на вуліцы Сто дваццатай,
У Гарлеме,
Як у затхлелым і змрочным дне,
Нават машына
белага
баіцца спыняцца.
«Падай цэнт, сэр!» — моліць негр
І чуе з машыны:
«Ноу!» (Не!)

Роўнасць!
Адзін мае права — прасіць,
А другі мае права —
не даваць.
Роўнасць!
Хочаш — можаш смяяцца,
А хочаш — можаш гараваць.

Роўнасць!
Яна ў Амерыцы
Даецца з туманам і нервамі.

«Усе,— крычыць рэклама,— усе
Маюць права
Быць мільянерамі».

Маюць! Маюць!
Ніхто не здольны забараніць.
І гэта чуе Ракфелер
І ўскідвае руку бадзёра.
О'кей!
Хто-хто, а ён паспеў ацаніць
Роўнасць.
Купацца ў золаце,
Не знацца з бядой і пакорай.

А насупраць яго
сядзіць жабрак
І варочае беспрацоўнай сківіцай.
І думае:
Чаму ён
Ракфелера
Ніколі не меў сіл задушыць.
Вось бы,— радуецца жабрак
І сам нават дзівіцца,—
Вось бы павесяліўся,
Вось бы пажыў!

Жабрак усміхаецца ў мроях,
Расчырванеўся схуднелы твар.
І яго хапаюць на плёнку
І цягнуць на экран, як тавар:
— Глядзіце, глядзіце, амерыканцы,
Ён усміхаецца,
Ён, бачыце, верыць!
Хоць і галодны,
Ён верыць у свае неабмежаваныя
магчымасці!..
Ну што ж, калі не зрабіў ён багацця
У Амерыцы,
Ён можа пайсці на вайну
І мільёны свае знайсці яшчэ!

Ён можа ў баі і загінуць —
Ну што ж, гэта так.
Але ж ён можа і забіць

Не адну азіяцкую сотню!
«У Амерыцы — ўсе роўныя.
Здолееш — зробіш мільён за пятак.
А не здолееш —
поўзай сабе ў падваротні...» —

Крычыць рэклама.
І днём і ноччу крычыць.
Не спыняючыся,
галганяць мільянераў памагатыя,—
Ім што —
пакрычаў і ў кішэнь палажыў.
Ім што —
абы задаволенымі засталіся багатыя.

Абы паверылі
Бяздольныя і бяздомныя ўсе:
Якое ў іх шчасце,
Што жывуць у Амерыцы.
Лямантуе рэклама.
Дзень і ноч абяцанні нясе.
А бяздольныя —
Ім верыцца?
А загнаныя —
Ім верыцца?

Вось бы ім з тых экранаў
Паказаць свае дні.
Вось бы кінуць ім крык,
Як іх білі, і рвалі, і гнулі!
Што ж... Ну што ж —
калі ласка, крычы.
Толькі бог барані —
Не забудзь, не крані
Права, роўнасць багоў,
Бо засвішчуць і кулі!

Роўныя магчымасці,
Роўнасць,—
У каго ёсць кулі,
Той страляе.
У каго няма —
не.

Хто моцны —
той забівае.
А ты слабы?
Ну што ж —
стань дужым
і заб'еш мяне.

Мяне?
Не! Не!
Вось табе долар, забі другога.
Ты ж зразумей —
ты з ім роўны,
з тым самым другім.
Для кожнага ёсць і ў багацце дарога,
І права
Разлічыцца з суседам сваім.

Роўнасць!
Роўнасць!
Аж шалее расхлістаная Амерыка.
Бедная — хмурна глядзіць на вітрыны,
А багатая — ў раскошы топіцца...
Я б звар'яцеў тут зусім,
Калі б у шумлівым скверы
Не ўбачыў адзінокага
Задумнага хлопца.
Ён сядзеў,
З надзеяй
Гартаючы кнігу,
І ўпіваўся ў літары,
напружыўшы
просінь жыл.
— Аб чым ты?
— Аб роўнасці.
— І ты аб роўнасці?!.
— Так, аб роўнасці. Аб роўнасці ціхай.
Аб роўнасці,
Дзе можна сумленна жыць!..

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

## ПЕСНЯ НЕГРА

Бясслоўная змучанасць нерваў:— О-о-о!..
Ад болю крывяняцца вочы:— О-о-о!..
Пачуеш — і сам станеш неграм: — О-о-о!..
І жыць, можа, больш не захочаш:— О-о-о!

Таварыш, пакуль я з адчаю (О-о-о!)
Не ўпаў, пакараны сурова (О-о-о!),
Прашу цябе,— хоць бы вачамі (О-о-о!)
Скажы мне, скажы мне хоць слова. (О-о-о!)

Я белы, але ты павер мне (О-о-о!),
Мне ворагі — белыя каты! (О-о-о!)
Я хутка паеду з Амерыкі (О-о-о!),
Дык дай жа руку мне, як брату! (О-о-о!)

— О-о! — Захліпаецца нема.— О-о-о!
Пакута гняце без адказу.— О-о-о!
Крычу перад горам Гарлема: О-о-о!
Чаму не памёр я адразу?! — О-о-о!

*Снежань 1969,*
*Нью-Йорк*

## БЛЭК-ФІШ [1]

Дачакайцеся прыліва,
І парадуе Гудзон.
Не праспіш, рыбак шчаслівы,
Будзе ўлоў, будзе плён.
Не, на гэтым на Гудзоне
Прад спакусай не ўстаіш.
Густа ходзіць рыба сёння —
Блэк-фіш, блэк-фіш.
Налаўчыў яшчэ з дасвецця
Бізнесмен не крамку — рай:
Безумоўна ж, «лепшы ў свеце»
Тут рыштунак: ол райт!

[1] Чорная рыба.

Чарвякі — па два далары,
Бы той прынц, чарвячок.
А танней? Бяры дзве пары —
Дык уступіць... Пятачок...
Ды спяшайся! Бо накіне
На вачах працэнт на цэнт.
І не здзівішся прычыне —
Аблапошыць нашчэнт.
Што ж... Ат, ліха з ім... Купілі...
Ну, цяпер, браткі, гайда!
Прад вачамі — на мілі
Акіяна вада.
Сэрца грукае: нарэшце!
Вуды, скрынкі — ў дзве рукі.
Ад прыліва —
нібы ў рэшаце,
Аж клубяцца віркі.
Вунь нырае белы камень,
Вунь гарцуе — не сасніш! —
Зырка свецячы бакамі,
Рыба-дзіва — блэк-фіш.
Вуды свішчуць. Ціха... Ціха...
Стой! Нырнула... Павяло!
Толькі раптам... што за ліха?..
На плячы — рука.
— Хело-о!
Гуд монінг, містэр... Вось вам цікет...
Гладзіць кольт паліцыянт.
Не глядзіце, заплаціце,
Не дармовы акіян.
Заплаціць? За што? За бераг?
За ваду, за дзень, за лес?
Паліцэйскі зубы шчэрыць.
Так, о містэр! Ес, о ес!
За пясок, за жвір, за хмары.
За прыліў, за хваль гурты —
Як хутчэй аддай далары,
І тады свабодны ты!..
Палягчэлі ўраз кішэні,
Хоць застаўся б цэнт на смех.
Што ж... Пасмейся, рыбка-шэльма...
З дзівакоў пакпіць не грэх...
Вуды хуценька зматалі,
Здабылі свабоды ўсмак.

А заліў кідае ў далі
Гул і рогат, як вядзьмак.
А заліў грымеў імкліва:
Гэй, рыбак, няўжо ўстаіш? —
Гарцавала ў пене дзіва —
Блэк-фіш, блэк-фіш!

*Верасень 1969,*
*Нью-Йорк*

## XIII

Чаго ты крычыш, курчышся,
чаго ты бунтуеш,
дзеўчына?
У цябе шчокі — ружы,
у цябе вочы — вішні.
А косы — нечасаныя,
а сама — як Ева
адзетая,
А пабачыць тваё шаленства
ўсе клеркі выйшлі.

Небаскробы — потарч, потарч,
а ты падаеш, падаеш,
А ты, такая прыгожая,
на зямлі поўзаеш.
І ты рагочаш, рагочаш,
і жахлівая твая радасць
Наплывае на сонца,
і халаднее поўдзень.
Чаго ты крычыш, дзеўчына,
чаго ты бунтуеш,
светлая.

Вунь глядзі, колькі тут хлопцаў,
пацалуй каго-небудзь уцешна.
А каго?
А каго?
Можа, вось гэтага,
даўно і навек адпетага?!

А можа, вунь таго,
скрыўленага,
ад нараджэння грэшнага?!
Ідзіце вы ўсе!..
Ідзіце вы!..
Ідзіце вы ўсе к д'яблу!
Я хачу — рагачу,
а хачу — крывянюся, поўзаю!..
А гітары — трэнь, трэнь,—
ты свабодная, дрэнь
п'яная,
А гітары — трэнь, трэнь,
ты — свабодная
і ў нагах
і з позаю!

Паліцыянты глядзяць скрыўлена,—
ну што ж,
хай пашалее босая.
Клеркі пастаялі і плюнулі —
пайшлі выбіваць цэнты.
А хіпі пяюць над хіпіхай,
як нястрыжаныя хрыстосікі,
У атамнай жорсткай Амерыцы —
няўзброеныя інсургенты.
Хіпі, хіпі —
размалёванай гітары ўсхліпы,
Хіпі, хіпі —
галапузая міні-рамантыка.
Чаго ты крычыш, дзеўчына? —
Няўжо не чуеш,
як цвітуць ліпы?
Няўжо не ведаеш,
што ты — будучая матка?
Устань, знайдзі добрага хлопца,
ідзі,
нарадзі дзяцей з ім.
Выгадуй іх — як хочаш,
ведаючы сваю Мекку.

Калі не хочаш такіх,
Што ходзяць у джунглях В'етнама ценем,
Дык выгадуй такіх,
што вернуць
Амерыку чалавеку.

Выгадуй такіх дасціпных,
каб цябе заўжды разумелі,
Вырасці такіх свабодных,
каб не згаджаліся быць кàтамі.
Хай будуць лепей такія,
што ў «Апалоне» згарэлі,
Хай будуць лепей такія,
што Месяц з Зямлёй сасваталі!..

Торгаецца мутны позірк,
а сама — яшчэ міг —
і завые.
І сонца над ёй, і неба,
а не пазнае нічога.
І хто ёй падкажа — дзе яна?
— Паліцыянты?
Яны — нямыя.
Небаскробы?
Яны — глухія.
І дрэвы над ёй гарбатыя —
нібы з сусвету чужога.

І падымаюць яе расхрыстаную,
распатланую і памятую.
І вядуць яе пад рукі,
а гітары — трэнь, дрэнь, асанна!
І вядуць яе хрыстосікі —
як на крыжы распятую,
І кідаюць за дзверы дымныя —
бяры яе, марыхуана.

О свабода пакуты!
Глумлівае пекла —
Амерыка!
Можа, то Жанну д'Арк кінулі
паміраць
у атрутным чадзе?
Можа, то захлынаецца
ў смутку
крылатая, шчырая Вера?
Можа, то Прыгажосць Вечнасці
тупому глумленню аддадзена?
Прыгледзься хутчэй, Амерыка!
Мо то непазнаная, смелая

Чалавечая будучынь
сёння
твая
назаўжды прападае...
Хіпі, хіпі...
Крык бравады...
Гарачка белая...
Непрыкаяная, нястуленая
роспачнасць ідзе маладая...

*Верасень 1969,*
*Нью-Йорк*

* * *

У глухой, затхлелай студні я жыву.
Дым з туманам — дзень і ноч на галаву.
Дзе ты, сонца?
У бясконцую зацьмень
Хоць аднойчы б ты прынесла мне прамень.

Я ўстаю на ранку — б'еццa ў скронях звон.
Я кладуся — не дае заснуць мне ён.
Я ўсю ноч у млоснай стоме бачу сны:
На званіцах цяжка бухаюць званы.

Кінуць-рынуць бы, пабегчы ў цішыню.
Ды з усіх бакоў — то стрыт, то авеню.
Небаскробы, палісмены, п'яны зброд
І вар'яцтва:
бег, енк, рык, лёт.

Хочаш смейся, хочаш плач, а хоць крычы.
Але сэрца зноў загадвае: маўчы!
Ты не сам, не па сабе, ты на пасту.
Дачакайся: гоніць час тваю вярсту!

І скрыпіш зубамі, ціснешся ў камок.
А з вышыняў паплывае гул і смог.
Паласуе крык сірэн у сто радоў...
Засынаю... «Ці надоўга?..»
засынаю...
«ці надоў...»

*Кастрычнік 1969,*
*Нью-Йорк*

## МАРШ МЕРЦВЯКОЎ

Кожны крочыць маршам хвацкім: трам-там!
Павароты, развароты: тром-бом!
Што там нейкі з жоўтай скураю В'етнам
Перад гэтым белым з цэшкаю ілбом?!

Генерал старыя косці брава пне:
Хоп-хоп! — брынк рука да эпалет.
Што там нейкі свет крычыць: «Праклён вайне!»
Ён правучыць, ён навучыць гэты свет!

Моцна-гучна б'юць нагамі: ах, які
Шык ваяцкі,— можна й пеўную напаказ!
Ды маўчыць Брадвей. Бо знае:
мерцвякі,
Мерцвякі прад ім ідуць...
Не першы раз!

Знае: хутка сціхне гэтае «хоп-хоп».
Грозна ўстане прад чужынцамі В'етнам.
І пад цацкаю — пад цэшкай белы лоб
Назаўжды забудзе маршаў — «трам-там».

З паласатымі сцягамі караблі
Паласатыя труна каля труны
Прывязуць з чужой, з далёкае зямлі,—
Мерцвякі дадому вернуцца з вайны.

Не, тых трун не ўбачыць стомлены Брадвей:
Іх цішком скіруюць проста да магіл.
На Брадвеі зноў павінна быць «о'кей»,
«Трам-там!» — маршырантаў п'яны сквіл!

«Трам-бом!» — задаволен генерал,
«Хоп-хоп!» — брынк руку да эпалет!
Не збяднеў у дзядзі Сэма капітал —
«Трам-там!» — Каб наслаць бяду на свет!

І Брадвей маўчыць зацята,— больш і больш
Па-над ім плыве трывогі тлум цяжкі.
«Хоп-хоп!» — З паграджальнаю хвальбой
Маршыруюць па Брадвеі мерцвякі.

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

## ДЗЯЎЧЫНА НА БРАДВЕЙСКАЙ РЭКЛАМЕ

Прыкрыла зорным сцягам паласатым
Дзяўчына сорам ад вачэй юрлівых.
І ты не абурайся, дружа. Так ёй трэба.
Інакш, відаць, не можа ўратавацца.
Адно пытанне: ці паможа й гэта —
Пабач, як ходзяць вокал сексуалы.
Глядзяць: ці можна згрэбці і пад сцягам,—
І пагнюсіць пад ім жывое цела.
А будзе гэты сцяг ім перашкодай,—
Дык што задумвацца: сарвуць яго
з дзяўчыны
І ў гразь затопчуць,—
і красу, падмяўшы,
Зняславяць...
І не пікнуць небаскробы...

*1969,*
*Нью-Йорк*

* * *

О паэты! Вы апелі брадвейскія бліскаўкі,
Вы небаскробы праславілі і неон у падхмарным акне.
А неба над галавою, свінцовае, нізкае,
І хрыстапрадаўцаў, і згубцаў пакінулі мне.

Аж трымціш, як ударадь хлуслівых архангелаў трубы,
Як убачыш наўсцяж іх крывавы пікнік.
А начамі з'яўляюцца ў сны наркаманы бяззубыя,
І з кіркою кідаецца ў вочы магіл рабаўнік.

Болем сэрца плачу за хвілінку спакою празрыстага,
Павітаўшыся ў парку з вавёрачкай, з шэптам сасны.
Але зноў —
зноў, як з пекла! — з усмешкаю Ніксана
Б'юць экраны халоднымі хвалямі згубнай маны.

О паэты! Радкі вашы ўспомню і сэрцам аж плачу,
Дакараць вас, паверце, паверце, мой лёс мне агорк.
Ну, няхай бы вы сябра каралі як-небудзь іначай,
А нашто мне пакінулі ў грозным вар'яцтве Нью-Йорк!

Гэты горад, тлумнейшы за ўсіх, што планету абселі,
Не забудзеш,—
плывеш, як у вір, як на хісткім чаўне.
І душа, нібы ў пастцы задушнага Холанд-тунеля,
Неаднойчы адчуе сябе без ратунку на дне.

— Чалавек! — закрычыш.
— Мал наш век! — гулка водгалас сцелецца.
— Дзе ты, дзе?
— У бядзе! У бядзе! — наплывае адказ.
І неба пазелянелае, здаецца, раздзеліцца,
З двух бакоў наплыве і раструшчыць ураз.

Галава — вось разваліцца. Хоць бы шыльда з надпісам
«доктар».
А прахожы смяецца:
— Хэло, містэр, ну што ж ты, ну што ж...
Вунь у вітрыне ляжыць адмысловае долата,
Вазьмі, выверні мазгі і душу не трывож...

Эх, містэр, я гэта зрабіў бы, зрабіў бы, зрабіў бы,
Эх, містэр, на любое адважышся ў гэтым жыцці.
Толькі баюся — тады ў мяне вырастуць біўні,
І пачну на тых біўнях небаскробы трасці.

Толькі баюся, што прымуць мяне за ваяльніка ўдалага,
Абяруць прэзідэнтам пад крыкі ад сейфаў «віват!»,
А я не хачу, не хачу — ні «фантомамі», ні напалмам
Ні ў В'етнаме, ні ў Амерыцы не хачу я людзей
забіваць!

Містэр лыпнуў вачыма — піжоністы Будда ці Лама,
Феерверкам абсыпаў,— з ухмылкаю ўскінуў руку.
Я гляджу звар'яцела — а гэта ж не містэр,
а гэта рэклама,—
Пад сцяною неонавай б'е малаток па цвіку...

О паэты! Мне хопіць! Што захочаце, вы — апявайце.
Хоць і з золата рогі. Хоць і з золата д'яблаў прыплод.

Мне ж адно толькі трэба, адно мне аддайце —
Шчасце ціха падыхаць паветрам
і сонечны ўбачыць усход.

Пакідаю. Бягу. Небаскробы, неоны, палацы,—
Вам усё пакідаю. З сабою ж у шлях бяру толькі тугу.
Каб ад вашай пагоні было мне хоць чым
адбівацца,
Хай туга са мной будзе,— журбота па сонцу.
Бывайце! Бягу.

*Снежань 1969,*
*Нью-Йорк — Мінск 1970*

## ДОЛАР

Я знайшоў на вуліцы долар.
Чый ён, з чыёй рукі?
І як апынуўся ён доле?
І лёс яго быў які?

Я прынёс, паказаў гэты долар
Разумным сябрам сваім.
І яны параілі:
— Выкінь
На сметнік, і ліха з ім...

Пачуў гэта амерыканец
І ўзгарэўся: — О сэр, веры гуд!
Вы знайшлі на вуліцы долар,
Дык гэта ж вялікі цуд!

Нашто вам пытаць — адкуль ён,
З Тэхаса ці з Кардыльер?
Вы знайшлі на вуліцы долар.
І цяпер ён ваш.
Ваш, о сэр!

Ваш ён, ваш! — І трымайце ўдачу,
Кожны шануйце цэнт.
О сэр, зразумейце, долар —
Гэта ж шчасця працэнт!..

— А скажыце,— амерыканца
Я спытаў,— а ці можна мне
Долар здаць у паліцыю,
Каб ён паляжаў у казне,

А мо хто спытае пра долар,
І, можа, ён не мільянер,
А мо ён жабрак, мо галодны,
А мо беспрацоўны ён,
а, сэр?..

Амерыканец збянтэжана
Паглядзеў на мяне і замёр:
«Як? Здаць паліцыі долар? —
Чытаў я на твары дакор.—

Як? Аддасце вы долар
Без мэты, вось проста так?»
Амерыканец глядзеў мне ў вочы
І быццам крычаў: «Дзівак!..»

А я стаяў з чужым доларам
І нат усміхнуцца не мог.
А на скрыжаванні свяцілася:
— Донт вок! Донт вок! Донт вок! [1]

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

## НА СЁМАЙ АВЕНЮ [2]

Я быў з амерыканцамі, людзьмі ў рабочых робах,
На Сёмай авеню.
Дзяліў нароўні з імі і гнеў іх, і жалобу
На Сёмай авеню.
— Прэч рукі ад В'етнама! —
гуло магутным валам

---

[1] Нельга ісці!
[2] Сёмая авеню — вуліца ў рабочым квартале Нью-Йорка.

На Сёмай авеню.
І ў гэтым клічы дружным Амерыка ўставала
На Сёмай авеню.
Амерыка сумлення свае ўзнімала рукі
На Сёмай авеню.
За мір галасавала, за долю без прынукі
На Сёмай авеню.
Амерыка сумлення шчыльней яднала шэраг
На Сёмай авеню.
І ў гэты дзень асенні я ў лёс яе паверыў
На Сёмай авеню.
Калі ў свой край вярнуся —
успомню дні Нью-Йорка
На Сёмай авеню,—
Нязломныя, як праўда, працоўныя кагорты
На Сёмай авеню.
— Таварышы,— скажу я,—
сябры ў рабочых робах
На Сёмай авеню,
Вы чуеце? Я з вамі — і ў гневе, і ў жалобе
На Сёмай авеню!

*16 кастрычніка 1969 г.,*
*Нью-Йорк*

* * *

Толькі б не збіцца на слёзны плач
(Будуць яшчэ ў цябе бітвы, трубач!),
Толькі б на скаргі не збіцца,
Слабасці не пакланіцца.

Толькі б застацца самім сабой —
Тым — маладым і гатовым на бой.
Толькі б тым шчодрым застацца,
За мішурой не пагнацца.

Толькі б не выйсці са строю ўраз.
Іскры ўтрымаць, каб агонь не пагас,
Толькі б агонь гэты чысты
Быў,— як лятунак вячысты!

*Кастрычнік 1969,*
*Нью-Йорк*

* * *

Сустрэўся хлопчык.
Укалоў ён кволы пальчык.
І мне паднёс, каб я пахукаў. Каб крывінку,
Што выбліснула з ранкі, я ацёр.
І я крануўся пальчыка губамі.
Пахукаў. І крывінку сцёр. І бачу: хлопчык
Ужо ўсміхнуўся, ўжо яму не страшна,
Ужо яму нікольні не баліць.
Чаму ж тады спыніўся я ў задуме?
Чаму так непакоіць нейкі смутак?
Няўжо таму, што кроў ад гэтай ранкі,
Што ў хлопчыка я сцёр на авеню,
Была такой жа даўкай і салёнай,
Як у майго малога сына, калі раптам
Ён прыбяжыць і скажа: «Тата, тата,—
І вочкамі заморгае,— баліць...»

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

* * *

Я гэты свет не змог перарабіць,
І ўсё адну я думку тут нашу:
Хаця б свайго імя мне не забыць,
Хаця б сваю не выслепіць душу.

У рогаце неонавай тугі
І ў енку дабрачынцаў і хлусоў —
Бывае — сэрца сцісне круг тугі
Адчаю, бы смяротнае ласо.

Радзіма, тваім словам дарагім
Тады гартую моц маіх надзей.
Міг — і пачую родны, светлы гімн,
І веру: значыць, ёсць на свеце дзень!

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

## «РЭЧАНЬКУ» ПЯЮЦЬ АМЕРЫКАНЦЫ

«Рэчаньку» пяюць амерыканцы,
Над Брадвеем — жаласць невымоўная.
— Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты няпоўная?

— А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць? —
«Рэчаньку» пяюць амерыканцы,
І тугі мне іхняй не забыць.

Бачацца ім Сож, Дняпро і Нёман,
Што калісь люлялі іх чаўны.
«Рэчанькай» вітанне ў край свой родны
Сэрцам шлюць з Амерыкі яны.

— Ой, рэчанька! — з прадзедамі праўнукі
Голасам журбы — як птушкі з выраю.
Па кутку жыцця — амерыканцы,
А па душах — беларусы шчырыя.

І пытаю я, мой край цудоўны,
З гордасцю сыноўняй і хвалой:
— А хто ж цябе назваў, рэчанька,
няпоўнай,
А хто ж цябе лічыў, рэчанька,
малой.

Калі ты і горы абмінула,
Калі цябе гора не сагнула,
Калі ў акіянах не згубілася
І перад навалай не схілілася,
Калі пакарыла ўсю бязмеж
І далей, чароўная, плывеш,
І далей люляеш любасць сэрцаў
Глыбінёй пачуццяў дарагіх...

«Рэчаньку» пяюць амерыканцы...

І да вас данёс я смутак іх...

*Лістапад 1969—1970,*
*Нью-Йорк — Мінск*

## НА ЗЕМЛЕТРАСЕННЕ Ў БАНЬЯ-ЛУКА

Гарады — як маленькія дзеці
На грудзях у зямлі-матухны.
Адны — паслухмяныя,
Другія — неслухі,
Адны — працавітыя,
Другія — лежані,
Адны — славяць цішыню неба,
Другія — твораць няспынны гул...
Я магу зразумець,
Чаму часам гневаецца зямля.
Я магу зразумець,
Чаму ёй часам хочацца
павярнуцца набок.
Я сам ужо немалады
І сам стомлены.
Але я не зразумею ніколі — чаму,
Чаму часам зямля скідае
са сваіх грудзей
Не самых тых,
Што не даюць ёй спакою і сну,
Не самых тых,
Што гатовы забыць пра сыноўні лёс,
А тых ціхіх,
Што ўлюбёны ў сінія небасхілы,
Што радуюцца на яе грудзях,
Як зыркія немаўляты...
Няўжо і ты, зямля-матухна,
Бываеш несправядлівай?..

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

## ДАРОГІ АМЕРЫКІ

Дарогі Амерыкі — чысты бетон — пад струну.
Лініі, лініі, лініі —
кінься, стрымай хоць адну.
Лініі, роўныя лініі —
не павярнуць, не звярнуць,
Лініі, змрочныя лініі —
нібы ў глухую сцяну.

Лініі, жорсткія лініі —
нібы ў хаўтурную стынь,
Лініі, страшныя лініі —
думкі аб волі пакінь!..
Колькі я думаў, як ехаў —
тут, сярод гэтых пуцін,
Дзе ты, дружбак чалавек мой,
дзе ты тут ёсць хоць адзін!
Хоць бы разок з табой стрэцца,
стаць-пастаяць пры ляску,
Хоць бы сказаць табе слова,
шчыра пацiснуць руку,
Сэрцам з табой парадніцца,
сонечны ўбачыць пагляд,
Хоць бы... Ды лініі гоняць —
дзеляць, сякуць далягляд.
Коцяць, і коцяць, і коцяць
шыны —
аж посвіст ад шын...
Колькі вас, колькі —
халодных,
шэрых, бяздушных машын! —
Толькі цыгары ў акенцы,
сінеча жыл за рулём,
Толькі пыхлівыя позы
ды падбародкі з валлём,
Толькі насуплены позірк —
не іскране, не міргне:
Тут упадзі і разбіся —
нават ніхто не зірне...
Лініі сціснулі сэрца,
лініі б'юць па ваччу.
«Шофер, спыніся, спыніся!..
Больш не магу, не хачу!..
Шофер, пастой, паміраю...» —
Але машына імчыць.
— Шофер, гані, не спыняйся! —
нехта з дарогі крычыць.
Лініі, лініі, лініі —
толькі ты іх прыкмячай...
Лініі... Дзікая гонка...
Дзікі, бясконцы адчай...

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

## БЕЛАРУСЬ З НЬЮ-ЙОРКА

Я з калыскі песні твае ў сэрцы нёс
І спяваў табе песні сам.
Я лічыў цябе за найлепшую маці
І за шчасце — быць сынам тваім — лічыў.
Мая кроў
Калісь
Засталася ў тваіх верасах,—
І да сённяшніх дзён
Пра той час
Легенда гучыць.

Беларусь,
Як люблю я цябе, ты знаеш навек,
Ты ведаеш, як я цябе шанаваў.
Але я не думаў, што мой па табе смутак
Будзе такі ж бясконцы,
як любоў сама.
Я не думаў,
Не думаў,
Што каб гэта ўсё пазнаць,—
Трэба так мала,
Толькі адчуць,
Што зямліцы тваёй
Пад нагамі
Няма.

Ёсць планеты ў сусвеце —
Месяц, Венера, Марс,
І мы марым ляцець да іх,
Мы збіраемся там шукаць нешта нейкае,
Што адкрые нам лепшую з таямніц.
А я стаю цяпер у Нью-Йорку
І кажу:
Людзі,
З усіх таямніц сусветаў,
з усіх, з усіх, з усіх,
Самая добрая —
Тая,
Што ў слове
— Радзіма —
Звініць.

Людзі, я пераехаў толькі на край зямлі,
Толькі за акіян, на планеце сваёй,
Але я застаўся без роднага неба,
Пад якім нарадзіўся і рос,
І не магу больш трываць,
не магу,
І жыву
Толькі марай адной,
Толькі марай:
Вярнуцца б
Да родных дажджынак і рос.
Людзі, я не ведаў, што цяжка так,
Нават не трапляючы ў касмічны палон,
Жыць і дыхаць без зямлі роднай,
Жыць, цяжка прагнучы родных слоў.

Беларусь,
Нічога не чую —
Толькі шуміць
Твой разгалісты клён,
Беларусь,
Толькі даходзіць да сэрца
Спеў
Тваіх вольных палёў.
На нью-йоркскіх тлумных, глухіх авеню,
Як рыба, выкінутая на пясок,
Я зе́ваю ротам майго палкага смутку
І прашу, каб ты ратавала мяне.
Прышлі
Песню сваю,
Прышлі
Бяроз сваіх чысты сок
Ці хоць зайчык праменняў
прышлі,
Што гуляў
У маленстве
на маім акне.

Беларусь,
навечна
Ты адно толькі сонца на ўвесь сусвет,
Беларусь,
навечна
Ты бачышся, як зорка юнацкіх мар.

Ты стала самай любай
і самай нявыдуманай,
І ні з кім нельга цябе параўнаць.
Мне не сорам
Заплакаць —
Хай бачыць сусед,—
І сівога мяне,—
Хай зайздросціць сусед,—
Ты люляеш пяшчотна
У вандроўных снах.

Я з маленства песні твае ў сэрцы нёс
І спяваў табе песні сам.
Але толькі зараз адчуў,
як мала, як мала
Я разумеў,
што такое
Ты ўся для мяне.
Беларусь.
І лёс мой.
І мая кроў.
Беларусь.
І песня мая, і мая краса.
Беларусь.
Заўсёды.
Усюды.
І ў самай недасяжнай высі.
І на самым, на самым дне...

*Снежань 1969,*
*Нью-Йорк*

## ХАТЫНСКІЯ ЗВАНЫ Ў ТАЙМ-СКВЕРЫ

Хвалюецца і бунтуе Тайм-сквер,
Маладая Амерыка падлічвае свой запал.
Выступае — «я з вамі» — нават сэр,
Што яшчэ ўчора супроць выступаў.

Даўно прыдумаў мудрэц англасакс:
«Не стрымаць хвалі — вядзі яе сам».
І бярэ мільянер, нібы жончын пасаг,
Кліч маладосці: «Жыві, В'етнам!»

Заўтра, як спыніцца шквалісты ўдар,
Ён і не ўспомніць, што зараз крычаў.
Толькі пажар, крывавы пажар,
Зноў запалае ў ліхвярскіх вачах!..

Стаю, анямелы ад гэткай маны.
У сэрцы — грымотны ад гневу акорд.
І раптам —
Прынесла на плошчу званы
Камуністычная «Дэйлі уорлд».

— Чытайце! Чытайце! — гукае юнак.—
Вось як фашысты палілі людзей!..
Мы не хочам так! Мы не хочам так!
Нідзе фашызму дарогі, нідзе!
Даволі забойстваў! Мы хочам любіць!
Прэч ад планеты, смяротная стынь!
І я аж залею: з газеты глядзіць
Вачмі папялішчаў наша Хатынь.

Газета — адозваю ў сотнях рук,
Пытаюць позіркі: што за званы?
А званы Хатыні ад імя нашых мук
Звоняць, ваююць супроць вайны.

Як быццам бы попел вёсак усіх
І сэрцы ахвяр, што ў тых вёсках жылі,
Крычаць у Нью-Йорку: — Шануйце жывых!
Помніце, помніце
аб скатаванай зямлі!

Я не ведаю, колькіх абудзілі яны,
Колькі ў Амерыцы ачнулася душ.
Але я бачыў, як Хатыні званы
Білі, вярэдзілі сполахі дум.

Званы білі, я плакаў душой,
Згадаўшы плешчаніцкія лясы.
А звон неспакою ішоў і ішоў.
І вёў за сабою ўсе галасы.

І моладзь запела змагання гімн,
І мільянер замахаў рукою: ноў, ноў!
Бо за попел Хатыні і за пакуты Сангмі
Даўно ён працэнты забраў, даўно.

Ды плошча бурліла,—
як адна сям'я,
Выводзіла моладзь пад вецер чаўны.
І верыў я, і верыў я,
Што яе паяднал Хатыні званы.

Няхай, можа, я памыляўся ў той міг,
Ды яны тут былі, ды яны тут плылі —
Званы трывогі
з бароў векавых,
Што бачылі боль беларускай зямлі.

*Кастрычнік 1969,*
*Нью-Йорк*

## З ПІСЬМА ДАДОМУ

А хіба зямлі гэтай «дзякуй» не скажу?
А хіба яна мяне чамусь не навучыла?
Навучыла, навучыла! —
Сто разоў паклон аддаць Сажу!
Навучыла, навучыла!
У душу сяброў глядзець
пяшчотнымі вачыма.
А хіба зямлі гэтай «дзякуй» не скажу?
А хіба яна ў душы ні знаку не паклала?
Ой паклала, ой паклала! —
У мільён разоў мацней тужыць,
па чым тужу!
Ой паклала, ой паклала! —
Даражыць святлом зямлі,
дзе маці калыхала.

Пацалую вербаў дым і сіні гром,
Пацалую горкі пыл сцяжын паміж жытамі.
Над сівымі чаратамі
Узыду вясёлкавым багром,
Пад вясновымі вятрамі,
Калі трэба майму краю,
стану кропляй, стану роскай
над лістамі.

А яшчэ і каменем, і жвірам стаць магу,
Пакладуць няхай мяне ў падмурак мураваны.
А адтуль, усхваляваны,
Увальюся ў веснавы глыбіняў гул.
А яшчэ,— зачараваны,
Стаць гатоў дарогай —
хай ідуць па мне нашчадкі
ў шлях наканаваны.

Не пытайце ж, дарагія, як пісаўся гэты ліст.
За туманам, за кляцьбой, за рогатам Гудзона —
З ціхім шэптам, з ціхім звонам
Лепш няхай у гэту хвілю ўбачу
любых меж абрыс,
Лепш душою улюбёнай
Хай пачую ў гэту хвілю
песню дзеда —
Як ляцеў казак з палону...

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

* * *

Паехаў друг, і апусцеў вялізны гмах,
Хоць і запоўнены людзьмі паверхі.
І я — адзін.
Стаю ў задуме.
Нібы той Ярмак.
І жаль б'е грудзі, што не я паехаў.

Нашто мне гэты холад чынны. Тлум пусты.
Нашто мне гэта міні-максі панства.
Ўбоства веліч.
Грукочуць над іст-Рыверам масты.
Што мне да іх — хаця б яны й запелі!

Нашто вунь той пугач мне. Ці вось гэты грыф.
Капелюшы. Ухмылкі. Злосць пад маскай.
Нью-Йорк. І сёння ён шыкуе, як каліф.
Ах, ну нашто мне гэтай пыхі казка...

Калі ты сёння, друг мой, пакідаў
Край гэты і прыйшла пара расстацца,
Я шчасця ўсёй душой табе жадаў,
А лёсам так хацеў з табою памяняцца!

Настане міг, і я свой скіну фрак.
Цяплом Радзімы сэрца адагрэю.
І кінуся насустрач нёманскім вятрам,
І над Сажом — марозам гулкім і завеям.

Усё, што сэрца радуе здалёк,
Вазьму прывычна — як бярэ свой плуг араты...
А тут —
яшчэ нямала новых дзён
Кідай душу пад гэты грозны тлум зацяты.

Вунь зноў плыве натоўп, і зноў прымае гмах
Маўклівых, чынных — бы нясуць з сабой малітву...
Ах, што гадаць, Ярмак! Не стой, ідзі, Ярмак!
Як ні маркотна,
а пара на бітву...

Паехаў друг, і апусцела ўсё наўкруг,
Хоць гмах людзьмі запоўнены даверху.
Шчаслівы табе шлях, мой добры друг!
Адно шкада:
што я з табою не паехаў.

*Лістапад 1969,*
*Нью-Йорк*

## ДАМОЎ

О «дамоў»! О «дамоў»! —
Што за слова між слоў!
Без прымоў, без замоў,—
Слова шчасця — дамоў!

Нават вецер і той
Бы пяе за кармой,
Хваляй гулкай, крутой
Ладзіць думцы маёй.

Падганяе: плыві,
Болем сэрца не рві,
Родны край уяві,
Як сам хочаш — жыві!

І далей усё ўдаль
Адплывае між скал
Той чужацкі скрыжаль,
Дзе нью-йоркскі прычал.

О Амерыкі «рай»,
Залаты каравай,
Твой і бляск, і адчай
Пакідаю. Бывай.

Хоць і шмат тут прыкрас,
Гэты край не для нас!
Не для нас. Не для нас.
Веры найс! Веры найс! [1]

Я нічога не ўзяў
З тваіх дзіў, з тваіх з'яў,
Толькі ёсць на ўспамін
Боль сардэчны адзін.

О Амерыкі свет,
Дзе праляжа твой след?
Між красы, між планет
Ці ў крыві, сярод бед?

Я б хацеў, я б хацеў,
Каб ты ў Мару ляцеў,
Каб нікому не нёс
Ні прынукі, ні слёз.

Каб твае караблі
На разбой не плылі,
Каб нідзе на зямлі
Больш цябе не клялі...

Я б хацеў, я б жадаў...
Але больш чым хачу —
Усё б сэрца аддаў,
Не таю, не маўчу:

---

[1] Цудоўна!

Я хачу, каб хутчэй
Знік твой бераг з вачэй,
Дзе і ўсход з нематой,
Дзе і мёд, ды не той,

Дзе туга, дзе спалох,
Дзе рыдаў і сам бог,
Калі ўбачыў, як ты
Меч крывавіш святы...

О «дамоў»! О «дамоў»! —
Што за слова між слоў!
Без прымоў, без замоў,—
Слова шчасця — дамоў!

О Амерыкі «рай»,
Залаты каравай,
Твой і бляск, і адчай
Пакідаю. Бывай.

Хоць і шмат тут прыкрас,
Гэты смак не для нас.
Крый нас бог! Не для нас.
Веры найс! Веры найс!

*Снежань 1969,*
*Нью-Йорк*

# ІСПАНКА

**Паэма**

Гэта песня не дасць мне спакою.
Гэта песня не дасць мне спачыну.
Гэту песню не спець не магу я.
Гэтай песняй прашу сабе слова.

*

Малады чытач
Пабача назву — «Іспанка» —
І здзівіцца:
А чаму — «Іспанка»?
Хіба няма іншых тэм
для беларуса,
Хіба няма імён іншых
для песні?
Ёсць у беларусаў гісторыя
і ёсць слава.
Ёсць пявучыя імёны
ў беларусаў.
Ёсць у беларусаў палі
і ёсць рэкі.
Ёсць неба сваё
і свае шляхі.
Дык чаму ж ты, паэт,
пяеш пра іспанку?
Чаму цябе хвалююць чужыя пачуцці?
Чаму не свая,
а чужая мара
Не дае табе спакою,
забірае душу?

*

Чужая мара...
І свая мара...
Як паэту адказаць —
дзе яго мара?
Як паэту адказаць —
дзе мара чужая?
Паэт марыць аб сонцы,
Цёплым, як шчасце.

І людзі марацць аб шчасці,
Цёплым, як сонца.
Паэт марыць аб песні,
Што нясе радасць.
І людзі марацць аб радасці,
Што дае песню.
Паэт марыць аб мудрым,
Светлым каханні.
І людзі марацць аб сэрцах,
Мудрых і светлых.
І пра цёплы дымок
над хатай
Марыць паэт.
Але пра гэта марыць
І ўвесь свет.
Дык дзе ж у паэта
Свая мара?
І дзе ў паэта
Мара чужая?
Дзе смутак у паэта?
І дзе ў яго шчасце?
Дзе паэтаў прытулак любы?
І дзе трывожная даль?

*

Магілёўская ціхая вёска.
Курная хата.
Як далёка яны ад Мадрыда,
Ад спякотнай Іспаніі мужнай!
Так далёка,
Што нават ніколі
І не чулі,
Што ёсць такія...
І не чулі,
Што ёсць такія,
А чаму ж, чаму мая маці —
Добра помню —
нядзельным ранкам
Загаласіла
над смуглявай дзяўчынкай:
— А мая ж ты крывінка,
А мая ж ты Мадрыда,

А што ж яны зрабілі з табой,
а божа,
А нашто ж пакінулі цябе
сірацінкай?!.
Магілёўская вёска.
Курная хата.
А з Мадрыда
прыйшла сюды Марселіна
І стала маёй адзінай сястрою.
Ці ты помніш, сястра Марселіна,
сцяжынку ў жыце,
Па якой мы хадзілі
па шчаўе ў лесе?
Ці ты помніш, сястра Марселіна,
звонкія вёсны,
Калі я рабіў табе
з вярбы свісцёлкі?
Ці ты помніш, сястра Марселіна,
як нашай маме
Ты сказала ўпершыню па-беларуску:
— Матуля...
І былі ў нас зімы, і была школа,
І былі ў нас песні, і былі шэпты,
А пасля ты вырасла —
з чорнай касою
Мая сястрыца любая, мая іспанка,
І стала першай маёй тугою,
А пасля...
я надзеў шынель і ўзяў стрэльбу,
А пасля...
плакаў у Бранскім лесе,
Пакінуўшы апошні след на Беларусі,
А пасля... А пасля...
Не было, сястрыца,
Ні маці, ні хаты, ні любага слова...
А пасля...
А пасля я знайшоў магілы
Там, на зямлі,
што й цябе расціла...
А пасля...
Я шукаў цябе...
Што стала з табою?..
Што стала з табою,
сястра-іспанка?

*

У юнацтве я быў дужы.
У юнацтве я сніў мора.
Як мне хацелася
на яго хвалях
Паказаць,
што на ўсё я, на ўсё здатны!
Белапеннае мора.
Лятунак юнацтва.
Ты прыйшло да мяне
Трохі позна, мора.
Ты крычыш, мора,
а я
Не магу паспрачацца з табою,
Ты завеш, мора,
а я
Тваіх даляглядаў баюся,
Ты пяеш, мора,
а я —
А я пра сумнае думаю...
Як дзіўна, мора,
Як крыўдна, мора,
Што ўсё,
аб чым мараць гады маладосці,
Усё гэта маем
Парою так позна...
Колькі патрэбна было launch
Скал, і мура,
І акопаў, і дотаў;
Колькі патрэбна было перамерац
Даляў, і гоняў,
І мук, і пакуты,
Колькі патрэбна было перадумаць
Думак і дум —
І пякельных і горкіх,—
Каб дачакацца
Вось гэтага берага,
Гэтага дзюннага
Сыпкага золата,
Гэтай сінечы,
І хвалі няўрымслівай,
І каля хвалі
Вось гэтага дзіва —

Ціхай дзяўчынкі...
Смуглявай зарнічкаю,
Дрогкім праменьчыкам
Бліскае,
Бліскае,
Не патухае
над стомленым берагам —
Кожнае сэрца
праз штормы і ростані
Можа спакойна
ісці да яе...
— Слухай, дзяўчынка,—
Хачу ёй сказаць я.—
Слухай,
Зрабі ты мне з ветразем човен,
Дыхам дыхні на яго,
каб ажыў ён,
Хай панясе мяне
Зноў у маленства,
У залатыя гады...—
Так хачу я
Мілай дзяўчынцы сказаць...
Ды дзяўчынка,
Быццам даўно гэта ўсё зразумела,
Раптам —
стаіць прада мною сама.
— Дядя,—
Кажа дзяўчынка,—
Дядя,
Я тебе нарисую уточку и лошадку,
Ун патіто і ун кабальіто.
Біено?
Хорошо?..
Дзяўчынка!
Што ты зрабіла са мною,
дзяўчынка!
«Сястра Марселіна!
Сястра Марселіна!» —
Напэўна, крычаў я.
Бо людзі спыняліся.
А дзяўчынка гукала:
— Мама! Мама!
І з хваляў русалкаю
Бегла жанчына.

Магілёўская вёска.
Курная хата.
Год трыццаць шосты.
Бамбёжкі Мадрыда.
Дзеці Іспаніі.
І Марселіна.
Вёсны, калі я рабіў ёй жалейкі.
І незабыўныя, мусіць, да смерці
З вуснаў сястрыцы
Іспанскія словы.
Потым каханне...
Потым расстанне...
Колькі ўсяго
прагучала ў хвіліну,
Колькі за міг
занялося ў душы!..

*

Цяпер жыць лёгка.
Лёгка лічыць сябе храбрым.
Лёгка насіць вусікі супермена
І шаркаць ножкамі
па паркетах.
І зусім лёгка,
Ну лягчэй, чым плюнуць на магілу,
Лёгка
Лічыць нікчэмнасцямі і дзівакамі
Тых,
Што з галадухі пухлі гадамі,
Тых,
Што спалі на будаўнічых пляцоўках,
Тых,
Што не думалі пра стылі і моды,
Тых,
Што рукамі парэпанымі і крывымі
Здабылі,
Зберaглі
Ўсё, што сёння маем...
Так, цяпер лёгка...
Лёгка ўсмешлівымі
Блукаць па мінулым.
Лёгка чысценькімі
Гаварыць прамовы.

Лёгка ветленькімі
Падысці да нашчадкаў.
А былі ж рэкі —
перасоленыя крывёю,
А былі ж нівы,
касцямі засеяныя,
Былі слёзы,
Былі пакуты,
І было гора...
І вось з таго часу
І жыве ў душы маёй
смутак,
З таго часу
І ідзе са мною імя
іспанкі.
І песня гэта
Грукае з сэрца,
Напэўна,
З таго часу.
Малады чытач,
ты не чуў пра слёзы Мадрыда,
Малады чытач,
ты не бачыў ран Беларусі,
Фашысцкай навалы
і фабрык смерці
Ты, малады чытач,
не ведаеш,
І не трэба, каб іх ты ведаў.
Але ты зразумець павінен
Мой смутак,
Маю радасць,
абпаленую пажарамі,
Ты зразумець павінен
І шанаваць
Ты павінен іх.
Пасля бур і блуканняў
быў светлы бераг.
Было сонца. І было мора.
Дзяўчынка гукала: «Мама, мама!»
І жанчына, кульгаючы,
бегла з вады.
І раптам
магутная сумная сіла
Кінула мяне да жанчыны насустрач,

І я ўстаў перад ёю,
І яна закрыла рукамі вочы,
А потым —
я цалаваў яе мокрыя локці.
Дзяўчына гукала:
— Мама, не трэба!..
А жанчына шаптала:
— Брат... Брат...

*

— Марылька, Марыйка,
Марычка, Марытэ...
— Дядя,
а ты пришел оттуда, из-за морей?
— Марселіна, сястра Марселіна,
Там, дзе ляжыць наша мама,
я пасадзіў вішні,
Ты любіш вішні,
Я помню, ты любіла вішні...
— Брат... Я ўсё помню,
ўсё помню...
— Мама, а что это — помню?
Это когда компрендес? Да?
— Марселіна, ты ўсё помніш,
Раскажы, Марселіна,
Прашу цябе, любая,
ўсё раскажы!..
— Брат... Я ўсё помню...
Усё помню...

*

Так, гэта было страшна.
Я ведаю, Марселіна,
гэта было страшна...
— Калі мама згарэла ў хаце
І навокал не стала нікога, нікога,
Толькі фашысты,
толькі каты,
Тады я пабегла...
пабегла, пабегла...
— Так, я ведаю, Марселіна,
Гэта было страшна...

Страшна... Страшна...
Гэта страшна —
не мець нікога,
Нікога, нікога на белым свеце...
Я сам быў адзін —
як лісток скамечаны,
Я сам гарэў
і разрываўся на часткі,
Я попел насіў на сабе,
і ў свеце
Ніхто не вярнуў мне
спагады матчынай...
— Тады я пабегла, пабегла, пабегла...
А куды я бегла —
не ведаю...
І на ўсход было зарыва,
І на захад — зарыва.
І мама наша
згарэла ў хаце.
А наўкол былі каты,
лютыя каты.
І тады я пабегла...
Пабегла — ў Іспанію!..

*

Іспанію?..
Марылька, Марыйка,
Марычка, Марытэ,
Сонцам улагоджаная,
Морам загушканая,
Спала на руках у Марселіны
Марылька, Марытэ.
І раптам
адкрыла вішаньку-вочка.
Іспанія?
І ўсміхнулася ціха
Марылька, Марытэ
І вішаньку-вочка
зажмурыла зноў...



— Тады я пабегла, пабегла, пабегла,
Брат, я пабегла ў сваю Іспанію,
Ты ведаеш сам, што такое радзіма,
А мама наша згарэла ў хаце,
Згарэла ў хаце,
і не стала нікога,
Адны толькі каты, лютыя каты...
— Але ж ты, Марселіна,
Па сініх лясах бегла,
Па сцяжынках глухіх
прабівалася, любая,
Піла ваду з крыніц чыстых,
з азёр гулкіх,
Засынала ў папараці,
на лагах росных,
Мы ж раслі тут, сястрыца,
На гэтых ростанях,
Няўжо ты не бачыла,
Няўжо забылася,
Няўжо ты не чула
іх паху і голасу,
Няўжо не любіла,
Няўжо радзімаю
Ты не лічыла
Зямлю ласкáвую?
Над пенным Сажом
дубы векавечныя
Няўжо не казалі табе
пра вернасць?
На дымных дарогах
Вятры польныя
Няўжо не крычалі табе пра брата?
Пра брата,
што ў бурах шаптаў два словы:
«Сястра Марселіна, сястра Марселіна»,—
Што кроў па расінцы
гатоў быў рассеяць
На тыя груды, дзе шляхі дадому,
Каб толькі ты верыла,
сэрцам пачула,
Што ты не адна, не адна на свеце?..
— Не ведаю, брат...

*

— Брат,
Я нічога, нічога не ведаю...
Толькі Іспанія,
Толькі Іспанія
Клікала сэрца,
Бо ўсё было ў зарыве,
І на ўсход — вогнішча,
І на захад — вогнішча,
І вакол каты,
                    лютыя каты,
А маці наша згарэла ў хаце.
І вочы нават мае не плакалі,
Толькі гайдалася ў іх маленства,—
Хатка белая каля Мадрыда,
Пашчапаная кулямі,
Пахаваная бомбамі,
Раптам яна ажыла прад мной...
«Бяжы! Бяжы!
Туды! Туды!» —
Крычала сэрца, і я ўсё бегла,
Бегла ад жахаў,
Дзе мама згарэла,
Дзе прысак лёг на душу,—
Не магла я,
Брат, не магла я тады без Іспаніі!..

*

Ля ног мора
Дыхае, як асілкава дзіцянё,
І ўсмешкі свае,
І капрызы свае,
І свае пяшчоты
Коціць і коціць
                    да зямлі-маці.
Спіць Марытэ,
Туліцца да цёплых грудзей.
Ун патіто і ун кабальито
Палачкай крэсліць у сне.
— Іспанія...—
Шэпчуць Марыльчыны вусны...
Ах, божа мой,

Як гэта ўсё зразумець,
Як паэту зразумець,
дзе яго мара,
Як паэту адказаць,
дзе мара чужая,
Дзе любоў і дзе зямля адзіная,
Дзе песні яго і яго шляхі?!
Як мне твой боль адгадаць,
Марселіна любая,
Чаго ты бегла ў Іспанію,
Чаго ты чакала ў Іспаніі,
Там, дзе бомбы скрамсалі
маленства тваё,
Там,
Дзе яма адна замест белае хаткі,
Там,
Дзе нават і родных магіл
не знайшла б,
Каб слёзна падумаць,
Каб з жалем спыніцца?..
Сястра Марселіна,
Любая мая Марселіна,
Чаго ты бегла ў Іспанію,
Чаго ты чакала ў Іспаніі,
Як мне, скажы, зразумець
Пацямнелых вачэй тваіх дым,
Дум тваіх неба
І зоры ў ім —
Праз хмары
Усмешкі,
Ярчэйшыя, чымся ўспаміны ў сне?..

*

І раптам здалося мне,
Не, не,
Мне не здалося,
Яны прасвечвалі мяне наскрозь,
Мудра і пільна
Прабівалі мяне
праз самае сэрца
Вочы таго,
Хто любіў
і швейцарскага неба пявучасць

І пагоркі Пароніна з кім
размаўлялі на мове вятроў,
Хто з пяшчотай глядзеў
на задумную тлумасць Манмартра
І каму, як найлепшаму другу,
крычаў неўгамонны Ла-Манш.
Вочы таго,
Хто любіў
Віхравую іспанскую мову,
Ды без рускае мовы
Не мог пражыць ані дня,
Хто ў Лазане і Лондане
ведаў прызнанне, як свой,
А не мог сябе і ўявіць
без Сімбірска і без Масквы.
Непаўторны і блізкі
і любы для свету ўсяго,
Сынам адной быў Расіі,
толькі Расіі,
Толькі Расіі быў сынам, і толькі
з Расіяй
Бачыў, як з маці,
бясконцае шчасце сваё!
Маленькія,
Зусім пясчынкі,
Мы таксама не можам жыць
без зямлі, што нас падняла,
Без зямлі, што дала нам сонца
і з сонцам вясновы агонь,
Без зямлі, дзе ўзышло навекі
матчына слова адзінае.
Хай бы сардэчныя ласкі
ўсіх мацярок зямлі
Песцілі мяне і лашчылі —
я б не забыў сваю маці;
Хай бы мне свет аддавалі,
багацейшы за родны край,—
Я б не ўзяў гэты свет
без маёй Беларусі.
Праз пекла, праз люты боль
Я б поўз, раздзіраючы рукі ў кроў.
Праз смерць я б ішоў
да сваёй зямлі,
Да зямлі, дзе гучыць беларускае слова,

Дзе песня,
што над калыскай спявалі мне,
Рэхам коціцца на сцежках сонечных;
Беларусь мая любая,
Матчына мова мая,
Хай мяне секлі б на часткі,
Хай мяне кідалі б каты ў касцёр,—
Я толькі да вас бы ішоў,
толькі б да вас я ляцеў,
толькі б з вамі астаўся!..
...Чаго ж я пытаю, сястра, ў цябе,
Нашто ты бегла ў Іспанію,
Чаму ж не цалую ног тваіх чыстых,
Што зямліцу шукалі родную,
Чаму не панёс цябе на руках,
Як сонца, як песню, як веру мужную?..

*

— Братка...
— Сястрычка...

*

Бы вярнуўшыся з далёкіх дарог
пад страху дзён мілых,
Мы сядзім пад аховай дзюн —
як сцішаныя вандроўнікі.
Спіць Марылька.
І Марселіна нібыта спіць.
Ты сказала ўсё, Марселіна?
Ты цяпер далёка ад сваіх пакут?
На светлы твар твой
не набяжыць хмара цёмная?
Успаміны твае
не разане крык жудасці?
Не краяне сэрца
боль
часу даўняга?
Не.
Спакойна ляжыць Марселіны рука.
Ціхая дума
блукае
па твары сястры.

Мора, жартуючы,
пырскамі кіне са смехам
і скочыць назад...
І раптам...
— Што гэта?!
Нашто яны гэта пяюць?!
Нашто, брат?!
Нашто?!.
«Колокольный звон...
Колокольный звон...
Это раздается в Бухенвальде
Колокольный звон...»
— Брат! Я не магу,
Хіба можна пра гэта пець?
Пра душагубкі,
пра шалёных сабак,
Пра калючы дрот,
пра слюду вачэй,
Пра попел з сэрцаў людскіх,
пра слёзы крывавыя
Хіба можна пець?
Хіба ім не баліць
ад маіх ран чорных,
Ад маіх рук з нумарам,
што кат выпаліў,
Ад маіх воч выплаканых,
ад маіх касцей выбітых.
Хіба ім не баліць,
Хіба можна пра гэта пець,
Нашто яны пяюць?!
— Што з табой?..
Марселіна, любая сястрыца мая,
Што з табою, скажы!..
Людзі ж пра ўсё пяюць.
Людзі пяюць, калі баліць,
і, каб не балела, людзі пяюць.
Ах, колькі гора
з рыданнямі просіцца ў песню,
Колькі надзей няспраўджаных
шукае прытулку спагаднага,
Нашто ж ты пакутуеш?
Хай пяюць...

*

Брат, любы мой брат,
Я гукала цябе, гукала.
А мама наша згарэла ў хаце.
І толькі каты, лютыя каты
Былі навокал.
І я пабегла...
Пабегла ў Іспанію.
А мяне схапілі.
Схапілі каты,
скавалі рукі
І ў дымных печах
мне вочы выкурвалі,
На плітах вогненных
мае жылы выцягвалі,
Білі і мучылі, каб я забылася
Пра любы наш край і сваю Іспанію...
Ах, як я гукала цябе, гукала!
І сёння, я ведаю, ходзіць мой крык
На пустках Асвенціма,
над Бухенвальдам,
Ходзіць па змрочных скляпеннях,
над кратамі,
І кожны валун,
і магіла кожная,
І кожная помніць пясчынка абпаленая,
Як я цябе гукала...

*

Маўчу.
Я сказаць магу: «Я чуў твой крык».
Я сказаць магу: «Я ішоў, ішоў».
«Марселіна любая,—
я магу сказаць,—
Ты ж усё ведаеш,
Ты ж усё сама ведаеш...»
Але хіба вернеш словамі
юнацкую кроў?
Разбітыя мары
словамі хіба вернеш хоць трошкі?
Спачуванні,
Яны нічога не ўскрошвалі,

Яны не прыносілі радасці
нават з блізкіх дарог...
Маўчу.
А тады бяру руку...
Любая...
Відаць, як білася збянтэжана кроў,
Заліць хацела, сцерці,
зраўняць, зраўняць
Лічбы —
ліхую памятку лютай няволі!..
Ды селі цвёрда
глыбокія знакі таўра...
Любая...
— Любая!..— ці крычу, ці толькі шапчу.—
Марселіна, сястра мая,—
даўно, цяпер і навек,
Не трэба, не трэба пра гэта,
Зрабі мне радасць,
Марселіна, сястрычка мая.
Успомні лепей хату
між белых бяроз,
І вяз над комінам,
І мальвы ў садзіку,
Успомні вёсны, звонкія вёсны,
Калі я рабіў табе
з вярбы свісцёлкі,
Успомні Сож і сцяжынку ў жыце,
Па якой мы хадзілі
па шчаўе ў лесе,
Успомні дзень, калі нашай маме
Ты сказала ўпершыню па-беларуску:
— Матуля...
Былі горкія мукі.
Быў пякельны і грозны пажар.
Было страшнае гора.
Не адно засталося таўро.
Але глянь, Марселіна,
нашы рукі спаткаліся зноў.
Гэта ж праўда,
што больш я ніколі не страчу цябе?
Гэта ж праўда,
скажы, Марселіна,—
не разнімуцца нашыя рукі?



Ціха-ціха,
Як белыя хмаркі ў засмучаны дзень,
Ходзяць думкі
Па твары жанчыны каханай.
Марселіна...
Што яна бача перад сабой?
Магілёўскую вёску
ці родны Мадрыд?
Вяз над комінам
ці паміж скал белую хатку?
Ходзяць ціхія думкі
па твары сястрыцы маёй,
А рука яе горача цісне маю.
І я зноў адчуваю сябе юнаком.
Дужым.
Я ўсё магу.
Нават вярнуць былое.
Быццам час не мінуў,
не было вайны,
Не стагнала зямля,
не ўзрываліся сэрцы,
Мы сядзім з Марселінай
у нашай хаце,
І матуля нам кажа:
— Расціце, дзеткі...
Шчасце...
Ах, добрае шчасце,
Ты ўсё-такі ёсць...
Толькі памяць —
памяць!..—
нібы тысячы гулкіх і чуйных званоў:
заціхае адзін,
дык забухаюць іншыя дзесяць.—
Раптам грымнула памяць:
Бранскі лес,
Над Дзясной масток,
І вогненны гул,
І салдацкай слязы пякучая соль;
І, здаецца,—
наноў я з матуляй маёй
Задыхаюся ў полымі,
гіну, гару

І са страхам гляджу,
як праз буру вайны
Марселіна бяжыць у Мадрыд,
а над ёй
Свае трубы заносіць Асвенцім,
і кат
Для яе душагубку распальвае...
Шчасце...
Ах, божа мой,
як гэта ўсё зразумець,
Столькі ў свеце разлук,
Столькі слёз і крыві,
Столькі гора
і столькі смяротнае роспачы...
Не, не!
Гэткага шчасця
нашчадку
не перадам.
Я не хачу,
Я не магу яму сёння хлусіць,
Шчасце!..
Шчасце...
Толькі тады яно будзе на свеце,
калі
Назаўсёды
іспанка здабудзе радзіму Іспанію,
І ніхто, і ніхто —
і ні здраднік, ні кат —
У іспанкі не зможа забраць
ні ўспамінаў, ні сноў,
Ні гісторыі мужных вякоў,
ні бацькоўскае славы,
Ні расінкі,
ні песні
на любай з маленства зямлі,
Ні лятункаў,
ні радасці бачыць іспанскае неба...
Толькі тады
Будзе шчасце сапраўдным на свеце,
калі
Над Меконгам, у джунглях,
в'етнамскі мой брат
Сам для сябе
будзе ў ціхай хаціне паліць камінок,

І ніхто, і ніхто
не павісне знянацку
са смерцю над ім;
Толькі тады,
Толькі тады
шчасце няскрыўджаным будзе,
калі
Кожны,
хто прыйдзе к табе на парог,
Шчыра пакloніцца
песні тваёй і калысцы...

*

Толькі тады...
Тады... А цяпер?
А сягоння? У гэту хвіліну і міг?
Як разняць нашы рукі —
рукі з таўром і рубцамі вайны?
Марселіна, сястра Марселіна,
Там, дзе ляжыць наша мама,
я пасадзіў вішні,
Я ведаю — ты любіш вішні,
Няхай яны будуць тваімі, Марселіна, навек,
Заўжды,
Пакуль будзем ісці мы,
як дзеці трывог,
Да самага добрага шчасця —
да матчынага слова адзінага,
Да любай зямлі,
да тваёй Іспаніі.
— Іспаніі?..
Марытэ ўзняла павекі
і трывожна на мяне глядзіць.
А тады пазнае,
і весела круціць галоўкай,
і гаворыць, светлае дзіцянё:
— Дядя!
Я тебе нарисую уточку и лошадку,
Ун патіто і ун кабальіто.
Біено?
Хорошо?
Компрендес?

*1966*

## НАКАЗ НЕВЯДОМЫХ САЛДАТ

**З амерыканскай паэзіі**

Вандроўнік!
Ты дойдзеш, напэўна, да той
Стараны,
Што завецца — Спун-Рывер,
І, напэўна, прад вежай яе залатой
Замрэш, як Свабода ў заліве.

Скажы ж
Грамадзянам Спун-Рывера, брат,
Што нічогачкі
Мы ім не вінны.
Мы як трэба выконвалі іхні загад
І ляжым пад чужою далінай.

І другое скажы
Ім, не зведаўшым слёз,
Хай запішуць сабе на скрыжалі:
Калі б ведалі мы,
што загад той нам нёс,
Мы ніколі б вось тут
не ляжалі!

*1961*

## ДРУЖБАКІ

Дружбакі жывуць не побач,
Пралягла між імі даль,
Палавіна ўсёй Еўропы
Паміж хлопцамі амаль.

Аднаго з іх росціць шчыра
Беларускі светлы край,
На шляхах вясны і міру
Дзесяць раз
сустрэў ён май.

А другі жыве ля Влтавы,
Нарадзіўся чэхам ён,
Злата Прага з ім
ласкава
Размаўляе ў шчасці дзён.

Раздзяляюць хлопцаў воды,
Горы, даляў палатно.
Але сэрцы іх заўсёды
Б'юцца дружна, як адно.

Б'юцца зладжана, натхнёна,
Бо вядзе сяброў
у шлях —
Там і тут адзін чырвоны,
Піянерскі родны сцяг.

Дружбакі жывуць не побач,
Пралягла між імі даль,
Палавіна ўсёй Еўропы
Паміж хлопцамі амаль.

Толькі што ім тыя далі,
Што ім рэкі і лясы!
Хлопцаў зблізілі,
з'ядналі
Думкі велічнай красы.

Ходзяць часта ў Празе й Мінску
Паштальёны ў два дамы —
Носяць хлопцаў перапіску
І ў дні лета і зімы.

Тук-тук-тук! —
штодня ля ганка...
Немаленькі ў пошты план!..
— Дружа! —
Піша з Мінска Янка.
— Соўдруг! —
Піша з Прагі Ян.

— Дружа!
Чую кліч твой гучны!
— Соўдруг!

Разам мы заўжды!
— Дружа, пойдзем неразлучна
У далёкія гады!..

Дружбакі жывуць не побач,
Пралягла між імі даль,
Палавіна ўсёй Еўропы
Паміж хлопцамі амаль.

Ды яны не заўважаюць
Ні прасцягаў, ні шырынь,
Рукі іхнія сціскаюць
Сцяг чырвоны.
Ў неба сінь

Ён ірвецца і палошча,
Волю славячы ў жыцці.
І па вуліцах, па плошчах
Лёгка, радасна ісці

Хлопцам — дзецям двух народаў,
Ды адной сям'і сынам,
Сям'і вернасці і згоды,
Што стварыў
сам Ленін нам!

*1960*

## ПЕРШАЯ НАСТАЎНІЦА

Падраслі, прыйшлі да камсамола,
Сталі ўсе дасціпнымі і ўпартымі,
Хутка іх у свет праводзіць школа
Дужымі, сваёй Айчыны вартымі.

Але шчыра помняць яны й сёння
І запомняць, пэўна, ў доўгім часе
Тую, што ад матчынага ўлоння
Павяла іх смела ў першым класе.

Сыдуцца, і гутарка пачнецца:
— Як там Мар'і Йванаўне жывецца?

— Сумна Мар'і Йванаўне быць дома...
— Столькі год на пенсіі, вядома...

— Хочацца пра нас ёй, мусіць, ведаць...
— Трэба Мар'ю Йванаўну праведаць...

Першая настаўніца! Вялікая
Доля ў яе, слаўная ў народзе.
Колькіх яна палкім сэрцам клікае,
Колькіх на жыццёвы шлях выводзіць!

Пакідаеш, першая настаўніца,
Ты ў дзіцячых сэрцах след навечна
Ведамі, якімі край наш славіцца,
Ласкаю, што б'е з глыбінь сардэчных.

І таму заўсёды будзь гатовая
Дарагіх гасцей сустрэць.
Шчаслівыя,
Скажуць: — Добры дзень! —
Такія новыя,
Але па-былому сарамлівыя...

*1960*

## ВУЛІЦА ЯНКІ КУПАЛЫ

Вуліца Янкі Купалы,
Родная сэрцу заўжды,
Памяці ты захавала
Даўняга часу сляды...

Сполах далёкіх пажараў...
Водгалас клятвы сяброў...
Песня — дзявочая мара —
На рыштаваннях муроў...

Год праміпае за годам.
Крочыць вясна за вясной.
Толькі ўспаміны заўсёды
Ўсюды нязменна са мной,

Помню, як білі гарматы.
Помню, як Мінск наш гарэў.
Сумна на сэрцы салдата —
Быццам за міг пастарэў.

Песня Купалы тады нам
Вернай сяброўкай была.
Песняй Купалы Айчына
Нас на змаганне вяла.

Песні Купалавай сіла
Нас падымала на бой,
Быць чалавекам вучыла,
Волю прыносіць з сабой.

Век не забудзецца радасць —
Як мы дадому прыйшлі,
Як мы над Домам урада
Сцяг пераможны ўзнялі.

Сёння зарніцы пажараў,
Можа, прысню толькі ў сне...
Песня — юнацкая мара —
Сёння ўсё чуецца мне.

Песню адразу пазнаю —
Сэрца Купалава ў ёй,
Любасць да роднага краю
Славіць яна над зямлёй!

*1961*

## ЗЕМЛЯКІ

На любых шляхах,
Пад сонцам ці нягодаю,—
Са Смаргоні, з Рэчыцы, з Прылук,—
Мы сустрэнемся —
І сэрцы б'юцца згодаю,
Толькі ўчуем роднай мовы гук.

Можа быць, мы таленты,
Можа, і міністры мы,
Мудрацы мы ўжо ці юнакі,
Але ўсюды —
Сэрцам, думкай чыстыя,
Мы ўсе — роўныя,
Мы — землякі.

Сыдземся,
Жыццём у свет пазваныя,
І з любоўю
Думаем услых,
Як раслі,
Як беглі, закаханыя,
Да таемных сцежачак сваіх.

З пачуццём
Успомнім песні матчыны,
Прыгадаем мужнасці гады —
Як хто ў бой хадзіў
Пад Мінскам ці пад Гатчынай,
Як садзілі
Ля руін сады...

Слаўлю вас,
Хвіліны ціхай шчырасці!
Слаўлю вашы сэрцы,
Землякі! —
У якіх змагло
Так многа ласкі вырасці,
Што адчуеш з поціскам рукі.

І за гэту шчырасць,
Што ў нас маецца,
Я дарую ўсім,
Паверце мне,
Хто
Калі дадому павяртаецца,
Ледзьве-ледзь,
Спаткаўшыся,
Мне галавой кіўне...

*1961*

## БЕЛАЯ ЧАЙКА

*В. П.*

Прычапілася белая чайка ка мне:
Не паспею заснуць — а яна нада мною.
Кружа, кружа — то вострым крылом чыркане,
То, як хваляй, гарачай абдасць белізною.

І крычыць, і крычыць так тужліва штораз!
І глядзіць, і глядзіць. А пагляд — дзікаваты.
Быццам нейкі таемны вядомы ёй сказ.
Быццам я перад ёю у чымсь вінаваты.

Я прачнуся. Я доўга нямею ў цішы.
Ты адкуль, мая чайка? Адкуль ты і што ты?
Я ж за век аніводнае чыстай душы
Не забіў — ні ў людзей на вачах, ані ўпотай.

Тыя ж душы, якія паліў я агнём,
Былі з чорнае зграі, цямнейшыя ночы.
І яны аніколі, ні ноччу, ні днём,
Не схацелі б патрапіць ізноў мне на вочы.

Дык адкуль жа ты, чайка? Адкуль і чыя?
І чаго ты чакаеш? — скажы, калі можна...
...А быць можа, ты тая трывога мая,
З якой калісь расстаўся я неасцярожна?

Можа быць, ты заўважыла ў песнях маіх
Вельмі чыннасці многа і многа спакою?
І, мне ўсё дараваўшы, прыйшла, каб да іх
Зноў вярнулася скруха за шчасце людское?..

Не адказвае чайка... А я не магу
Жыць далей так, як жыў,—
каб і ўтульна і сонна...
Быццам хтосьці па свеце збірае тугу
І нясе ў маё сэрца — штоноч і штодзённа.

Нейкі кліч, нейкі звон усяліўся ў мяне,
Як хто водзіць па жылах смычком-самаграйкай.
А ледзь вочы самкну — зноў крылом чыркане,
Зноў крычыць нада мной
мая белая чайка.

*1961*

## ВАЛЬС

Была вясна, і квецень,
І смех, і плёскат хваль.
І аж на ўсёй планеце
Я чуў мажорны вальс.

Каханыя, за рукі
Пабраўшыся, брылі.
І стройна
вальса гукі
У душах іх плылі.

Матулі над калыскамі
Ўсміхаліся малым.
І гукі вальса блізкім
Рабілі шчасце ім.

Ці людзі хаты крылі,
Ці ткалі паясы,—
Ляцела ўсцяж на крыллях
Мелодыя красы.

І раптам — быццам нехта
Паклаў замок замоў,—
Я чую: над планетай
Вясёлы вальс замоўк.

Няветлівая, хмурная
У бляску цуда-дня,
Нібыта перад бураю,
Настала цішыня...

Ах, людзі, пакуль жыць мне,
Прашу,
прашу я вас,
Чаму ён сціх, скажыце,
Ваш незабыўны вальс?

Ці вы раптоўна ўспомнілі
Над светам чорны грыб?
Ці гвалт эрзац-наёмнікаў
Пачулі ля сяліб?

Ці крыўду нехта ў вочы
Вам кінуў з прагай слёз?
Ці нехта напрарочыў
Гаротны ўсім вам лёс?

Ах, людзі, людзі, верце,
Вас гора не кране!
Ёсць сіла супраць смерці —
Са мной яна, ў мяне.

Я кіну нават любую
Паэзію маю,
Каб зберагчы ад згубы
Вам радасці ў баю.

Я кроў, пакуль барвяніцца,
Аддам за родных вас,
За сонечныя раніцы,
За ваш сусветны вальс!

*1961*

## ПАЭЗІІ

Колькі, паэзія,
    хціўцаў прад намі прайшло,
Колькія ставілі
    нам на дарозе сіло,
Колькія прагнулі
    нас у яго залучыць,
Колькі разоў
    нас хацелі з табой разлучыць!..
Бомбы, і кулі,
    і печаў Асвенціма чад,
Боль катаванняў,
    і жаль незваротлівых страт;
Здзек прайдзісветаў,
    і дула наёмніка ў скронь,
Немач палону,
    і стрэлы шалёных пагонь,

Шпікаў грымасы,
    і рык ваяўнічых пагроз,
Ёнкі-праклёны,
    і атамны дзікі псіхоз...
О, каб сабралі
    ўсю лютасць, што слалі на нас,
О, каб сабралі
    з табой мы аднойчы за раз,—
Колькі прадстала б
    прад светам бясконцай жуды! —
Ён скалануўся б,
    вясёлы наш свет малады...
Толькі такога
    ні ў век мы не зробім з табой! —
Хай нашы мукі
    для свету не стануць журбой.
Будзь ты, паэзія,
    новым кагортам людзей,—
Смелай пясняркаю
    самых іскрыстых надзей,
Будзь ім пралескаю
    ў сцюжнай віхурнасці дня,
Будзь ім галубкай
    сярод гругання-варання,
Звонам струны
    сярод згубнасці і калатні,
Гулам агню
    у бяздушнай пустой цішыні;
Голасам любай —
    і ў шчасці, і ў чорнай бядзе,
Клятваю друга,
    што поплеч на бітвы ідзе,
Будзь ты ім верай,
    крыніцай жывога святла,
І тым мячом,
    што так згубны, так страшны для зла!

*1961*

## ВЯСНОВЫ МАРШ

На маёвым дасвецці,
Ледзь толькі лістотай клейкаю
Зашавеліць
Раніцы пястун-вецярок,—
Неадольная сіла
Мяне падымае нейкая,
І наперад кліча,
І скіроўвае зрок
і крок.

Я і так ніколі
Не жадаў ад жыцця адасобіцца.
А сягоння
З вітаннем
Да кожнага іду акна.
Дык што ж гэта робіцца?
Што ж гэта з намі робіцца?
І чую ўрачысты голас.
— Гэта ўладарыць вясна!

Вясна!
Губы ніхто не падсалоджвае,
А яны — мядовыя.
Сэрцу ніхто не падказвае,
А яно — пяе.
Вочы ніхто не падсіньвае,
А яны — васільковыя.
Думам ніхто не загадвае,
А думы на маршы мае.

Іду, ўсхваляваны,
Да людзей скіраваны
крокі мае.
Праз вясну
Адрасую
Усю сваю веру сябрам:
Што бясконца
У сонцы
Будуць аблокі высокія,
Што ніколі
Злосным
Над намі не веяць вятрам.

Вось і дзень ужо новы
Маёвы
На ўсходзе праменіцца.
І вось у калонах
Мільённых
Ідзём у святочны марш.
І хто нас ні ўбача,
І хто ні сустрэнецца,
Адчувае
І сэнс нашай явы,
І сэнс нашых велічных мар!

*1961*

## ПАШЛІ МЯНЕ СЁННЯ ДА КУБЫ!

Пашлі мяне сёння да Кубы,
Прашу цябе, любы народ!
Хадзіць за свабоду ў атакі
З юнацкіх вучыўся я год.
Нянавісць не ціхне да катаў,
Што праглі й мой край загубіць.
Пашлі мяне сёння да Кубы —
Мне трэба фашыстаў дабіць!

Пясняр чалавечага міру,
Я ў рукі ўзяў лірную медзь.
Ды зноў пад пагрозай свабода,
І я не магу больш цярпець.
Далей не магу, не хачу я,—
Што быў я байцом,— забываць.
Калі яны цэляць мне ў сэрца,
Дык мушу і я забіваць!

Пашлі мяне сёння да Кубы,
Прашу цябе, любы народ!
Каб дзеці ўзрасталі — нам трэба
Спыніць душагубаў паход,
Каб маці не плакалі — трэба
Развеяць навалы тугу.
Пашлі мяне сёння да Кубы,
Інача́й я жыць не магу!

О Куба! Пачуй мяне, Куба!
Я, Куба, іду да цябе.
Гатоў я на муку любую
Ў свяшчэннай тваёй барацьбе.
Гатоў я прайсці без астачы
Шляхі тваіх мужных баёў,
Гатоў я аддаць сваё сэрца
За светлае шчасце тваё!

Хадзіць за свабоду ў атакі
Вучыўся з юнацкіх я год...
І даў мне агністую сілу
Вялікі мой, слаўны народ.
Нянавісць не ціхне да катаў,
Што праглі й мой край загубіць.
Я сёння спяшаю да Кубы —
Каб мір чалавецтву здабыць!

*17 мая 1961*

## САВЕЦКАЕ СЛОВА

Дзе б я ні прамовіў
    Савецкае слова —
Ніхто мне не кіне пагарды суровай,
Ніхто не ўсміхнецца
    з двурушным фасонам,
Ніхто не адкажа
    ў мой адрас праклёнам,
Ніхто — ні старыя, ні ўнукі іх — дзеці —
Мяне не збаяцца
    на цэлым на свеце!
А дзе б ні сказаў я
    Савецкае слова —
Адразу ўсе бачаць
    свет сонечны, новы,
Адразу ўяўляецца ўсім,
    як ракеты
Ляцяць ад зямлі на другія планеты,
Адразу ўсе чуюць
    не кліч кананіра,

А голас магутнага, мудрага міру.
І вусны мільёнаў —
    ад Ганга да Влтавы —
Пры стрэчы са мною
    жадаюць мне славы,
І рукі мільёнаў —
    ад Конга да Віслы —
Жадаюць руку маю шчыра пацісnуць.
І нават і той, хто ад нашага слова
Шалёнаю злосцю
Застогне нанова,
Чаго б ні жадаў ён
    Савецкай Радзіме,
Усё ж капялюш
Прада мною
            свой зніме!..

*1961*

## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Рука мая ляжыць
    на зерні адборным, чыстым,
Не чапайце маёй рукі!
Сэрца маё імкнецца
    да сэрца любага друга,
Не чапайце сэрца майго!
Помніце, не забывайце,—
    я быў на вайне танкістам,
Я прайшоў да Шпрэе-ракі.
Помніце, не забывайце,—
    я смерць прыносіў звяругам
Са стрэлу свайго аднаго!

З радасцю я адвык
    ад кананад і пажараў,
З радасцю ад смерці адвык.
У мяне ёсць добрыя дзеці,
    растуць яны для весялосці
У мірнай маёй старане.



Удзельнікі Усесаюзнай нарады
маладых пісьменнікаў (злева направа):
Аляксей Кулакоўскі, Іван Мележ,
Кастусь Кірэенка, Дзмітрый Кавалёў.
Масква, 1947 г.



Кастусь Кірэнка — удзельнік Дэкады беларускай літаратуры ў Таджыкістане. 1947 г.

Але не забывайце, помніце,—
    я не страціў трапнасці ўдару.
Не забывайце, помніце,—
    ваш прадсмяротны крык
Упадзе без славы
    на вашы сатлелыя косці,
Не забывайце,—
І не чапайце мяне.

У садзе маёй душы
    кветкі заслалі нянавісць,
Хай цвіце, мацнее той сад!
У зроку маіх імкненняў
    святло адолела цені,
Хай бясконца праменіць той зрок!
Не чапайце мяне!
Не чапайце мяне!
У імя ўсіх людскіх пакаленняў
Папярэджваю —
Не кранайце
            гневу майго курок!

*1961*

* * *

Крамлёўскія ясныя зоры,
Палессе, дарогі Крыма,—
Гэта маё юнацтва,
Гэта мая Радзіма.

Спытаюцца плошчы Пскова,
Бязмежныя стэпы Кубані —
Чаму яны
        сэрцу так любы,
Любы да замілавання? —

Я адкажу ім шчыра:
Таму яны мне
            так мілы,
Што пад паглядам іхнім
Дужэлі
        юныя крылы;

Таму, што на іх дарогах
Ласкай —
ад самага мала —
Песня ўсяго народа
Сэрца маё калыхала...

Радзіма! Ты мне патрэбна
Як сонца і як паветра,—
І пахам Алтая хлебным,
І чарнаморскім ветрам,

І хвалямі рэк паўночных —
Парожыстым гулам Віціма
І цішаю Белавежы
Патрэбна ты мне, Радзіма...

Патрэбна ты мне навечна
Чырвоным герояў сцягам,
Што падымае сэрцы
На любасць і на адвагу,

Што асвятляе свету
Дарогі міру і славы —
Імем майго народа,
Імем маёй дзяржавы!

*1961*

## БАЦЬКА І СЫН

У час, калі стала: на стрэльбу зарад
І паўшых налічвалі
больш, чым жывых,—
З суровай тугой
Партызанскі атрад
Рашыў адступаць.

Ля зямлянак сваіх
Расклалі змаганцы паболей кастроў,
Каб праз завіруху сцвярджалі яны,

Што лагер жыве...
Пахавалі сяброў.
І рушылі ў цёмны бяздонак лясны.

Ішлі, каб адвесці ад лютай бяды,
Уратаваць хоць дзяцей і старых.
І начыста іх замятала сляды
Пурга,—
ад чужынцаў ахоўвала іх.

А тут, дзе нядаўна плач чуўся парой
Дзіцячы
і стогн прадсмяротны байца,—
Двое тут засталіся.
Сабой
Сяброў адыход прыкрываць да канца.

Двое байцоў — бацька з сынам сваім.
Адно пачуццё іх на подзвіг вяло.
Аж сто патронаў
пакінулі ім.
І дзве гранаты —
колькі было.

*

І вось, ледзь пачаў толькі золак шарэць,—
Гушчар застагнаў пад разрывамі мін.
І ў той калатні, ў той навале —
пра смерць
Як быццам забыліся бацька і сын.

Яны толькі помнілі: трэба ім жыць
І трапна цаляць — такі сэрца загад! —
Столькі часу,
каб мог адступіць
За далеч надзейную іхні атрад.

Так помнілі
Пад неадступнай пальбой,
Так помнілі,
Калі, падняўшыся ў рост,
Агнём праразаючы шлях прад сабой,
Пайшлі на іх фрыцы —
шалёна, наўпрост;

Так помнілі,
калі ўжо блізка зусім
Да іх кулямёта паўзлі, што краты,
Фашысты...
А ім, знявечаным ім,
Ужо непатрэбнымі сталі бінты...

— Сыночак... ідзі... я сам тут... адзін...
Ратуйся!..— казаў, заціскаючы скронь,
Цішэючым голасам бацька...
А сын,
Як быццам да ўдзячнага сэрца,
далонь
Да раны прыклаў і крануцца не мог,—
Так біла гарачым струменем адтуль...
І так, перайшоўшы адвагі парог,
Яны скарысталі ўсе сто свае куль;

І дзве іх гранаты,
бы звестку ў жыццё,
Паслалі між сосен
палаючы звон...
Пакуль абдымаючае забыццё
На бацьку і сына
не склала свой сон...

*

Жыццё, для якога ў трывогах раслі,
Жыццё, аб якім столькі мараў спнялі,
Якое хацелі сабе зберагчы,
Па самых суровых шляхах ідучы,
Жыццё дарагое,
Ці знойдзеш ты сіл,
Каб не жахнуліся бацька і сын,
Каб не змарнелі,
Не ўпалі душой
Перад пякельнаю
Доляй сваёй,
Доляй, якая, правёўшы праз смерць,
Кінула жорстка ў палон іх цяпер?..

Іх ажывілі, счарнелых ад ран,
І іх прывялі, гэтых двух партызан,

На допыт...
— Скажыце! — і будзеце мець
Усё, што вы ўздумаеце захацець...
Скажыце! —
хто вы, кім вы былі?..
Скажыце! —
чый здзяйснялі намер?..
Дзе партызаны?.. Калі адышлі?..
І дзе партызанскі лагер цяпер?..

«Дык вось чаго хоча фашыст-жывадзёр!
Дык, значыць, схаваў
тайну ночы
наш бор!
Шляхоў партызан
не адкрыла зіма!
Дык, значыць, на смерць мы пайшлі
не дарма!»
Праз млосць і праз боль
запраменіўся сын,
І бацька ўлавіў думак сынавых плынь,
І сыну кіўнуў галавой...
І яны,
Колькі пасля ні памучалі іх,
Як ні згіналі ў скляпеннях глухіх,—
Былі і цвярдзей і глушэй за сцяны,
Ні слова не выбілі ворагі з іх,
Непераможных, магутна-жывых...

*

Тады, адабраўшы ў паўгорада дзень,
Сагналі фашысты
на плошчу людзей.
— Гэй, слухайце ўсе! —
закрычаў камендант.—
Мы ў лесе злавілі двух партызан,
Хто знае імёны іх, дзе іх радня —
Хай выйдзе і скажа!..—
І ўраз цішыня
Апала на плошчу, праз ветру выццё,
Здаецца, пачулася сэрцаў біццё;
Хоць бацьку і сына тут зналі даўно,
Не раз паціскалі пры стрэчы руку,—
Маўчала шырокая плошча...

І зноў,
Хапаючыся за кабуру пры баку,
Крычаў камендант,
абяцаў серабро,—
Ніхто не прадаў землякоў і сяброў!

І раптам
з апошняй трыбуны сваёй,
Трыбуны з пятлёю над галавой,
Крыкнуў бацька,
бы ўдарыў у звон:
— Што ж вы не скажаце нашых
імён,
Людзі, вы ж знаеце, я — камуніст,
Я — камуніст, і мой сын — камуніст,
Сэрцам прад вамі і думкамі чыст!..

— Камуніст!
— Камуніст!
— Камуніст!
— Камуніст!
— Камуніст! — нібы клятва,
пайшло між людзей.
— Камуніст! — паўтараў і малы і стары.
І ўсе верылі: сцяг па-над плошчай
зардзеў,
І яго калыхалі свабоды вятры...

І хаця —
мо праз некалькі сумных хвілін —
Гайдануліся ў петлях бацька і сын,—
А імя — Камуніст,
што вяло іх на бой,
Для якога
Ахвяравалі сабой,
Што пакінулі спадчынаю на зямлі,—
Іх сябры, землякі —
падхапілі, ўзнялі!..—
І ніякаю лютасцю вораг не мог
Спыніць гэта імя на раздоллі дарог.

*1962*

## НАД СВЕТАМ

Над светам, над светам —
Бясконцыя ясныя дні.
Над морамі кветак
Плыве акіян цішыні.

Для свету, для свету —
І песні,
і смех,
і любоў.
І маршал з паэтам
Пускаюць у свет галубоў.

У сэрцах гарачых —
Ні страху даўно, ні жалоб.
І хутка не ўбачыш
Ніякіх на свеце хвароб.

Жыві сабе смела,
Красуйся і слаўся праз век,
Разумны, і ўмелы,
І мужны мой друг-чалавек.

Будзь добрым, прыгожым!..
А ён у сумненні стаіць:
— Няўжо гэта можа,
Няўжо гэта можа ўсё быць?

Няўжо так магчыма,
Каб зніклі ўсе жахі вайны?
Няўжо за плячыма
Крадком зноў не ўстануць яны?

Няўжо гэта можна,
Каб людзі ўсіх колераў, рас
Жылі бестрывожна
І працаю славілі час?..

Іду з чалавекам...
Маршчыністы, стомлены твар...
Твар гэты спрадвеку
Нёс гневу і смутку цяжар.

А вецер напасцяў
Не раз над ім скрухай імжыў...
Даўно сабе шчасце
Жыццём чалавек заслужыў!

І нельга стрымацца,
Не крыкнуць: — Ты вер, чалавек!..

Таму, што змагацца
За сонца мы ўмелі праз век,

Таму, што мы людзі,
Што шлях да сяброўства знайшлі,—
Таму гэта й будзе —
Жыццё без жуды на зямлі!

Табе назаўсёды,
Табе, чалавек,— не каму! —
І сілай валодаць,
І мір даць жыццю усяму!..

Над светам, над светам
Праменнямі сыпле вясна.
Вялікім дэкрэтам
Навечна
праклята вайна.

Супольнасць і згода
У справах людзей і краёў...
Так бачаць народы
Бясхмарнае заўтра сваё!..

*1962*

## ЖЫВУ

Што ты здзіўляешся,
Што я часам хмурны стаю,
Што я часам іду,
Павесіўшы галаву?
Што ты здзіўляешся,

Што я часам сумна пяю,—
Я ж жывы, братка,
Я жыву.

Што ты здзіўляешся,
Што я часта гневам грымлю,
Што я часта і сам
Агонь на сябе заву?
Што ты здзіўляешся,
Што я кволым быць не цярплю,—
Я ж жывы, братка,
Я жыву.

Не здзіўляйся, брат,
Ні суровым словам маім,
Ні трывожнасці той,
Што ўрываецца ў песень канву;
Мы ж з табой, братка,
На жывой зямлі стаім,—
І для жыцця, братка,
Я жыву.

Жыву для радасці,
Для вясёлага смеху жыву,—
А гэта рабіць
Не лёгка, знаеш і сам.
Таму не здзіўляйся, брат,
Калі часам струну парву,
Калі і сэрца
Парву напалам.

Аднаго, браце мой,
Не змагу ніколі нідзе:
Па жыццю плыць,
Як плыве пясок на траву,
Не змагу адсвечвацца,
Як жоўты ліст у вадзе.
Не змагу, братка...
Бо — жыву...

*1962*

## УСМЕШКА

Успомні ростані, нягоды —
Жыццё наяве, а не ў сне...
У шлях нялёгкі мой
Заўсёды
Сваю ты слала ўсмешку мне.

Адну, адну ўсяго усмешку!
Але якім я дужым быў
На ўсіх на тых
Суровых сцежках,
Прайшоў якімі не любы!

Я верыў так, як можна верыць
На гэтым свеце толькі раз,
Што зноў сустрэча
поўнай мерай
Сваім святлом абдорыць нас,—

І ні агонь, ні бураў хвалі,
Ні нават смерць сама — нідзе
З тваёй усмешкай не стрымалі
Мяне ў гадоў маіх хадзе...

Цяпер ты больш руплівай стала,
Больш клапатліваю,—
заўжды
Даеш мне ў шлях парад нямала,
Хлеб, соль кладзеш: — Не знай бяды...

А мне чамусьці з гэтай ласкай,
Хоць і ісці куды бліжэй,
Як з нейкай мулячай завязкай,
Усё цяжэй, усё цяжэй.

Ні хлеб, ні сэнс парад руплівых —
Нішто душы не закране.
Прашу! — каб быць ізноў шчаслівым,
Вярні былую ўсмешку мне!

*1962*

## ТЫРАНЫ І ПРЫНЦЫ

Тыранам і прынцам
улада бясконцая сніцца.
А мне ў маім Мінску
падоўгу начамі не спіцца.
Чаго мне не спіцца?
Нашто мне ўсе тыя тыраны?!.
Ёсць сонца ў мяне,
ёсць зямля, ёсць мары-акіяны!
За сотні тыранаў,
за тысячы прынцаў там нейкіх
Не даў бы, паверце,
я самай ламанай капейкі,
Не стаў бы праз іх я
не спаць, хвалявацца начамі,
Праз цемру ўзірацца
за моры, за горы вачамі!
Ды чуецца з даляў —
аж часам калоцяцца горы,
Як ходзіць па свеце
ліхое народнае гора,
Як тлумяцца сэрцы,
не знаючы ў горы спагады,
Таму што ірвуцца
тыраны і прынцы да ўлады.
Нядолю, і роспач,
і прагу, і кліч да свабоды
З усіх кантынентаў
нясуць ка мне ў сэрца народы,
Адзін — з ланцугамі,
з касою другі за плячамі.
Таму мне й не спіцца
Даўно ў маім Мінску начамі.
Хвалююся, думаю,
як мне іх спраўдзіць надзеі,
Каб зніклі нарэшце
усе на зямлі ліхадзеі,
Тыраны і прынцы,
і іх векавечныя мроі,
Што гору і крыўдзе
нясуць панаванне старое!

*1962*

## МАЯ ЗІМА

Просіць сын: раскажы
Пра зіму марозную.
А я ж бачу яе
Пад блакітам — слёзную.
Просіць сын: раскажы
Пра буран-мяцеліцу.
А я ж бачу — зіма
Ручаямі сцелецца.
Не люблю я, сын, зімы
З гурбамі-сумётамі,
З маразамі-калунамі,
З бурамі-залётамі.
Надакучыла-абрыдла
Мне зіма з віхурамі,
Як ляжаў я у акопах
Каля сёл разбураных,
Як сяброў я хаваў,
Скатаваных ворагам,
Выпякаючы магілы
Пад снягамі порахам...
А люблю я, сын, зіму,
Калі сонца ўзбудзіцца,
Снег пагнаўшы да рэк
Па равах і вуліцах,
Калі цёплыя вятры
Пройдуць пералескамі,
Калі ціхая зямля
Зацвіце пралескамі.
Гэткім часам заўжды
Я згадаю многае:
Як ішлі мы на Берлін
Гулкаю дарогаю,
Як, закончыўшы вайну,
У жыццё вярталіся,
Каб сягонняшнія дні
Шчасцем наліваліся.
Вось чаму люблю зіму
Я, мой сын, не грозную,
А прад самаю вясной —
Пад блакітам слёзную.

*1962*

# ХЛАПЧУКІ

Я люблю глядзець, як зранку,
Абудзіўшы ўсе куткі,
Без спачынку, без прыстанку
Ладзяць гульні хлапчукі.

Вунь гарністы, вунь матросы,
Вунь шафёры, вунь майстры,
А вунь там «Гагарын» босы
Б'е ракетаю з гары...

Хлапчукам расці не цяжка.
Ім расці — што песню пець.
Толькі трэба ім цяльняшка
Ды вясёлых горнаў медзь,

Ды заўжды ім воля трэба
Для імкненняў і для мар,
Ды нясхмаранае неба,
Ды нясценены абшар.

Як яны ад калыханкі
Падымаліся ў хадзе,
Дык спакойныя прыстанкі
І не вабяць іх нідзе,

І не вабяць іх прытулкі,
Дзе тужлівы ціхі сон.
Ад калыскі час наш гулкі
Іх гукнуў у бурнасць дзён.

І таму ты, хмурны дзядзька,
Не гані іх, не кляні,—
Што, маўляў, іх крык знянацку
Роздум твой перапыніў,—

Што наш роздум перад імі?
Паглядзі ва ўсе бакі:
То ж свой поступ у Радзіме
Пачынаюць хлапчукі!

*1962*

# ДЗЯЎЧЫНА

Хто б падумаў, што — адна на свеце —
На руінах, дзе скуголіў вецер,
Горкая, знявечаная сумам,
Плакала яна наўзрыд без слёз
Над забітай маці;
Хто б падумаў,
Што аж тры гады сірочы лёс
Яе кідаў
 сцежкамі цярністымі
Па краінах,
 спаленых фашыстамі,
Па зямлі,
 крывавым горам скутай;
Хто б падумаў, што ў малы свой век
Зведала і боль, і крыўду лютую
Гэтая дзяўчына —
 чалавек
З тварам,
 ад якога вее шчырасцю;
З позіркам,
 дзе столькі цеплыні!
Як яна магла такою вырасці,
Вызнаўшая чорнай скрухі дні?
Ці працуе — не налюбавацца,
Ці танцуе — хочацца падняцца
І нагой прытупнуць побач з ёй,
Ці спявае песню —
 гэтак радасна,
Быццам рассцілае зараз сад вясна
Для цябе высока над зямлёй...
На яе гляджу — і сэрца поўніцца
Любасцю да краю.
О мой край!
Гэта ты, каб жах ёй не запомніўся,
Каб душу не выпаліў адчай,
Гэта ты сваёй чароўнай сілай
Напаіў яе, падняў яе,
Гэта ты яе расправіў крылы,
Даў ёй думы светлыя свае!
Колькі, край мой любы, цябе мучылі,
Колькі раз калечылі цябе,
Колькі раз пяклі цябе палюча,

А ты ўсё ж не здаўся ў барацьбе,
А ты выжыў, волат, і не помстай
Славішся, а шчодрай дабратой,
Чуласцю прыгожага сяброўства,
Мірнасцю і вернасцю святой!
Вось пяе дзяўчына. Хто пазнае,
Колькі дасталося ёй пакут?
Песня яе — сонейка вітае,
Не ўспамін дакорны, не прысуд,
Песня яе — кліча сэрца кожнае
Берагчы, асветленыя днём,
Вольныя шляхі, палі і пожні,
Што калісь стагналі пад агнём.
Веру — яе песня водгук знойдзе,
Веру — сваім будучым сынам
Не нянавісць, што са смерцю ходзіць,
Перадасць, іх любячы, яна.
Перадасць яна ім сваю мужную
Веру ў пераможны шлях людскі.
І таму наш край і род наш дружны
Будзе жыць і славіцца вякі!

*1962*

## БАЧУ ЛЕНІНА

Колькі малюнкаў, а колькі ўспамінаў,
Колькі паданняў — за часам услед...
Ленін —
То ў званні рабочага сына,
То —
Як асілак з сялянскіх легенд.

Ленін —
То воін, што пройдзе ўсе ростані,
Каб падтрымаць аслабелых плячом.
То ён —
Сам бацька, даверлівы, просты,
То — палкаводзец з праўдзівым мячом.

То ён —
Як носьбіт грымотнай энергіі.
То — закаханы ў лірычнасць калін.

Ленін — і з рускімі,
Ленін — і з неграмі,
І югаслаў з ім,
І горац, і фін.

Ён —
І з французам гаворыць вячыста,
І мальгашы яго лічаць сваім.
Свету ўсяго
Увасобіў ён рысы.
Свет свае рысы
Знаходзіць у ім.

Так ён прыйшоў і ка мне, беларусу,
Так у ім
свет
перадам і сынам.
Толькі ніколі —
душой паклянуся! —
Леніна ў царства багоў не аддам.

Ленін не здатны да боскага глянцу!
Самы найвелічны грамадзянін,
Ленін быў творцам,
за шчасце змаганцам,
Геніем працы,—
між іншых адзін.

*

— Ці бачыў ты Леніна?
Тата, а тата?! —
Пытае мой меншы пад спеў кумача.
І з радасцю сведчу:
і ў сына ж багата
Такога, што пэўна было ў Ільіча.

І ён жа спяшае ўсё ведаць,—
няйначай!..
І ён жа быць добрым дае вось зарок...
І шчыра кажу я:
— Так, бачыў і бачу
Леніна ўсюды я, любы сынок.



У гасцях у Якуба Коласа.
Першы рад (злева направа): Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка, Якуб Колас, Антон Бялевіч, Іван Грамовіч.
Другі рад: Янка Брыль, Іван Мележ, Аляксей Русецкі, Мікола Аўрамчык.
50-я гады.



У дні Дэкады беларускай літаратуры
і мастацтва ў Маскве.
На пярэднім плане:
Кастусь Кірэенка і Пімен Панчанка.
1952 г.

Бачыў у радасці, што ты з сабою
Носіш у позірку сонечным днём.
Бачыў і там,
дзе для ўпартага бою
Трэба падняцца было пад агнём.

Бачыў я Леніна, бачу заўсёды
Там, дзе ўстаюць, дзе растуць гарады,
Поўняцца рэкі, ідуць параходы,
Спеюць жыты,
даспяваюць сады.

Хочаш і ты вось
для радасці ўзняцца
Велічным, чыстым,— такі не адзін.
Ленін — усюды, дзе клопат і праца,
Ведай пра гэта і помні,
мой сын!

*1963*

* * *

Хай цягнікі грукочуць без прыстанку,
Хай з космасу ўрываецца «бі-біп».
А вы пачуйце — на глухім паўстанку
Хтось кліча друга.
Чуеце вы ўсхліп?

Жывіце, як вам трэба. Ды заслугай
Сваёй лічыце,
дасягнуўшы й зор,
Адно, адно:
што нехта стрэне друга,
Каб ён з вачэй слязіну смутку сцёр...

*1963*

* * *

Зорныя краявіды
Пасеялі ціхі сон.
Ты ведаеш —
Я і сягоння выйду
Паслухаць вячэрні звон.

Адкуль ён сягоння будзе? —
З маленства,
з акопных год?
Ці смехам узарве мае грудзі?
Ці гулам далёкіх нягод?

Ці боль прынясе, ці ўцеху?
Аднаго я хачу, аднаго:
Хай у ім будзе
рэха
Голасу твайго.

Голасу незабыўнага,
Патрэбнага і сягоння мне,
Як ласка
сярдзітых ліўняў
Цёплым палям па вясне;

Голасу непаўторнага,
Што хоць і агнём апячэ,
Ды радасцю
сэрца агорне
І скажа: — Ты любы яшчэ...

*1963*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Не ёй, не той, што ў белыя пальчаткі
Хавае пухласць рук і яркі лак,
Што стыльных крэпаў
і гіпюраў складкі
Прад светам носіць, як свяшчэнны знак;

Не ёй, не той, якая ў ззянні вуліц
Лянiва шпацыруе ля вітрын
І — ах, бяда! — гатова ўсіх расчуліць:
Ніяк не выбраць він да імянін!

Не ёй, не той, што славіцца ў равесніц
Не працай, а лісінаю трубой,—
Не ёй, не той! — сваю складаю песню,
Не з ёй мая пашана, а з табой!

З табой, адданая сястра, і маці,
І жонка, і нявыдуманы друг,
Што ўмее быць парадніцаю ў хаце
І, калі трэба, ўзяць у рукі плуг;

Што ў шчасці адпраменіцца не скора
І можа стаць агнём, як грымне бой...
Лятунак мой, жыццяя майго апора,
Заўжды, заўжды душа мая з табой!

З табой, жанчына, простая, як ласка,
І светлая, як юныя гады,
Прыгожая ў няспынным абавязку
Быць дарагой, адзінай назаўжды.

З табой я крочыў па франтах, па вёснах,
З табою і сягоння крок у крок
Іду па знаках радасці зайздроснай
Туды, дзе ўецца заўтрага дымок.

З табой шукаю лёсу прызначэнне,
Перад табой нічога не ўтаю!..
І, так пачаўшы гэта прысвячэнне,
Я слова ўсё табе перадаю.

Скажы сама, скажы пра свет свой мудры,
Дзе сонца не змаўкала ні на міг,
Скажы смялей — стаяць я побач буду
Як абаронца роздумаў тваіх.

Скажы хутчэй,— і сведка і прычына
Таго, чым стаў і чым мне быць навек,
Вялікая, Нязгасная, Жанчына,
Таварыш, Спадарожнік, Чалавек.

*1963*

* * *

Ніколі не позна згадаць сцяжыны
Спатканняў першых,
Ніколі не позна спеў капяжыны
Пачуць з юнацтва,
Не позна ўбачыць хвілінай смутку,
Як прагнулі губы губ тваіх.
Не позна ачнуцца.
Не позна вярнуцца.
Калі яшчэ ёсць хоць адна мінутка
Для даравання.
Хоць адна на дваіх.
Але як позна,
Як позна заўсёды —
Жадаць вяртання гадоў з нягоды!
Позна ўспомніць,
Як цябе чакалі,
Не дачакаўшыся,
з просьбаю слёзнай...
Позна шаптаць «даруй»
Там, дзе крыллі апалі...
Позна!
Позна гэта, друг чалавек!

*1963*

* * *

За травінку — сэрца баліць.
І за пярынку — душа як скутая.
А як быць, як быць,
Калі чалавек пакутуе?

Колькі меціь трэба
лекаў такіх,
Каб яны ў чалавека
скруху развеялі?
Каб чалавечы боль заціх?
Каб у чалавека слёзы запелі?

Можа, лекаў столькі я не знайду...
Але ўсё жыццё шукаю такіх лекаў...
І ў дарогу іду — заўсёды іду
З трывогаю за чалавека.

*1963*

## ДРУГ

*Скульптару Заіру Азгуру*

Ах, Заір!
І не таму, што ты, мастак,
Са мной дзяліў і хлеб, і соль,
і нават махоркі на пятак;

Ах, Заір!
І не таму, што ў бляску дня
Хадзіла ўпоплечкі з маёй
твая рыбацкая бляшня;

Ах, Заір!
Павер, мой дружа, не таму,
Што апраўданне ёсць заўжды
ўсяму між сябрамі, ўсяму,—

Нясу сягоння гэты спеў —
Табе...
Табе, руплівы чалавек!..

Як з-пад тваіх разумных стэк,
пявучых стэк,
чароўных стэк
Выходзяць радасць і сляза
Вастрэй агністага ляза,
Выходзяць жыць і панаваць —
Судзіць, вучыць, і хваляваць,
І ваяваць, і слухаць мір,—
Так мне б хацелася,
Заір,
Знайсці такое слова ў сказ,

Каб ты пачуў з яго навек
Падзяку сэрца без прыкрас
За шчасце, што дарыў не раз
І ў славы час,
І ў смутку час
Ты, мой руплівы чалавек!

Ах, Заір,
Між сцен, агучаных журбой,
Стаю і думаю, Заір:
чаму мне ўцешна — быць з табой?

Ах, Заір,
Між сцен, дзе славіш праўду ты,
Стаю і думаю, Заір:
адкуль тут столькі дабраты?

Ах, Заір,
Між сцен, дзе все дума ў твар,
Стаю і думаю, Заір:
дзе ўзяў ты свой мастацкі дар?

Ляжаў зялёнай гліны ком,
Ляжаў цяжкі, як нечы сум,
Ляжаў, хаваючы цішком
Мо сто гадоў чыюсь красу,
А ты падняў яго, Заір,
Ты доўга мяў яго, Заір,
Ты адыходзіўся, глядзеў,
Ты, бровы хмурачы, сядзеў,
Ты нешта думаў, выглядаў,—
І вось ужо ты форму даў
Той гліне —
Вось яна жыве,
Вачамі думнымі заве,
Маршчынкай
Клікае кагось,
Здаецца, зрушыцца вось-вось,
Здаецца, ўстане і рукой
Сатрэ за вокнамі імжу...
І зноў святлее твой пакой,
І я тут з гордасцю кажу:
Ах, Заір!
Я да цябе прыйшоў не так,

А я прынёс табе паклон,
табе, быліннік і мастак;

Ах, Заір!
Табе прынёс я свой паклон
З той сцежкі, дзе для дружбакоў
магутны ўзрос цяністы клён;

З тых рэчак і азёр, Заір,
Дзе залатая рыбка ў жвір
для нас з табой на многа дзён
схавала мілай песні звон.
Ты чуеш? Ён гучыць якраз...
Руку, Заір! У добры час!..

*1963*

## ПАРТЫІ

Я не бачыў, як паміралі,
Як развіталіся з новым днём
Тыя, што Зімні палац штурмавалі,
Што нам насустрач
ішлі пад агнём.

Я не чуў, як апошнія словы
Вымаўлялі, падаючы на акоп,
Тыя,
Што ў сонцы завей барвовых
Ішлі на Царыцын і Перакоп.

Але я бачыў
Вачмі сваімі
Тых, што згаралі ў апошняй вайне.
І гэта за імі,
І гэта з імі
Сказаў:
— Камуністам лічыце мяне!

Я бачыў, я чуў непаўторную мужнасць
Тых, што ў агністы кастрычніцкі марш

Укавалі
Алмазную сэрцаў садружнасць
І шматтрубную песню
спраўджаных мар.
І цяпер, і заўжды, колькі ісці ўдасца,
Пакуль слова жывое звініць на струне,
Аднаго прагну: каб жыло маё шчасце
У мільярдзе заяў:
— Камуністам лічыце мяне!

*

Партыя родная славіцца намі,
Нашымі справамі,
Нашымі днямі,
Ленін быў першы між нас!
Ў смутку і радасці — ўсе адчувайце,
Нават і гінучы — не забывайце
Гэты гісторыі ўказ.

Партыі роднай
аддаць да астатку
Кожную думку
І кожную згадку,
Кожнай крывінкі палёт! —
Лепшага гонару не захачу я,
Ведай, мой любы народ!

*1963*

## ВЯСЕЛЛЕ

Як ударыў бубен гулка —
Змоўкла, сціхла наша вулка.

А як толькі сціхла вулка —
Зноў ударыў бубен гулка,
Звонка выгукнуў гармонік,
Заіржалі ў цуглях коні,
Сотні ног затупацелі,
Песні вулкай паляцелі,

І бягом да клуба людзі:
— Гэй, сяло, вяселле будзе!

У калгасным клубе новым —
Жаніха, нявесту ў круг:
Ну-тка, Люба Васількова,
Ну-тка, Пеця Карнавух,
Абнініцеся, прайдзіцеся,
Ды паволі, пакрысе
Прад людзямі пакажыцеся,
Хай пабачаць вас усе,
Хай пабачаць, прывітаюць,
Каб вы помнілі штодня,
Каб прыгадвалі, якая
Ў вас вялікая радня;
Для такой радні
Трэба пастарацца:
Сердавацъ — ні-ні!
Толькі мілавацца,
Ды гадоў не ўпусціць,
Ды дзяцей узрасціць,
Ды любіць і любіць,
Ды шчаслівымі быць!..

Людзі ў крузе шумным, цесным
Маладых вядуць вачмі.
А жаніх каля нявесты
Б'е паклоны прад людзьмі.
І направа паклон,
І налева паклон.
— Малайчына, Карнавух!..
— Трактарыст, трымай фасон!..
— Хлопец добры, што й казаць...
— Дый нявеста на пяць!..
— Піяністка сама...
— Лепшай тут у нас няма...
— І прыгожая якая...
— А пагляньце — як ступае...
— Гэта будзе вартай мужа...
— Муж з такою не затужа...
— Малайчына, Карнавух!..

Так людскі гамоніць круг,
Так пачціва прамаўляе,

Так на вернасць бласлаўляе,
Як сваіх дзяцей,
Маладых людзей!..

Раптам нехта крыкнуў:
— Слава!
— Слава, слава маладым!
— Слава! — сыплюць кветкі справа.
— Слава! — злева кветак дым.
Маладым па кветках чыстых,
Па іскрыстых, па агністых
Нейк боязна ісці.
А над імі галасіста:
— Слава вам ва ўсім жыцці!
— Хай вам годы неўзаметкі!
— Хай, як кветкі, вам сям'я!..
Кветкі, кветкі... Кветкі, кветкі...
Кветкі кідаю і я.
Я крычу з другімі: — Слава!
І, напэўна, ўпершыню
Адчуваю тое права
На вялікую радню,
Для якой — ні-ні! —
Клятва непарушная!
Кліча ў ясныя дні
Толькі згода слушная,
Кліча к добраму прытулку,
Дзе так добра дружыцца...

Зноў ударыў бубен гулка —
Уся вёска кружыцца!

*1963*

## ВАСІЛІСА ЧАРОЎНАЯ

Сніўся сон.
Што за сон!
У старонцы лясной,
Добра помню: вясной,
такой звонкай вясной,

Што зямля аж гайдалася,
                                        рэхаў поўная,—
У старонцы лясной
                                  жыла са мной
Васіліса Чароўная.

Васіліса Чароўная
На світанках мяне будзіла,
Васіліса Чароўная
Па прыгодах мяне вадзіла,
Па песнях,
Па казках
Царыцай хадзіла —
Толькі сонцу высокаму роўная...
І асілка-сына
                           мне нарадзіла
Васіліса Чароўная.

А яшчэ...
А яшчэ з Васілісай
Мы недзе лёталі,
Можа, зорку Венеру шукалі,
                                          а можа, Марс.
А яшчэ —
У палацах зіхотных,
                                    за зіхотнымі варотамі,
Частавалі праменнямі нас.

А яшчэ —
Мы вярталіся зноў
Да вясельных званоў
І пры ўсіх цалаваліся,
                                      ахінуўшыся зоркай.
А дзядок нейкі
                             крычаў «горка»
І з захапленнем у бубен біў.
І гарніст аж пад сонцам
                                        пра нас трубіў
І дарункамі
                          кідаў нам
                          радугі чыстыя,
Радугі чыстыя, як лятункі вячыстыя,
І я Васілісе ў каралі
                                   забраць іх хацеў...

А яшчэ...
Божа мой, многа ўсяго накруцілася!
Ажно спацеў...

Але нехта падставіў ножку,
Я спатыкнуўся,
Ударыўся, войкнуў
І ўраз ачнуўся...
Быў ранак.
Зямля, як і ўчора, на ўсход кацілася...
Гаварыла радыё.
Усё было ясна.
Усё акрэслена.
Усё абумоўлена.
Ні сумненняў, ні мрояў, ні дзіўных сноў...
Чаго ж ты пяклуешся,
                                        сэрца?!

Чаго крычыш:
— Васіліса Чароўная!
Злітуйся, любая!..
Хоць разочак,
Хоць у сне
Прыйдзі,
Павядзі мяне ў казкі зноў!

*1963*

* * *

Ападзе барвяніцай рабіна на дол
І застыне ў чаканні
                                        спатканняў вясновых.
А дзяўчына па раніцы прыйдзе ў дуброву,
Буйных ягад насыпле паўнюткі прыпол.

Будзе весела ўсім за вясельным сталом.
І дзяўчыну жаніх пацалуе у губы.
А рабіна...
                    І яна б перабралася к дубу...
У вясну дарагую
                                    з цяплом і святлом.

*1963*

## ДЗЯЎЧЫНА Ў КАНЦЭРЦЕ

Як ускрыкнулі скрыпкі,
Грымотна ўзвіхрыўся арган,—
Ад журботы
Захмурыўся
Твар дзявочы.
Што з табою, галубка?
Чаму твае вочы
Заслаў
Слёз туман?

Маладая рука —
Нібы рыбка ў сне.
А пунсовая сцюжа
Бяжыць
Па губах.
О Бах!
Калі б ведаў Бах,
Што камусь
Ад яго
Жальбою дыхне,
Вер мне, галубка,
Ён не тварыў бы,
Бах!

Слухай, галубка,
Колькі пяшчот,
Колькі трымцення,
Колькі яснот —
Пасылаюць
Арганныя струны
Ў зал.
Гэта табе,
Каб сціхла сляза,
Бах шле
Кілім-самалёт,—
Быць табе
Радаснай
Ён
Наказаў...

Я не ведаю, дзетка,
Што за гора ў цябе...

Можа, табе здрадзілі...
Гэта так балюча...
Але паслухай,
Як згодна
Пяюць табе скрыпкі,
Пявучыя!
Паслухай,
Як соладка
Славіцца шчасце
Ў кожнай
Званлівай трубе!

Паслухай, паслухай!..
А можа, ты сэрца ўстрывожыла
Памылкай?..
А можа, пагрозы
Няма твайму шчасцю?..
— Ах!..
Аркестр спыняецца...
Аркестр так не можа...
— Сціхнем!
Ушануем чыстыя слёзы!..—
Просіць,
Змаўкаючы,
Бах...

*1963*

* * *

Настала ноч —
такая салаўіная,
Якой і ў маладосці не было.
І зазвінела ў сэрцы нешта дзіўнае —
Нібыта птушкі срэбнае крыло.

Звініць, звініць, ну так і хоча вырвацца,
У ноч,
У волю,
Ўдалеч
Паляцець.
І радасці азораныя вырысы
Здаюцца побач — толькі захацець.

Сяджу, маўчу ва ўладзе знаку нейкага,
У песеннай, трывожнай цішыні.
Як быццам зноў
над нівамі, над рэкамі
Гараць мае юнацкія агні.

А салаўі пяюць —
у сэрцы срэбра булькае.
Званчэй, званчэй —
бліжэе сонца ўсход...
І я ўстаю... Дзень добры, шчасце гулкае,
Дзе сорак вёсен звонкіх,
сорак год!..

*1963*

* * *

Як гэта стала з табою, мой дружа,
як гэта стала,
Як адбылося,
што сёння не ўспомніў ты, дружа,
Дзе цябе
маці
з трывогаю ў свет выпраўляла,
Што тады ў свеце было:
ці тужлівая спёка, ці сцюжа?
Вецер ірваў яе хустку,
ці з хмар па дажджынцы
Падала скруха асенняя, скруха расстання.
Што табе маці жадала
на развітальнай сцяжынцы —
Словамі вернасці, шчырага замілавання?..
Як гэта стала з табою, мой дружа,
як гэта стала,
Як адбылося,
што з роднай сышоў каляіны?..
Як жа шкада твайго сэрца —
як шчасця ў ім мала!..
Як жа шкада тваіх думак —
адны ў іх руіны!..

*1963*

## ТРЫ ЗАЛПЫ

Я б хацеў,
Каб пад ціхай маёю магілай
Прагрымелі тры залпы,
Тры, не болей.
Першы залп — хай засведчыць,
Што быў я з зямелькаю мілай
І ў лятунку,
І ў шчасці,
І ў болю.

Хай другі залп згадае
Пакутную казку,
Што жыла ва мне верай —
Пра адданасць у свеце.
А што верна і шчыра
Пранёс да людзей сваю ласку —
Хай адзначыць
Залп трэці.

Тры ўрачыстыя залпы —
Як тры мае мары,
Што вялі праз жыццё
І давалі сілы і крылы:
Адна —
гэта бачыць любыя краю абшары,
А другая —
мець добрага друга,
А трэцяя —
чуць
родны голас
каля магілы.

*1963*

* * *

Што ты, брат, наставіў горда плечы,
Быццам з трона,
Кінуў «добры вечар»?
Позірк твой —
вастрэй алмазнай грані...

А мы ж
Былі сябрамі!
Успомні —
мы ж адною лыжкай елі,
Адно на двух
з табою шчасце мелі —
Траншэямі
Паўсвету ператрэслі...
Няўжо ты ўсё закрэсліў?
Няўжо на свеце
нешта ёсць мацнейшае
За дружбу,
Ў лютых бітвах не згараўшую,
З якою мы
Над бурамі ўзняліся?!
Не веру, брат!
Ачніся!..

*1963*

## ВЯСНОВЫ ГІМН

У два званочкі ценькнулі
Пеначкі ў кустах:
— Услаўце, ўслаўце дзень свой,
Што кветкамі прапах.

Сінічкі аж зайшліся:
— Мы згодны! Мы ўзраслі —
Пад сонечнымі высямі
На любай нам зямлі.

А дзяцел, бы з пячаткаю
Сеў сакратар на сук:
— Так-так! Усё ў парадку! —
Выстукваў: — Тук-тук-тук...

І так, што аж пад росамі
Прыўзняўся кожны ліст,
Гучаў з радоў бярозавых
Івалгавы свіст.

І кнігаўкі галёкалі:
Кі-гі! Ура! Кі-гі!..—
Так дзень узнёсла, лёгка
Спяваў вясновы гімн.

І столькі нёс ён сілы,
Што ў гушчары каршук
Стаіўся, склаўшы крылы,
І сох, бы чорны крук.

Ён знаў: няма дарогі
Яму з крылом ліхім,
Дзе смела, без трывогі
Жыццё пяе свой гімн!

*1963*

## ЛЯСНОЕ ДЗІВА

То не ваверкі адліжным раннем
Кідалі снежкамі
У сляды палазоў.
То сосны страсалі зімовае ўбранне
Пад цёплым ветрам пасля маразоў.

На палянах і ўзгорках, каля пнёў апаленых,
Задыміўся поўднямі перапрэлы дол.
І вунь ужо выбегла на праталіну
Пралеска —
І здзіўлена глядзіць вакол.

Яшчэ сярод ночы падрыжаць давядзецца ёй.
Ды яна не такая,
Каб адступіць.
Яна — як жывое сіняе вядзерца,
З якога можна радасці папіць.

Адыдуць дні, марозаў міне апаска,
І аднойчы глянеш і не верыш вачам:
Прад табою
Пявучая праменная казка
Ходзіць па свеце
З багаццем чар.

Там яшчэ снег цьмее,
А тут ручай булькае.
Там яшчэ хрусне ільдзінка,
А тут кнігаўкі крычаць «кі-гі».
І кожная галінка — струна гулкая.
І ў кожнай вятрынкі — голас тугі.

І хоць часам яшчэ праплыве міма
І пасыпле крупамі хмара без дна,—
А ўжо нават сам дрыготкі адзімак
Вяшчуе звонка:
— Ідзе вясна!

*1963*

## ЗІМА Ў ЛЕСЕ

Ах, лес, лес,
Што ты мне спяеш?
Я спяю табе,
                паслухай,
Пра завею-завіруху,
Пра дзіцячы смех,
Ды пра санак бег,
Ды пра ўсё,
                што ў снежнай белі
Мае дрэвы нарыпелі...
Гэта песенькі — не байкі,
А лясныя самаграйкі,

Ты іх слухай — не хавай,
А другім перадавай.

### 1. ЗАВЕЯ

Спачатку сыпала, як шротам,
Завея
Снегам з вышыні.
Затым круціла над балотам
Кудзелю белай чысціні.
Ля гонкіх сосен ніткі прала

І кросны ставіла пасля.
І вось —
глядзі, чаго наткала:
Снягамі свеціцца зямля.

Сняжынкі ветрыкам узвее —
Зямля гарыць,
што самацвет.
А прыйдзе новая завея —
Яшчэ святлейшым стане свет!

## 2. ІЛЬДЗІНКА І РУЧАІНКА

Аж з Паўночы прынёс
Тонкую ільдзінку
І паклаў Дзед Мароз
На ручаінку.
Пад ільдзінкай —
дзіва, й годзе! —
Ліст звініць апалы.
І здаецца, хтось заводзіць
Песню пад цымбалы.
І на рыбы — сон,
І на травы — сон
Аж да цёплых дзён,
Да вясновых дзён.

А сягоння, зіма,
Не маўчы, зіма,
Ты павер, зіма,
Я люблю цябе!

## 3. СЛЯДЫ

Быццам тонкія шнурочкі —
Чые ў лес вядуць слядочкі?

Пад бярозай — скок-скок —
Жоўты вывернут лісток,

Пад арэшынай —
шкарлупка,
Каля дуба —
моху купка,

Ля ялінкі —
Шалупінкі,
Журавінкі,
Як слюда...
А далей —
...бяда, бяда:
Бегла стомленая мышка,
Цёмна-бурая манішка,
Бегла горачкаю ўніз,
А за ёю —
хітры ліс.

Хутчэй, мышка, да нары,
Бо загінеш без пары!

### 4. НА САНКАХ

Гонка, гонка, з горкі, з горкі
Санкі коцяцца мае.
Снег іскрыцца, снег смяецца,
Снег пад полазам пяе.
Гэй, мацней трымайся, дружа!
Вось дык лёт, вось дык лёт!
Трах-ба-бах! — і цераз дрэва
Мы куляемся ў сумёт.

Устаю, шукаю сябра:
— Ты куды, браток, залез? —
А навокал — звонка-звонка
З нас смяецца зімні лес...

### 5. ДУБОК

Я тут паставіў палачку —
Арэхавы кіёк.
Пад гэтай гурбай снегу
Спіць мой гадок-дубок.

Вясной, як снег пад сонцам
Спаўзе на жаўтапёс,
Прыйду сюды, пабачу,
Хто болей з нас падрос.

*1963*

## НА ЛЕНІНСКІМ ПРАСПЕКЦЕ

На Ленінскім праспекце
Стаіць наш новы дом.
На Ленінскім праспекце
Мы весела жывём.
Мы ўсё на свеце ўмеем,
Мы ўсюды — як адзін.
І толькі развіднее —
Без справы не сядзім:

Збіраемся, працуем,
Пілуем і куём,
Шліфуем і майструем,
Гуляем і пяём.

На Ленінскім праспекце —
Па-ленінску нам жыць,
На Ленінскім праспекце
Мы вучымся дружыць.
На Ленінскім праспекце
Не ведаем бяды,
На Ленінскім праспекце
Нам хораша заўжды.

А ў сонечныя святы —
Сябры і дружбакі —
Як нашы мамы й таты,
Мы ўсе бяром сцяжкі,

На Ленінскім праспекце
Ідзём за радам рад...
На Ленінскім праспекце
Ўсе любяць акцябрат!

*1963*

## ПРАЛЕСКІ

Хоць яшчэ вецер часам рэзкі
Мяце снягі ў лясны куток,
На ўзгорках
Выбеглі пралескі
Пад сакавіцкі санцапёк.

І там і сям чародкай сталі,
І ў захапленні, што жывуць,
Бы вочы сінія праталін,
Усіх, усіх
К сабе завуць.

Як добра тут спыніцца, збочыць,
І пагуляць, і падурэць,
І нават рукі, як захочаш,
Па-над пралескамі пагрэць.

Стаіш, удзячна б'еш паклоны
Паляне сонечнай лясной.
І бачыш край
Зусім зялёны,
Зусім расквечаны
Вясной.

І каб сказаць пра шчасце ўзлеску —
Як напрадвесні пахне дол,—
Ты незнарок сарвеш пралеску
Сваёй настаўніцы на стол!

*1963*

## МОЙ БОР

Проста з брамы,
проста з хаты,
Пад птушыны перабор
Я ступаю ў свой кашлаты,
У дрымучы, цемнаваты,
У вясёлы гулкі бор.
Я заходжу ў бор паціху,
Як было ва ўсе гады.
Ля сасны высокай
крыху
Пастаю, нібы сляды
Даўніх сцежак прыгадаю
Ці душою адгадаю,

Чым мой бор жыве,—
агледжу
Ў думках зноў усе куткі,
Дзе кражы, нібыта вежы,
Дзе між імі ўлукаткі
Ходзіць днём прамень,
Дзе часам
Гне мядзведзь з дубка дугу,
Дзе чмяліны мёд між красак,
Дзе пяюць вятры тугу,
Дзе ўспаміны, дзе лятункі...
Так заўсёды пастаю
Пад сасной высокай, стрункай.
Ад нікога не таю:
Я з маленства тут як родны,
Мне нішто тут не ў дакор.
І заўсёды ён лагодна
Мяне стрэне, мілы бор.
То ён ціха загамоніць,
То задумліва зазвоніць,
То паважна запяе
Песні мудрыя свае;
А калі, бывае, позна
Гнеўна чубам трасяне,
Нібы ўчуўшы кліч пагрозны
Ці якую крыўду ў сне,—
Дык такое на хвілінку...
А затым — ізноў наўсцяж
Ён пяе сваёй галінкай,
Ён пад сонца гоніць краж.
Там імшарынкай смяецца,
Там палянкаі зіхаціць;
Там у самым кволым дрэўцы
Вяжа сонечную ніць,
Там сцяжынкі пухам меціць,
Поіць парасткі расой...
О мой бор! Адзін на свеце
З гэткім лёсам і красой.
Колькі раз яго шляхамі
Я хадзіў пад шум хваін —
То пяскамі, то імхамі,
Ля азёр і ручаін;
Колькі раз пад кожным дрэвам
Меў прытулак і начлег,

Слухаў сініх зорак спевы,
Чуў, як сыпкі шэпча снег.
Колькі раз!
А ўсё ж няспынна
Клічуць сэрца ў кут лясны
Спеў птушыны, стук дзятліны,
Пах мядовы, верасны,
Голас рэха,
Гоман сосен...
Ці вясной прыйду ці ўвосень
Да знаёмых гушчароў —
Тут усё хвалюе кроў,
І спыніцца не магу я,
Не магу не спець свой гімн —
Пра старонку дарагую,
Дзе за шчасце мы стаім,
Пра старонку,
Пра зямліцу,
Дзе ўзраслі, шумяць бары,
Што ў ліхія навальніцы
Ўсе былі як змагары!

*1963*

* * *

Вуды бяру,
Кошык лазовы бяру,
З хаты бягу, будзячы крокам зару.

Светлы мой шлях —
Да жураўліных заток.
Ёсць сярод іх ціхі аерны куток.

Ў цёмнай вадзе
Штось выглядае вярба.
Колькі мне слоў тут падказала журба!

Колькі гадоў
Тут свае думы я ткаў,
Сонечны дом свой збудаваўшы між траў.

Дом мой звініць,
Плешча, ўздыхае, пяе,
Жыць без турбот мне не дае, не дае...

Ціха закіну
Вуду ў гуллівы струмень.
Хай мне дастане мару і песню на дзень,

Хай мне збярэ
Гукі лугоў і глыбінь,
Хай прынясе ў сэрца вясновую сінь.

Хай са мной будзе
Радасць блуканняў сама!..
Не, недарма рэкі цякуць, недарма...

*1963*

## У ВЯНОК ЛЕНІНУ

Сказалі мне думы
Многіх людзей,
Што сёння жывуць
Як адна сям'я,
Сказалі словамі
Лепшых надзей,
І гэта
Запомніў я:

— Каб Леніна ўславіць,
Трэба мець
Сэрца такое,
Як ён меў.
І любіць чалавека
Патрэбна ўмець
Так,
Як Ленін умеў.

Ніхто, ніхто
Яшчэ не здабыў
Любасці гэткай,

Хоць прагнуў здабыць,—
Толькі адзін
Ленін быў,
І толькі ён
Мог ім быць.

І вось чаму свет
Па крупінцы сабраў
І сілы,
І таленты
Ў любасць адну —
Хаця б у мільярдах
Пачуццяў і спраў
Леніна ўславіць
І дасягнуць.

І я,
Між усімі
Баец радавы,
Таксама
Да Леніна
Шчыра іду.
І гэтыя словы —
Дазволіце вы —
У родны вянок
Ільічу пакладу.

*

Для сівога настаўніка — Ленін,
І для мужнага воіна — Ленін,
Для вясёлага школьніка — Ленін,
І для хлопчыка з зорачкай — Ленін.

Ленін — трохі суровы і строгі,
Ленін — стомлены з доўгай дарогі,
Ленін — з усмешкай, з ціхім спакоем,
Ленін — з думай пра шчасце людское.
Свету вялікаму —
нельга без Леніна,
Нельга без Леніна —
крыўдна без Леніна,
Крыўдна без Леніна —
горна без Леніна,

Горна без Леніна —
пуста без Леніна.
Ленін — як роўны,
і Ленін — як сонца,
Леніна чуем,
і Ленін — як рэха,
Леніна вучым —
верым і ведаем:
Ленін між намі
і Ленін —
наперадзе!..

*1963*

## КАЗКА ПРА ВЯСНУ

Паламаў Алеська лыжы,
Пакрывіў і санкі.
А зіма ўсё гурбы ніжа
На груды, палянкі.
Ой, зіма, ой, зіма,
Як ты надакучыла!
А вясны ўсё няма,
Не ідзе пявучая.
Вось пайшоў Алесь з сябрамі,
Сталі каля дуба
І паслалі кліч з вятрамі
Да красуні любай.
— Вясна, цётачка вясна,
Ты ў якой старане?
Вясна, цётачка вясна,
Хутка будзеш ці не?
Пагукалі вясну хлопцы
І пайшлі дахаты.
А зіма мяце таропка,
Дзьме з ялін кашлатых,
На страху кідае крупы,
Барабаніць злосна,
Бы таўчэ завея ў ступах,
Аж на сэрцы млосна.
І не брыдка ёй галёкаць,
Поўніць долы гулам...

Не, відаць, вясна далёка,
Хлопцаў не пачула.
— Мама,— просіць Алесь,— мама! —
Плача, не змаўкае,—
Можа, ты вясну таксама
Выйдзеш пагукаеш?
— Мой Алесік, мая дзетка,—
Кажа мама чула,—
Вясна прыйдзе неўзаметку,
Вас яна пачула.
— Мама, любая! Старанна
Буду я вучыцца,
І ўставаць без плачу рана,
І гуляць з сястрыцай,
І ніколі не схітрую,
Ты не будзеш сумнай...
Толькі, мамачка, прашу я,
Пагукай вясну мне!
І лёг спаць...
Назаўтра ўранку
Войкнуў ад здзіўлення:
Сонца ўсюды! Без прыстанку
Шле і шле праменні,
Капяжамі плачуць стрэхі,
Снег плыве ў разоры,
І з ракі даходзіць рэха —
Лёд ірвуць мінёры.
— Дзякуй, мамка! — Апрануўся
Алесь і — на вулку
Да вясны
з яе спакусай,
З яе мовай гулкай,
Да вясны, што сніў у снах,
Бяжыць і гукае:
— Слаўся, звонкая вясна,
Што ты ёсць такая!
Слаўся, цётачка вясна,
Што ў цябе ёсць рэкі,
Сонца, радасць і цяпло,
Будзь такой навекі!..

*1963*

## РАХУНАК

Чую часта:
За лясамі, за горамі
Зноў выхваляецца недабітая погань —
Зноў пагражае прынесці гора мне,
Кінуўшы бомбу да маіго парога.

Чую:
Падбівае боты падковамі,
Знятымі з атопкаў герынгаў і гесаў,
Зграя не новая, не выпадковая,
А ўсё тая ж,—
што паліла і вешала.

Слухайце вы,
недабіткі пыхлівыя,
Вось мой рахунак,
Бязмерная крыўды цана:
Тысячы добрых сяброў маіх
выйшлі б на нівы,
Калі б не вы і не ваша вайна.
Тысячы песень і шчырых вітанняў
Хадзілі б са мной.
Тысячы шчодрых натхненняў,
шчаслівых світанняў
Загублена лютай вайной.
Недзе ля Волгі, пад кручамі і прысадамі,
Ляжаць сімфоніі,
пасечаныя снарадамі;
Недзе ў Асвенціме
расстраляны сакрэты
Самай найхуткай, фатоннай ракеты,
Недзе ля Проні і ля сцен Ленінграда
Самая чалавечная
пахавана спагада...
Гэта мае сімфоніі,
Мае спадзяванні і крыллі,
Мае радасці —
І гэта вы іх забілі.
Чуеце вы,
Ліхадзеі і каты лютыя,
Я не забыўся нічога,
Не дарую вашай віны.

Ад імя ўсіх мёртвых,
Ад імя ўсіх знаўшых пакуты,
Ад імя жывых —
Я стаю па-над вамі
з грозным рахункам вайны!

*1964*

## СЫНУ

Запомні, сыне мой, запомні!
Вось гэты дуб, што ўзняў руку,
Ён — як жывы зялёны помнік
Над сцежкай стаў у хмызняку.

Хто б ні прайшоў — заўсёды скіне
Прад ім картуз, як гляне ў высь.
І ты прад ім схіліся, сыне,
Бо ён героем быў калісь.

Зірні, ты ў дуба бачыш раны —
І на грудзях і на спіне?..
Калісь, як быў я партызанам,
Ён боль прыняў і за мяне.

Яго агнём і сталлю секла,
А ён крычаў па-нада мной:
— Жыві! І хай над краем вечна
Смяецца сонейка з вясной!

*1964*

* * *

Цалуйцеся, людзі, часцей,
Не адкладайце галубіцца.
Будзьце прасцей, будзьце прасцей,
Пакуль любіцца.

Не трэба, не трэба чакаць
Чагосьці, што ў мроі хаваецца.
Умейце шукаць, умейце шукаць
Тое, што ў вас маецца.

Я не прарок і не жрэц,
Сам ад трывогі пакутую.
А таму крычу:
— Нясіце вянец,
Нясіце мужна вянец
З радасці
і дарагога смутку!

*1964*

* * *

Плылі юбіляру кветкі.
Ракою лілося віно.
І рукі яму паціскалі.
І гаварылі прамовы.
І юбіляр —
такі светлы,
які не бываў даўно,
З усмешкаю
горда
і важна
Адказваў
на гучныя словы.

А побач стаяла жонка.
І гэтак хацелася ёй,
Каб ён яе ўспомніў
дзяўчынкай,
што з ім сваю долю сустрэла.
Каб зноў ён
стаў простым хлопцам,—
паклікаў яе дарагой
І каб не ўспомніў хоць сёння,
што вось як яна пастарэла...

*1964*

* * *

У душу ўваходзіць нешта новае...
Што? —
Яшчэ не ведаеш і сам...
Толькі ўжо з ранейшаю высноваю
Нечага, відаць бы, не пісаў.

Ну, а што ж,
А як жа слова шчырае,
Для якога век свой праслужыў?..
А яно ка мне,
як птушка з выраю,
Хай ляціць,
каб нанава я жыў.

Веру — дарагое, запаветнае,
Што было апораю ўсяму,
Не пакіне дзён маіх бясследна...
Бо другога — знае — не прыму!..

*1964*

## ЦЁПЛАЯ РАДУГА

Помніш, любая,
Як па дарогах вясновай старонкі —
Па ручаінах звонкіх,
Па маках,
па расе лугавой —
Мы беглі, беглі
Наперагонкі
Туды, дзе ўставала радуга
Над галавой.

Радуга... Радуга...
Рады —
уга! Рады —
уга!
А дождж, дождж
Тугімі грымотнымі кроплямі

У твары нам
слаў насустрач
Зялёны вясны зарад.
І была радуга
Такая цёплая!
Цёплая-цёплая —
Бы выпіла твой пагляд!

Цёплая радуга,
Цёплыя рукі,
Цёплыя губы,
Цёплая далячынь.
О любая, любая,
Няўжо тыя фарбы і гукі —
Няўжо мы забылі,
Не ўспомнім нічым?

Праз усе далягляды,
Праз усе ростані
Падаю табе рукі,
Тваё бяру.
Бяжым, бяжым!
Пад маланкі, пад спеў бяроставы.
Бяжым, бяжым
Да радугі, да радасці —
ў маладосці пару!

Радуга... Радуга...
Рады —
уга! Рады —
уга!

Хай дождж, дождж
Тугімі зялёнымі кроплямі
Адсячэ перад намі
Усё, што з журбою ўсплыло.
Заўсёды, заўсёды
Будуць радугі цёплыя,
Пакуль у сэрцах
Не моўкне —
Шугае юнацтва цяпло!

*1964*

## НАД ВЕРАСАМІ

Над верасамі, над верасамі,
Там, дзе нядаўна
з грымот выкрасалі
Хмары агні бліскавіц,—
Над верасамі, над верасамі,
З ціхімі восеньскімі галасамі,
Ноч апускаецца ніц.
Ясныя зоры, верасня зоры
Сталі як быццам гусцей і вышэй.
Над верасамі, над верасамі
Ноч
Абдымае зямныя прасторы,
Кажа ім з ласкай:
— Цішэй!..
— Чуеце? —
Ноч іх пытае ўстрывожана.—
Падае першы з бярозы лісток!..
Чуеце?..
Што гэта?..
Чым ён зняможаны?..
Ці ліхадзействам чым заварожаны?
Што з ім?
Скажы,
Верасовы куток!..
Далі маўчаць —
у здзіўленні і самі.
Зоры мігцяць — бы не чуюць зямлі.
Толькі аднекуль здалёку
часамі
Над верасамі, над верасамі
Хтось залатымі ўзмахне паясамі —
Быццам зарніцы ўсплылі.
Ноч без адказу хвалюецца горна.
Душна... Ды ночы дзесь чуецца лёд...
А верасы —
і пад цемрай нязморана
Пахнуць, пахнуць,
Бурна і спорна
Пчолам апошні рыхтуючы мёд!..

*1964*

## СУНІЦЫ

Ёсць над Сажом прапахлыя жывіцай
Куткі — зацішкі ў сонечных барах:
Калі даспеюць сочныя суніцы —
Няма каму знайсці іх і сабраць.
І сум бруіцца ў ягадах самлелых,
Іх сок падобны водбліску зары.
Ім цяжка... І тады
сюды нясмела
Злятаюцца бадзяжныя вятры.
Яны спачатку хукаюць, няйначай,
Баяцца — быццам з нейкаю віной.
А потым п'юць духмяны і гарачы
Сунічны сок, бы хмельнае віно.
І ягады сціскаюцца ў нагрэтай
Цішы палян — маршчыняць лёгкі твар.
І доўга-доўга душны водар лета
Ідзе з бароў на палявы абшар.

*1964*

* * *

Не хапіла б рук, не хапіла б вачэй,
Каб абняць усю родную далячынь.
І гэты пляскотны чысты ручэй,
І гэту азёраў крохкую сінь.
І гэты стракаты ніў узор,
І небасхілаў дымную даль,
І сонечны бор, і дымны чабор,
І гэту квецень калін на грудах...
Толькі ў сэрцы і можна адчуць,
Колькі багаццяў даў табе край.
І тое, чаго не змог дасягнуць,
І тое, якое — бяры, выбірай,
Якое з маленства — як хлеб, як соль,
Як сцюдзёнай са студні вады карэц,
Як матчына песня, як радасці боль,
Якому ў сэрцы гарэць — не згарэць...

*1964*

* * *

Мы пад вечар прыселі пад цёплай капой.
Ціхі дождждык
    пра нешта шаптаў нам, як друг.
І здавалася —
    быццам даўно тут з табой
Мы жывём,
    касьбітамі прыйшоўшы на луг.
І скасілі траву, і зграблі ўсцяж ракі.
А зусім недалёка —
    ад Сожа ў баку —
Наша хата; і мілыя нашы бацькі,
Бы гасцей, сына ждуць і нявестку-дачку...
Ні вятрынкі, адно толькі хліпае мель
Ды часамі ўздыхне чаратоў гушчыня.
І ад губ тваіх мокрых, бы гулкі струмень,
Уліваецца ў сэрца маё цеплыня.
Непакорныя губы!
    Няма ў мяне сіл
Адарвацца ад іх. А ты просіш: «Маўчы!»
А сама, як дзве радугі праз небасхіл,
Мне знаёмыя ўсмешкі нясеш уваччы.
І я чую — глядзіш, як ты любіш заўжды,
Проста ў сэрца, бы нейкі шукаеш сакрэт.
Хоць і знаеш даўно, што ў жыцці праз гады
Ты адна для мяне — і сакрэт мой і свет.
Ты глядзіш, і дзве радугі — па-нада мной.
Нада мной і над лугам, над краем усім.
І здаецца:
    каб мог — несціханай струной
Стаў бы я прад табой — назусім, назусім!..

*1964*

## ТАПОЛІ

На шляху, праз хмызнякі, праз поле,
Да лугоў,
    дзе ўецца рэчкі ніць,
Гоніць вецер стромкія таполі,
Каб вадой сцюдзёнай напаіць.

Па-над імі сонца — мутнай кропкай...
Перад імі — ў стоме далягляд...
І яны бягуць, бягуць таропка,
Звоняць лістам кволым неўпапад.

Вось і бераг... Жоўты спад і круча.
Прад вачмі — імклівыя стрыжы.
Кінешся — загінеш немінуча,
Як дубок, што ў крэйдзе вунь ляжыць.

І таполі збіліся чародкай.
Згорбіліся. Бачаць, нібы ў сне,
Як іх дражніць рэчка павароткай...
Быццам ты, самотная, мяне...

*1964*

* * *

Маёвы лес,
Лістоту пахкую
І ландышаў чародкі
Радасцю салодкай
Абдарыла пеначка.

Іду, іду па маёвым лесе,
І ўсё мне здаецца:
Вось-вось распукнéцца
Сэрца
Мільёнамі ландышаў.

Распукнéцца сэрца
Мільёнамі ландышаў —
І прыйдуць,
І сарвуць іх людзі.
І балець не будзе
Сэрцу ніколечкі.

Бо ёсць лес,
Лістота пахкая,
І пеначка галасістая,
І радасць з імі — такая чыстая,
Што ўсё загоіць!..

*1964*

* * *

Счарнела пад бярозаю карытца.
Зацвіў, скаржэў бярозавік на дне.
А нехта ж мог
Тут соладка напіцца,
Парадавацца сонечнай вясне.

Бяроза сум раняе па лісточку.
Парой бяроста зумкне-затрымціць.
Дзе ты, дзівак,
Што тут рабіў падсочку?
Што ж не прыйшоў
Бярозавік свой піць?..

Гляджу на дрэва,
                    жоўты ліст бяру я.
На след рукі —
                    на сталі след гляджу.
І па людской нязбытнасці сумую,
І па вясне пакрыўджанай тужу...

*1964*

## МАЙМУ РАЁНУ

Былі цары — за Русь умелі біцца.
А былі царкі —
                    без цара ў галаве.
Але дзе яны?
Той час даўно й не сніцца.
А народ жыве.
А народ жыве.

А народ —
                асілак несмяротны,
Быццам пыл, змахнуўшы ўсіх царкоў,
Аздабляе,
Ўзбагачае
                край свой родны,
Край дзядоў,
Край бацькоў.

Розных бур нямала пакружыла
Над любімай ціхай старaной.
Толькі ў нас
Такая кроў у жылах,
Што за край, дзе маці нарадзіла,
Мы заўжды сцяной,
Мы заўжды сцяной.

Сёння пішам пісьмы, ставім
цвёрда:
Мой раён!..
І хоць, як поля сын,
Ён не славіцца
грымлівым шумам горада,
Ды жыве ў дружбацкіх сэрцах
гордасць,
Што такі — адзін,
Што такі — адзін.

Ён за ўсіх і журыцца,
і ў шчасці
Вывесціць для кожнага пачын.
І сваю
ў юнацтве песню скласці
Ён нас навучыў,
Ён нас навучыў.

Гулкая вясна, зямля крынічная,
Шчырая сляза і звонкі смех...
Хай заўсёды,
як і змалку, звычна
Кліча родны край,
хай вечна кліча
Цеплынёю ўцех,
Цеплынёю ўцех.
І няхай яго заўсёды помніць
Кожны сын
і ў шчасці і ў журбе!..
Слаўгарад,
змагар, баец няэломны,
Слаўгарад,
пясняр, сявец нястомны,
Крочу да цябе,
Крочу да цябе!

*1964*

* * *

Праславяцца дужыя плечы,
Прыгнутыя бурай гадоў,—
Тыя,
з якімі сустрэчы
У кожны вярталіся дом.

Згадаюцца бульбіна з хлебам
І кубак халоднай вады,—
Тыя,
з якімі пад небам
Выраслі гарады.

Запомняцца хустка, і світка,
І думы, з журбою без дна,—
Тыя,
з якімі выткала
Долю мая старана!

*1964*

## РАЗВІТАННЕ З РЭКВІЗІТАМ

У летнюю ноч,
у зорную ноч,
У ноч, калі смеху —
Столькі ж, як слёз,
І шчасця ў сэрцы —
як і тугі,—
Я кажу ў гэту ноч:
— Бывайце!
Бывайце,
І згіньце
І не нагадвайце пра сябе,
Згіньце
І не крываньце мне сэрца,
Згіньце, вочы,
Якім так верыў заўжды
І ў якіх убачыў сягоння
Зялёны лёд!

Згіньце, рукі,
Што нікога не лашчылі,
Рукі без дружбы
І рукі без славы,
Што замахнуцца
Хацелі б
на свет,
Згіньце, думкі
З хлуснёю атрутнай,
Ліпучыя словы,
Дзе здрады туман,
І хліпкія справы
Пустыя, як порхаўка!
Бывай,
Адплывай
Назаўсёды ў нябыт,
Мінулага веку
Гнілы рэквізіт,—
У зорную ноч,
у летнюю ноч
Цябе я здаю
У незваротны транзіт!
Цягнік жыцця,
Не спыняйся, вязі,
Выкінь хутчэй
На сухія лясы
Усё, што ганьбіць
І засмучае,
Што думы калечыць
І сэрцы крывяніць,
Што прыніжае
І раздзяляе,
Што ў чалавеку
Чалавека гняце!..
Крычу. Паганяю
Цягнік гісторыі.
А ноч міргае вачамі зор,
Адважна падае ў ногі раса,
Хлюпоча рэчка,
Крычыць дзяркач,
Пахне жытамі,
І смолка дыхае.
Ах, як хораша жыць,
Як хочацца жыць,

Як прагне сэрца
Зорных начэй,
Колькі ў свеце
Ёсць хараства,
І колькі будзе —
Няма яму меж!
Толькі б навек
Адышоў у нябыт
Веку старога
Гнілы рэквізіт!

*1964*

## ПЕРАД РЭКЛАМАМІ

Рэкламы
Вогненнымі заклікаюць рукамі,
Б'юць па вачах,
прыцiскаюць, як прэсам:
«Лётайце самалётамі!
Ездзіце цягнікамі,
Хуткімі і экспрэсамі!»

Падыду, пагляджу,
доўга думаю:
Куды мне паехаць,
Куды — каб самае хутка?
Каб пазбавіць сэрца
ад золкага суму,
Каб не ведаць скрухі
анічагутка?
Пакрамсалі ростані,
грозныя годы пабілі
Сэрца на кавалкі,
на гулкія часткі:
Дзе хадзілі,
Дзе любілі,
Дзе чакалі
цярпліва і часта...
Дзе ўставалі,
Дзе ратавалі,

Дзе плакалі
                    над сяброў магіламі...
Дзе з захапленнем
Кроў аддавалі
За ўсё,
        у што верылі,
                              што зналі мілым...

Падыду, пастаю,
                         развяду рукамі...
А рэкламы
Вогненным
                  грукочуць прэсам:

— Лётайце самалётамі!
— Ездзіце цягнікамі!
Хуткімі і экспрэсамі!

*1964*

## ЗАЎТРАШНЯМУ ЎЛАДАРУ ПЛАНЕТЫ

Для таго каб менш табе
                                   стамляцца,
У зеніт кіруючы жыццё,
Я нярэдка быў вегетарыянцам,
Прабіваўся
Дзедаўскай куццёй.

Што куцця?! Я знаў і не такое!
Я скарынцы рады быў парой,
Робячы свой век сваёй рукою,—
Проста чалавек, а не герой.

Я насмерць
З гарачай смагай біўся
На вялікай
Дзён маіх сяўбе,
Бо перад вачмі з'яўляўся ты ўсё,
І тварыў я з думкай пра цябе.

Я на ўсё прыдатны, ўсё адолею,
Ўсё перажыву, перацярплю.
Толькі каб не ўдарыў ты мне болем
За маё адданае «люблю».

Не сказаў бы, час перабіраючы
І сустрэўшы сказ і пра мяне:
— Ну й дзівак жа! Меў сухі акрайчык,
А ў жыцці
Душою каменеў...

Знай, дружбак, мой будучы нашчадак,
Той акрайчык быў не драбяза.
Ў ім жыла
Гадоў і веку радасць
І мая суровая сляза.

І калі ты ў шчасці будзеш велічны
І ўзляціш да Марсаў і да Вег,
Дык успомні ўсіх, што сёння мелі
Мазалі як гонар, а не грэх.

Помні ўсё, што ростані прабіла,
Каб цябе па-новаму ўзлюляць,
Праўду,
Што свяцілася рубінам,
Працу,
Дарагую, як зямля,

Слова, што ў любой нягодзе грэла
Кожную пакутную душу,
І вось гэты нават ліст нясмелы,
Што табе, сумуючы, пішу.

*1964*

## АДКАЗ АНКЕТАМ

Пытаюць анкеты:
калі я і дзе нарадзіўся?
Калі я вучыўся?
І з кім і калі ажаніўся?
Што там я рабіў
і чым тут я займаюся зараз?..

І строчыш адказы...
Старанна!..
Аж прэ з цябе пара...

Страчыў я адказы
дзесяткі разоў і спыніўся...
Няўжо гэта важна —
калі я і дзе нарадзіўся?
Калі я вучыўся
і з кім ажаніўся я потым —
Ці проста жаніўся,
ці меў напачатку залёты?..

А я ж праз жыццё ўсё
імкнуўся да нечага ўпарта,
Не раз сваё сэрца
кідаў на суровую карту,
На бой падымаўся,
каб краю здабыць перамогу,
Душой загараўся,
каб другу пазначыць дарогу.

Спыталі б, анкеты, хоць раз вы:
чаго я радзіўся,
Ў каго я вучыўся
і як, і чаму навучыўся.
Не чым я займаўся,
а для чаго я займаўся,
Што ўзяў я навекі
і з чым назаўсёды расстаўся!..

Мінула юнацтва,
ідуць мае ў сталасці леты.
А хутка і фініш...
Дык майце ж вы ласку, анкеты,—
Пытаннямі нуднымі
болей мне сэрца не рэжце,
Хоць раз пашануйце
ва мне чалавека, нарэшце!

*1964*

## ПАЭТЫ

Закаханыя ў росы, і кветкі,
І ў чалавечыя ўсмешкі,
Крыкам дзіцяці шчаслівыя
І крохкім агнём сыраежкі,
Няўрымслівыя,
Неспакойныя,
Бяссрэбныя
І беззалотныя,
Перад пяшчотным —
Бяззбройныя,
Перад пачварным —
Грымотныя,
Дзе вы,
Заўжды гатовыя
Да мукі і нават да смерці
За самую простую рысачку,
Якую з жыцця не сцерці,
За самую ціхую росачку,
Што зззяе
Вясёлкаю
Свету,—
Дзе вы,
                на ўсё гатовыя
Дзеля жыцця,
Паэты?!
Чый гэта голас
Кволенькі,
Без мужнасці і без веры,
То нудненькі,
То вясёленькі
Чуецца з-за шыфаньераў,
Са спальняў імпартных, з крэслаў
Самага моднага стылю,
З гасціных, з пакояў пампезных,
Дзе ўсё
На вякі
Абкадзілі?
Гудуць, несусветнымі метрамі
Здзіўляюць суседзяў і жонак
Настырныя модныя мэтры
І згорбленыя піжоны,
Нясуць перапеўкі лірычныя

Пра геніяльных пеўнікаў
Ці ля бажкоў — прывычна
Цікуюць,
Каб хапнуць напэўненька.
Становяцца ў позу рашуча,
Маўляў, «такое скажу я...»,
Дзеляць славу замучаную,
Дый то не сваю, а чужую...
Паэты!
Устаньце, паэты!
Няўжо вашы сэрцы зміраюцца
З гэтай навалай па свету
У эпіцы вашай і лірыцы?
Няўрымслівыя,
Неспакойныя,
Бяссрэбныя
І беззалотныя,
Перад пяшчотным —
Бяззбройныя,
Перад пачварным —
Грымотныя,
Няўжо вы радасць і слёзы
Дзялкам аддалі для здзекаў?
О не!
Пад любой пагрозай
Жылі вы ў імя чалавека!
Паэты! Паэты!
Гучныя
Чую вашыя песні.
З імі я змалку заручаны
І з імі
Свой шлях
Накрэсліў.
Паэты!
У шэрагах вашых
Я ўсё на жыццё ахвярую.
Спявайце!
Не будзе мне страшна,
Калі сярод песень памру я!

*1964*

## ПЕСНЯ

У тую крыніцу,
з якой піў ваду,
Гразёю не кіну.
Хоць, можа, лепшую з часам знайду
Сваймý сыну.

На таго каня,
што мяне насіў,
Не нацкую зграю.
Хоць новы стаеннік,
поўны сіл,
Каля акна грае.

Да тае сцежкі,
дзе жыццё сустрэў,
Не прапушчу хмары.
Хоць і не раз там
душой хварэў
І паліў мары.

Святое сэрца,
што кахала мяне,
Не аддам бруду.
А любіць усё,
што хаця і міне,
Да канца буду.

*1964*

* * *

Веру позіркам і ўсмешкам,
Веру поціскам рукі,
Веру сонцу,
Веру сцежкам,
што вядуць на бальшакі.

Веру ласкам, спачуванням,
Калі нават іх сасню.

Веру
Марам і світанням,
Веру
Гневу і агню,

Веру дрэву, веру зверу,
Веру грому і дажджу...
А каму па смерць не веру —
Ў бітве ворагу скажу.

*1964*

## КАЛІНКА-МАЛІНКА

«Калінка-малінка...» —
Танцуюць салдаты,
«Калінка-малінка...» —
Аж пыл на шляху.
«Калінка-малінка...» —
Да хлопцаў дзяўчаты
Выходзяць па круг
Сарамліва крыху.

Настойліва,
                    з заклікам
Грае гармонік.
І ўсё забываецца,
Шчасця апроч.
Ды раптам ракета
Дыхнула ў сасоннік,
Ажно скаланулася
Майская ноч.

І войкнуў гармонік.
І зніклі салдаты.
Гудуць ужо ўдалечы
Іх цягачы.
І ў цемры з трывогай
Застылі дзяўчаты,
Як быццам
                    ад шчасця
Згубілі ключы.

«Калінка-малінка...»
Юнацкія сэрцы...
«Калінка-малінка...»
Туга і вясна...
Калі ж ты забудзеш
Пра жахі і смерці,
Калінка-малінка,
Мая старана!

*1964*

## ДАЛІНА ЧАБОРУ

Я выхадзіў многія вёрсты
Сваіх незлічоных дарог.
І ўсе прыгажосці Радзімы
На памяць у сэрцы збярог.

Цудоўныя далі Сібіры:
Задумныя нетры тайгі,
Старукія волаты-кедры
І скальныя рэк берагі.

Праславіўся Крым прамяністы,
Грывасты зялёны прыбой,
Як воіны гор, кіпарысы
Бягуць да Ай-Петры з табой.

Багата красы ля Паміра,
Навек зачаруе Каўказ...
А ўсё ж не знайшоў я куточка
Ляпей, чым над Сожам у нас.

Ля выспачак сіняга бору,
Мінуўшы хмызняк трапяткі,
Бы ў песню —
ў даліну чабору
Мы ўвойдзем ля самай ракі.

Пад сховай ляснога кургання
Трымае свой водар яна.
Нібыта сустрэчы з гасцямі
Чакае рупліва здаўна.

Як лёгка, як проста, як добра
Ісці тут у вольны прастор.
Як цёпла цвіце прад вачыма
Жывы беларускі чабор.

Чабору даліна — што казка,
Чабору даліна — як дом.
Паставім тут, хлопцы, палаткі
І лета
ў красе
пражывём!

*1964*

## РАЗМОВА З КАПІТАНАМІ

Капітаны, капітаны
З рачулачак сініх,
На якія акіяны
Вас жыццё закіне?

Дзе вам выпадзе пранесці
Флаг,
Высока ўзняты?
Чым вас буры странуць
Дзесьці
Далёка ад хаты?

Капітаны, час настане
Для адвагі хвацкай.
Дык прыміце ж на расстанне
Вы наказ дружбацкі.

Пад любой зарой паходнай,
У любой краіне
Не забудзьце, хлопцы, родных
Рачулачак сініх.

Не забудзьце той прывабнай,
Той ласкавай хвалі,
На якой вы свой караблік
Першы раз пускалі.

І заўжды нясіце строга,
Каб не згасла сіла,
Тое слова, што ў дарогу
Маці падарыла,—

Слова ласкі да Айчыны,
Слова мовы любай,
Слова бацькаўскай сцяжыны —
Слова славы трубнай.

Адплывае флот вясновы,
Доўга плыць ён будзе...
І ў адказ я чую словы:
— Помнім,
Не забудзем!..

*1964*

## У МАЙ

Б'е ў акно звон вясны,
Жаўруковы спеў.
Кут надрэчны лясны
Ўвесь ажыць паспеў.

Там, дзе дол прачаўрэў,
Ходзяць хлапчукі,
Выбіраюць між дрэў
Дзеразу ў вянкі.

Колькі ўсюды святла,
Колькі хараства!
Вунь — карункі спляла
Клейкая ліства.

Вунь — бы зорак узор,
Сініх кветак круг.
І падміргвае бор
Кожнаму, як друг.

Звон вясны. Гулкі след.
Сонца, ўсіх прымай!
Хлапчукі бягуць у свет —
У вясну, у май.

*1964*

## ВЯНОК

Пахне жывіцай
Ранняя раніца.
Луг над крыніцай
Плача, туманіцца.

Босай сцяжынкай
Бегчы так золка.
Толькі дзяўчынка —
Быццам вясёлка.

Ззяннем празрыстым
Свеціцца, радая.
Раніцу чыстую
Песенькай радуе.

Сёння з граніцы,
З дальняга краю,
Ў госці к дзяўчынцы
Брат прыязджае.

Многа ён з боем
Вызваліў вёсен.
Многім з сабою
Шчасце прыносіў.

Многа лагоды
Меў да сястрыцы...
Люба заўсёды
Ім ганарыцца!..

Сцежкі, хоць росныя,
Ды — неўзаметкі.

Колькі вас, розныя
Родныя кветкі!

Смолка. Званочак.
І слёзка. І мята.
Будзе вяночак
Цудоўны для брата!

*1964*

## СЛОВА ДА ХЛОПЧЫКАЎ

Хлопчыкі,
Не крыўдзіце дзяўчынак,
Хлопчыкі,
Вы ж будучыя воіны.
Помніце:
Без дружбы немагчыма
Перайсці
Праз ростані і войны.
Запытайце ў тых,
Каму вядом быў
Кожны бой,
Нібыта ўрок навукі,—
Колькі раз
Выносілі пад бомбамі
Іх з агню
Сяброўак мужных рукі.
Там, дзе на шляхах
Слупкі барвовыя
Сон магіл
Вартуюць
Днём, уночы —
Побач з болем воіна
Суровым
Пахаван
І светлы сум дзявочы...
Хлопчыкі,
Вазьміце кветкі мая
І за ўсіх,

Хто лёг пад абеліскі,
Падарыце кветкі
Ленам, Маям,
Верам, Валям,
Светачкам і Раям,
Што сябруюць з вамі
Ад калыскі.
Будзьце ўсюды ў свеце
Абаронцамі
Перасмешніц
Ласкавых —
Дзяўчынак.
Помніце:
Без дружбы — як без сонца,
З дружбаю —
Ўсё лёгка і магчыма!

*1964*

## ДАРОГА БАЦЬКОЎ

Былінныя штурмы, паходы,—
Як полымя ў ззянні вякоў.
Запомнім, сябры, назаўсёды
Вялікія справы бацькоў.

Каб сёння і заўтра раслі мы,
Вітаючы поспех дзянны,
Бацькі
Ад любімай Радзімы
Адбілі навалу вайны.

Усё: і пакуты, і страты,
І грозныя дні ў барацьбе
Пазналі героі-салдаты
За нас —
За мяне і цябе.

Навек яны буры скарылі
І волі ўзнялі галасы.

І нам
Сваёй славай
Стварылі
Краіну шчаслівай красы.

Любыя вышыні ёсць крылам.
Ёсць праца любая рукам.
Надзейнаю,
мужнаю сілай
Мы ўстанем
на змену бацькам.

Ці ў токары, ці ў касманаўты,
Ці ў творцы
Пашлюць нас гады —
У заўтра, вялікае заўтра
Наш позірк заўжды і заўжды.

Усюды ў жыцці з перамогай
Мы пройдзем, сям'я дружбакоў,
Бо лепшая ў свеце дарога
Прад намі —
Дарога бацькоў.

*1964*

## ПОШТА

Кожны дзень — тук-тук-тук...
Ведаю: то ён,
Зноў прынёс
Пісьмаў пук
Дзядзька паштальён.

З Арменіі,
З Башкірыі,
З Хібінаў,
З Ангары
Мне шлюць пасланні шчырыя
Мае сябры.

Чым жа я вядомы стаў?
Быццам і нічым.
Як яны, я ўзрастаў
З краем дарагім.

Ды змясцілі мой партрэт
Некалькі газет.
І цяпер — не сакрэт —
Піша ўвесь мне свет.

Кожны дзень — тук-тук-тук...
Ведаю: то ён,
З цеплынёй
Родных рук
Дзядзька паштальён.

То белыя,
То сінія,
То ў колер залаты
Ідуць ка мне гасцінна
Ласкавыя лісты.

З Арменіі,
З Башкірыі,
З Хібінаў,
З Ангары...
Вам дзякуй, дзякуй шчырае,
Далёкія сябры!

Я, ведайце, такі ж, як вы,
Як вы, іду ў свой шлях,
І горда гальштук агнявы
Нашу я на грудзях!

*1964*

## ДУМА
## ПРА МАРАТА КАЗЕЯ

Спрадвек нараджала
Зямля Беларусі
Герояў без ліку,
Асілкаў багата.
І сёння між імі

З жыццём у хаўрусе
Праменіцца сэрца
Казея Марата.

Ніхто і ніколі
Так многа не страціў,
Не зведаў журботы,
Не вызнаў пакуты:
Забілі фашысты
Маратаву маці,
А край папялілі,
Няволяю скуты.

І ўстала на подзвіг
Сыноўняе сэрца.
Гарачая помста
Знайшла ліхадзеяў.
Ні бурам, ні громам,
Ні часу не сцерці
Геройскае славы
Марата Казея.

Не віцязь, не рыцар,
Не воін бывалы,
А хлопчык вясковы,
Лісток тапаліны...
А колькі ў душы яго
Гневу палала,
А колькі адвагі
І сілы арлінай!

Ляцелі ў адхоны
З мастоў эшалоны,
І кожная сцежка
Для катаў смылела,
А лес беларускі,
Спакойны, зялёны,
Чакаў акупантаў
Засадаю смелай.

І дзе б ні ступаў
Ненавісны чужынец —
Была яму куля,
Была і граната.

І волю любіць,
І стаяць за Айчыну
Заўсёды мы будзем
Вучыцца ў Марата.

Высока над краем,
Над песенным маем,
Гарыць і шугае,
І шчасце вітае,
І нас асвятляе,
І ў дружбе натхняе
Маратава Зорка —
Як дзень, Залатая!

*1964*

* * *

Пад месяцам, пад эмблемай зямнога спакою,
Я сеў на камень. Ільсніцца ў лозах рака.
І шырока-бязмежна, што не абняць і душою,
Сусвет нахіляецца да майго казырка.

Нахіляецца гулам пушчы, пляскам вады крынічнай,
Запалавелым жытам, вясёлай гульнёй зарніц,
Травінкамі, завяззю баравой сунічнай,
Качыным лопатам, пахамі медуніц.

Нахіляецца сусвет нада мною, і пад яго дыханнем
Я ў забыцці адчуваю, што, нават узняты хвалой,
Я — толькі малая пясчынка,
сагрэтая сонечным ззяннем.
Пясчынка,
якой выпала шчасце
трохі пабыць жывой.

Сяджу і думаю:
які ж я дзівак быў учора.
Часам з некім грымеў, часам некаму
ў вочы кадзіў.
Хваляваўся, кідаў да кагосьці дакоры.
Захапляўся. Магчыма, не дзівам між дзіў.

Да кагосьці ляцеў і кагосьці ў душу сваю клікаў,
Так спяшаўся — хаця б не спазніцца, паспець.
А таго не ведаў, што самае шчасце вялікае —
Гэта з сусветам
адзін на адзін пасядзець.

Ён мяне не пакрыўдзіць і не зможа прынізіць,
Бо я яго вартасць ведаю і вялікасць цаню.
І сяджу я на камені, у сузор'і ўпізаны.
Як пясчынка, што прагне цяпла і агню.

А ноч — то стрымае хмарку,
каб тут пахадзіла,
То бліскотнаю зоркай з вышыняў махне.
Ноч, толькі не рабі ты
месяц кадзілам.
Не кадзі нікому. Нават і мне.

*1965*

## ВЯСНОВЫЯ МАЛЮНКІ

Я люблю вясновыя малюнкі —
Коцікі вярбы, нібы карункі.
Белае чаромхавае дзіва,
Што зямля пад сонцам нарадзіла.

Я люблю вясновыя спатканні —
З жураўлямі ў лузе на світанні,
З краскамі, з цяплом лістоты клейкай
І з жывой арэхавай жалейкай.

І яшчэ вясновыя лагоды
Я люблю — з вясёлкай карагоды,
Спевы з рэхам,
змовы з ручаямі,
Дружбу — з салаўінымі гаямі...

*1965*

* * *

Пахне хлебам шлях,
нібы ў жнівень асець.
І дрыжыць павуціннем лятункаў смуга.
А ў сэрцы
варочаецца,
як у бярлозе мядзведзь,
Ніяк не засне туга.

Закіданая лісцем
юнацкіх прысад,
Па-высокаму трубіць
дарожная даль.
Чаго ж ты маўчыш?
Няўжо не рад?
Няўжо ты не сам
тут песні складаў?

За Сажом
далёка
ўстае зара.
Падаю руку ёй,
насустрач іду.
А вецер свішча:
пара, пара,
Пара, браце,
прыспешваць хаду!..

*1965*

* * *

Калі хто-небудзь сумаваў
За цэлы век, на цэлы век,
Дык гэта я — між зор і траў,
Між хмар праменістых і рэк.

Калі хто-небудзь сцішыць мог
Той боль, што я з тугою нёс,
Дык гэта ты —
зямны мой бог
З каронай сонечнаю кос.

Ды, як і ўсе ў жыцці багі,
Слых, пэўна, страціла і ты.
І смех твой стаў такі пусты,
А словы сцюжаць, як снягі.

І я з табой, і я адзін,
Ідзём, а смутак — навакол.
І сінім холадам ільдзін
Звініць наперадзе мой дол.

*1965*

## ПЕРШАЯ НАВАЛЬНІЦА

Над ракой, дзе млела ціша,
Раптам грукнуў гром.
Гром для хмар загады піша
Вогненным пяром.
«Гэй жа, хмары, ліньце, хмары,—
Кажа гром наўсцяж,—
Кіньце, хмары, на абшары
Шчодры лівень ваш».
Хмары пруць, плывуць, таўкуцца,
Рвуць крыло крылом
І дажджом рупліва льюцца
Ў полі за сялом.
Поле стогне: «Лівень стопча
Рунь маіх лагчын».
А само, як з соскі, смокча
Парны сок дажджын.
Гром глядзіць са стром на поле —
Як змакрэў абшар —
І, сціхаючы, ў прыволле
Гоніць рэшткі хмар.

*1965*

* * *

Стол мой верны,
Пастаўлены чынна
пад праменні,
пры самым акне,
Стол мой верны,
Хоць маеш прычыну,
не бядуй,
не сярдуй на мяне.
Што ж, так стала:
Ад самай той раніцы,
калі ўнеслі цябе
ў мой пакой,
Ты адзін.
А мяне, браце, з ранцам
па ўсім свеце
насіў неспакой.
Пераходжана ўсцяж
І прамерана
на паўвека
дарожная даль.
Бачыў шчасце,
Сяброўства
І вернасць.
Але ведаў
і скруху, і жаль.
Чуў прызнанні,
І песні,
І згадкі.
Але бачыў
І боль, і тугу...
Стол мой верны,
Даруй мне, мой братка,
што застацца з табой
не магу.
Хоць і мае паэт
Па закону
свае права
на дні цішыні,—
Не згаджаецца
Свет наш зялёны
адпусціць мяне
ў полк запасны.

Жыць паходам —
Адна ў мяне ўцеха.
Дык бывай жа,
вартуй свае сны.
Я ў дарунак
Прышлю табе рэха
з самай гулкай
маёй сцежыны.

*1965*

## ПЕРАД МАГІЛАЙ ДРУГА

Далёка,
За азёрнаю смугою,
За казкамі, дзе цудаў не знайшоў,
За ўцехай,
За расстаннем і тугою,
Ты ўпаў
пад сінню неба дарагою.
Упаў навек.
А я далей пайшоў.

Пайшоў у гром,
У кананадны вэтлум,
У сум, у песні,
Ў шчасце і бяду.
І дваццаць год
Іду да светлай мэты,
І за сябе,
І за цябе, ты ведай,
У тлумным свеце
Грозны бой вяду.

Было ўсяго:
Часамі рукі млелі,
Часамі забівала мітульга,
Часамі
Глыбіню мяняў на мелі,
І думкі,

Нібы ў ліпкай карамелі,
Пад крыкі саладзільшчыкаў
Марнелі —
Змаўкалі
На адбітых берагах.

Але нідзе,
Нідзе, мой дружа верны,
Не спляміў я
Наш гонар баявы,
Што засявалі ў бітвах
дружбы зернем.
Не павярнуў ніхто
І не паверне
Мой гнеўны боль —
Навечна ён жывы!

Пакуль іду,
Цябе ўслаўляць не кіну.
Пакуль гару,
Табе са мною ззяць.
Сягоння я
К табе прыводжу сына.
Ён мой.
Такі ж,
Як мы былі ў Айчыны.
І гэтак жа,
як мы,
Ён можа сцяг узняць.

Ён вырас
Пад вячыстай зоркай алай,
З калыскі чуў
Пра твой апошні бой.
І будзь спакойны:
Мы закончым справу —
Тваю і нашу!
Мы —
перад табой!..

*1965*

## СЛОВА ПРА МАЦІ

Я маленства сваё і юнацтва сваё прыгадаю,
Сцежкі ціхія ў полі...
Ты ж, здаецца, ніколі
Не сказала мне
Нават і слова аб краі.

Толькі пела мне песні
Аб цёмных бяздонных азёрах,
У якіх ажываюць начамі
Апаўшыя зоры,

Аб дрымучых лясах,
Дзе асілкі змагаюцца з цмокам,
Аб дарогах-шляхах,
Што заводзяць далёка-далёка,

Аб шырокіх палях,
Дзе цалуецца жыта з зарою,
Аб сівых курганах,
Дзе сном вечным паснулі героі...

Я маленства сваё і юнацтва сваё прыгадаю,
Сцежкі ціхія ў полі...
Ты ж, здаецца, ніколі
Не сказала мне
Нават і слова аб краі.

А чаму ж — толькі ўспомню аднойчы
Ў жыце зірк васільковы,—
Бачу дзень свой вясковы,
Усміхаюцца мне
Твае любыя вочы?

А чаму ж — толькі рынуся ў цёплыя травы,
Стану ў клейкае лісце —
Чую зноў: як калісьці,
Прыхінаюць мяне
Твае рукі ласкава?

А чаму ж на любым скрыжаванні,
на любой каляіне,
На любым павароце —
Аб тваёй мацярынскай турботе

Кожны крок
Мне спявае і сёння ў краіне?..

Маці, маці!
Над сінім азерцам
Непагасная зорка гарыць прад вачыма.
Маці, маці!
Радзіма і ты,
                    толькі ты і толькі Радзіма —
Дзве трывогі на сэрцы...

Дзве трывогі, два шчасці
                    з маленства са мною...

І паклон табе нізкі,
Што ад самай калыскі
Ты вяла мяне, маці,
Няхітрай дарогай зямною!

*1965*

## ПРОСЬБА

Перавяжыце мне рану —
                    я сам не магу.
Перацісніце сэрца,
                    бо, гляньце, як сочыцца,
Па крывінках сочыцца
                    страшны гул!
А жыць хочацца.
Жыць хочацца!

Перавяжыце мне рану —
                    мой боль ад вайны.
Ды нікому, прашу вас,
                    ні слова пра чутае!
Бо ў мяне ж сыны.
Бо ў мяне ж сыны.
Хай вераць яны,
Хай вераць яны,
Што бацька
                    ніколі
                    не знаўся з пакутаю!

*1965*

## УРАЧЫСТАЯ ПЕСНЯ

### Паэма

Калі я быў
Такі, як вы,—
Я піянерам быў.
Тады і я,
Як вы цяпер,
Паходаў дні любіў.
Любіў
З сябрамі ля кастроў
На крыллях песень
Плыць.
І піянерскіх
Светлых мар
Нідзе мне
Не забыць.
Любіў я
Горна звонкі кліч:
— Хутчэй спяшайся ў строй!
Любіў
Пад сонцам
Гулкі крок,
Прывалы —
Пад зарой.
І вось
Ажно з тае пары
(А часу шмат сплыло!)
Мне добра помніцца,
Сябры,
Наш лагер
За сялом.
Пад халадочкам,
Пад расой
Звінеў птушыны бор.
І зваў шторанку
На прастор
Сяброў
Пявучы горн.
Які ў нас быў, браткі,
Гарніст!
То быў артыст, паэт!
Калі іграў ён,
Дык наўсцяж

Увесь іскрыўся свет.
Я знаю —
Ўседзець не змаглі б
Без справы там і вы,
Калі б пачулі,
Як іграў
Наш Пецька Канцавы;
А што да нас —
Дык нам заўжды
Быў святам
Гэты міг:
Свой горн пачуць
І зноўку стаць
У строй
Сяброў сваіх...
Я потым
Шмат
Прайшоў сцяжын,
Шмат бачыў
Розных дзіў.
І кліч суровы, баявы
Не раз
Мяне будзіў.
Ды ўсё ж
Здавалася заўжды —
Дзе б што я ні рабіў,—
Што на шляхах
Майго жыцця
Са мною
Пецька быў!

*

Калі я быў
Такі, як вы...
Калі ж гэта было?..
Было даўно —
З тае пары
Нямала дзён сплыло.
Даўно
Акопы зараслі —
Сляды ліхой вайны;
Ужо і вы
Ў паход пайшлі —

Герояў тых сыны,
Што Перамогу здабылі,—
Мільёны
Юных вас
На змену
Горны узялі —
Касцёр бацькоў
Не згас!
І вас убачыўшы,
Сябры,
У шарэнгах веснавых,
Я веру:
Зноў мяне ў паход
Гукае Канцавы;
І з вамі поруч
Я іду,
Ваш горн
І мне пяе,
І — бачу даўнія
Адсюль
Канікулы свае.

*

О час канікул,
Лета час!
З дарогі, смутак, збоч!
Звіні
Пасля узлётаў дня
Пад Сірыусам, ноч.
Звіні і слаўся,
Шлях прыгод,
Сустрэчы ля кастра
І песня,
Што вяла ў жыццё,
Як лепшая сястра.
Такую песню
Не забыць,
Такую
У здзек не дам!
Яе
Здалёк,
Бы светлы дар,
Нясу сягоння вам.

*

## ПЕСНЯ ЮНЫХ ЗМАГАРОЎ

Нашы бацькі
нам падарылі
Славу агністай пары,
Гэй, узвівайце
дужыя крыллі,
Юныя ўсе змагары!
Гальштукі алыя,
Клічуць гарністы,
Гальштукі алыя —
Сэрцы, як іскры,
Гальштукі алыя,
Смелыя, ўдалыя —
Клічуць гарністы,
Клічуць гарністы!
Пройдуць гады,
пройдуць паходы,
Смела, касцёр наш, гары!
Будзьце гатовы к бою заўсёды,
Юныя ўсе змагары!
Гальштукі алыя,
Клічуць гарністы,
Гальштукі алыя —
Сэрцы, як іскры,
Гальштукі алыя,
Смелыя, ўдалыя —
Клічуць гарністы,
Клічуць гарністы!
Станем, сябры,
станем на свеце
Полымем яснай зары.
Мы — піянеры,
Леніна дзеці,
Юныя ўсе змагары!
Гальштукі алыя,
Клічуць гарністы,
Гальштукі алыя —
Сэрцы, як іскры,
Гальштукі алыя,
Смелыя, ўдалыя —
Клічуць гарністы,
Клічуць гарністы!

*

На баравінах —
Пах суніц.
У полі —
Дых жытоў.
Зямля
Пад грукам навальніц —
Як,гулкі камертон.
Зямля звініць.
Зямля пяе.
Мелодый —
пад блакіт.
Там — ручаіначка ў траве
Цурчыць паміж ракіт,
Там — стрыж
Пакіне
Свіст крыла,
Там — чмель
Утне ў басоль,
Там — па-над кветкаю
Пчала
Зацягне
мі-фа-соль.
Там — загудуць ствалы,
А там —
Аж грымне раптам лес:
Як быццам ён
Тэатрам стаў
І свой
Займеў аркестр.
І скрыпка тут,
І кантрабас,
І, можа, сотні флейт...
Пяе, пяе
Уся зямля
Што міг — то весялей.
І дзе ні стань,
Куды ні глянь —
Цвітуць лугі, палі.
Так лёгка
З песняю ісці
Па гэтакай зямлі!
І мы ішлі,

І мы жылі,
Шукалі
Лета скарб.
Між баравін,
Між ручаін
Наш спеў
Гайдаў абшар.
Знаёмствы. Дружба. Дні сустрэч.
Вясёлых маршаў дні.
Здаецца час той —
Як жывы,
Ледзь успамін крані.
Калі цяпер
Туды пайду —
Здаецца, і цяпер
Маленствам
Мне звініць, павер,
І сітнік, і аер,
І кожны знак,
І кожны след
Вядзе
Ў той слаўны час!..
Расці
Для шчасця
На зямлі —
Такі вялікі ўказ
Дало жыццё нам,
І яму
Мы верылі спаўна...
Ды бурай грымнула
На нас
Суровая вайна.

*

Вам невядом.
Вайны пажар,
І не шкадуйце, не!
Няхай вам
Лютасць чужаніц
Не ўбачыцца і ў сне,
Няхай ніколі вам
Нідзе
Жуда не слепіць воч,

Як нам —
У сумную павек
У чэрвеньскую ноч.
Табун высокіх ціхіх зор
Масціўся на начлег,
Яшчэ свяціўся
Наш касцёр,
Гучаў з палатак смех,
Крычала птушка:
«Жыць ды жыць»,
Плыла
Зара на ўсход...
Калі над намі
Закружыў,
Як злодзей,
Самалёт.
І грымнуў гром,
І войкнуў дол,
І грохнуў долу краж,
І смерць
Бязлітасным агнём
Паліла лагер наш.
І немы крык,
І плач, і енк
Кідалі жах і боль.
Аж стогнам бацькі
Застагнаў
Над сябрукамі
Бор.

*

Калі я быў
Такі, як вы,—
Тады і я, сябры,
Любіў
З дружбацкаю гурмой
Зарой
Будзіць вятры,
Любіў
Пад сонца ці пад дождж
Імчацца басанож,
Любіў
Заплываць на быстру

Разрэзаць плынны Сож...
Але не так, не так, не так
Пасля бамбёжкі той
Прыйшоў да нас
Наступны дзень...
Не клікаў над вадой
Драч, як раней:
«Устань, устань!»,
Не лашчыў ног
Струмень,
Не абуджаў, не хваляваў
Задзірысты прамень;
Замерлі
Польныя вятры,
Ледзь дыхаў
Лес парой,
Не пеў гарніст,
Не зваў гарніст:
— Хутчэй спяшайся ў строй!..
Між пашчапаных
Чорных пнёў,
Дзе ўсцяж агонь гарэў,
Хто — на задымленай траве,
Хто —
Пад ствaламі дрэў,
Хто — з кніжкай
(Бы ад бомбаў тут
Хаваў святло навук),
Хто —
Абдымаючы зямлю
З пяшчотай
Юных рук,—
Ляжалі хлопцы,
Не, не сны
Дабачвалі яны,
А сталі першымі яны
Ахвярамі вайны.
Ляжаў Сярожа,
Наш радыст,
І Федзя, астраном,
Андрэй і Коля, мастакі,
Апошнім
Спалі сном,
Ляжалі Васі — дружбакі,

Музыкі, спевакі,
І Янка, шчыры следапыт,
І Цімка, стырнавы...
І разам з імі
Упаў навек
Наш Пецька Канцавы.
Які то быў, браткі, гарніст!
То быў артыст, паэт!
Калі іграў ён —
Дык наўсцяж
Увесь іскрыўся свет.
Звінеў званочкам
Кожны ліст,
Свяціўся
Ў смолках дол,
Хор пеначак
Світальны спеў
Кідаў на сто ладоў,
А ў лузе
З гулкіх срэбных труб
Трубілі журавы,
Калі іграў, спяваў пад'ём
Наш Пецька Канцавы.
А сёння ціхі,
Як чужы
Для смолак,
Для бяроз,
Ляжаў ён —
Быццам піў з лістка
Халодны блёскат рос,
Ляжаў,
Сціскаючы свой горн —
Параненую медзь...
І нават бор
На гэткі жаль
Без слёз
Не мог глядзець...

*

Даўно было,—
А ўвесь той час
Усё яшчэ ў вачах...
Яшчэ, здаецца,

І пясок —
Жвір жоўты —
Не зачах...
Вось тут,
Дзе купкамі бяроз
Шуміць цяпер дзірван,
Мы над магілаю сяброў
Насыпалі курган.
Не раз грымелі
Перуны
Над роднай стараной,
Не раз прайшлі
Плугі вайны
Па засені лясной,
Зраўняла з доламі
Курган,
Цвіце ў траве
Чабор...
Ну што ж, няхай цвіце,
Няхай
Шуміць тут юны бор,
Хай не магілай,
Хай жыццём
Бор славіцца стары,
Бо то ж — усё,
Чым так былі
Шчаслівыя сябры,
Бо то ж — усё,
Дзеля чаго
Яны хацелі жыць,
Што так любілі
І чаму
Жадалі век служыць...
Мы пахавалі іх,
Як полк
Пад громам і пальбой
Хавае воінаў,
Якіх
Забраў няроўны бой.
Суровы, мужны
Быў наш строй,
Але на ўсёй зямлі,
Напэўна, слухаў
Клятву свет,

Што мы сябрам далі.
Мы пакляліся
Ўсе і скрозь,
Пакуль пульсуе кроў,
Ісці
Дарогай грозных дзён —
Дарогай змагароў,
Ісці і ўсё перамагчы:
І жах, і нават смерць,
Імя высокае
Праз век
Пранесці —
Піянер,
Ісці, і шырыць, і ўслаўляць
Свой піянерскі строй.
— Ты вер нам, край,
З табой,
З табой
Мы ўсе —
Любой парой!..
І ўзяў важаты
Пецькаў горн —
І абудзіўся
Бор.
І ўзвіўся ў далі
Кліч жыцця —
Праз ростані і час...
І не пытайцеся,
Чаму
Я сёння
сярод вас,
Чаму
Ніколі не магу
Без вашых жыць
турбот,
Без піянерскіх
Добрых спраў,
І смуткаў, і нягод,
Без вашых радасцей,
Прыгод
І шчырай мітусні,
Без вашай веры,
Вашых мар
Пра заўтрашнія дні!..

*

Так, не пытайце,
Дружбакі,
Мой юны, слаўны люд,
Чаму
Ваш сонечны салют
Заўжды —
І мой салют,
Чаму я
Гальштук бачу свой
На кожным,
кожным з вас,
Чаму гатоў,
На бой гатоў
Я быў за вас
не раз...
Я клятву даў,
Я бачыў кроў,
Я насыпаў курган,
І за сябе,
і за сяброў
Адданасць зберагаў,
Я клятву даў
І з ёй між вас
І ў шчасце і ў бяду
За родны край,
За родны свет
Іду,
штодзень іду.
І толькі ўчую сёння
горн,
Што сярод вас пяе,—
Заўжды гадаю:
Можа, зноў
То Канцавы ўстае? —
Хоць шмат прайшоў
Жыцця сцяжын,
Шмат бачыў
Розных дзіў
І кліч трывожны,
баявы
Не раз
Мяне будзіў,—

А ўсё ж і сёння,
усякі міг,
Дзе б што я ні рабіў,
Адчую:
Пецька не памёр,
Ён тут —
Заўжды тут быў!
І я лячу,
Спяшаю к вам,
Пакуль пульсуе кроў,
У юны строй,
У любы строй,
У шэраг змагароў,
І веру, веру:
З вамі я
Усё знайду, змагу!
Бо маем мы
Адну любоў,
Адну
Нясём тугу...

*

Гарыць касцёр.
Шуміць агонь,
Імкнецца ўвысь, да зор.
— Што ж ты прыціх,
Мой мудры сход,
Мой піянерскі збор?!
Пра што зажаліўся,
Скажы,
Віхрасты мой сусед?
Не трэба, хлопча,
З жальбай браць
Бацькоўскі запавет!
Устаньце, хлопцы,
Ў круг хутчэй,
Дзяўчынак клічце ў круг!
Сагрэйце сэрцам
Поціск рук,
Сяброўскі поціск рук.
Не трэба сёння
Сумаваць
Па тых,

Што ў жвіры спяць,
Не трэба
Памяці
Кайма,
Услаўце сонцам іх,
Услаўце
Радасцю сваёй,
Як славіце жывых.
Хай урачыстай песняй
Хор
Ім вечны шле
Паклон.
А вы —
А вас жыцця прастор
Гукае
Гулам дзён.
Трубі званчэй паход,
Гарніст,
Кінь заклік агнявы!
Твой гучны горн
Трымаў калісь
Сам Пецька Канцавы.
Сам Пецька
Сённяшні наш сход
З далёкіх год вітаў.
Трубі ж, гарніст,
Трубі смялей,
Як Пецька загадаў!..
Гарыць касцёр.
Каб ён мацнеў,
Падкінем, хлопцы, дроў.
Глядзіце —
Іскры
        ўзносяць спеў
Вышэй усіх вятроў.
Глядзіце:
Ў іскрах — ноч і бор,
Шляхі і люстры рэк...
Гарыць!
І будзе наш касцёр
Ярчэйшым
З веку ў век!

*1965*

## ЦІ БАЧЫЎ ТЫ, ДРУЖА...

Ці бачыў ты, дружа, сляды ад вайны —
У родных лясах бліндажы-буданы,

Ці слухаў душой —
з партызанскіх дарог
Няласкавы гул небяспек і трывог?

Ці ведаеш ты — ад каго, для каго
Пастаўлены помнік ля дома твайго,

Якімі шляхамі прыйшлі ў твае дні
Лагоднае сонца і спеў цішыні?

Ці здолеў бы, дружа, ты — свету, людзям
Усё расказаць, перадаць усё сам:

Чаму ў тваім краі, ў народзе тваім
Так любяць жыццё і так цешацца ім,

На колькі краін і на колькі людзей
Ты маеш у скарбе святла і надзей

І дзе тваіх будучых дзён рубяжы?..
Ці здолеў бы, дружа?..
Скажы мне, скажы...

*1965*

* * *

Каліна чырвоная
Гарыць,
Як туга маладосці.
Адзвінеўшая
Песня лета
Чабаровым пахне настоем.
Пагляджу на твой двор —
Здаецца:
Да цябе я прыехаў у госці,
І забыты мною
Іржэ конь няпоены.

Ах, любая,
Як я табе буду ўдзячны,
Калі ты
Напоіш каня
Са студні вадой чыстай.
А я
З каліны чырвонай
І пахкай саломы ячнай
Зраблю для цябе
Найлепшыя
На вяселле маністы.
У крывіначцы кожнай
Зноў пачуецца
Кліч мне трубны —
Як сваім
Летуценням,
Пакланюся
Твайму святу...
Развітальныя,
Устрывожана
Навальнічныя
Б'юць бубны.
Адчыняюць вятры
                    асеннія
Дзверы
У тваю хату...

*1965*

* * *

Як я люблю твой пах! — пах смугі палявой.
Як я люблю твой час! — хоць і такі кароткі.
Хлеб жніўня — няважаны, самы свой,
Самы чысты і самы салодкі!

Адрэжаш лусту, патрэш у кадцы аб соль,
Адкусіш прагна, вадою зап'еш колкай.
І душа —
          здаецца, толькі дазволь —
Так і ўстане над краем звонкай вясёлкай.

Хлеб жніўня. Маленства і юнацтва дар.
Іду да цябе з заміраннем сэрца заўсёды.
Як твой пясняр.
Абаронца.
І светлых ніў гаспадар.
І лепшай не трэба мне ўзнагароды.

*1966*

* * *

Не, нікому ніколі
не аддам свайго права
Поўным сэрцам
гарэць, летуцець і тужыць;
Уздыхаць па зялёнай расінцы на травах,
Шкадаваць аб нязбытных
і днях, і праявах,
Самых сонечных прагнуць сцяжын.

Сумаваць па смяшынцы,
што ты не прыслала,
І па слову, што сам не сказаў.
Цэлы век пражыву,
а мне ўсё будзе мала
Пачуцця, дзе агонь і сляза.

Дзень за днём пралятаюць
у чынным парадку,
Непрыкметна рассеюцца радасць і боль.
А так хочацца шчасця! —
наноў і спачатку
Свет любіць і журыцца па ім
усё больш!

*1966*

* * *

І я там быў,
Ля Смольнага,
ў той першы дзень,
Калі Ільіч пазваў народ:
— Пара!..
Я веру:
Я там быў!
Там, дзе з людскіх грудзей
Ляцела пераможнае «ура» —
Сігнал, што развінуўся, як зара,
І думы ўскалыхнуў на ўсе вякі...

Так, я там быў!
Спяваў, і паміраў,
І падымаўся зноў на бой цяжкі.

Кастрычнікам пакліканы ў жыццё,
Нясу ў душы
трывожны, светлы гул
Той —
Дзе і сэрца Леніна біццё,
І песня пра пяклівую тугу,
Той,
Дзе і мужнасць краю, і разгон,
І мара пра шляхі да ўсіх планет...
Так, я там быў!
І з сонцам тых вітальных дзён
Іду няспынна ў свой каханы свет.
Іду са звонкай радасцю зямной,
І сэрца ў вольных ветразях імкне.
Бо я там быў.
Бо, вечнае са мной,
Юнацтва пазірае на мяне!

*

Радзіма не забудзе, не пакіне,
Радзіма ад нягод аберажэ.
Алее сцяг
высока ў яснай сіні —
Няма нічога ў свеце даражэй.

Радзіма — і лятунак, і калыска,
Адзіная і ў шчасці, і ў журбе.
Заўсёды, ці далёка ты, ці блізка,
А сцяг Радзімы свеціцца ў табе.

*1966*

## ПЕСНЯ ПРА БЕЛАРУСКІ «АРТЭК»

На возеры Нарач,
На возеры Нарач
Мы спынімся нанач,
Мы спынімся нанач,
    Свяціце нам, водбліскі зор!
Спачатку, як хатку,
Паставім палатку,
Паставім палатку,
Распалім касцёр.

Высокія іскры,
Шумлівыя іскры
Гірляндай маністаў,
Вязьмом прамяністым
    АзорАць нам суцемкі рэк.
І ўспыхне на ўзлессі
Вячэрняя песня
Пра наш беларускі
Вясёлы «Артэк»!

На возеры Нарач,
На возеры Нарач
Імклівую мару,
Прыгожую мару
    Мы з песняй у заўтра пашлём.
Бягуць нашы сцежкі,
Вядуць нашы сцежкі
У шчасце сустрэчы
З вялікім жыццём.

Матуля Радзіма,
Матуля Радзіма,
З табою, любімай,
З табою, любімай,
Мы здзейснім бацькоўскі наказ.
Бо мы — піянеры,
Бо мы — піянеры.
Бо Леніна сэрца
У сэрцах у нас!

*1966*

## ЛЯСНАЯ РАДАСЦЬ

На бярозцы над палянкай
Дом зрабіла берасцянка.

У траве, дзе скрозь цянёк,
Меў куток лясны канёк.

А над імі — спеў лагам
Пасылала івалга.

Вось было дзе ўцехі ранкам!
Як засвішча берасцянка,—

Ёй з лаўжыны недалёкай
Так адкажа валавока,

Так зальецца, так зазвоніць,
Што аж дзівіцца сасоннік,

А разбуджаны ляляк
Ціха сядзе на кругляк

Ды пытае: «Што за крык?
Хто тут ёсць? Уік-уік».

— То не крык! — Канёк смяецца.
І ніяк не напяецца:

— Я — канёк. Я тут вось, тут,
Я люблю свой родны кут,

Усю ў радасці зямлю
Я люблю, люблю, люб-лю!..

Толькі івалга часамі,
Бы не згодная з сябрамі

Ці пакрыўджаная некім,
Свісне з жаласцю жалейкі,

Так у спеве засмуткуе,
Узнясе журбу такую,

Што нат волаты-дубы
Затрымцяць ад той журбы.

Вось тады ўсе птушкі з песняй
Устаюць па ўсім узлессі,

І гучыць з вяршынь і долаў:
— Не патрэбна нам туга!
— Будзь вясёлай,
Будзь вясёлай,
Івалга,
Івалга!

*1966*

* * *

Чым ты мне пахнеш,
зямля,
пакінутая і забытая,
Вішаннік з колкім малліннікам,
што на чорным дворышчы
выраслі?

Ніколі і нідзе на свеце
Не адчуў бы, мусіць,
Столькі суму.

Расхінеш абрасянены куст —
і ўдыхнеш пах дзявочых кос,
Прысядзеш
на збітым печышчы —
і хлебным духам
да слёз прачулішся.

А вецер
Гудзе над табою
Са смехам і плачам,
Што тут
праз усё жыццё гучалі.

І хочацца крыкнуць у свет:
о людзі,
о браты мае родныя,
Не рабіце ніколі нікому зла,
не кідайце развалін і папялішчаў!
Бачыць
Зямлю пакінутую і забытую
Балюча
і горка-страшна...

*1966*

* * *

Вандроўніка не будзі. Няхай спачывае,
Паклаўшы галаву на далонь.
Ён сам праз сон заўжды адчувае,
Калі патухае агонь.

І ні сон яму ніякі не сніцца
Пра імжу ці пра буру ў лясах.
А чуе вандроўнік,
як на расніцы
Ападае світання раса.

Дарожнае непаўторнае дзіва.
Ён раптам услухаецца ў цішыню.
І ўсё зразумее,
і праз міг руплiва
Увіхаецца, ўзрушаны, каля агню.

Вось так і ў мяне, і ў цябе, дарагая.
Не кажы мне,
калі разлюбіш мяне.
Колкая песня тады зашугае
І сэрца няшчадна маё краяне.

І я ўстану, як вандроўнік, трывожна
Агонь пачуцця ратаваць ад бяды.
Любая! Прашу цябе: калі можна —
Не перашкаджай мне тады.

*1966*

* * *

Чалавечыя вочы
З думай аб шчасці...
Ці можа забыць іх
Той,
Хто меў шчасце
Іх бачыць?
Схілюся ўстрывожаны,
Цалую адно вока —
Свет, што сабрала яно,
Цалую:
Слёзы і ўцехі,
Мары і крыўды,
І сіняе неба,
Што ў ім застыла,
І ліўні,
Якія над ім грымелі...
І другое вока
Цалую,—
Але якое яно сухое!
Божа!..
Сухое...
Сухое вока...
Якое
Яно
Самотнае!..

*1966*

## РОДНАЯ ШКОЛА

У гэты дом, у ціхі мілы клас
Хацеў бы я зайсці яшчэ не раз.

Хацеў бы за настаўнікам услед
Зачаравана зноў глядзець у свет,

Ад сцен замшэлых, ад хацін сяла
Шукаць сваю дарогу да святла,

Ісці і верыць:
кожны новы крок —
Ёсць новы скарб мой, лепшы мой урок...

*

Матуля-школа. Слаўны, мілы кут.
Маленства я сваё згадаю тут.

Шуміць над ганкам медналісты клён.
Мой даўні дружа, добра помніць ён

І смех, і песні, і бялюткі сад,
І піянерскі сонечны парад,

Настаўнік мне там гальштук павязаў...
Даўно было... А ў вочы б'е сляза...

*

Бяжыць, як сцюжа, ў скронях сівізна...
Была на свеце звонкая вясна,

І сёння я забыцца не магу,
Нясу ўспамін пра радасць і тугу,—

Настаўнік мой, ты мой прарочыў лёс,
Я першы верш свой да цябе прынёс,

І ты сардэчна шчасця зычыў мне,
Вучыў быць сынам роднай старане.



У гэты дом, у ціхі мілы клас,
Напэўна, я зайду яшчэ не раз.

Шуміць тут сёння новая сям'я.
І школе роднай пакланюся я.

За ўсё, чым для мяне яна была,
За ўсё, што на жыццё з сабой дала,

За ўсё, што, праслаўляючы свой век,
Мне даў настаўнік — мудры чалавек.

*1966*

## ПРЫСЯГА

Салдатам, у страі, перад паходам,
Яшчэ вясковы хлопец малады,
Я прысягнуў Радзіме і Народу,
Аднойчы прысягнуў і назаўжды.

Я прысягнуў пад родным сцягам алым
Сваёй зямлі шчаслівы мір здабыць,
Якая б мяне сіла ні ламала —
Быць непахісным і нязломным быць.

Я прысягнуў над баявою зброяй,
Пад навальнічным посвістам вятроў,
Што калі смерць — дык упаду героем,
Заўсёды варты вернасці сяброў.

Я прысягнуў, і кроў мая звінела,
І грудзі наліваліся агнём,—
Што калі жыць —
                    дык радасна і смела,
Каб мог сустрэцца з пераможным днём.

Прысяга толькі раз навек даецца.
Таму такая моцная яна.
Таму і сонца ззяе, і дзіця смяецца,
І полем крочыць ясная вясна.

І кожны дзень мне словы той прысягі
Гучаць у сэрцы,— клічуць кожны міг
Ісці к вышыням новым без развагі,
Быць не апошнім між сяброў сваіх.

*1966*

## СЭРЦАМ — СВАЙМУ І МАІХ СЯБРОЎ

Сэрцы заклапочаныя,
Стомленыя, шчырыя сэрцы,
Непадкупныя сэрцы,
Без падманаў, ганьбы і плям!..
Колькі вы болю зведалі!
Часам нават не верыцца:
Кожны дзень пад пагрозамі
Вывадаў і кардыяграм.

О, як бы зняць гэту муку!
Як бы на ўсё забыцца!
Як жа гэта няўмольна:
Рабіць, рабіць, рабіць...
Ці крыўдзяць цябе —
Грукай,
Ці хлусяць —
Не можаш спыніцца,—
Ні на міг не пакідай
Вучыцца —
Ненавідзець
І ўсё ж любіць...

Сэрцы заклапочаныя,
Стомленыя, шчырыя сэрцы,
Ведаю,
як вам нялёгка,
Колькі ў вас болек і ран.
Але прашу вас, любыя,
Не зайздросце
не вашай мерцы,
Не чакайце
таго прыстанку,
Дзе ўтульнай немачы зман.

За вячыстымі гмахамі часу
Крывёй
Набрынялі вуліцы.
Недзе нож хтось хавае злачынны,
Недзе выбухі б'юць у прасцяг.
Нехта недзе хлуслівa шэпча.
Нехта недзе, як злодзей, туліцца.
Нельга, нельга вам,
сэрцы, здавацца!
У вышынях лунайце, як сцяг!

Вам нялёгка,
вы — воіны веку.
Вам балюча —
ў вас многа працы.
Але пачакайце спыняцца,
Яшчэ не закончаны бой!
Такая вам выпала доля:
З журбою і крыўдаю знацца,
І ўсё ж — перад кожнаю бурай
Свет засланяць сабой!

*1967*

## ІВАНКА

— Іванка, мілы певунок,—
Пытаецца матуля,—
Скажы, ну дзе ты, мой сынок,
Дзень цэлы водзіш гулі?..

Іванка сціпшыўся, ўстае,
Прыўзняты словам ласкі,
І любай маці падае
З рачной затокі краскі.

І добра маці, цёпла ёй
З такой неспадзяванкі.
І песціць шчырай даланёй
Віхрысты чуб Іванкі.

*1967*

## ГОЛАС КРАЮ

Месяца тонкі сярпочак
Глядзіць на залужжа з-пад зор.
Мне сёння расказвае казкі
Над рэчкай
пявун сівы — бор.

Ціхі начлежны агеньчык
Раскідвае іскры далоў.
Я слухаю бор — не ўпусціць бы
Яго́ных нямоўкнучых слоў.

І ярка, нібыта вось зараз
Грымеў, не сціхаючы, бой,
Ізноў паўстаюць, як жывыя,
Асілкі вякоў прада мной.

Асілкі бацькоўскага краю,
Што волю ўсім нам здабылі,
І долю навек падарылі,
І дужыя крылы далі.

Асілкі, якія ніколі
Свой край не пакінуць на здзек,
А ўсюды — з жыццём усім
з намі
У велічы краю навек!

Месяца тонкі сярпочак
Глядзіць на залужжа з-пад зор.
Я слухаю пільна паданні,
Што сёння гаворыць мне бор.

І радасць, жывая калыска,
Гайдае мне думку маю.
І песню пра любасць да краю
Я ўсім сваім сэрцам пяю.

*1967*

* * *

Мы вяртаемся таму,
што нас праводзяць
Вочы мілых,
губы іх і любы смех.
І праменні,
што пяюць гарністамі на ўсходзе
Аб трывожнай радасці
ля родных стрэх.
Мы вяртаемся,—
і ў гэтым ты і ёсць,
Айчына:
Напачатку матчына пяшчотная рука,
Потым соль слязы
адной навек жанчыны,
А пасля — блакіт,
што шле з вачэй дачка.
А яшчэ пасля —
ў запалавелым жыце
Ціхі бор, дарожка,
моху сівізна
І грудок зямлі
ў зялёным аксаміце,
А над ім —
кражыстая сасна...
Мы вяртаемся,
мы ўсе вяртаемся,
Пакуль вочы бачаць сіні краю дым.
І шчаслівыя,
калі, вярнуўшыся, рукаемся
З клейкай смолкаю
Ці з вербным коцікам рудым...

*1967*

## ЛІГА

— Чайкі, чайкі,
На плечыкі на мае сядайце,
Прынясіце мне буру, чайкі,
Хай мяне морам абвее!..—

Па пясочку
жоўтаму, плыннаму
Бегае хлопчык,
пяе па-былiннаму
На ўзмор'i,
Дзе вецер сiнее.

— О, Лiга, Лiга! —
Плача над хваляй сiвы ветэран.—
О, Лiга, Лiга,
Чаму так баляць рубцы маiх ран?
О, Лiга, Лiга,
Вярнi мне сiлу!
Як зямлiцу мiлую
Ты поiш сокамi,
Напаi мяне радасцю,
Зрабi юным!..

А навокал —
звiняць дзюны:
Самыя прыгожыя дзяўчаты
На беразе мора,
Самыя дужыя хлопцы
Вянкi iм дарадь,
Самыя лепшыя словы
Табе, Лiга:
Табе — святу лета,
Табе — святу сонца,
Табе — святу сэрцаў,
Песеннае Лiга.

Iду па беразе,
Нясу ў душы папараць-кветку.
Чароўную кветку зямлi роднай
Нясу сябрам.
Латвiя!
На мове сваёй
Перадай маю радасць
палям светлым,
I мору сваiму, i сваiм вятрам.

На пясочку жоўтым —
Вянкi кляновыя,

І аер пахкі —
Быццам з мора, шуміць ля ног.
О добрая Латвія!
Нельга не славіць дні тваe новыя —
З клічам сённяшняй песні
І з рэхам мінулых дарог.

Лагодная Латвія
І суровая Латвія,
Як я прашу цябе сёння
прыняць мяне шчыра ў сыны!
— Ліга! —
Крычу на беразе мора.
— Ліга! —
Не збаюся ні скрухі, ні гора.
Толькі дай мне, Ліга,
Любасць і мудрасць тваёй стараны!

*1967*

# СЛЁЗЫ РАДАНЫ

**Паэма**

Я не пясняр сівых паданняў
І заімшэлай старыны;
Былых стагоддзяў
цені-здані
Не заплывалі ў мае сны;
Які там небудзь княжы пояс
Ці аскалепкі гладышоў,
Што мой зямляк Палікарповіч
У вапне над Сажом знайшоў,—
Мяне цікавілі не многа
(Хай мне даруюць гладышы)...
Але сардэчная трывога,
Але жывы агонь душы,
Каханне, мары і надзеі,
Любоў да бацькаўскай зямлі,
Што праз нягоды й буравеі
Ка мне ад прадзедаў дайшлі
Ці то ў легендзе, ці то ў песні,—
Мяне хвалююць кожны раз...

*

І, як далёкае прадвесне,
Мне паўстае далёкі час.
І бачу я і ганаруся,
Што й продак мой
у даўні век
Перад чужынцамі не гнуўся,
Не адступаў ад родных рэк,
Умеў любіць і ненавідзець,
Умеў для дружбы дарагой
Як трэба
смерць сустрэць на дзідзе...
Быў чалавекам продак мой!
І з ім сваю я роднасць чую,
Ці смех, ці гнеў нясу ўваччу,
Ці ляда новае карчую,
Ці перад крыўдай не маўчу,
Ці шчасця другу я жадаю,
Ці меч за край свой узніму —

Заўсёды
          роднасць адчуваю
З сваім я продкам!
                    І таму
Мяне хвалююць яго справы,
Хоць і далёкія яны;
Але часамі так яскрава
Паўстанеява даўніны,
Так устрывожыць, што маўчання
Ты не даруеш ні-ані!..
І вось:
          я чуў адно паданне
Пра незнаёмыя нам дні.

*

У краі тым, дзе я радзіўся
(Я з Магілёўскай стараны),
Дзе ў расцяробах Сож разліўся,
Ёсць вёска ціхая — Званы.
Навіс над ёю бор сасновы,
А каля хат і паміж хат,
То там — бліскотнаю падковай,
То там — як срэбраны канат,
Цячэ рачулачка.
                    Ніхто ёй
Не даў імя за ўсе вякі.
Адно мне помніцца: святою
Чамусь яе
          мае бацькі
Лічылі, як і ўсе ў акрузе...
Я не суддзя сваім бацькам —
Старым, ім многае няўцям...
Але красой рачулкі ў лузе
Я захапляўся часта й сам.
Я прычашчаўся прахалодай
Яе крынічнай чысціні
І піў заўсёды
          з асалодай
Ваду яе ў спякоты дні.
У час касьбы прыходзіў часта
З сябрамі я сюды спачыць.
Ляжыш пад вербай пакручастай,
А ля цябе струмень цурчыць,

Вядзе ціхутка свае шумы,
Нясе ў душу
пяшчотны звон —
І так салодка тваім думам
Глядзець у свет, у далеч дзён,
І столькі радасці прачнецца
За гэту шчырую зямлю,
Што ўстаў бы і пры ўсіх, здаецца,
Так і крычаў бы ёй:
«Люблю!..»

*

Дык вось, да гэтае рачулкі,
Дзе як крыло над вёскай бор,
Дзе з-пад зямлі крыніцай гулкай
Яна выходзіць на прастор,—
Пасля жніва, на Макавея
(Ёсць у старэйшых гэткі дзень),
Хай дождж, хай град, хай сівер вее,
Хай спёка —
тысячы людзей
Брылі і зблізку і здалёку...
Чаго яны брылі сюды?..
Адны ішлі шукаць палёгку
Ад нейкай хворасці-бяды;
Папоўскай хціваю ардою
Здаўна ім кінута хлусня,
Што як акропіцца вадою
З рачулкі той на золку дня
(Аддаўшы грошы, безумоўна,
Папу ў бяздонную кішэнь)
Сляпы —
дык зноўку ў дзень цудоўны
Убачыць сонечны прамень,
Калека — пойдзе, хворы — ўстане...
Тых і папоў даўно няма,
А хто-ніхто яшчэ
ў тумане,
Ўсё верыць байкам тым дарма...
Другія, склаўшы на падводу
Духмяны летні свой багаж —
Гуркі, ранеты, кадкі з мёдам,—
Сюды спяшалі на кірмаш.

А трэція... Іх нават болей —
Дзяўчаты тут і юнакі.
Што ж, вольны дзень... І ім тут воля —
Тут гарманісты й спевакі,
І жаніхі тут і нявесты...
Сустрэчы. Жарты. Шэпты. Смех...
Там хтось ласуецца агрэстам.
Там точыць зубы аб арэх.
Там дзядзька лёгка выбіў корак,
Лье другу спірт:
                    — Святы, брат, на-а!..
Ну, словам, скрозь —
                    людское мора,
Тлум, мітусня і гамана.

*

Такі малюнак мне застаўся
З дзяцінства...
                    Помніцца, не раз
Сюды я з бацькам выбіраўся.
І з той пары па гэты час,
Хоць шмат гадоў прайшло,
                    як рэха,
І маладосць вось-вось міне,
Я не забыў, якая ўцеха
Была тады тут у мяне.
Любіў я —
                    дзе ні прымашчуся,
Ці пад мажарай, ці між дрэў,—
Любіў я слухаць, як у скрусе
Спявалі лірнікі. Іх спеў,
Іх гранне простае збіралі
Нямала шчырых слухачоў.
Пра што старыя ліры гралі
Ў руках сівых барадачоў?
Пра што? —
                    на жаль, не распазнала
Душа ў малы дзіцячы век.
Адно прыгадваю: ўцірала
Бабуля слёзы з сініх век;
Дзявочы смех сціхаў;
                    мой бацька
Дрыготка браўся за капшук;

Круціць цыгарку па-мастацку
Умеў ён; тут жа — як без рук,
Хапаў за брудную паперу...
А я, ўтрапёны, бачыў я
Якіясь здані
у хмарах шэрых,
Агні
над пікамі шчаўя;
Якіясь звонкія парывы
Гайдалі смуткам сэрца мне
З напеваў лірнікаў...
Не дзіва,
Што памяць раптам калыхне
Малюнкам тым, яго журбою...
І пасля музык гарадскіх,
Пасля трамбонаў і габояў,
Пасля канцэртаў зухаўскіх —
Так часам хочацца да слаўных
Мелодый лірных... Што за грэх...
І я ізноў пабыў нядаўна
Ля званаўскіх знаёмых стрэх.

*

Як і ў мінулым,
кірмашовы
Дзень гаманіў на ўсе лады.
І рослы, светлы, чарнабровы
Люд неспакойны, малады
Смяяўся сінімі вачамі,
Гарэў вясёлым макам шчок,
Ішоў — з шырокімі плячамі —
У вальс ці ў родны «Крыжачок»;
Хваліўся жытам, садавінай,
Бяседы ладзіў там і тут,
Дзяліўся радасцю, навінай,
Даваў пашану, ладзіў суд —
Такой прыпеўкай адмысловай
Раз-пораз сыпаў...
— Ну і ну! —
Хто-небудзь скажа...
Адным словам,
Тут знаюць кожнаму цану.
І нездарма, вядома, знаюць,

Бо нездарма на іх грудзях
Гады баёў і працы ззяюць
У ордэнах і медалях;
І калі сіл ім не бракуе,
І радасць ёсць, дык што тужыць! —
Хай кожны бачыць,
                    як святкуе
Той, хто прыгожа ўмее жыць.
І зноў, і зноў гулі баяны,
І пары ў круг ішлі;
                    і зноў
Бацькі глядзелі закахана
На ўдалых дочак і сыноў;
І трэба мне прызнацца шчыра,
Што ў гэтым тлуме дарагім
Забыўся я зусім пра ліры
Свайго дзяцінства.

*

А між тым
Яны былі тут, іх ледзь чутны
Ў вясёлым гуле ціхі стогн
З'явіўся, нібы кліч пакутны
З далёкіх пройдзеных дарог.
З'явіўся ў радасць недарэчна,
Як дысананс у гуках дня,
Як бы аднекуль
                    з цьмы адвечнай
Ішла з ім смутку глушыня.

*

Я кінуў круг гуллівы, шумны
І за шарэнгамі падвод
Убачыў двух сівых, задумных,
Сагнутых лірнікаў.
                    Народ,
Відаць, на іх махнуў рукою,
Ў жыццё праклаўшы новы след.
Адно з слязінай нескупою
Іх слухаў сумны гурт кабет.
Пра што ж, я думаў, ліры граюць?
Што так заплаканы жанкі?

Ах, вось ён, спеў:
— Гой, краю наш, краю.
Чаму ж ты такі?

А ты ж і без хлеба,
А ты ж і без солі,
Адно толькі неба
Ды чыстае поле.
Чаму ж ты нам, краю,
Любы такі?..

Ліры іграюць...
Плачуць жанкі...

Плывуць над табою
Навалы-туманы,
Спавіты журбою
Магілы-курганы.
Чаму ж ты,
наш краю,
Пакутны такі?..

Ліры іграюць...
Плачуць жанкі...

Грымяць на нядолю
Чужыя гарматы.
Гэй, род наш саколі,
Стань братам ля брата,
Збірайце
па краю
Дружыны, сынкі...

Ліры іграюць...
Плачуць жанкі...

*

Было б, вядома, смешна вельмі
Кідаць дакор такім старым:
Маўляў, аб чым гэта
запелі вы!..

Ім, мусіць, лепей знаць —
аб чым.
Яны свой век не ў сне наіўным,

А ў грознай яве пражылі...
Але было ўсё ж трохі дзіўна
На гэтай радаснай зямлі
Сярод святочных спеваў, скокаў,
Дружыць з якімі край мой звык,—
Было ўсё ж дзіўна чуць
далёкай
Тугі
Глыбокі немы крык.
Крык, ад якога твары жоўклі,
Крык, што з слязой не пракаўтаць.
І я не мог — як ліры змоўклі —
Аб ім старых не запытаць.

*

Не буду зараз слова ў слова
(Не надакучыць хоць бы вам!)
Перадаваць усю размову,
А ўсё ж што-кольвек перадам.

Першы лірнік

А ты адкуль, саколе, родам?
Адсюль?

— Адсюль, мы землякі.

Другі лірнік

Радзіўся тут?
Ці мімаходам?
Мо недзе блізка сваякі?

— Радзіўся...

Другі лірнік

Га?

Першы лірнік

Гучней, саколе!
Больш ста яму, на слых слабы...
— Радзіўся тутака,
за полем
Вунь вёска: над Сажом дубы!

Другі лірнік

З тае ты вёскі?.. Эх, юнача,
Дык хіба ж змалку курганоў
Ты над Сажом не бачыў?

— Бачыў!

Першы лірнік

Народных многа спіць сыноў
У курганах тых...
Хоць чужацкіх
Шмат болей палягло ваяк,
Ды ля сваіх магілак брацкіх
Нам не пазбыць тугі ніяк.
Вось і згадалі мы сягоння,
У светлай радасці,
пра іх...
*(Паказвае на другога лірніка.)*
А песню нашу ён запомніў
Яшчэ з малых гадоў сваіх —
Бацькі спявалі...

Другі лірнік
*(напявае, граючы на ліры)*

Б'е крыніца,
Бяжыць рачулачка, бяжыць.
А ці каму хаця прысніцца,
Як многа сэрцаў тут ляжыць...

— А пра якія сэрцы згадка?

Першы лірнік

Эх, не такенькі гэта сказ...
Не просты і не блізкі,
братка...
А сказ пра дужа даўні час...
Іване!

Другі лірнік
*(глядзіць запытальна)*

Першы лірнік

Ўдарым мо па струнах?..
Ці ўжо стамілася рука?..

Другі лірнік

Га?..

Першы лірнік
*(моцна крычыць)*

Можа, ўспомнім аб мінулым?
Спяём пра славу Петрака?..

Другі лірнік
*(трохі падумаўшы, пад звон ліры напявае)*

Эх, слава, слава...
Сілы б'юцца...
А груганы іх кроўку п'юць...

Першы лірнік
*(узрадаваны, голасна пяе)*

Паслухайце, пачуйце,
людцы,
Пра што вам ліры прапяюць!..

*

Даўно было —
з тае часіны
Мінулі сотні зім і лет —
На край наш родны,
край Айчыны,
Напаў ліхі чужынец-швед.
Ваякаў вёў кароль-ганора,
Задзіра Карла, хцівы кат.
І многа ён бяды і гора
Прынёс да ціхіх рускіх хат.
Нямала вёсак пагарэла,
Нямала склалася галоў,
Нямала рэчак папаўнела
Ад слёз сірот, ад плачу ўдоў.
А думаў Карла —
ох і злыя
Ён думкі ўзяў у галаву! —
А думаў ён скарыць Расію,
Разбіць, навек забраць Маскву.
І рушыў Карла з грознай сілай
Да наскіх пушчаў і палёў —
Яшчэ й цяпер відны магілы,
Дзе ён ішоў на Магілёў.

Жыла ў тым Карле смерць ліхая,
Што ўсё губіла без крыжа.
А да яго ваўчынай зграяй
Ішла падмога. Ля Сажа
Глухой дарогай лесавою
Спяшала —
дзе найкарацей.

*

І вось тады наш край,
як воін,
Сустрэў няпрошаных гасцей.
О людцы, дзеці Беларусі!
Дачушкі нашы і сыны!
Заўжды, калі чужак імкнуўся
Да сэрца роднай стараны,
Заўжды і ўсюды,
скрозь, спрадвеку
Бярог народ святы хаўрус:
Заўсёды з рускім чалавекам
Ішоў на подзвіг беларус.
З дзяцьмі Расіі —
што б ні стала —
Ішоў заўсёды русы люд
За край —
зямельку, што люляла
З малых гадоў:
За родны кут,
За стрэх цяпло, за дуб пахілы,
За жураўліныя ключы,
І не было такое сілы,
Каб сэрца з сэрцам разлучыць.
Жалейка звонкая гукала,
І ліра клікала на бой.
Пакуль варожая навала
Гняла бядою і журбой —
На бой, на бой!
За мужам, сынам
Ляцеў жаноцкі боль услед.
І так было вось той часінай,
Калі гразіў Расіі швед.

*

Вось тут, дзе спіць зачаравана
Цар-дуб, дзе бор пабег радзей,
Калісьці з жонкаю Раданай
Жыў селянін, пчаляр Аўдзей.
Для ўсіх на свеце закаханых
Услаўце, ліры,
                    любых свет!
Любіла добрая Радана
Зялёны луг, мядовы цвет,
Любіла хатку пад дубамі,
Чатыры смольныя сцяны.
А хатку вішні абкружалі,
А іх — асілкі-валуны,
А на дубах — вуллёў калоды,
Залётны грай, званлівы гуд.
Прапах і верасам і мёдам
Паміж лугоў баровы груд,
Прапах, пяе —
                    звіняць прасторы,
Зямля лятункаў і надзей...
І грэх успомніць тут пра гора!..
Ды нешта хмурыцца Аўдзей...
Ды нешта сёння
                    ўстала рана
Радана,
          ціхая ў журбе...
Чаго ты сумная, Радана,
Што растрывожыла цябе?

*

Радана чуе: недзе коні
Іржуць — аж рэха за Сажом.
А што за покліч за балоннем?
А кліч на мове на чужой?
Глядзіць Радана —
                    нават пчолы
Нібы стаілі галасы.
Чамусьці кружаць навакола,
А не ляцяць на верасы.
Задумны лес гамоніць глуха,

Здаецца,
журыцца і ён.
Што ты, мой лес, няўзнак падслухаў?
Што там за грай? А што за звон?
Радана чуе: халадзее
Душа ў самой —
чаго той боль?
І кліча, сумная, Аўдзея,
Трывожна слухаючы бор.

*

Радана

Аўдзей! Мой любы!

Аўдзей

Што, Радана?

Радана
*(бачыць у руках у Аўдзея старую дзіду)*

Ты дзіду ўзяў?

Аўдзей

. . . . . . . . . . . .

Радана

Нашто, скажы?
Як хвалі ў буру разгайдана
Грымяць і б'юцца на Сажы,
Так маё сэрца б'ецца, любы,
Мне страшна.

Аўдзей
*(абдымае Радану)*

Я заўжды з табой,
З табой, Радана!..
Але трубы —
Ты чуеш — трубяць? Гэта — бой.
Пачаўся бой. Прыйшоў чужынец.
Зямля ахутана ў тугу.
Радана, любая,
павінен
Там быць і я.

Радана
*(журботна)*

Я не магу
Трымаць цябе...
Ды толькі помні:
Няма ў мяне нікога больш
На свеце.
Ранкам і ў сутонне
Адна схілюся пад журбой.
«Аўдзей! — гукаць, мой любы, стану...—
Аўдзей, нашто мне жыць адной!..»

Аўдзей

Не трэба, любая Радана...
*(Абдымае Радану, цалуе.)*
Ці след жалобнаю струной
Байца ў суровы шлях праводзіць?..
Глядзі — іду я не адзін.
Бывай... Пяе зара на ўсходзе...
Завуць сябры...

*

І ў покліч дзід
Пайшоў Аўдзей,
прапаў за лісцем.
І вось Радана ўжо адна.
Дзе тая радасць, што калісьці
З каханнем ёй дала вясна?
Дзе ўцехі мілыя? Як быццам
Іх не было. Усё як сон.
Адкуль ты, гэта навальніца?
Адкуль слязы пякучай соль?
Стаіць Радана, суму поўна;
Ці чуеш ты, Аўдзей? Аўдзей...
Якім заўсёды ёй чароўным
Быў родны свет і кожны дзень,
І як жа сёння хмурна стала
Наўсцяж, куды ні пазірні.
Там, дзе галубка вуркатала,
Дзе пчолкі пелі ў цішыні,—
Там дзідаў звон нясе гасцінец,

І дым плыве за небакрай.
Там сёння бой,
там злы чужынец
Ірвецца вытаптаць наш край.

*

А быў тады ў Расіі царам
Харобры воін цар Пятрок.
Ля вёскі ціхай,
дзе барок
З рачулкай абабег абшары
Вясковых ніў,—
свае штандары
Паставіў ён і сам салдатам
Каля гарматы першай стаў.
Грыміць і б'е яго гармата,
Снапамі сцеле шведаў стан,
І дух у рускага ўзвышае
Запал геройскі Петрака.
Ды вось бяда:
не заўважае
Ніхто,
Што з дымнага ярка
Атрад варожы воўкам хіжым
Паўзе, бяжыць па хмызняках —
І да гарматы бліжай, бліжай,
І бліснуў меч ужо ў руках,
Вось-вось яго чужак узніме —
І ўдарыць кроў і енк з грудзей...

*

І гэта з хлопцамі сваімі
Убачыў зводдалі Аўдзей.
— Хутчэй! Хутчэй! —
ён крыкнуў хлопцам.—
Наперарэз, наперарэз!..
І ў нечаканай грознай бойцы
Аж застагнаў
вакольны лес.
Усё на свеце знали шведы,
Умелі ўсё: паліць і біць.

Ды аднаго не зналі шведы:
Як можна край вось так любіць.
Не зналі,
Што вясковы, цёмны
Народ, нявучаны, руды
Давеку
песню маці помніць,
З якой пачаў свае сляды,
З калыскі
ў шчырым сэрцы носіць,
Каб і нашчадкам перадаць,
Зіхотны сказ
Пра тую просінь,
Дзе шчасця зорачка відаць,
Сказ пра зямлю,
дзе ўсё — як дзіва,
Дзе ўсё — мілейшае навек,
Дзе з роду ў род
даецца дзіда,
Каб жыў папраўдзе чалавек.

*

Жывая кроў бруіць, ірдзее,
Палеглі хлопцы, бы снапы.
Нямнога іх каля Аўдзея
Стаіць жывых,
Ды, як сляпы,
Не бачыць ён цяпер нічога.
Адно — чужынцы прад вачмі.
Пячэ душу яго трывога:
Каб не прайшлі, каб за плячмі
Не прапаўзлі.
І з дзідай вострай
Ён страшны хцівым чужакам.
Як той асілак,
дужы, рослы,
То тут ён схопіцца, то там
Са шведамі;
жывых гукае:
«Сябры, спыняцца не пара!»
А ў полі ўсцяж імкне, ўзнікае,
Як бура, рускае «ура!».

Гарматы б'юць —
пярун часамі
У рускай чуецца хадзе.
І нібы ў песні — з верасамі
Абняўся з радасцю Аўдзей.

*

Нарэшце сціхла пекла бою.
Ступаў на ногі слёзны змрок.
І загадаў тады Пятрок:
З усіх байцоў, з усіх герояў,
Што шведам тут
далі урок,
Хто ў гэты дзень сваёй адвагай,
Пайшоўшы мужна ў бой цяжкі,
Праславіў гонар рускіх сцягаў
І пераможныя палкі,—
З усіх герояў,
з кім па чэсці
Нароўні толькі што зара,
Знайсці найпершых
і прывесці
Да гасударава шатра.
— О цар! — сказаў тады пачціва
Сівы задумны генерал.—
Усе твае байцы — як дзіва,
Ты сам сабе іх выбіраў,
Нямала пала мужных сэрцам,
І многа іх ідзе ў страі,
Што не збаяліся ў баі
Ні сцішнай роспачы, ні смерці.
Але найпершымі між імі
Былі сягоння,
ведай, цар,
Байцы ў вясковых світках зімных,
Што зберaглі нам твой штандар,
Не зваў ты іх на бой пад сцягам,
А кожны сам
пайшоў у бой
І самай смелаю адвагай
Свой край уславіў, як герой.

*

Пятрок узвысіў зірк арліны
І так сказаў:
— Усіх жывых
Знайдзіце мне —
мой стол гасцінны
Гасцінным будзе і для іх,
З сваіх грудзей адзнаку гэту
Я дам найлепшаму!..
— О цар...
Тваю адзнаку перад светам
Яны б як светлы неслі дар,
Але, як віцязі, на верас
Упалі ўсе —
не разбудзіць.
І толькі вецер
хвіляй шэрай
Іх кудры ціха шавяліць...

*

Пятрок шацёр свой пакідае
І крочыць сумны да барка.
І тут з жальбою разглядае
Байцоў у зрэбных шараках.
Яны ляжалі ўсе, як цені,
Бы з казкі —
волаты дзівос.
І кожны твар у летуценні
Жывым
якісьці заклік нёс.
Але ўсё роўна —
так здалося:
Яны гатовы ўзняцца зноў,
Хай толькі край ажыць папросіць
І ў бой пакліча, як сыноў.
І цар устаў, удзячны люду,
І праказаў байцам сваім:
— Нямала я пабачыў цудаў,
І ўсякіх земляў, і краін,
Ды каб не руская зямліца,
Калыска з песняй аб вяках,
То я хацеў бы тут радзіцца,

На гэтых спаленых пясках,
Зямлі вось гэтай
мужным сынам
Гатоў заўжды сябе ўявіць,
Дзе край свой родны,
край Айчыны,
Вось так умеюць бараніць.

*

І загадаў Пятрок па войску:
Па-над магілай тых сялян
У гонар славы іх геройскай
Высокі высыпаць курган.
І першы сам зямелькі сцюжнай
Сыпнуў з натруджанай рукі.
І ўслед за ім
ахвотна, дружна
Пайшлі славутыя палкі,
І ноч ішлі,
ўсю ноч да ранку —
Як бы задумныя сяўцы.
Ішлі, ішлі бесперастанку
Хлапцы й сівыя мудрацы,
Ішлі салдаты-дабрадзеі —
І рос высока між палян,
Як помнік мужнасці Аўдзея
І ўсіх сяброў яго,
курган.

*

І вось і ноч ужо мінае,
Зара асенняя — як сон:
То зацвіце зямля лясная,
З нябёс —
маліны пырсне сок;
То захінецца хусткай цёмнай
Пад жоўтым роздыхам бяроз,
Нібы блукае хтось
бяздомны
Ды басанож па слёзах рос.
Не спіць Радана. Сэрца ные.
Ледзь дачакала ў скрусе дня.

І раптам чуе: цішыня...
Узлескі, далі барвяныя
Як бы заткала глушыня...
Так яе ўчора
дзень палохаў
Трывогай, грукатам цяжкім!
Так ёй хацелася хоць троху
Спачыць душой!
А сёння... Чым,
Чым ёй гняце душу маўклівасць,
Спакой знаёмых зараніц?
Стаіць Радана нематліва,
А сэрца плача, не спыніць:
«На світанні рана, рана
Сцюжыць ножанькі раса.
Толькі я хутчэй устану,
Каб ты глянуў, любы, глянуў,
Як цвіце мая краса...

Ой, Радана ты, Радана,
Ой, ты, русая каса!

Загагочуць гусі ў высях,
Я за імі паплыву.
Дзе ты, любы мой, вярніся,
Без цябе не пражыву.
Як без сонца кветка, звяну
Без цябе ўдалечыні...

Ой, Радана ты, Радана,
Ясны вочы, як агні!

Ой, жаноцкая ты доля —
Праводзіць мужа на вайну.
Прыйдзі, любы мой,
ніколі
Цябе крыўдай не крану.
Я й касу кляпаць навучуся
І атаву пакашу.
А разлюбіш —
пажуруся,
Каб не чуў, пагалашу.
Толькі з бітвы нечапаны
Па сваіх прыйдзі слядах...»

*

Ой, Радана ты, Радана,
Ой ты, ціхая бяда!..
Ходзяць думкі несціхана,
Быццам хмарак чарада...

*

Так захліпалася Радана
Пад колкім золакам журбой.
А ціш нямая
раным-рана
Яе трывожыла ўсё больш.
Ах, быццам нейкай страшнай ранай
Душу яе краіў спакой!..
І раптам
крыкнула Радана,
Як чайка ў буру над ракой,
І раптам
кінулася сустрач
Нясмелым першым прамяням,
Цераз лугі, па сініх пустках
Азёр, адданых туманам,
Цераз раку, цераз дубровы —
Як бы ёй нехта крылле даў —
Туды, дзе ўчора
бой суровы
Аж да змяркання грукатаў.

*

Прыбегла бедная Радана
У самы рускіх войскаў стан,
І з млосным енкам зарыдала,
І цяжка ўпала на курган.
Хто ёй сказаў, якая сіла,
Што тут ён, тут, яе Аўдзей?
Упала горка і бяскрыла,
Без спадзяванняў і надзей,
І білася аб груд кургана
Ў палоне жальбы і тугі.
І войскі ўсе перад Раданай
Схілілі сумныя сцягі.

І сам Пятрок у задуменні,
Як быццам чэсць ёй аддаваў,
Стаў перад ёю на калені
І ў светлы лоб пацалаваў;
Затым падняўся,—
як паходня,
Свяціла сонца з-за ракі.
Зямліцы наскай, нібы роднай,
Сказаў Пятрок:
— Жыві вякі!..
І войска ўзяў, расхваляваны,
І рушыў з ім у свет, удаль,
Адну пакінуўшы Радану,
А з ёй — яе тугу і жаль.

*

Пайшлі палкі. Зямля памалу
Скідала боль з дарог, з палос.
Адно Радана ўсё рыдала,
Усіх не выплакала слёз.
Прасіла вочанькі:
шукайце,
Дзе яго ножанькі прайшлі.
Прасіла ручанькі:
капайце,
Вярніце любага з зямлі.
Прасіла сэрцайка —
навекі
Аддаць сваю Аўдзею кроў.
Прасіла дзень —
жывыя лекі
Прынесці з пожняў і бароў...
Як маці, восень залатая
Сама хінулася да плеч.
І дзень мінуў,
і ноч другая
Прайшла і ўжо ступала прэч,
А засмучоная Радана
Усё аплаквала свой лёс.
І зазвінела
ля кургана
Крыніца-рэчка з яе слёз.
Бясконца, як туга ўдавіцы,

І сіня, як нябёсаў сінь,
Ударыла з зямлі крыніца
Жывымі сонцамі з глыбінь,
А з сонцаў тых
рачулка ўзнікла
І ўніз пабегла да лугоў,
Дзе Сож —
як дзед унучцы, звыкла
Штось гаварыў ёй з берагоў.
Глядзеўся свет замілавана
Ў рухомы люстраны блакіт...
І раптам крыкнула Радана —
Яшчэ раз горка і наўзрыд,
Яшчэ раз рукі заламала
І, дзівам дзівячы той кут,
Зязюляй жаласнаю стала,
Журботна кінула:
ку-ку...

*

Чароўны край,
цудоўны, наскі!
І нездарма
заўжды-заўжды
Ад першых сноў,
ад першай краскі
Зязюлі лічаць нам гады.
Нідзе не чутна ў свеце, мусіць,
Людзям такой жывой тугі,
Як тут,
у краі Беларусі,
Калі абудзяцца лугі,
Калі зязюлі з бору, з гаю
Крычаць да позняе начы.
Як бы для сэрцаў адмыкаюць
Дарогі ў мары
іх ключы.
Але адна з усіх зязюляў —
Паверце лірам, чулі мы,
І неаднойчы людзі чулі —
Крычыць
з вясны і да зімы.
І ўзімку нават чуць, магчыма,

Зязюлін кліч,
Як слёзаў ком,
Тут,
над крыніцай гэтай сіняй
І над курганным хмызняком.
І кажуць людзі, што ў тых далях
Не сціхне ён да той пары,
Пакуль сціскае сэрца жалем
Ад сцішнай скрухі на зары,
Пакуль па любых
слёзы льюцца,
Пакуль ахвярнасць ёсць і боль.
І будуць вечна,
верце, людцы,
На свеце вернасць і любоў!..

*

Замоўклі ліры. Над старымі
Сціхаў былых вякоў адчай.
Маўчалі людзі перад імі.
І я у роздуме маўчаў.
І ў цішы той
так гулка біла
Крыніца з доннай глыбіні,
І рэчка звонкая бруіла
Струмені слёзнай чысціні,
Што сэрца верыла:
вось зараз
Радана ўстане між людзей
І крыкне голасна ў абшары:
«Вярніся, любы мой Аўдзей!»
Папросіць вочанькі:
шукайце,
Дзе яго ножанькі прайшлі.
Папросіць ручанькі:
капайце,
Вярніце любага з зямлі.
Папросіць сэрцайка —
навекі
Аддаць сваю Аўдзею кроў.
Папросіць дзень —
жывыя лекі
Прынесці з пожняў і бароў.

І думаў я: дык вось чаму так
Завуць тут рэчачку святой.
Ад веку ў век лунае смутак,
Раданін смутак па-над ёй.
Ад веку ў век, ад сэрца ў сэрца,
Ад нашых пушчаў і сцяжын,
Не баючыся нават смерці,
Ідзе аб вернасці ўспамін.

*

І думаў я:
　　　　　　ніхто на свеце
Так не любіў сваю зямлю.
— Люблю! — і я крычу праз вецер.
Пад гукі лір крычу: — Люблю!
Не трэба золата, ні срэбра,
Ні найсалодшае маны.
Адна мне ты
　　　　　　павек патрэбна,
Адна — ад сонца і вясны,
Адна — ад любасці і веры,
Адна — ад шчасця і тугі.
Зямля мая, лугі, аеры,
Лясы, курганы, берагі,
Агні, дарогі, даль жывая,
Шляхі, сяброўская рука.
Зямля, дзе ўсе мы —
　　　　　　　　долі хвалі,
Дзе ўсе мы, ўсе —
　　　　　　　　жыцця рака.
Зямля, што самым светлым знакам
Свой крэсліць след жыццю ўсяму...

Зямля, дзе ёсць каму паплакаць
Па нас. І ўспомніць ёсць каму...

*1967*

## РУЧАІНКА

Дзень і ноч
На лугу
Не маўчыць, булькаціць ручаінка:
— Я спяшаю, бягу
Ад матулі —
крынічкі-жывінкі.
— А куды ты? Чаго?
Да каго? —
бор пытаецца строга.
— Я да свету ўсяго,
Бо нясу з сабой любасці многа.
Караням, і траве,
І дубам, і аерам, і краскам —
Хай у шчасці жыве
Любы свет! —
я нясу сваю ласку...
Бор задумна загуў
Кожным лісцікам, кожнай галінкай.
Нібы ўнучку сваю,
Прыхіліў да сябе ручаінку.

*1968*

## ЗІМАЗЕЛЛЕ

*Н. І. Пшырковай*

Вунь ізноў паляна сонцам грае.
Дні вясны гаі ў лісцё адзелі.
Ад зімы зямля яшчэ сырая
Шчодрым сокам поіць зімазелле.

Зімазелле, чуйны бляск лісточкаў,
Ні прад кім не выхваліцца з ценю.
Пакуль прыйдзе ў цёплы гай з кіёчкам
Чалавек, адданы летуценню.

Прыйдзе шчыры,
як калісьці прашчур,
З чарадзейным вынашаным словам.
Прыйдзе сінім позіркам аблашчыць
Залаты зацішак вечаровы.

Вось тады ўстаюць лісточкі: чуем!
І гарыць вясёлка ў кожнай зёлцы.
Чалавек находзіць, навяшчуе
І збярэ ўсім людзям па вясёлцы.

І ў зіму, ў часіну лютай слоты,
Калі сэрца сціснецца жальбою,—
Толькі крыкні — і паміж сумётаў
Развінецца лета над табою,

На прытульнай вуліцы на светлай
Выйдзе з хаты чараўнік, як з келлі,
І падасць, каб выпіў перад светам
Зелле ажыўлення —
зімазелле.

*1968*

* * *

Застанецца толькі гэта
Назаўжды і да канца:
Водар сонечнага лета,
Пах суніц з твайго карца,
Шум разгневанага дуба
Пад маланкай, як мячом,
Ды твой шэпт,
спалох твой любы
З сіняй іскрай над плячом.

Застанецца сум раптоўны
Перад сцежкай баравой,
Сум расстання,
што, як поўня,
Празвінеў па-пад травой,
Застанецца ліст барвяны,
Лёгкі, ў жылках, бы жывы,

З той сцяжыны,
з той паляны,
Дзе, як віцязь, дуб сівы.

Дзеля гэтых скарбаў родных,
Колькі жыў
і колькі мог,
З ціхай зоркай
пуцяводнай
Узыходзіў на парог.
Дзеля іх — з апошняй змогай
І пад кронаю ўздыхну
І, прыкрыўшыся дарогай,
Між карэннямі засну...

*1968*

* * *

Берагу, берагу
Дарагую юнацтва тугу,
Ні то дням, ні гадам
Патушыць яе ў песні
не дам.

Пранясу, пранясу
Успамін пра святую красу.
Пра цябе, пра цябе —
У праменнай
вясновай журбе.

Толькі ты, толькі ты
Адгукнешся з апошняй вярсты
І паклічаш кійком,
Як калісь
залатым касніком...

*1968*

## МАЛАДАЯ РАБІНКА

Маладая рабінка,
Што ў камѐннай цясніне ўзрасла,
А няўжо ты, рабінка,
Сабе ў полі кутка не знайшла?

— Мяне бурай прынесла,
А расціў мяне ласкі ўспамін,
І заўсёды увесну
Ты чаруешся ўборам маім.

Зацвіту на ўсю сілу
І напомню той край табе я,
Дзе цябе нарадзіла,
Ды адна цяпер маці твая.

*1968*

* * *

Мы не бронзавыя, мы не вечныя,
Мы з гаручых касцей і крыві.
Хай жа дзень твой
праменіць сардэчна
Незгасальнаю прагай: «Жыві!»
Пасылаю табе росы чыстыя
І світанкавую цішыню.
Пасылаю лятунак вячысты,
Кліч буслянкі
насустрач дню.
Пасылаю духмяную мяту
І заранкі, ды з неба ўсяго.
Пасылаю ветразь напяты
Дум,
дзе смутку шугае агонь.
Пасылаю рамонкі з поля,
Сіні сон, што прысніўся лясам...
Толькі гору ніколі —
ніколі! —
Да цябе дакрануцца не дам!



Кастусь Кірэенка і Мікола Ткачоў
сярод удзельнікаў фестывалю моладзі ў Магілёве.
1957 г.



Кастусь Кірэенка з братам Мітрошам.
1960 г.

Мы не бронзавыя, мы не вечныя,
Мы з гаручых касцей і крыві.
Пасылаю навек
                    чалавечнасць
З незгасальнаю прагай: «Жыві!»
Пасылаю вясны сваёй дужасць,
Сваю сталасць у ціхай журбе...
Ты ж прышлі мне... няхай хоць і сцюжу,
Толькі з сонцам, што ёсць у табе...

*1968*

## БАЙЦЫ В'ЕТНАМА

Вось так і нас,—
                    успомніце, згадайце,—
Звяругі-каты кідалі ў агонь.
Не! Не! І праз вякі не забываецца
Пакутны боль Радзімы дарагой.

Вось так і мы,—
                    нашчадкі, ганарыцеся! —
Ішлі на смерць, каб жыў у сонцы свет.
Ішлі, як рыцары, ішлі, як віцязі,
Як проста дзеці —
                    на бацькоўскі след.

Байцы В'етнама, мне ваш сум вядомы,
Бо гнеў такі насіў я ў сэрцы сам.
І мужнасць,
                    што не хіліцца пад громам,
Калісь і ў нашых выспела лясах.

Яна навек, для ўсіх нашчадкаў выспела,
І між людзьмі нікому не забыць,
Што свет — адзін,
                    плыве маленькай выспай
Праз акіяны ласкі і жальбы.

Таму і вы, хоць подзвіг ваш нялёгкі,
Адчуеце — ён іншым быць не мог.

Бо гэты подзвіг —
тых лятункаў крокі,
Якім не жыць без славы і трывог.

У міг, калі крывавых катаў зграя
Скіруе ў скронь халодны бліск ствала,
Мой сябра, знай,— і я там паміраю,
Каб вера ў сонца чыстае жыла.

*1968*

## СКАЗ ПРА МАТУЛІНА СЭРЦА

У гарачае сэрца, у сэрца матулі
Білі бомбы варожыя і варожыя кулі,
І палілі, і ранілі матуліна сэрца,
Каб змаглася матуля, скарылася смерці.

Але ўсё маці вынесла, ўсё сцярпела —
За сыноў сваіх мілых, за іх дужасць
і смеласць,
За дарогі іх светлыя
ў добрую славу,
За вяртанне іх, любых,
на родную лаву.

Перад сэрцам матуліным, перад марай матулі
Спарахнелі варожыя бомбы і кулі,
Нібы ветрам, развеяла лютую зграю,
Тую сілу варожую, што гразілася краю.

Плыве сонца ў блакіце, усім свеціць зіхотна,
І сыны абнімаюць матулю пяшчотна.
Не збаіцца ніхто самай лютае смерці,
Пакуль кліча ў жыццё нас
матуліна сэрца.

*1968*

## ЛЕНІН РАДЗІЎСЯ ДЛЯ ЎСІХ

Ленін радзіўся, калі крыгалом
Край вызваляў ад зімы.
Днём гэтым будзіць раскованы гром
Кожны закутак нямы.

Ленін радзіўся, калі ў вышыні
Цёплая сцелецца сінь.
Днём гэтым сонца нясе,
як з сяўні,
Зерні святла для краін.

Ленін радзіўся, каб вечна гады
Дні абнаўлялі і час,
Ленін вялікі
прыйшоў назаўжды
Ў сэрцы —
для кожнага з нас.

Ленін радзіўся для ўсіх —
і для тых,
Хто яшчэ прыйдзе ў свой век.
Ён — тая вечнасць,
што ў справах сваіх
Творыць змагар-чалавек.

Пройдуць часы, многа дзён адплыве,
Толькі не сціхне як гімн:
— Ленін радзіўся, Ленін жыве,
Заўтрае нашае з ім!

*1968*

## ЛЕТНЯЯ РАПСОДЫЯ

Неўгамонная птушка івалга,
Птушка івалга ля майго акна,
Што ты жалішся, птушка івалга,
Дзень і ноч: «Я — адна, адна»?

Я ўстаю —
яшчэ туманы ў лугах,
І на смолках дыміцца світанку сок.
Івалга, івалга, журботніца івалга,
Нездарма ты выбрала мой лясок.

Нездарма рассыпала, пяюха івалга,
Малінавыя слёзы на мае сляды.
Я таксама адзін,
птушка мілая,
Пазіраю ў сціхлыя свае гады.

*

А дзе ж гэта было?
Дзе было?
Ой, за дубровы сінія
Лета плыло.
Плыло лета,
У краскі адзета,
За шляхі жураўліныя,
За бярозы белыя...
А там — пад журбой арабінавай
Песня нясмелая.

«Капаў хлопец крынічачку —
Вады не дастаў.
Дзе ты, Ясю?..»
Па-над Ясем
Бой адгрукатаў...

«А што ж з тае крынічачкі
Арлы ваду п'юць...
Дзе ты, Ясю?..»
Над дзяўчынай
Сумна бубны б'юць...

Вецер трэпле п'яна, груба
Белы-белы шоўк...
Чакала цябе доўга, любага,
А ты не прыйшоў.

Ой, жаль, жаль...

*

«Будзе ў мяне хлеб, і мёд,
І каша густая —
Ды заб'юся, як аб лёд
Рыбка залатая.

Будзе сонейка ў акне
І месячык ясен —
Ды не раз,
не раз
у сне
Крыкну:
«Дзе ты, Ясю?

Дзе ты тое поле дзеў —
Між лугоў, між вітак,—
Дзе калісьці сам хацеў
Сеяць наша жыта?»

*

А ўзрасло у Яся жыта
З асотам, нявеяна,
Узрасло на полі бою
Само, самасеяна.

«Ой, скажы ж ты, жыта,
Суровае жыта,
А ці ўсё ты, жыта,
Зернем наліта?» —

«Ой, я і наліта
І ветрам не збіта,
Ды толькі жняёю
Чамусьці забыта.

Стаю тут, журуся,
Жаліцца баюся,
Бо вось пахілюся,
На дол завалюся...»

*

— Не ўсе лугі пакошаны...
Не ўсе нівы пажаты...
А я ў цябе, родна маці,
Астаўся нежанаты.

— А хто ж табе вінаваты,—
Кажа сыну маці,—
Што збіраўся доўга ў сваты,
Ды не ўмеў узяці.

— А якую ж мне, матуля,
Сёння ўзяць? Скажы ты.
Хто ў суровым маім полі
Сажне маё жыта?

— Бяры тую,— маці кажа,—
А што рук табе не звяжа.
Бяры тую, дарагую,
Што іншых не знала,
Ні па кім не сумавала,
Аднаго кахала.

А як выбераш, сыночку,—
То на век, не меней.
Беражы сваю галубку,
Як той галубеня.

*

То ж было так — на галубку
Напалі галкі чорныя,
Напалі галкі чорныя,
Зладзейкі праворныя.

Скубуць галкі галубку,
Скубуць, насядаюць.
Дзяўбуць у самыя вочы,
З гнязда выкідаюць.

Ой, як кінуўся галубеня
Уратаваць любку —
Як ударыў ён па галках,
А трапіў у галубку.

Пахіснулася галубка,
Пала на калені
І гаворыць са слязамі
Свайму галубеню:

— Дзякуй табе, дружа любы,
Я за ўсё дарую.
Дзякуй табе, не журыся,
Калі і памру я.

Бо я веру, сэрцам веру,—
Сэрцу ўцешна стала,—
Што ў гняздо сваёй галубкі
Ты не ўпусціш галак.

*

А ў нядзелю рана-рана,
Ой, рана, на Йвана,
Выйду ў поле —
мо чакае
Там мая кахана.
Можа, ўбачу, мо пазнаю,
Хоць і пастарэла,
Адзіную, што на шлях мой
З любасцю глядзела.
А ў нядзелю, рана-рана,
Ой, рана, на Йвана...
Што было наканавана —
Бурай раскідана...

*

Журботная пад акном
Івалга-птушка,
Спявай ноччу мне і днём,
Любая пяюшка.

Птушка івалга, птушка івалга,
Шчырая, пяшчотная.
Не кідай мяне ты, мілая,
Хаця б і залётная...

*1968*

## ІШЛІ ВІЦЯЗІ

Ішлі полем, ішлі борам,
Ярам ды лугамі,
Ішлі віцязі паходам,
Маршам пад сцягамі.

Ішлі мірна —
зелянелі
Скаткі, гімнасцёркі,
Цёплай ласкай
палымнелі
На іх касках зоркі.

Ішлі віцязі дадому,
Без крыўды нікому.
Ды напаў на іх чужынец,
Кінуў буру грому.

Ой і быў жа бой суровы!
Свет грымеў вайною.
Сталі віцязі за край свой
Грознаю сцяною.

Пакрышылі чужаніцаў.
Ды ў смутку і самі.
Самы юны, смелы віцязь
Злёг пад верасамі.

Маўчыць віцязь, маўчыць юны,
Не чуе нічога.
Толькі вецер сваю песню
Пяе над дарогай.

— Ой, скажыце вы, героі,—
Пытае іх вецер,—
Што вы скажаце ў паходзе
Ўсім людзям на свеце,

Якім словам, якім сказам,
Якім ладам-строем
Вы раскажаце пра подзвіг
Юнага героя?..

— Мы раскажам у паходзе,
Ведай, дружа-вецер:
Быў герой наш — сынам шчасця,
Радасці на свеце,

І таму — яго надзеі
Жыць не перасталі,
Не захмарацца над сынам
Сонечныя далі.

Баравыя вершаліны
Віцязя вітаюць.
Над магілаю героя
Кветкі расцвітаюць...

*1969*

## СТАРЫ ГВАРДЗЕЕЦ

Боль старыя косці вяжа,
На плячах — гадоў паклажа,
Цяжка падымацца.
А няўтома-сэрца кажа:
— І не смей здавацца!

Ты яшчэ патрэбен людзям,
Паглядзі на свае грудзі —
Як гараць адзнакі,—
Свет ніколі не забудзе
Пра твае атакі.

І ўстае сівы гвардзеец,
І жыве яго надзея,
Што і ён не лішні
Тут, дзе край наш маладзее,
Дзе народ увішны.

Ён паволі выйдзе з хаты.
І адразу хлапчаняты
Да яго гурбою.
Так іх ззяюць вачаняты,
Быццам перад боем.

— Любы дзеду,— просяць дзеці,—
Пабудзь трохі з намі.
Раскажы нам, як на свеце
Біўся ты з панамі.

Раскажы нам пра герояў,
Як ішоў ты з імі...
І заўжды, любой парою,
З сябрамі малымі

Дзед прыпыніцца — згадае:
Як цара скідалі,
Дзе ў баях з самім Чапаем
Яны пабывалі,

Як з фашыстам ён схапіўся,
Як быў партызанам,
Перад катам не схіліўся,
А за край савецкі біўся
Мужна і аддана!..

Ён расказвае і бача:
Хоць сказ і суровы,
Ды як свеціцца ў дзіцячых
У вачах — запал гарачы
З кожным яго словам!

І заўсёды баявая
Радасць б'ецца ў сэрцы:
Значыць, значыць, нездарма ён
Ваяваў са смерцю,

Нездарма ён кроў
на многіх
На шляхах пакінуў:
Ёсць нашчадкі ў Перамогі —
Маладосць краіны.

Ёсць і будзе ў яго змена,
І ў жыцці заўсёды
Будзе, будзе ён нязменна
Воінам народа!

*1969*

## ВЕЧНЫ АГОНЬ

Нам здаецца,
Што сёння нас бачыць уся планета.
Галасы яе чуем
І яе цішыню.
Сэрцы, біцеся,
Сэрцы, хвалюйцеся,
Сэрцы, ўздымайцеся! —
І над подзвігамі,
і над песняй няспетай,—
Сэрцы, грукайце велічна! —
Мы на варце,
На варце
Каля Вечнага ўсталі агню.

Вечны агонь,—
То ён б'ецца павольна,
струменіцца ціха з-пад пліт,
То гудзе кананадаю —
Вырываецца громам з-пад ног.
І заўжды нашы сэрцы,
Здаецца,
Нясуць эстафету
Світання
Ў блакіт,—
Мы на варце —
Ля Вечнага сталі агню,
Мы на варце! —
Над мірам і праўдай
вялікіх дарог.
Добра бачна адсюль
Крэпасць Брэсцкая нам
і сцяна ля Крамля.
І Мамаеў курган,
І шляхі да славутай Сапун-гары.
На Курганах Славы,
На сцежках гневу,
На шляхах радасці,—
Усюды,
дзе наша жыве зямля,
Над усёю Радзімаю —
Вечны агонь
без спачыну гарыць.

Усюды, усюды, усюды,
Дзе вы, добрыя людзі,
пра будучынь светлую марыце,
Дзе ўздымаецца ўпэўненасць,
Дзе не гасне вясна пачуцця,—
Усюды Вечны агонь,
І мы ўсюды стаім на варце.
На варце,
На варце —
Нашчадкі герояў,
Мы на варце
каля Вечнага агню жыцця!

*1970*

## КРАСАВІК

Як дыхнуў на ўзлесак
Цёплы красавік,—
На вачах
з пралесак
Цуд-кілім узнік.

Як дыхнуў на поле —
Пабуйнела рунь.
Вецер на прыволлі —
Бы вясны патруль.

Як дыхнуў на рэчку —
Воды з берагоў.
Водзяць хвалі спрэчку
На хрыбтах лугоў.

Як дыхнуў у мары —
Мараў не стрымаць,
Мала ім абшараў,
Меж для іх
няма!..

*1970*

## ПАВОДКА

Бы гром гарматны, ўдарыў крыгалом.
І бітва за вясну была кароткай.
Глядзі — ужо нястрымна за сялом
На лузе, між грудоў, гудзе паводка.

Аж свішча каля моста ледарэз.
Гарэза-плынь не ведае дакукі.
Здаецца, набліжэў зарэчны лес.
Дубы з далёкіх круч нам цягнуць рукі.

Як любы нам такі чароўны час!
Хутчэй, сябры, на жвірыстыя схілы!
Хутчэй, хутчэй спускай наніз баркас,
Ляці хутчэй пад вецер буйнакрылы!

І вось ужо імчым, імчым між хваль.
І маці ўслед крычаць: «Куды вы? Што вы?»
А нас блакітная ґукае даль.
А нас за небасхіл заве вясновы.

— Матулі!..
Вы нас чуеце ці не?..
— Матулі!
Зразумець вы нас павінны!
Мы вашы,
а належым мы вясне.
Мы з вамі —
і ў прыволлі ўсёй краіны.

Прастор і сонца вызнаем душой,
І вернемся да вас
з тугой салодкай.
І прынясём вам пах Радзімы ўсёй
І пах вятроў —
імклівых, як паводка!

*1970*



Цэлы дзень гуляюць у вайну.
Хто ракетчык горды, хто пяхота...
Паглядзяць старыя: «Ну і ну...
Дзеці... Дзеці... Што ў іх за ахвота...

Ведалі б, як б'е свінец у скронь,
Не шукалі б гэтакай забавы...»

А яны гатовы ўсе ў агонь,
Толькі б паспытаць бацькоўскай славы.

Узрастаюць з мужнасцю бацькоў,
Кожны пра геройскі ўчынак марыць.
Па шляху да слаўных маякоў
Пройдуць праз вятры і бураў хмары.

Калі трэба, калі будзе міг —
Кожны, як Матросаў, як Марат, устане...
І глядзім мы з гордасцю на іх,
І штодня — за мір вядзём змаганне!

Думаю адной заўжды жывём:
Каб вайну гульнёю толькі зналі
Дзеці, каб не стрэліся з агнём,
Пад якім бацькі іх узрасталі.

*1972*

## КАСМАНАЎТЫ

Ходзяць буры дзесь у высях,
Грозяць: сцеражыся!
А савецкія ракеты
Не баяцца высяў.

Бо мацней за ўсё ў сусвеце
Тое, пра што марым.
Абляцеў вакол планеты
Касманаўт Гагарын.

За Гагарыным пад сонца
Чарадою смелай
Аж сям'я арлоў савецкіх
Дружна паляцела.
Што ні дзень —
герой наш новы
Вышыню штурмуе...

Вось таму і хлопчык Янка
Зоркалёт майструе.

Ўсё габлюе ды шрубуе —
Шрубчык за шрубочкам;
Падганяе, падбівае,
Роўніць малаточкам,—
Каб зрабіць ракету моцнай,
Каб была як тая,
Што імклівa дзесь над светам
Сёння пралятае...

Хлопчык скончыў сваю працу —
Ўсё, што меў на мэце.
І чырвоную малюе
Зорку на ракеце.

А малюе — ды на маці
Пільна паглядае.
— Ну, як, мамачка! Ці добра? —
З радасцю пытае.

— Добра, сынку! Добра, любы!
Можна ўвысь узняцца!
Толькі ж сумна мне з табою
Будзе расставацца.

Раптам здарыцца што ў небе?
То ж не ў роднай хаце! —
Гладзіць сына па галоўцы
І гаворыць маці.

— Не сумуй! — ёй кажа хлопчык.—
І не бойся, мама!
Я ж табе адтуль, звысоку,
Вышлю тэлеграму.

Далажу пра ўсё адразу
Ды ўсё растлумачу.
А уключыш тэлевізар —
І мяне ты ўбачыш!..

Хлопчык туліцца да маці,
Ласкаю сагрэты...
А ў вышынях дзесь міжзорных
Ўсё імчаць ракеты.

Смела нашыя героі
Сусвет аблятаюць
І такіх, як хлопчык Янка,
Да сябе чакаюць.

*1972*

* * *

Ах, песні... Вы — мая уцеха.
І боль мой. І мая туга.
І ласка, і ўспамінаў рэха,
І прага жыць, пакуль мага.

Вы — лёс мой, ціхі, шчыры, просты.
Вы — мой узлёт і, мабыць, скон.
Даўно, даўно, пад спеў бярозы,
Я ў сэрца ўзяў ваш вечны звон.

Як лепшы скарб, бярог заўсёды
Жывую родную струну.
І — хай хоць буры, хай нягоды —
З абранай сцежкі не звярну.

Ці сум, ці радасць граюць трубы —
Са мной заўжды ваш вешчы знак!
Іду і бачу край свой любы —
Навек адзіны мой маяк!

*1972*

## КАВАЛАЧАК СТАЛІ

Кавалачак сталі,
Пякучы кавалачак сталі
Суровай часінай
Застаўся ў маіх у грудзях.
Кавалачак сталі,
Грымучы кавалачак сталі,
Даўно і няспынна
Мне спаць не дае па начах.

У цемры трывожнай,
Дзе зоры тугу сваю значаць,
Я чую грымоты,
Я бачу пажараў кастры.
Таварышаў мужных,
Таварышаў верных я бачу,
Іх песню з сабою
Здалёку прыносяць вятры.

І ў гэтыя хвілі
Шчымяць і баляць мае грудзі,
І рану пякуча
Вярэдзіць балючая сталь.
— Таварышы! Хлопцы! —
Крычу, нібы ў вогненным гудзе.—
Прашу вас — не дайце,
Каб я ад паходу адстаў!

Таварышы, хлопцы,
Героі бясконцага штурму,
Няўжо так далёка —
Ужо за легендамі вы?
Прышліце ж, прышліце
Хоць голас мне велічных сурмаў,
Прыміце ж, прыміце
Хоць спеў мой у строй баявы.

Таварышы, хлопцы,
Прашу вас — з любой сваёй далі
Гукайце, гукайце,
Каб сэрцам салдат не зачах...
Кавалачак сталі,

Грымучы кавалачак сталі
Даўно і няспынна
Мне спаць не дае па начах.

І ходзіць трывога,
Бяссонная ходзіць трывога,
У ціхім пакоі
Не можа спыніцца да дня.
І кліча дарога,
І кліча салдата дарога —
Туды,
Дзе няўзятая
Недзе грыміць вышыня.

*1972*

## У ЛЕНІНГРАДЗЕ

У Ленінград трапляеш, як у дом бацькоў,
Дзе ўсё дарэшты ведама з калыскі:
І сцены, што хаваюць гулкі гром вякоў,
І зоркі, што вянчаюць славы абеліскі.

Бягуць імкліва хвалі па Няве,
І салютуе вымпел ім «Аўроры».
А ў позірках людскіх заўжды жыве
Спагада, што калісь пазнаў ты ў горы...

Зарой маленства вее з сініх стром.
Юнацкім сонцам стрэне дзень спаткання.
У Ленінград
Прыходзіш, як у родны дом,
Куды даўно-даўно спяшаў пасля расстання.

Прыходзіш:
— Добры дзень, мой горад дарагі!
Перад табой схілюся, шапку скіну.
У безыменнай велічы тваіх магіл
Тут спіць мой бацька —
што ў Кастрычніку загінуў.

Тут брат мой каля Пулкаўскіх вышынь
І сябра лепшы —
пад аховай манументаў.
І, мусіць, я журуся не адзін.
Па іх суровай песні недапетай.

Але наўкол — жыццё, як звонкі цуд,
Пяе, заве на сонечнай дарозе.
І ведаеш:
цябе, як сына, тут
З пяшчотай маці стрэне на парозе.

Хай не твая, не родная зусім,
Але навек — такая дарагая.
Што, як свайго, трывогай і святлом сваім
Ад грозных бур заўжды аберагае.

І з вераю такой адчуеш зноў і зноў,
Што ты — нашчадак вечных спраў народа.
І ўся Радзіма —
з сонцам і вясной —
З табою ўсюды, і з табой заўсёды

Ідзе ў шляхі, якім зайздросціць свет,
З адвагай непахісных пакаленняў,
Каб выканаць вялікі запавет,
Які вось тут даў чалавецтву Ленін.

У Ленінград
Прыходзіш,
Як у дом бацькоў,
Дзе радасна і палка б'ецца сэрца...
Нідзе так не пачуеш гул вякоў,
Нідзе так не адчуеш гул бяссмерця.

Да шчасця кліча
горда ўзнятая рука —
Ідзі і ганарыся сваім родным сцягам!
І ў словах ветэрана і нашчадка-юнака
Гучыць Радзіме шчырая прысяга!

*1972*

## РАДАСЦЬ

Слаўлю радасць сваю не апошнюю,
Што прыходзіць
Без гучнай парадчасці.
Бачу свет —
І крывіначкай кожнаю
Рады свету
Звычайнаю радасцю.

Рады тым, што рака сёння ўспухла —
Хутка крыгі да волі рвануцца.
Рад таму, што зямля яшчэ круглая —
Можна ў край свой здалёку вярнуцца.
Рады тым, што над роднаю хатаю
Сінь-дымок грэе зоры вячэрнія.
Рад таму, што ў далонях шурпатых —
Да сяўбы
зноў аблашчаны зерні.

Рады тым, што хмурыначку гушкае
Небасхіл для палёў не навалай.
Рад таму, што і сёлета птушка
Зноў мой клён для гнязда ўпадабала.

Рады тым, што ў пачуццях — бясконцую
Чую прагу надзеі сардэчнай.
І што ўсё, што мне люба,— ад сонца,
І што ўсё, што мне люба,— навечна...

*1972*

* * *

Людзі, людзі,
Як я зсумаваўся па вершах!
Па любай працы —
Да агнёвага нерваў біцця...
Пачынайцеся, новыя дні!
Дзень першы —
Рупнасці пачуцця.

Пакаленне маіх Матросавых,
І маіх Фучыкаў, і маіх Гастэлаў,
Пакаленне маёй мужнасці
І маёй жальбы.
Да вас крычу:
— Не шкадуйце сэрцаў забалелых,
Не жывіце — абы...

Памятайце, памятайце,
Памятайце эпох этапы.
Памятайце, памятайце —
Ёсць дзеці і ўнукі ў нас.
Не бачылі яны, не ведаюць,
Як ходзіць па зямлі гестапа,
Могуць і не адрозніць,
Дзе Гімлер, а дзе Фантамас.

Прылізаны і піжоністы,
Схаваўшы нахабнасць лютую,
Выйдзе да іх з ухмылачкай,
Прыліпне ўчарашні кат.

І бывае —
Заместа радасці
Пастукае ў дзверы пакута,
І бывае —
У самае сэрца
Пацэліць атруты зарад.

І тады
пяюць гучныя трубы,
І тады
мы ідзём пахілыя.
І тады
на нашай дарозе
Падымаецца новы грудок.
Да тых, што ўставалі на фронце,—
Яшчэ і яшчэ магілы.
І, як салдат, рыдае
Верша майго радок.

Пакаленне маіх Матросавых,
І маіх Фучыкаў,
І маіх Гастэлаў,
Пакаленне маёй трывогі

І надзеі маёй.
Я знаю:
Часамі цяжка
Нават і мужным, і смелым,—
Пад скрухай страт незваротных
Можна сцямнець душой.

Часамі пячэ сумленне,
Хістае ўспамін далёкі,
А часам гнеў закалоціць —
Як нехта з твайго палка,
Нават і пахаваўшы сына,
Не забывае прыпудрыць шчокі
І для якой-небудзь Мусі
Прыхаваць кветку з вянка...

Я знаю:
                не раз уставала
Туга ў вашых сэрцах збалелых.
Ды ўспомніце, як раўнялі
Мы свой у паходзе строй.
Пакаленне маіх Матросавых,
І маіх Фучыкаў, і маіх Гастэлаў,
Памятайце,
                якая мара
Натхняла нас грознай парой.

Памятайце,
                за крывёй, за пакутамі
Мы чыстую светласць бачылі.
Памятайце —
                светлых нашчадкаў
Мы бачылі ў новых днях.
Дык будзьце ж заўжды гатовыя
З'явіцца ў мары юначыя,
Гатовыя будзьце
                на выручку
Прыйсці
                на сыноўніх шляхах.

І мяне, мае людзі добрыя,
Таварышы, сябры, паплечнікі,
Не забудзьце —
Дыханне вашае
Мне трэба чуць у хадзьбе.

З вамі, між вас —
ніколі
Не збаюся ні бур я сустрэчных,
Ні ў самай суровай бітве
Прыняць агонь на сябе...

*1974*

## КАЛІ Я ЛЯЖАЎ ПАД МЕСЯЦАМ

Калі я ляжаў пад месяцам
І кроў аж сучылася з вен,
Мне снілася,
як маці хлеб месіць
І ў цеста прасейвае кмен.

Калі я ляжаў пад месяцам
І рану заціскаў рукой,
Пачуў я,
як птушаняты песцяцца
У заранчыным гняздзе над ракой.

Калі я ляжаў пад месяцам
І прытомнеў,
я заўважыў,
як збоч
Агністая смолка месціцца,
Што ля мяне прарасла за ноч.

Калі я ляжаў пад месяцам,
Я ўбачыў,
як світанак імжыць...
І, можа, таму пад месяцам
Я і застаўся жыць.

І, можа, таму й не туманіцца
І не хмурыцца мой небакрай,
Што з-пад месяца, з крыві,—
пад раніцу
Вярнуўся я ў родны край.

*1974*

* * *

І лебяда паўз меж, і палыны,
І ад шчаўя гаркавая аскома —
З гадоў маленства
мне былі яны
Прыкметай вернай, што я дома, дома.

І малачай, і пырнік на раллі,
І дурнап'ян пад азяродам спрахлым —
Якою радасцю пяклі,
калі
Аднекуль раптам
з дымам бою пахлі.

Ёсць вабны воблік ружаў, як царыц,
І позірк гіяцынтавы панадны,—
Мяне ж заўсёды цягне ўпасці ніц
Перад мяцёлкай піжмы непрыгляднай.

За ўсе на свеце водары зямлі
Я не аддаў бы водар кураслепа
І тых няяркіх зёлак, што цвілі
За матчынаю хатай, каля склепа.

Даруйце ўцехі сённяшняга дня —
Фіялкі, лаўры, люстры і святліцы...
Жыву душой —
дзе мята ля плятня
І пад акном
бярозаў завушніцы...

*1974*

## УРОК ЖЫЦЦЯ

Шчыруе на патэльні яечня,
паціху сала сквярэцца.
Маці наразае хлеб.
Расчыняе пад сонца акно.
І роздумна прамаўляе:
— Калі вядзецца,

Калі вядзецца,
дык і на трэску прадзецца,
А як сарвецца,
дык не хоча і на верацяно...
Гэта яна так спагадна
Зазірае ў мае хваляванні.
А я, як каліськці з калыскі,
Слухаю
і, здаецца, чуваю свой рост.
І адступаюць з сэрца згрызоты,
як з поля туманок прад світаннем,
Перад матчынай мудрасцю —
На тысячы вёрст.

Ах, як жа мы — думаю —
Прывыкаем насіцца, бы з нейкім цудам,
З кожнай сваёю болькай,
З кожным трымценнем сваім!..
А маці далей:
— Спяшаючы, не вынось прысуды,
Кожны пачатак цяжкі,
але добраму добра ўсюды,
Вялікага дуба не бывае
з карэннем малым.
— Не ступай у пусты след
і памятай:
і сонца не ўсім уладзіць,
Без уверу няма сілы,
А ўпалага і верабей дзяўбе.
Не шукай шкадавання
ў любой спагадзе,
Не той моцны, хто стрымлівае коней,
а хто ўмее стрымаць сябе.

— А яшчэ, сынку:
трэба нахіліцца, каб з крыніцы напіцца,
А яшчэ — да чыстай крыніцы
Сцежка ўтоптана скрозь...
І я зрываюся з месца.
— Мама!..—
І дзіўлюся: няўжо то сніцца?
Як гулка гучыць слова «мама»! —
нібы яго вымавіў хтосьці.

— Мама!.. Мама!..—
і старэнькія рукі цалую.
— Мама!..—
цалую скроні сівыя яе.
— Даруй, любая мама,
за слабасць маю малую.
Прашу цябе:
скажы, што не чула
ні слова пра скаргі мае!..

Маці наразае хлеб.
Падбірае крошкі з абруса.
Ставіць на стол яечню.
Налівае ў карэц малака.
Тады чую:
— Балючай раны, сынок, не дражні,
мудрым будзь, ды не мудруйся,
Узяўся сад садзіць — дык садзі,
не кажы, што нядужа рука...

*1974*

* * *

Ёсць яшчэ дуброва, ёсць паляна,
Ёсць куток зацішны між ялін.
Нібы ў маладосці, нечакана
Можна там пачуць птушыны клін.

Гусі!.. Вось яны... Крычаць пра штосьці...
Кліч з блакіту — сіні сум расін...
Толькі не,
Напэўна,
Ў маладосці
Кліч той не пачулі б мы зусім.

Маладосці больш у вечнасць верыцца.
Маладосць упэўнена заўжды,
Што ў жыцці любое хутка вернецца,
Вернецца! — і лепшым праз гады.

Што́ там нейкі вырай, што́ трывога...
Шчасце сёння ёсць — дык, значыць, ёсць!..
Што ж... Каб не было ў жыцці такога,
Не была б і вабнай маладосць.

Не было б, магчыма, і вось сённяшняй
Гэтай хвілі радаснай тугі
Тут, дзе на паляне нашай сонечнай
Мы ўзышлі на вечныя кругі.

Сіні вырай... Сум з блакіту льецца...
Кліч расстання ў полымі гаёў...
І я чую: сэрца тваё б'ецца
Што ні міг званчэй — як і маё.

І я чую — з роднасцю адзінаю
Сэрцы нашы горнуцца ў журбе.
І, як мне, закутак між ялінамі
Сама страшна страціць і табе.

Гусі, гусі... З болем сугрунёвым
Адплылі за далеч бальшака...
І ў руцэ маёй, як ліст кляновы,
Сцішана трымціць твая рука...

*1974*

* * *

Нарэшце, нарэшце.
    Спаткаў чалавек чалавека другога.
Нарэшце.
        Такога чаканага і дарагога.
І колькі ж сказаць яму трэба...
        Адкрыцца. А мо й павініцца...
Ды сонца ўжо нізка.
Сонца садзіцца.

А сонца такое прыгожае —
        Яснае, свеціцца чыста.
А колькі ў ім мірнасці любнай,
        А колькі свабоды агністай.

А колькі яно абяцае
Пяшчотнасці кожнаю рыскай!
Ды толькі ўжо нізка.
Ах, як яно нізка.
Як нізка!

І хмурны, разгублены
Ціха стаіць чалавек, як без мовы.
І толькі два словы
Як быццам аднекуль здалёку —
два словы,
Нібы выбачэнне, нібыта прызнанне —
Стаіць — прамаўляе бясконца:
— Ах, сонца!
Ах, сонца!
Ах, сонца!..

*1974*

* * *

Ну, што ж тут такога? —
Ляцелі два зерні
І побач упалі
На траўным узгорку.

Ну, што ж тут такога? —
Далёка ад лесу
Паўсталі на лузе
Дубок і бярозка.

Ну, што ж тут такога? —
Якое тут дзіва —
Ўсялякія ў свеце
Бываюць здарэнні.

А ўсё ж такі сэрцу
Падказваюць нешта —
На лузе, над рэчкай
Дубок і бярозка.

*1974*

## ЗАБАРАНКІ

Забаранкі. Вёсачка лясная.
Ад крыніцы — сцежачак узор.
Што на свеце лепшага я знаю,
Чым пявучы ў Забаранках бор?

Жыў нямала, бачыў яшчэ болей.
На Нью-Йорк дзівіўся і на Рым.
А красы такой не стрэў ніколі
Ані ў Новым свеце, ні ў Старым.

Тут, дзе б'е з глыбінь струмень бадзёры,
Каб пачаць імклівую раку,
Колькі раз гарэлі шчасця зоры
Для мяне ў арэхавым кутку.

Колькі раз на прызбе ціхай хаткі
Сэрца мне ўзвышаў сярод палян
Лепшы, чым Парыжскай богаматкі,
Бору меднастволага арган.

Рокатам, трымценнем, мройным звонам,
Водгаласам сонечным жывым
Колькі раз дарыў свой гімн зялёны
Без ашчад
пачуццям ён маім.

Абуджаў, на весні шлях выводзіў,
Асвятляў лятункам далягляд...
Забаранкі...
Мальвы ў агародзе.
І кражоў задума каля хат.

І дзядоў спакойныя паданні,
І нястомны досціп юнакоў.
Цёплыя, сардэчныя спатканні
І былых, і будучых вякоў...

Не, нідзе не чуў я гэткай мовы,
Гэткай веры — свету не ў дакор.
Бо нідзе няма такой аховы
Для душы, як гэты вечны бор.

Гэты бор — высозны подых нетраў,
Звон крынічак, цёплы белы мох,
Цішыня сцяжынак непрыкметных
І прыволле бальшакоў-дарог.

І наўсцяж — бязмежным светлым гімнам
Музыка ствалоў, галін, лісця.
Ад суніц да сонца — скрозь, няспынна
Музыка адвечнага жыцця.

*1974*

## АНСАМБЛЬ НАРОДНЫХ ІНСТРУМЕНТАЎ

Цымбалы ды скрыпкі,
Баян ды гармонік стары,
Жалейка-прабабка
Ды бубен з дзядоўскай пары.

Электрык, даярка,
Цясляр, брыгадзір, аграном.
Ды цётка Марылька
На пару з музыкам-сынком.

Як выйдуць на сцэну,
Зайграюць з задум векавых —
Аж сэрца ўзвіецца,
Аж радасцю зоймецца дых.

Яднаюцца душы
Наплывам красы ў цішыні —
То сказам пра даўнасць,
То думай пра новыя дні.

Ах, што за музыкі,
Ну, што ні іграц — то мастак!
Крычыць уся зала:
— Цымбаль нам, цымбаль нам,
дружбак!..

Цымбалілі, гралі,
Ад сэрца ўслаўлялі жыццё.
Шторазу нанова
Ў ясноты вялі пачуццё.

Ды нехта аднойчы
Прынёс ім — такі, маўляў, час! —
Удар-установку
Й гітару са струнамі «бас».

Ансамбль увесь талент
Напружваў — нарэшце прывык:
Па нотах мадэрных
Уцёгся ў мадэрнавы шык.

І вынес, нарэшце,
На суд свой мадэрнавы цуд —
Зайграў, зацымбаліў,
І здзіўлена войкнуў наш люд.

Аж нудзяцца цёткі,
Аж з месца ўстаюць юнакі:
Музыкі ўсе тыя ж,
Ды нейкі ж ансамбль не такі.

Грукоча, ды пнецца,
Ды нешта з чымсь хоча звязаць...
І сэрцы людскія...
Ну чым ім
яму адказаць?..

*1974*

## ГОМЕЛЬ

Некалі я сніў у ціхім гроціку
Над Сажом,
дзе парк узняў крыло,
Твае песні звонкія... рэха й сёння коціцца...
Вочы твае сніў...
Калі ж гэта было?

Ці ў гады студэнцкія, вандроўныя,
Калі кожны кут быў — свет і дом?..
Ці пасля,
калі пад яснай поўняй
Празвінеў душы тваёй лядок?

Ці яшчэ пасля,
на сцежцы ў ноч грымотную,
Дзе сабе ў адказ пачуў я: «Не...»
Ці пазней, пазней — калі на вёрстах
родных
Я твой след расшукваў па вайне...

Ёсць цяпер у Гомелі
і сцежкі маляваныя,
І цюльпаны ўсюды — аж душу агніць.
Толькі ўжо няма цябе,
навек каханая,
І няможна ў гроцiку тваіх вачэй прысніць.

Не, не тая сёння амуніцыя,
І гадоў пазіцыя, і суддзя-амбіцыя
Пракладаюць роўненькія дні.
І такая ў Гомелі цяпер міліцыя —
Паспрабуй у гроціку засні.

Пастаю над кручай каля замка даўняга,
Памаўчу,
трывожны чуючы ўспамін...
Ах, мой Гомель,
Як туга расстайная,
Ты адзін такі на свеце,
ты адзін.

Як адно юнацтва непаўторнае,
Як і мара першая — адна...
Ты даруй мне, Гомель,
што ў суквецці зорным
Сніцца мне ўвесь час адна вясна.

Я люблю і з сённяшнімі песнямі
Кожны твой куточак малады.
Ды згадаю вуліцу старую —
Песіна,
І былое вернецца заўжды.



Кастусь Кірэенка з жонкай Лідай Пятроўнай
і сынамі Мішам і Сашам.
Мінск, 1962 г.



Пасля ўручэння ордэна «Знак Пашаны».
Злева направа: Максім Танк, Сяргей Прытыцкі,
Аркадзь Куляшоў, Іван Клімаў, Кастусь Кірэенка.
Мінск, 1968 г.

Светлае, студэнцкае, далёкае
Зазвініць у сэрцы, як струна.
Чуецца ў цішы:
спяшаюць крокі...
Ўсё хутчэй, гучней... Яна!.. Яна!..

Над яе магілай сёння ў скверыку,
Як званы, цюльпаны звоняць боль,
Я ж не веру, не, мне ўсё не верыцца,
Што яна не заспявае больш.

Бачу яе ўсмешку незамглёную,
Бачу бег праменняў па-над ёй,
Бачу ўсю — у радасць улюбёную —
І хачу спытаць, як у жывой:

— Некалі я сніў у ціхім гроціку
Над Сажом, дзе парк узняў крыло,
Твае песні звонкія...
Рэха й сёння коціцца...
Ты спявала мне?..
Скажы —
Ўсё так было?..

Скажы!
Скажы, што так — было!..

*1974*

* * *

Хвалімся: глядзім у свет далёка,
З выкладкай прадвызначаных вех...
А не бачым часта, як пад бокам
Самы блізкі
гіне чалавек.

За сусветы зорныя сігаем,
Ведаем, як слаць туды чаўны.
А вось тут нярэдка і не знаем,
Што пра нас падумалі сыны.

11 Зак. 2582

Што ў іх сэрцах, што ў іх душах зараз?
На якіх сцяжынах
іх пагляд?
Можа, просіць помачы іх мара?
Можа, дзесь блукае неўпапад?..

Што мая паэзія і проза,
Што мае трактаты і эсэ,
Калі не заўважыў я пагрозы,
Што мне слепата мая нясе.

Бачыў блізка дальнія скрыжалі,
А на блізкі свет глядзеў здаля.
— Ты даруй, даруй мне,—
крыкнеш з жалем,—
Родны свет мой — людзі і зямля!..

Крыкнеш, сэрцам верачы да болю:
— Не, прад вамі больш не саграшу!..
Ды ўсё роўна з цемры, можа, болей
І не вернеш нечую душу.

*1974*

## ХАРОШКА

Сіняя,
Журботна-сіняя валошка.
Над узмежкам,
Над іржэўем —
У задуме, як жняя.
Валошка?
А можа, гэта ты, мая харошка?
Светлая
Харошка мая!

Падыду.
З трывогай гляну на пялёсткі.
Што адзін —
як звон праменя.
Што другі —
званчэй, званчэй.

Пялёсткі?
А можа, то —
заранак адгалоскі?
Добрае
Святло тваіх вачэй?

Так, як гаварыла,
Так, як наспявала:
Прыйдзе радасць, прыйдзе вера,
Прыйдзе дзень, бясконца залаты.
Наспявала?
А можа, то ў душы заўжды ўставала:
Дзень і сонца —
Там, дзе ты.
Там
І толькі там, дзе ты.

Сіняя,
Журботна-сіняя валошка.
Над узлескам,
Над іржэўем —
як задумная жняя.
Валошка?
А можа, гэта ты — мая харошка?
Светлая
Харошка мая!

Будзеш марай,
Будзеш цішынёй, а можа, бурай,
І трывогай, і журбою,
І спагадай дарагой.
Толькі не зрабіся,
Не зрабіся
Безадмоўнасцю панурай,
Не зрабіся
Сумным здзекам, сумнай, роспачнай
тугой.

Хай мо толькі мроя,
Толькі мроя —
гэта сіняя валошка,
Толькі мроя —
Дол і неба,

І расіны
            над задумаю жніўя.
Ты заўсёды,
Ты заўсёды непаўторная харошка.
Ты са мною,
Харошка мая!

*1974*

* * *

Ты была.
А потым ты пайшла.
Адна.
Такога не было яшчэ ніколі.
І я падумаў,
Што, напэўна, так і трэба.

Бо іначай,
            без расстання,
Мы прывыкнем.
                        А прывычка —
                                    не каханне.

Але я
Без цябе не мог ужо, не мог,
Ні на міг
Без цябе не мог ужо застацца.
І шукаць пайшоў.
Шукаў па цёмным лесе.

І спаткаў.
            Так нечакана,
Што як быццам
                        то было наканавана.

Між ялін —
Бярозы белай ствол.
Між ялін
Бярозу, мусіць, бурай паваліла.
І ў журбе
Сядзела ты на той бярозе.

І каса твая,
каса тугая,
Так маўчала,
быццам ты зусім была другая.

Дзень мінаў...
І ты ў сваёй журбе
Смутак мой
Не заўважала, не адчула.
І я падумаў,
Што каханню больш не паўтарыцца.

І пакінуў...
Не цябе, не лес пакінуў.
Я сябе пакінуў.
Бо душу аддаў
тужліваму ўспаміну...

*1974*

## БАРАВІКІ

Не трэба заходзіць далёка ў лес,
Каб напаткаць баравікі.
Ты знойдзеш іх каля самай сцежкі,
Паміж бяроз.

Трымайся ж, калі мы пойдзем,
Бліжэй да маёй рукі,
Хай сляды нашы кладуцца побач
На восеньскі жаўтапёс.

На мове, што пушчы вядома адной,
Баравікі крычаць: «Мы тут!»
Ды хаваюць галоўкі рудыя хутчэй
У верас ці ў мох.

І мы гэта ведаем...
Ведаем: ім жа таксама любы іх кут...
І, пэўна, таму
застылі два кошыкі,
Пераступіўшы лясны парог...

*1974*

## МАЛІТВА

Не магу нават бачыць,
як нехта моліцца,
Перад богам капеечным паклоны б'е.
О, не дай мне, сумленне, стаць багамольцам,
Аддаваць на глумленне пачуцці свае.

Хто б ні быў і якім бы ўсявышнім Ісусам,
Хоць і з процьмай навечных святых прывілей,—
О, спыні мяне, сумленне, перад цяжкай
спакусай —
Выліваць прад бажніцамі апошні ялей.

Перад адным толькі німбам заўжды ў
захапленні
У паклоне хілюся сівой галавой.
І калі дзе забудуся — кінь мяне на калені,
О сумленне, кінь мяне на калені —
перад Радзімай маёй!

*1974*

* * *

Хочам быць і сім і тым,
Дзе ўжо да спачыну.
Усё здаецца — нам адным
Дбаць пра ўсю краіну.
Маўляў, як ім, маладым,
Клопат наш пакінуць?

Маўляў, як гэта — ураз
Ім за намі ўгнацца?
Не! У жыцці нідзе без нас
Ім не разабрацца!..

І што наш мінае час —
Сіл няма прызнацца...

А ці ж гэта горш — аддаць
І ключы і гайкі
Маладым? Сабе ж узяць
Гуслі-самаграйкі.
Ды на сонейку складаць
На свой досціп байкі?

Маўляў, вось як мы жылі —
Не пілі, не елі.
Толькі добрымі былі,
Толькі ўсё мудрэлі.
Дзён дарэмна не звялі,
Нават не хварэлі.

Што сягонняшнія? Не!
Грэх ім з намі брацца!
Нашы таленты і ў сне
Ім мо не прысняцца.
Ну, вядома, час міне —
Тады — можа стацца...

Так вось баілі б штодня,
Бомкалі б, як з раю:
Тое тому не раўня,
Тое, бач, не раю...

Ох, старая буркатня,
Ох, бяда старая!..

*1974*

## ПЯСНЯР

Ты ж знаў, ты ж сам асцерагаў
(Слоў смерць не сцёрла!),
Як гэта страшна, калі туга
Бярэ за горла.
Як гэта страшна, калі адзін
Пад сцюжны вецер,
Як у бяздонне, паміж лядзін,
Брыдзеш у свеце.

Але ніхто, як, можа, ты,
Ніхто ніколі
Шлях не масціў для дабраты
Ў суровай долі,
Не клікаў так —
дарыць жыццю
Свет мараў чыстых,—
Адданы праўды пачуццю
Пясняр вячысты.

І я, як многія, з табой
Сябе не чуліў —
Гарэў і, калі бой — дык бой,
Ішоў на кулі,
Гарэў і, калі штых на штых,
Не дбаў пра слодыч,
Адно вялікай дабраты
Баец і родзіч.

Ды толькі скрушная слата
Сказала скора,
Што і такая дабрата
Ёсць — горш, чым сорам,—
З ухмылкай коўзкаю
ў жыллі
Адчыніць дзверы,
Але памылішся, калі
Ты ёй паверыш.

Душой адкрыешся, а ёй
(Убачыш — позна!)
Твой смутак, і лятунак твой,
І боль, і роздум —
Усё, чым быў і дуж, і варт,—
Як блёскат рэшкі,—
Калі і ўзяць, дык нібы ў жарт,
Адно для ўсмешкі...

Ты ж знаў, ты ж сам асцерагаў
(Слоў смерць не сцёрла!) —
Не адступаць, калі туга
Бярэ за горла,
Не адступаць — ісці, дайсці
Да любай мэты!..

А сам упаў...
І па жыцці —
Бы цень планеты...

Імкнуць, і ўсё далей, далей
Кагорты дужых,
Цвітуць, і ўсё ярчэй, ярчэй
На свеце ружы —
Ты ж знаў, як страшна ім спазнаць
Зноў кроў і слёзы,
Ты ж дбаў, гукаў, каб ахаваць
Іх ад пагрозы.

А сёння вось... Чаму маўчыш?
Няўжо ж ты, брат мой,
Пацерпіш быць — нічым, ні ў чым
На сцежках стратных?
Няўжо не чуеш? Кліча бой
Забыць разлукі...

Ляжыш, трубач, па-над трубой,
Раскінуў рукі...

*1974*

* * *

Басанож,
Як вясковая мая дзяўчына каханая,
Ходзіць восень па лесе,
Рассыпае золата на дарожкі.
А я стаю,
загорнуты
Ў белыя латы туману,
І прашу восень
Памілавацца са мной
хоць трошкі.

Пастой, пастой, вабная,
Пастой са мной, добрая, вячыстая.
Я ж цябе люблю змалку,

Прад табой —
і гару і каюся.
Не прашу золата,
Не прашу дыяментаў агністых,
А толькі напоўні
надзеямі
Дум маіх і пачуццяў кайстру.

Восень усміхаецца.
Ідзе, не спыняецца.
Паглядзіць,
кіне вогненны самародак
І да новае спяшае сцежкі.
І я стаю разгублены.
І бядую: «Ах, шкода, шкода!..»
Але чую —
па лесе рэха
Ужо коціцца,
пытае: «Дзе ж ты?»

— Дзе ж ты? Дзе ж ты?
Чаму не ідзеш ты?
Я ж хачу паказаць табе
лепшыя дзівы
І найлепшыя радасці ўмесне.
І будзе ў цябе
Назаўсёды
І лятунак шчаслівы,
І надзея
Аб самай чароўнай песні!..

І, абуджаны рэхам,
Я іду за лістамі.
Пад нагамі шуміць і хвалюецца
чырвоная лава.
І здаецца, здаецца
Пад сярэбранымі
павуцін нітамі,
Што яна —
Мая новая
Да новых дарог
Пераправа.

*1974*

* * *

Ты спяшала, ты бегла на вуліцы —
Гэта бачыў я, бачыў не раз.
Да каго тваё сэрца так туліцца?
Для каго прыпыніўся твой час?

Ці зазнаў ён душою, ці ведае,
Колькі прагі ў табе —
адному?
Урачыстая, лірная, светлая,
Як я шчыра зайздрошчу яму!

Як мне хочацца, вер мне, як хочацца,
Каб ты з ім сваю долю знайшла!..
Хоць ізноў —
Быццам мара святочная
Для мяне за акном праплыла.

Хоць ізноў, толькі хвілю чароўную
Прычакаю —
пачую твой крок,—
Не яго недзе бачу пад поўняю,
А сябе —
бы ў юнацтве здалёк.

Ты спяшаеш, каб некаму сад расцвіў,
Сад кахання, навекі адзін.
І шапчу я з самотнаю радасцю:
— Што ж... Ідзі ў сваё шчасце, ідзі!..

*1974*

* * *

Засталося ж так замала часу —
Шляху ў антысветы...
Адгарай, сыходзь з вялікай трасы,
Як ступень ракеты.

Засталося ж і гарэць не многа —
Можа, міг кароткі.
І — бывайце, ўцехі і трывога,
Смак жыцця салодкі.

Ну і што ж,— сказаць бы мог
прытворна,—
Ну і што ж такога...
Каб не ведаў —
свет жа непаўторны.
Не, няма другога...

І таму нашу тугу нямую
На зялёных сцежках.
І, зямлю цалуючы, сумую
Па тваіх усмешках...

*1974*

* * *

Ах, людзі, што з вамі — вам сумна ці весела?
Ракеты ў руках у вас, зорны маршрут.
А вам —
першабытнага хочацца крэсіва.
Як супернавінку,
шукаеце трут.

Вякі шліфавалі галовы Сакратавы.
Святлелі, вышэлі, пацеючы, лбы.
А нас
захліснула
паводка патлатая.
Стаім перад ёю, няйначай рабы...

Ах, людзі, паверце, і я з вамі плакаў бы
Ці з радасцю біў бы ў кімвалы і медзь.
Пайшоў бы я з вамі,
напэўна,
на ўсякае,
Каб толькі вас мог хоць на міг зразумець.

Што з вамі, што з вамі?
Ці вы напалоханы
Той бурай адкрыццяў, што рвецца ў наш час?
Ці вы так зжыліся
з адкрыццяў эпохаю,
Што ў сэрцах і след ад здзіўлення пагас?

Ці, можа, стаміліся?.. Поплеч з героямі,
Падумалі, пройдзе шляхі не любы...
А можа, хоць кожны на вечнасць настроены,
Хтось бача яе без адвечнай сяўбы?..

Стаю, нібы з Марса зляцеўшы, пытаюся,
Як быццам не з вамі грашыў і пасціў.
І нават зусім не заўважыў
(пакаюся!),
Як грыву па плечы і сам адрасціў.

*1974*

## ПЕРАД КАНТЫНЕНТАМІ

Кантыненты
Аб'яднаны акіянамі,
Быццам зваркаю
З жывога серабра.
І зіхотнымі вачамі закаханымі,
У якія свет
няўтольнасць душ сабраў.

Кантыненты
Аб'яднаны навальніцамі,
Тэлетайпамі блакітных бліскавіц,
І ўспамінамі,
І ўсім, што ціха сніцца нам,
І што з крыўднаю пакутнасцю
Баліць.

Кантыненты
Аб'яднаны даляў гоманам,
Сказам пушчаў
Пра нязгасны хларафіл.

І дымкамі мірных дзён
над кожным комінам,
І спакоем,
І журботнасцю магіл.

Кантыненты
Пад задумай Шляху Млечнага —
З вечнай марай,
з вечнай прагай адкрыцця —
Аб'яднаны
Непаўторнасцю адвечнаю
І адвечнай
Незваротнасцю жыцця.

І заўжды
між душ
Гарыць іскра трывожная.
І заўжды ляціць спалох
На ўсіх вятрах.
І заўжды, заўжды
Для ўсіх, для ўсіх
і кожнага,
Не маўчыць,
Працуе
Сэрцаў тэлеграф.

Пад праменнямі,
Пры зорах,
Пад зарніцамі
Чалавека ашчаджае чалавек:
— Не забіце,
не губіце,
зберажыце іх! —
Нашы мары,
Што ў святле
Свой бачаць век.

Аб'яднаныя
Журботнасцю і любасцю,
Пад пагрозамі нянавісці і зла,
Кантыненты
То з пяшчотнасцю, то з трубнасцю
Просяць роднасці
У велічы святла.

І заўжды, заўжды
Сям'я людзей мільярдная
І ў мае глядзіць з надзеяю сляды.
Чалавек я!
Чалавек!
І не павінен марна я
Між людзей
Пражыць свае гады.

Кантынентаў
далягляды —
шыр адзіная.
Хоць і межы,
ды адзін, без межаў, час...
Знаю:
Жыць для свету — цяжка.
Ды павінен я!
Бо заўсёды —
Перад светам
Мой адказ!..

*1974*

## АБАВЯЗАК

На ўсёй планеце прамяністай
Народы ў скарб сабе ўзялі
Мой абавязак камуніста —
Быць чалавекам на зямлі.

І як ні выпала б мне цяжка
У плыні многіх спраў і дзей,—
Я ганаруся абавязкам —
Быць чалавекам для людзей!

*1975*

* * *

Я захварэў на пах лясных сутонняў —
З дымком слязы смалістай на карчах.
І гэта, мусіць,
навват і пры сконе
Зазіхаціць, засвеціцца ў вачах.

Я захварэў на ночы ў спелым леце,
На пошум хваль, што сон мне сцеражэ.
І ўсім скажу:
так, ёсць усё ж на свеце
Штосьць з таямніц,
Што сэрцу не салжэ.

Я захварэў на слёзную гаркоту
Вандроўнага світальнага агню,—
Хітнецца цёпла
На маю самоту
І кіне радасць на спатканне дню.

Я захварэў...
І захварэў, паверце,
Так цяжка, што і лекаў не прашу.
Вунь гляньце: маладзік нясе вядзерца
З-за хмар —
ён па маю ідзе душу.

Вунь гляньце:
ў небе — як вачмі акінуць —
Згараюць зоры ў моры кумачу.
То мой спакой і ціша сэрца гінуць,
І я іх ратаваць і не хачу...

Ляжаць паважна планкі, і калодкі,
І стужкі, і праменлівы муар...
Ды раптам загучаць —
як з даўняй зводкі:
— Мы чуем, бачым
дум тваіх пажар.

*1975*

* * *

Пад чорнай, пад глухою, пад грымотнаю сцяной
Чакаў я, так чакаў:
а можа, хоць праменьчык заірдзее...
І хтось прыйшоў...
І хтось пяшчотна нахіліўся нада мной...
І я расплюшчыў вочы...
І спытаў імя...
І я пачуў:
— Надзея...

Пасля былі —
прадонне, невядомасць, забыццё...
І ўспышкі, і трывожнае, спякотлівае: дзе я?..
І кожны раз,
як хоць на міг вярталася жыццё,
Я чуў аднекуль,
Чуў пяшчотна:
— Гэта я,
Надзея...

І я паверыў...
І было гэта далёкаю вясной.
І вера для мяне была —
як новай долі дзея...
І тая вера праз жыццё заўжды ідзе са мной.
І ўсё таму,
Што перш была —
Надзея...

*1975*

## ПРА ШТО РАСКАЗАЛА КАЛІНА...

Пра што расказала каліна
Над абеліскам?
Што так маладая дзяўчына
Схілілася нізка...

Пра што расказала каліна
У кветнай акрасе?
Што так маладая дзяўчына
За сэрца ўзялася...

Пра што расказала каліна,
Што прыгадала?
Што так свайго хлопца дзяўчына
Пры ўсіх цалавала...

Пра што расказала каліна,
Чым
 высніла мроі?
Што так мілавала дзяўчына
Вясельныя строі...

Пра што расказала каліна,
Вітаючы вэлюм?
Што радасна так
 маладыя
Ішлі на вяселле...

Ішлі — як адно,
 не разняць іх
Ніколі, ніколі...

Пра што наказала каліна
Ля помніка ў полі?..

*1975*

* * *

Што стала з намі?..
Спраўджана,
 што снілі:
Як самацвет
 са сталі і цаглін,
Устаў наш дом;
І цёпла гаманілі
Над ім вяршыні соснаў і ялін.

Што стала з намі?..
Звонкім наваселлем
Уславілі святло сваіх акон:
Пра сонца,
                пра вясну з гасцямі пелі,
Пра вернасць —
                пра святое шчасце дзён.

Што стала з намі?..
Йшчэ хаваюць сосны
Паміж галін
                тых песень перабор...
А нам чамусь
                дваім застацца млосна,
І хто куды
                нясем самоту ў бор.

Што стала з намі?..
Ад пяшчот наўцёкі
Бяжым, бяжым —
                усё далей, далей.
І бачыцца ў смузе наш дом высокі —
Нібыта нашай мары маўзалей.

Што ж стала з намі?..
Скуль прыйшоў ён, вырак,
Што сэрцы раздзяліў сцяной мяжы?
І покуль вырак той у смерць не вырас,
Як зразумець,—
                хоць слова мне скажы,—
Што стала з намі?

*1975*

## БАЛАДА СВЯТОЧНАЙ ПЛОШЧЫ

Святочная Плошча, што ўся была рэхам
Ад песень юнацтва і палкасці маршаў;
Святочная Плошча, што чула гадамі,
Як пошум сцягоў успраменьвае сэрцы,—
Святочная Плошча не здрадзіла шчасцю:
Хоць бура вайны прашугала над ёю,
Агнём абдала яе брук векавечны,

Павырвала пліты, параніла вежы
І цемрай журботнай яе ахінула,—
Святочная Плошча — жыла, не здалася!

Па ранку нядужы, але не пахілы,
Прыходзіў да Плошчы пявун-чалавечак;
Прыходзіў, разводзіў высокія дзверы,
Рыпучыя дзверы пакінутай школы;
Паціху, як быццам на ўроку да вучняў,
«Дзень добры!» — казаў да старога раяля —
І хутка адтуль, як і ў дні да навалы,
Ляцела над Плошчаю водгулле свята,—
Бы кліч маладосці, бы матчына дума,
Бы шолах світанкаў, бы водгалас грому,—
Ляцела над Плошчай мелодыя песні,
Славутай, народнай, бунтоўнае песні.

Ляцела над плошчай мелодыя песні,
Чужая, глухая варожаму духу.
А кожны, хто знаў гэту слаўную Плошчу,
У песенных гуках чуў роздум і веру,
Чуў заклік, ён крочыў з адвечнай красою:
— Не плачце, гарніцеся сэрцам да сэрца,
Не плачце, гартуйце сумленнасцю душы,
Не плачце, да бітваў рыхтуйцеся, людзі!..

О Плошча! О маці — святочная Плошча!
Якой яна горад жывіла надзеяй!
Ні лютасць фашыстаў, ні боль адзіноты,
Ні пекла забойстваў, ні жах катаванняў —
Ніпто ні на міг не застрашыла горад! —
І ўночы, калі патухалі над Плошчай
Пявучых акордаў апошнія гукі,—
Уночы ўставала народная помста,
Ляцела, грымела па краю адплата,
Крышыла ў баях чужакоў бастыёны
І слёзным усім і жальбою забітым
Давала чакаreceived іскарку-мару...

Нямала шалелі ад злосці бяссільнай,
Нямала шукалі, адкуль для іх ліха,
Нямала паклалі галоў чужаніцы...
Пакуль ненавісная, чорная здрада
Не выдала ім таямніцу той Плошчы...

Аднойчы...
Аднойчы настаў дзень жалобы:
Не выйшаў на Плошчу пявун-чалавечак,
Не адчыніліся светлыя дзверы,
Высокія дзверы няскоранай школы,
Не грымнулі гучныя гукі раяля,
Шырока ўзнімаючы заклікі песні...

Сурова маўчала задумная Плошча...
І толькі званы на званіцы суседняй,
Што, можа, стагоддзе ні раз не званілі,
Здавалася, крыкнулі з плачам: — Забілі...
Забілі, забілі, забілі, забілі! —
Здаецца, званы са званіцы званілі.—
Забілі душу, прыгажосць растапталі,
Пяшчоту сардэчную смерці аддалі...
З жальбою званы са званіцы званілі,
А вораг крычаў, не хаваў захаплення:
— Забудзьцеся, людзі, пра вольныя песні,
Ужо не абудзіць ніхто вашы ранні,
Здавайцеся, людзі, скарыцеся, людзі,
Скарыцеся перад жалезнай няволяй...

Ды толькі дарэмна смяяўся чужынец!
Хоць сціх расстраляны пявун-чалавечак,
Хоць больш не ўставаў яго покліч над Плошчай,
Не дыхалі гукі —
а ўсё ж не змарнелі
У сэрцах людскіх агнявыя напевы,
Бо можна забіць, растаптаць чалавека,
Ды нельга забіць яго думы-імкненні,
Што клічуць і ў горы —
у шчасце, у шчасце,
У заўтра, у заўтра, дзе згіне навала!

Настала часіна — ў жахлівым спалоху
Прачнуліся ворагі: Плошча грымела,
Кідала прыбоем пявучыя хвалі,
Гукала, паўпела —
паўстаннем, паўстаннем
Бурліў увесь горад на Плошчы святочнай
І кідаў да сонца магутныя крылы!
Як бура — няўмольна, як грозная бура,
Змятала паўстанне варожую сілу,

Вяртала жыццё на дарогі і сцежкі,
І хутка ўвесь свет, што чакаў вызвалення,
Пачуў,
як узнёсла —
усіх, на ўсім свеце,
Вітала, бы маці, святочная Плошча.

— О людзі! — крычала святочная Плошча.
І свет узнімаўся сустрэч яе клічу.—
О людзі! — крычала святочная Плошча,
І, хто яе слухаў,— чуў веліч у сэрцы:
Бясконцай трывогай, тугой піяніста,
Юнацкімі марамі, мужнасцю старцаў,
Крываваю ранай і песняй дзявочай
Крычала ўсім Плошча:
— О людзі!

О людзі!
Збівайце аковы і нішчыце здраду,
Вяртайце красу і пяшчоту навекі,
Ніколі, ніколі,
ніколі, ніколі,
Хоць нават загінуць камусь давядзецца,
Ніколі ў жыцці, ні ў пачуццях, ні ў думах,
Не будзьце рабамі! — крычала ўсім Плошча.
Не будзьце рабамі, не будзьце рабамі,
Не будзьце рабамі,
о вольныя людзі!

*1975*

## КРЫЎДА БЕЛАГА БАЦЯНА

Белы бацян
адчуў, што надыходзіць май.
І стала так млосна
на заморскай зямлі бацяну.
І паклікаў бацян сяброўку,
і паляцеў у найлепшы на свеце край.
На самую лепшую
на цэлым свеце сасну.

Тая сасна,
найдарожшая ў свеце сасна,
Дзе нарадзіўся
і навучыўся бацян лятаць,—
О як яму снілася на чужыне яна!..
О як ён прагнуў
яе хутчэй прывітаць!..

Праз буры, і золь,
і жахлівы вышынь спакой
Неслі птахі
лятунак пра ўцехі вясны.
Але прыляцелі —
і над прывольнай ракой
Не знайшлі
бацяновай,
найлепшай у свеце сасны.

Збянтэжана, горка
з клёкатам:
«Няма... Няма...»
Доўга кружыўся бацян
там, дзе хмары бягуць...
І трымцела яго сяброўка —
не ведала, як стрымаць
Бацянову крыўду
і бацянову тугу.

«Паглядзі...
Паглядзі, бацян, колькі,—
клекатала яна над ім,—
Колькі тут добрых соснаў,
спынімся з табой на любой...»
А бацян
аніяк
расстацца
не мог з успамінам сваім,
Не мог аніяк прыдумаць,
што парабіць з сабой.

І толькі калі сяброўка
заклекатала: «Памру!..
Памру!.. Бо пара мне гняздзіцца,
дзяцей гадаваць хачу!..» —

Узвінуўся бацян над лугам
і, убачыўшы з лесам гару,
Выбраў там краж стройны
і бацянісе сказаў: «Лячу...»

І крычала зямля...
Да каго, да каго між людзей?..
Хто пакрыўдзіў натхнёныя сэрцы?..
— Не чапай жа хоць гэтай сасны!
Не загубі ўспамінаў
і самых лепшых надзей,
З якімі тут стануць на крыллі
малодшыя бацяны...

*1975*

* * *

У мяне няма нічога,
Акрамя сяброўскай, чулай
Ласкі, што душу заўжды сагрэе.
А з той ласкаю — трывога,
Каб яна не праміпула,
Каб я сам яе раптоўна не развеяў.

У мяне няма нічога,
Акрамя твайго прызнання,
Што і ў будні ты са мной і ў святы.
А хіба гэта не многа?
Нават кропляй ад твайго кахання
Ці ж не быў бы
самы я багаты?

У мяне няма нічога,
Акрамя прастораў польных
Пад высокім, пад лагодным сінім небам.
А ў прасторах тых — дарога
Да цябе, і да сяброў, і ў свет прывольны...
Што ж яшчэ нам,
што ж яшчэ, скажы, нам трэба?..

*1975*

## НАШЧАДКІ ТАРАСА

*Памяці ўкраінскага паэта*
*Яраслава Шпорты*

О як я хацеў бы, каб песня ўдалася!
Сябры мае добрыя,
Лірнікі мудрыя,
Героі, нашчадкі Шаўчэнкі Тараса,
І вы, што папалі пад сны непрабудныя,
І вы, што ўзвіхрылі
касмічныя трасы,
О як жа хачу я,
каб песня ўдалася,
Іначай, здаецца, шчаслівы не буду я!

Жыццё — не адна толькі роўная роўнядзь,
Бясхмарная далеч з зарой прамяністаю;
Жыццё — не заўсёды спагадамі поўніць,
А часта
страчае дарогай цярністаю;
І часта бывае —
і з сэрцам гартоўным
Нялёгка, няпроста да мэты чароўнай
Дайсці —
супроць бураў і роспачы выстаяць.

Жыццё выпрабоўвае гневам і болем,
І сумам цяжкім, і жалобаю стратнаю.
І шчасце —
калі пад нягодай любою
Ты чуеш падтрымку сардэчную, братнюю,
І шчасце —
калі праз навалы з табою,
Ажно да апошняга грознага бою,
Друг верны ідзе
з непахіснасцю ратнаю.

Сягоння згадаю франты і паходы,
Змагання і бітваў шляхі незваротныя,
І бачу,
І свету кажу назаўсёды:
Былі са мной побач,
адданыя, родныя,

Героі, сыны ўсіх савецкіх народаў,
І вы сярод іх —
вы, крылатага роду
Нашчадкі Тараса,
арлы быстралётныя!

Адзін з вас,
юнак, летуценны і ўзнёслы,
Ды з мужнай душой,
ды з адвагай быліннаю,
Хоць колькі мінула і зімаў і вёснаў,
Жыве ў маім сэрцы;
Самой Украінаю,
Самой вашай славай,— вячыста-зайздроснай,
Жыве яго вобраз —
і дружбай дзівоснай,
Што мне ён дарыў,
даражыць не пакіну я.

Ён думаў пра Кіеў, Дняпро і Карпаты,
Ён марыў ім спець
сваю песню найзвонкую,
А ў бітвах з чужынцам
крывёю салдата
Зрадніўся з маёй беларускай старонкаю.
І помняць яго, як зычлівага брата,
Шляхі Магілёўшчыны,
Міншчыны хаты
І ў Панямонні кражы нашы гонкія.

Гады праляцяць чарадою няспыннай,
У строй змагароў прыйдуць шэрагі новыя,
І зменіцца ява,—
ды вечна Айчына
Жыццём шанаваць будзе кожнага сына,
Што сэрца аддаў ёй часінай суроваю.
І вечна паклон і табе,
Украіна,
Слаць будуць народы
сардэчнаю моваю.

Няхай жа на крылах вялікага часу,
Сябры мае добрыя,
Лірнікі мудрыя,

Героі, нашчадкі Шаўчэнкі Тараса,
Ляціць і маё да вас слова;
Нязгаснай
Няхай будзе зорка той любасці яснай,
Што лучыць людзей,—
і шчаслівы век буду я!

*1975*

## ПАЛЕСКАЯ ПОЛЬКА

Гарманіст мяхі разводзіць,
І пайшло ў катле кіпець!
Проста самі ногі ходзяць,
Паспрабуй — стрывай, уседзь:

— Ой, хто з Полькай не танцуе,
Той дарма зямлю дранцуе.
Ох ты ж, Полечка мая,
Ты не любіш, люблю я!..

Без ашчады б'еш абцасы,
То й глядзі — захлыне дух.
А спаволіш ногі часам —
На ўсю хату грымне круг:

— Ой ты ж, Полька, што ты, што ты,
Ці шкадуеш мае боты?
Не шкадуй, як разлуплю —
Пайду новыя куплю!..

Дзе ж ты кінеш гэпаць — сорам! —
Заклююць і засмяюць.
Бо і Польцы нават — хорам —
Не пяюць — прысуд даюць:

— Пакуль Полька танцавала,
Патуль Польцы шанцавала.
Як не стала танцаваць,
Перастала шанцаваць!

— Перастала, перастала,
Пакуль зноў затанцавала.
Ох ты ж, Полечка мая,
Сып нагамі, як і я!..

І ўсе разам — сыплем, сыплем,
І ніяк ужо няўцям:
Хто дзярэ басок асіплы —
Ці твой сябра, ці ты сам:

— Ох ты ж, Полечка, ты Полька,
Мая радасць, мая болька,

Ох ты ж, Полька, хоць радзі,
А шпарчэй са мной хадзі!
А шпарчэй са мной хадзі
Ды на іншых не глядзі!

— Ды на іншых не глядзі!..
— Ды на іншых не глядзі!..
Сціх гармонік...
— Стоп!..— Сябры
Кажуць: — Сядзь вось... Пакуры...

*1975*

## ПОЗНЯЯ ЗЯЗЮЛЯ

Божа любы, як яна крычыць да самай цёмнай ночы!..—
І бары ўжо, і лугі амаль паснулі...—
А яна крычыць!..
І што сказаць нам хоча
Позняя зязюля?

То так гулка «ку-ку-ку» гучыць над сінім борам,
Сто разоў, ну пэўна ж сто — не меней.
То абесціцца так квола...
і як бы з якімсь дакорам...
З дрогкім летуценнем...

То кувае светла, ўцешна —
нібы ўсім нясе патолю,
То зажаліцца, як рэха буры ўвосень.
А то раптам папярхнецца
і замоўкне
там, дзе ў цёплым полі
Жыта налілося.

Але гэта мо на хвілю...
а вось зноў, вось зноў,— бы немач перамажа,—
Зноў кувае — часта, радасна і звонка.
Ужо й месяц лічыць зоры,—
а яна ніяк спачыць не можа
Над хваінай гонкай.

І так лёгка, так салодка для душы куванне льецца,
І так радасна хвалюе зораў ззянне.
І так страшна раптам стане —
чуеш: сэрца разарвецца
Без таго кування.

Быццам — толькі яно сціхне, і ты станеш раптам
бедны-бедны,
І навекі, назаўсёды страціш мару-долю —
Нешта выказаць такое,—
не згарэць для душ бясследна,—
Што дасюль не здолеў.

Ах, зязюля, я не знаю, што сказаць ты сёння свету
хочаш...
Ці то плач, ці кліч лятунку адыходны?..
Толькі ведай, што твой смутак
стаў мне блізкі з гэтай светлай ночы,
Як свой любы, родны.

І стаю я над Бярозай, і ў дрыготкім сэрца заміранні
Чую шчасце і якогась болю муку...
І лаўлю, лаўлю з надзеяй —
мне адказам на жаданні, на пытанні —
Дарагое «ку-ку»...

*1975*

## ЛІПНЁВАЕ НАРАДЖЭННЕ

Чуйце, людзі, перанясіце мяне ў ліпнёвы дом,
Палажыце мяне ў ліпнёвую пасцель,
Накрыйце мяне ліпнёвай коўдрай,
Дайце падыхаць ліпнёвай падушкай.
Чалавек павінен хоць адзін раз адхварэць,
Хоць адзін раз
самохаць
ударыцца аб дол,
Ударыцца так цяжка, да такога болю,
Каб, апрытомнеўшы, адчуў,
што нарадзіўся нанова.

Нарадзіўся нанова —
і няма тых ранейшых,
што праз век прыгняталі,
трывог;
Нарадзіўся нанова —
і няма той былой,
з якой зжыўся,
чэрствасці;
Нарадзіўся нанова —
і няма той пякельнай,
што нястрымнай была і заўсёднай,
прагі
Панаваць над людзьмі,
Красавацца сабой,
Захапляцца такою ж, як у самога, вялікасцю.

Няма крыўды,
а ёсць толькі светлы ліпнёвы свет,
Няма цемры,
а ёсць толькі светлы ліпнёвы дзень,
Няма болю,
а ёсць толькі светлае ліпнёвае шчасце,
Няма жалю,
а ёсць толькі светлая ў душы туга.

О родная мая, адкажы мне, зямля любая,
Ці я яшчэ толькі падаю,
ці ўжо прытомнею? —
На зялёнай коўдры палявой ростані
Упаў вачамі ў перасушаны жоўты пясок

І плачу... няўжо плачу?..
а нада мной шумяць прысады з ліп,
І кружыцца нада мной ліпнёвая завіруха,
Ліпнёвая квецень, змешаная з цеплынёй вятроў...
І скаланаецца сэрца, быццам да яго хтось
Дакранаецца рукамі маці...

*1975*

## ЛЯСНЫ МАЛЮНАК

...А сёння пацямнела.
Зацерусіў над лесам цёплы дождж.
І на паляне,
дзе бярозкі чарадою тоўпяцца,
Ці пыл слупамі —
з бараною хтось прайшоў ушыр і ўдоўж?
Ці дым клубамі —
быццам лазня для кагосьці топіцца?

І раптам выйшаў з гушчарні
аброслы ўвесь сівым імхом дзядок.
Дастаў капшук і піпку
і запалкай асцярожна чыркае.
І вось — узвіўся
і пабег, пабег з грудочка на грудок
Вясёлы жэўжык,—
з язычком цяпельца зыркае.

І шалясцяць лісцём бярозкі
і ад страху аж трымцяць, трымцяць.
А ўсё ж цікава! —
так цікава! — на праяву дзівяцца бярозкі.
І бачаць:
то вось тут, то там —
пстрык! — аж галінкі прэч ляцяць —
Выходзіць падасінавік на свет,
і на галоўцы — цёплай пары слёзкі...

*1975*

* * *

Так цёпла ў хаце.
Цішыня.
Ноч.
Недзе бура за акном нястрашна вые.
Спакойна дыхай...
А душа...
Чаму трывожыцца? Чаму з усёй зямлі
Адно, адно ёй чутна:
«Ой, не спите, часовые,
Как бы нас не обошли!..»

Вартавыя...
«Вартавыя, вартавыя, ой, не спіце!»
Крычыць душа...
Каму крычыць?
Якіх ёй трэба вартавых
У час
Такіх грунтоўных,
Разнамоўных
Канферэнцый на арбіце?
«Нашто?
Адкуль? —
Скажы, адкуль
Твая трывога за жыццё жывых?»

Адзін пстрычок —
і вось табе ўсё вабпае з экрана:
Усмешкі, рэпартажы і прыгожы парашут...
А заўтра...
— А ўжо заўтра! —
Днём і ўноч з экрана ўсхвалявана:
Жыві і не сумуй!
І аздабляй свой ціхі кут!..

Ну, так... Ну, так... Смяюся... Сам з сябе пакплю
з журбою:
«Эх, ветэран... пара, пара даўмецца —
новы век, разгон касмічных мар...»
Ды раптам — з гулкім рэхам
узрывае цішу браняпоезд,
І чуцен голас —
падае каманду камісар...

І зноў душа
                    заве на бой, на штурмы агнявыя...
Крычыць, крычыць...
Хоць колькі раз «суціхні!» я прашу.
...Прашу...
А сам...
Сам чую тое ж:
                    «Ой, не спите, часовые!»
І ліст трывожны
                    сыну ў армію пішу...

*1975*

* * *

Хоць трошкі б маладосці —
Хаця б на нейкі міг.
Хоць трошачкі б адвагі —
Якую меў калісь.
Ах, колькі чаго,
                    колькі
Я б мог яшчэ зрабіць!
Ах, на якую справу
Пайшоў бы без развагі!..

Жыццё стварыла дзіва:
— Прымай жа маладосць!
І ў сэрца зноў адвагу
Ранейшую бяры!
А я стаю, разгублены,
Гляджу на ўсход зары.
А я стаю —
                    не ведаю,
Як дзень свой пачынаць.

Раса блішчыць на поплаве —
Эх, так бы басанож
І кінуўся б!
                    Ды помніцца:
Даўно так не рабіў.
Рака бруіць, струменіцца.

Заве: — Ырай, плыві!
А я гляджу і ўзважваю:
«Што там за глыбіня?..»

Мой дружа, юны дружа,
Даруй мне,
                да цябе
Іду — мо ты падкажаш,
Павінен падказаць! —
Чаму і як вучыцца,
Каб ведаць, што рабіць,
Як ажывіць забытае —
Што ўмее маладосць?!

*1975*

* * *

Дзявочы голас кінуў песню ў сэрца.
І хлопец — што маланка, на кані.
Аж са здзіўлення ўрэзаўся ў азерца
Маладзічок
                з прыціхлай вышыні...

Падковаў звон лугі трывогай поўніць...
З азерца хтось смяецца юнаку...
Няўжо маладзічок?..
Ах, маладзічок!
Калі ты станеш поўняй,
Тады штось зразумееш на сваім вяку!

Тады, ўлюбёны ў сініх вод люстранасць,
Адбіткам іх зажурышся да дня...
І ўспомніш хлопца,
                што, пачуўшы спеў каханай,
«Хутчэй!» —
                прасіў, як брата, звонкага каня...

*1975*

* * *

Ну і што ж... Ну і што ж...
Мы з табою крыху пастарэлі...
Часам бачу:
хаваеш у вейках іскрыначкі слёз...
Але сэрцы!
Яны — як раней.
Толькі клікні —
і кінуцца на арэлі
Сярод сініх званкоў
і вячыстых бяроз.

Сэрцы прагнуць жыцця.
Так і чутна ім: «Гушкай! Гушкай!»
І здаецца...
Ды не, не здаецца зусім!
Я б і сёння ўзляцеў
аж пад сонца імклівай птушкай —
Перад радасцю,
Перад захапленнем тваім.

Я б і сёння
Імкнуўся
дастаць табе самую светлую зорку,
Толькі б ты пажадала —
як раней,
як калісь у далёкім жыцці...
Ну і што ж... Ну і што ж...
Мы з табой пастарэлі...
Можа, гэта і горка...
Але ўсё не бяда,—
не забудзь толькі —
час ад часу загадвай:
— Ляці!..

*1975*

## ВЕРШ

Кароткі, як уздых самоты, верш.
Жаночы шэпт —
Не! — крык душы пра вернасць...
І я пісаў пра вернасць...

А чаму цяпер
Адчуў, прызнацца,
Слоў былых мізэрнасць?

Ці я не тое вернасцю лічыў?
Ці я не тое бачыў і прарочыў?
Ці, можа,
у светлай вернасці жанчын
Ёсць іншы зрок —
ад роспачы жаночай?..

Чытаю верш і ў полымным радку
Так многа чую шчасця...
хоць яго яшчэ было так мала...
І хочацца пацалаваць руку,
Што гэты верш
з крывінак сэрца
ткала...

*1975*

* * *

Чакаюць...
Яшчэ чакаюць, яшчэ чакаюць...
Мо прыйдзе сам, а мо хоць трохкутнік пісьма...
То люляюць, то ў шлях выпраўляюць —
у снах спамінаюць,—
То сустракаюць,—
не вераць,
не хочуць верыць,
што сыноў ужо не будзе, няма...

Ссутуленыя ў матуляў плечы —
як замшэлыя стогадовыя стрэхі.
Колькі над імі ў чаканні
перагарэла цяпла.
Надзея, надзея, надзея —
толькі і ўцехі.
Толькі і шчасця —
каб гэта надзея жыла.

Але, калі б нехта падумаў,
што ім таго шчасця так мала,
Але, калі б нехта надумаў
з іх клопат надзеі той зняць,—
Ні адна матуля
жыцця сабе іншага б не пажадала,
Ні адна матуля
не захацела б свой лёс памяняць.

І кожны з нас,
хто пад іхнім чаканнем вырас,
Хто бачыў штодзённа
іх адзіную ўцеху з уцех,—
Да самага скону
не забудзе самотнасці матчынай выраз
І будзе ўсюды імкнуцца —
вярнуцца
да матчыных стрэх...

*1975*

* * *

Напаўзаюць туманы
На палеткі, на шашу...
І на слабую душу
Напаўзаюць туманы.

Сонца ўзыдзе — блішчуць зноў
Луг, і поле, і шаша...
Толькі слабая душа
Не прагоніць тумаоў...

Будзе ёй відно адно —
Што ўвесь свет цьмяны, цьмяны.
Праз цьмяныя туманы
Будзе ёй усё відно.

І, шкадуючы сябе,
Будзе плакаць над сабой.
Доўга плачам і жальбой
Шкадаваць будзе сябе...

*1975*

## У БАЛЬНІЦЫ

*Прафесару*
*Мікалаю Мікалаевічу Аляксандраву*

1

Хтосьці даў імя вавёрцы — Таня...
Таня, ці знаёма ты са сном?..
Толькі ўстане сіняе світанне —
Таня ўжо на варце пад акном.

То сцярожка вушкі натапурыць —
Слухае;
то раптам — скок і скок.
А то зноў прысядзе — вочкі жмурыць
Ды гарэзна кратае лісток.

А пасля, наструнёная,
нібы
Штось яе трывогай абдало,
Ціха так наблізіцца да шыбы
І камусьці цокае праз шкло.

— Цок, цок, цок! —
цакоча і цакоча —
Не заўважыць, хоць і побач стань.
Таня, Таня,
што сказаць ты хочаш
І каму —
у гэтакую рань?

2

А за шыбай той — малая Света.
(Восьмы год паспела пражыць.)
Захварэла Света ў гэта лета,
З хвораю галоўкаю ляжыць.

Цяжка Свеце — бы пад нейкім прэсам,—
Гэтак боль сціскае, ледзь стрываць.
Наказаў настрога ёй прафесар
Ні на хвілю з ложка не ўставаць.

Але ж як уцерпіш тут, не ўстанеш,
Хоць бы ўсе загадвалі: «Ляжы!»,
Калі з ранку раненькага
Таня
Просіць Свету — слова хоць скажы!

І з пасцелі цёпленькай, сагрэтай
(Глянула — нікога не відно) —
Устае, ступае ціха Света,
Адчыняе Танечцы акно.

— Таня мая, Танечка! —
Пяшчотна
Падае вавёрачцы руку.
А ўжо тая!.. Як да самай роднай,
Горне да яе сваю шчаку.

А тады, бы раптам нешта ўспомніць,
Лапкі развядзе і ў ладкі б'е.
А тады сігне на падаконнік,
Скокае, на хвосцік устае.

Выкладае ўсю навуку лесу...
— Таня,— просіць Света,— не дурэй...
І не бача Света,
што прафесар
На гульню іх дзівіцца з дзвярэй...

3

«Света, Света... Гэтакага ўчынку
Ну, ці ж мог чакаць я, ну ці ж мог...» —
Думае прафесар пра дзяўчынку...
Дума... Эх ты ж, дума... Горш трывог...

Трэ было б сказаць: «Своволіш, Света...»
Можа, й пакараць... Ды як караць...
Ён жа знае: і ў такое лета
Не кідаюць Светы паміраць.

Колькі раз паніклыя галоўкі
Ён трымаў,— апошні чуў хрыпок.
Паміраюць дзеці, як салоўкі,
Захліпнецца ў песні — і набок.

Ён, прафесар слынны, мужны воін,
Што прайшоў праз грозныя франты,
Колькі раз
рыдаў усёй душою,
З мёртвага знімаючы бінты.

Колькі раз караў сябе самога,
Сам сябе судзіў і катаваў
(Хоць і знаў — не вінен!),
што жывога
Зберагчы не змог, не ўратаваў...

Вось і сёння...
Радасны ці горкі
Будзе для дзяўчынкі новы дзень...
— Таня,— кажа Света да вавёркі,—
Сціхні, пасаромся ж ты людзей...

Лепей так вось,— перад развітаннем
Абніму цябе, вось тут прысядзь...
І згаджаецца, цішэе Таня,
З радасцю дае сябе абняць...

І глядзіць прафесар, як на свята,
На іх дружбу, на пяшчоту іх.
І з кішэні белага халата
Дастае цукеркі для малых.

«Што ж... Хай пагуляюць...—
Думкай годзіць
Сам сабе...— Ах, Света-дзераза...»
І кладзе цукеркі, і выходзіць...
Бо пачуў: пячэ ў вачах сляза...

*1975*

* * *

Гэта ўсё прысвечана табе —
Песня і туга мая апошняя.
І з надзеяй — радасць асцярожная —
Гэта ўсё прысвечана табе.

Дзень за днём, па кропельцы,
з табой
Мы збіралі скарбы шчасця чыстага.
Хай жа яно, светлае, вячыстае,
Застаецца ўсё навек з табой.

А каб свет любіць і за мяне —
Беражы лятункі нашы светлыя.
Не сыходзь са сцежкі запаветнае —
Каб любіць жыццё і за мяне.

Ды яшчэ:
на ўзгорачку зямлі —
Пакладзі не з саду ружы мляныя.
А званкі — нам родныя, палянныя —
Пакладзі на ўзгорачку зямлі...

*1975*

## МЕЛОДЫЯ ВОСЕНІ

І вось ты зноў...
Праз цэлы век нязменная
І што ні раз загадкавая зноў...
Пра што ты сёння —
Восені натхненная
Мелодыя калёраў і таноў?..

Аб чым спяваеш,
Залатое полымя
Бяроз,
Сярод барвовасці асін?
А твой, крушынка
Зыркая і кволая,
Пра што агеньчык —
колеру аўсін?

Пра што, пра што,
То гулка, а то сцішана,
Лістоты —
Там зіхценне, там запал?

Пра што ён, ля былых сядзіб,
Мігае вішаннік?
І водбліск медзі,
Што на дуб апаў?

Звініць прасцяг, пяе жывымі барвамі,
Свой адмысловы спеў —
што ні куток.

Дзе ні ступі —
Гудзе зямля шматфарбная:
У лесе,
На прысадах,
Ля заток.

Не раз зачараваны
Тут праходзіў я,
Ляцеў натхненна
Ў звонны далягляд.
А залатая
Восені мелодыя
Хвалюе —
як і многа год назад.

У светлай любасці
Усё імкнуся вылучыць:
Дзе найгучней
Калёры расцвілі?
І рады,
Што праз цэлы век
Не здолеў вывучыць
Загадкавую велічнасць зямлі...

*1975*

* * *

Успомні лета бабінага звонкі
І чуйны крок,—
сцярожка так ідзе...
На арабіны полымныя гронкі
Ніколі павуціна не падзе.

Яна абцягне пні, сіўцовы пасак,
Бульбянік, арахоўнік у раву,
Іржышча пачарнелае і пасуш —
Апошнюю прывялую траву.

А тое, што яшчэ цвіце, палае,
Што зелянінай свеціцца, жыве,—
Ніколі павуціна не кранае,
Заўсёды —
ціха міма праплыве.

Праходзіць нетаропка гэта лета,
Вызвоньвае руплівай думай час...
І светласцю жывога —
ягад, кветак —
Ці не гаворыць нешта і для нас?..

*1975*

# ТРЫПУТНІК

**Паэма**

Аднойчы стала гэтак скрушна —
Хоць закрычы ці ўдарся ніц,
Адзін, адзін, як дуб над крушняй
Пад грозным бліскам бліскавіц.
Адзін, як той забыты колас
На ўзмежку голага жніўя.
Ці як самотны кані голас...
Сябе адчуў аднойчы я.

Не, не на востраве скалістым,
Дзе анічый не клаўся след;
Не на планеце дзесь імглістай,
Што спарадзіў міжзорны свет;
Тут, на зямлі любімай, ойчай,
Дзе людзі,
сонца,
родны дым,
Тут я адчуў сябе аднойчы
Адным, закінутым, адным...

Праменні ранку білі ў рамы;
Піла духмянасць рос трава;
Пра неба, сонца і пра маму
Спявала ў скверыках дзятва;
Грымеў ад крокаў шлях шырокі;
Збіралі пчолы мёд з сяліб;
І сматужныя пракокі
Крычалі казані ўзахліп;

Усё, усё, бы ў мройным гудзе,
Імчала ўсцяж, расло, жыло;
Куды ні глянь,
спяшалі людзі
Пад зноў паўстаўшае святло;
Ішлі, нясли —
хто менш, хто болей —
Свой дар
у скарб хвілін, гадзін...

Я ж адчуваў з пякотным болем,
Што я адзін, адзін, адзін...

О, верце, верце, людзі, гэта...
О, верце, гэта горш труны!..—
Глядзець у ласку, ў радасць лета,
А чуць стуль холад ледзяны;
Грай звонкі, спевы птушак слухаць,
І гоман дрэў, і плёскат хваль —
А чуць адно ў іх — толькі скруху
І да сябе бясконцы жаль;

Быць у няспыннай, роднай, цёплай,
У плыні велічнай, жывой,
А не адчуць, што ты ў ёй — кропля,
Што ты заўжды патрэбны ёй;
Ўсім сэрцам знаць, як сэрцы множаць
Людское шчасце на зямлі,
А чуць, а чуць,
што ты не можаш
Душу ў тым шчасці прытуліць;

А чуць, што ты —
адзін, як вецер,
Хоць вый, хоць плач, хоць галасі;
Нічым, нічым, нічым на свеце
Свой сум, свой боль не загасіць;
Усё так цёмна ў дні ўчарашнім,
А ў заўтрашнім — яшчэ цямней...
О, верце, людзі, гэта страшна!
За ўсё на свеце найстрашней!..

*

Без мар, без мэт, без спадзяванняў,
Без суцяшэння і надзей;
Нібы якісь чужы выгнаннік
Сярод чужых яму людзей;
Спыніўся я на плошчы людной,
Схіліў на грудзі галаву;
І думаў —
горна і няўклюдна:
Куды ісці, нашто жыву?

Каму патрэбны жаль і боль мої?
І сам я тут нашто такі?

Вунь колькі іх — шчаслівых, вольных,
Навошта роздум ім цяжкі?
Вунь колькі іх — вясёлых, светлых,
Навошта ім чыясь туга?
Якісьці крык душы бязмэтны,
Якаясь думак мітульга?

Яны жывуць — працуюць, марацць
З імклівым векам у нагу,
Святкуюць, твораць, уладараць...
А я... Што ім сказаць магу?..
Прызнацца —
                    што стаю ў бяскрыллі?..
Што да зямлі жалкота гне?..—
Так думаў я...
                    І ў гэтую хвілю
Спыніўся хлопчык ля мяне.

Зусім яшчэ піскля малое,
Далёкі ад жальбы ці мар,
Ён моўчкі стаў перада мною
І пільна мне глядзеў у твар;
Тады
        з пяшчотаю відочнай,
З такімі добрымі вачмі,
Мне працягнуў руку з лісточкам
І праказаў:
                    — Вось на... Вазьмі...

Сказаў — і знік з гурмой дзіцячай...
А я зірнуў на той лісток —
І што са мной!..—
                    Як гром, няйначай,
Працяў душу трывогі ток;
Усё, што нёс у сэрцы здаўна
Ды што маўчала дзесь на дне —
Ўраз ажывіў лісточак траўны,
Што друг малы пакінуў мне.

Лісточак той...
То быў трыпутнік...
Жыхар вясковых каляін.
І сябар верны
                    і пакутнік

Шляхоў шматлюдных і сцяжын.
Заўжды ён змяты і стаптаны...
Але і скрыўджаны,—
                    заўжды
Гатоў гаіць чужыя раны,
Сцішаць агонь чужой бяды.

О колькі — ўспомніў я — калісьці
Яго прыносіў я з дарог!..
Нібы з лядком — тугое лісце...
Дзе тыя гоні, той разлог?..
Калі там быў?..
                    Што там сягоння?..
Я ўспомніў...
                    І ні хвілі, не! —
Не мог чакаць больш,—
                    бы з прадоння
Штосьці раптам клікнула мяне.

І проста з люднай плошчы,
                    проста,
Як быў, я кінуўся туды,
Дзе засталася тая ростань,
Якой не згадваў праз гады;
Ішоў і бег з глухой трывогай,
Пакуль не ўстаў перада мной
Куток зямлі —
                    няма другога —
Адзін
          на далі ўсёй зямной...

*

Пяшчотны, роўны плыняў блёскат...
Ракіты ў хвалях басанож...
У баравой задуме вёска...
Рака з таемнай назвай —
                    Сож...
Маленства любы час нябліжкі...
Юнацтва звонкая пара...
Куток зямлі...
                    І крок з калыскі...
І шлях з бацькоўскага двара...

Тут, над Сажом, ракою мілай,
Ёсць спад гары — шумяць кражы.
Паміж кражоў — капцы-магілы,
Над імі — помнікі-крыжы.
Сярод магіл тых
над адною —
Было —
я нік над плачам лер...
На насле той не быў даўно я...
І да яе прыбег цяпер...

Канчаўся дзень... Праменні ў соснах
Раняла захаду сяўня.
Пад махамі зялёных вёслаў
Плыла над долам цішыня.
Спакой магіл блукаў наўкола —
Як вечны сум пра вечны міг...
І толькі чэпікавы голас
Чуваўся з даляў лугавых...

Душой апалы ў цішы гэтай,
Я прыхінуўся да крыжа.
Адзін, адзін прад цэлым светам,
Як жвірунок на дне Сажа.
Якоюсь крыўдай сэрца біла.
Але якой? Якой такой?
Калі б спыталася магіла —
Не адказаў бы я —
якой.

Не адказаў бы — што са мною,
Чаму ў душы цяжар, чаму?..
Якога прагну супакою
Пачуццю горнаму свайму...
Якога сам прашу адказу,
Чаму за ім прыбег сюды...
Па сцежках сённяшняга часу
Шукаю даўнія гады...

І раптам я пачуў у цішы,
Як звонка зумкае пчала.
І ўбачыў: па-над крыжнай вышай
Каліна бела расцвіла.
І раптам — клічам з тых дасвецця ў,

Што ўспомніш, хоць і век міне,
Пачуўся мне найродны ў свеце,
З калыскі любы голас мне.

Нібы з самой каліны белай
Вызвоньвала яго лісцё:
— Ці ж я калісь табе не пела
Пяшчотных песняў пра жыццё?
Ці ж я цябе не навучала,
Як перад светлым — светлым быць?
Ці ж я табе не наказала,
Як светлым — светлае любіць?

Ці ж я не песцілася ў ласцы,
На першы гледзячы твой след?
Ці ж я не плакала ад шчасця,
Калі цябе пускала ў свет?
Ці ж я не марыла ўсім сэрцам
Пра шлях твой — сонцам залаты?
Ці ж я не верыла й да смерці,
Што ў свеце самы добры ты?!.

Сціх голас... Сум, аж зубы счэпіш,
Сум без мяжы, без берагоў
Зноў гойдаў цішу... Толькі чэпік
Чуваўся недзе між лугоў...
Сум, плывучы нацята, струнка,
Запоўніў сэрца да краёў...
І толькі грэла ўцешна думка,
Што ўсё тут —
родпае тваё.

Каліна ў цвеце. Агароджа.
Сцяжынка. Лавачка-пянёк.
Пад крыжам — ласкава і гожа —
Густы шыпшынавы цянёк.
Усё, што некалі любіла
ЯНА,—
расло, квітнела тут:
Прыйшла нат мята да магілы —
Аздобіць ЁЙ апошні кут...

І раптам, бы ў святле грамовым,
Душа здрыгнулася мая

Ад думкі вогненна суровай:
Што гэта ўсё —
зрабіў не я...
Не я садзіў каліну гэту...
Ёй вырасці не я спрыяў...
Не я на радуніцах светлых
Абрус тут слаў... Не я... Не я...

Не я шыпшыны куст духмяны
Прынёс з залужнага грудка...
І не мая вясной старанна
Тут кветкі сеяла рука...
І нават мой трыпутнік мілы,
Што так між кветкамі ўзбуяў...
Адкуль прыйшоў ён да магілы?..
Не я то ведаю... не я...

Не я... А хто ж ён?.. Хто той хтосьці,
Што столькі ў сэрцы меў дабра?..
І ўспомніў я, што ў блізкай вёсцы
Калісь жыла мая сястра...
Калісь... Жыла...
Якім дакорам
З'явіўся гэты мне ўспамін!..
Мне, што сюды прыбіўся з горам,
З бядой, што я — адзін, адзін!..

Сястра...
Здалося: аж паўвека
Прайшло, як бачыліся мы...
Блукаў па свеце... морах... рэках...
Сюды ж... прыслаў два-тры пісьмы...
Дзве-тры староначкі паперы...
Дый то... Было гэта — калі?..
Што сёння з ёй?
Ці хто б паверыў,
Што быць так можа на зямлі...

...Калі спяшаў
яшчэ да ночы
Дайсці да вёскі —
як хацеў,
Каб сном, які не сніцца двойчы,
Пяклівы сорам адляцеў!..

Не варушыў тугу старую!..
Хоць і жыла ў душы іскра:
Яна даруе, ўсё даруе,
Яна ж сястра, мая сястра...

*

Яна адставіла дайніцу
З шумлівым, пенным малаком.
Чарнушцы кінула травіцы.
Абцерла рукі фартухом.
Каля Чарнушкі пастаяла
(Як колісь маці акурат!),
Тады ступіла і сказала:
— Які ж ты стомлены, мой брат!..

Сказала з годнасцю і проста,
Без ані ценю на дакор,
Без лішніх жаласцяў і лёстак,
Як бы пакінуў гэты двор
Сягоння толькі я
і з працы
Цяпер вярнуўся да двара...
І чым, маўляў, тут ёсць здзіўляцца?
Вярнуўся ж брат, яна ж — сястра!..

Тады нязграбна, па-хлапечы,
Бы ўпершыню так на вяку,
Я прыхінуў яе за плечы,
Я цалаваў яе руку.
Руку, што цёплым пахла вымем,
Травой і парай малака.
І чуў, як жылкамі сваімі
Мне шле адказ яе рука...

Тады яна, сказаўшы «зараз...»,
Знімала з колічкаў збанкі;
І біліся на дно іх з парай
З дайніцы звонка ручаікі;
І я сядзеў, і слухаў, слухаў...
Яна ж казала: «Брат ты, брат...
Я ж бачу: жыў ты нейкай скрухай...
Што ж не вярнуўся ты назад?..»

Тады, збанкі занёсшы ў стопку,
Пра ўсё — ад першага дзянька —
Мне расказала нетаропка...
Як пахавала мужыка...
Як двух сыноў адна расціла...
Было — хварэлі ўсё яны...
Але, даў бог, набралі сілы
І выйшлі ўдалыя сыны...

— Цяпер ужо вось год, як служаць,
Абое, пішуць, ля ракет.
Далёка недзе. Ды не тужаць.
Пабачым, пішуць, мама, свет.
А там — дамоў...
І я чакаю...
Ну што той год адзін... Як дзень...
Даждуся... А бяда якая —
Дык свет жа наш не без людзей...

Яна ў гладышык паліваны
Мне падлівала малака.
Блінцоў падкладвала духмяных
На белы кужаль ручніка.
І пра суседзяў, і пра вёску —
Які тут зараз добры лад! —
Вяла свой сказ.
— І ты б па-свойску
Зажыў бы тут, як людзі, брат!..

Тады яна пасцель мне слала —
З аерам водарны сяннік...
Пасцель мне слала, прамаўляла —
Хоць свет, вядома, і вялік,
Ды хіба ж ёсць дзе лепш на свеце,
Чым тут, дзе маці жыць дала...
— Пабудзеш вось у родным леце,
Забудзеш скруху, што была...

«Спі, брат...» Сказала і пайшла...



Яна пайшла, а я да ранку
Не мог не тое што заснуць —
На нечаканым тым прыстанку
Не мог я нават воч самгнуць.
Нібы на споведзі, палала
Душа — тушы ці не тушы...
І я адчуў, чаму нямала
Насіў я скруху на душы...

Тут, на прыстанку мімалётным,
Я зразумеў яе выток —
Я не самотны, не гаротны,
А адарваны, як лісток.
Я адарваны, ў далях гнаны,
Усім аддадзены вятрам.
Ды я не бурай адарваны,
А адарваў сябе я сам.

Сам,
        сам сябе, самаўлюбёны,
Ва ўладзе самапазбыцця,
Я адарваў — яшчэ зялёным —
Ад дрэва любага — жыцця.
Жыў летуценнем, жыў самотай,
Сам для сябе згрызотай жыў.
«А для людзей зрабіў ці ўсё ты?
Што ты зрабіў для іх, скажы?»

Вунь колькі іх, што твораць разам,
Ці быў ты з імі, крок у крок?
Ці не чакаў ты недзе часам,
Каб за цябе хтось даў зарок?
Ці не чакаў, што нехта ўстане
На бой суровы, бой святы
Там, дзе без роздуму й чакання
Павінен быў падняцца ты?

Ці быў ты з тымі — не як сведка,—
З кім дом наш браўся ў вышыню?
Ці клаў ты разам з імі кветкі
Хоць раз да Вечнага агню?
Ці кінуў з імі хоць бы жменю

Зямлі на Славы Курганы?
Ці вывяраў душы імкненні —
Каб Веку ў рост былі яны?

Успомні —
з крыўдамі сваімі,
З рыданнем слёзным над сабой,—
Ці не праходзіў часта міма
Тых, хто насіў сапраўдны боль?
Успомні —
з прагнасцю да ясных
Дзён прамяністых для сябе,—
Ці згадваў тых,
хто быў няшчасны
У непрыдуманай журбе?..

Успомні — ці знайшоў жывое
Ты ў сэрцы слова для спагад
Тым, хто пакутліва з табою
Дзяліў бальнічны сум палат?
Успомні вочы, што прасілі
Цябе
ў іх веру падтрымаць,—
Ці даў ты позірку іх сілы
Глядзець у заўтра недарма?..

І нават маці кут апошні
Наведаў ты — калі, калі?..
І нават дум сястры трывожных
Не чуў —
як бы і не былі
З'яднаны роднасцю нязрушнай
Калыскі матчынай, радзін...

Што ж ты хадзіў са скаргай — скрушна...
Што ж ты крычаў, што ты — адзін...

*

Яшчэ нясмела ў аканіцы
Намацваў шчылінку прамень —
Пачуў я: звоніць у дайніцу
З трымценнем лёскатным струмень.

Звон нібы клікаў, біў бадзёра,
Як бы казаў: — Пара, пара...
Я выйшаў ціха на падворак.
Стаў ля сястры.
— Бывай, сястра...

Яна —
як быццам сцюжны вецер
Ударыў, збіў святло з вачэй —
Сцямнела...
— Зноў блукаць па свеце...
Не хочаш, каб пажыць лягчэй...
Не хочаш, не...— Яна маркотна
Падумала...— Ну што ж, тады...
Тады ідзі... Цяпер кут родны
Забудзеш, мусіць, назаўжды...

— Не,— адказаў я ёй,— павер мне,
Я не кідаю родны кут.
Куды плынь лёсу ні паверне —
Я буду тут, з табою тут.
Я буду тут, пад родным небам,
Ля родных ніў, ля родных хат...
Але мне трэба, вер, мне трэба,
Мне трэба ўсё прайсці назад...

Так, трэба многае нанова
Зрабіць... І скончыць, і пачаць...
Мой любы свет... Хоць ён суровы,
Ды — мой!.. Яго на мне пячаць...
Яго вялікі подых бурны
Не раз мяне ўзнімаў у лёт...
Паслухай, чуеш яго сурмы?
Ён не спыняе свой паход!

Ён кліча ўсіх, мы ўсе — салдаты,
У кожны міг, парой любой...
Прад ім заўсёды вінаваты
Я, мусіць, больш, як прад табой.
І ці ж была б, скажы, ты рада,
Каб я не з ім быў хвілю хоць?..

Сястра сказала: — Брат... то праўда...
Ідзі ж, мой брат... але прыходзь...

...Там, дзе дубок па-над сцяжынай
Лагодна шэпча штось вярбе,
Я выкапаў з зямлёй айчыннай
Трыпутнік з коранем сабе.
Цяпер — з душой сваёй адталай —
Я знаў, куды мне перш ісці...
Найперш — то трэба, што б ні стала,
Таго мне хлопчыка знайсці.

Таго, што свой лісточак даў мне...
— Мой братка! — Я яму скажу.—
Хадзем са мной!.. Па звычцы даўняй
Трыпутнік з братам пасаджу.
Хай ён расце, наш кусцік братні,
Хай разрастаецца для ўсіх...
Каб шчасным стаў, хто чуўся стратным...
А дзе быў боль — каб ён аціх...

І так, святлеючы ўсім сэрцам,
Ішоў я далям насустрэч.
Ішоў мінулы смутак смерці,
Цяжар мінулы скінуць з плеч...
І толькі нёс адну трывогу
У новы сонечны свой дзень —
Як лепш
        прайсці сваю дарогу...
Сваю
    дарогу
        да людзей...

*1976*

## ЛЯСНЫЯ СЯБРЫ

— Хто там просіцца, хто б'ецца,
Хто заглядвае ў акно?
— Гэта я, твая сінічка,
Я чакаю тут даўно.
　　— Ты адна ці хто з табою?
　　— Не адна я, не адна...
　　Каралёк, шчыгол і пліска
　　Прыляцелі да акна.
А яшчэ са мною, дружа,
Згоднай купкай снегіры.
Мы іх з поўначы сягоння
Прынялі ў свае бары.
　　А яшчэ і амялушкі,—
　　Чуй, як крыльцы шалясцяць...
　　А яшчэ... Усёй сямейкай
　　Вунь і попаўзні ляцяць...
— Што ж вам трэба, што магу я
Даць вам, дружны гурт лясны?
Калі ж, бачыце, і сам я
Зажурыўся без вясны?
　　Сам лагодных дзён чакаю
　　І душой гукаю сам
　　Дабрыню і ласку сонца
　　Ўсёй зямлі — палям, лясам...
— Анічога нам не трэба,—
Чую голас з-за акна,—
А пачулі мы здалёку,
Як ты нас успамінаў;
　　А пачулі — прыляцелі
　　Да цябе ў твой ціхі кут...
　　Калі прымеш,
　　　　　　аж да цёплых
　　Да дзянькоў
　　　　　　прабудзем тут...
Сталі жыць у маім лесе
Птушкі шумнаю гурмой...
Пастаю між імі ранкам,—
Як пабыў з вясной самой...

*1977*

## НА ЎСКРАІ БОРУ

На ўскраі бору стань між соснаў,
Дзе аж у лес бягуць жыты,—
Які бясконцы спеў дзівосны
У тым кутку пачуеш ты!

Як быццам граюць сто аркестраў,
Спяваюць сотні галасоў,—
Шырока так
выводзіць лес там
Кантату дрэў і каласоў.

У той кантаце хор і сола —
Высока радасць устае...
Але пачуць той спеў вясёлы
Адно ўлюбёным
лёс дае.

Так, толькі шчырым сэрцам можна
Пачуць яго пад сонцам дня,—
Бо ён ад любасці народжаны,
Дзе радасць,
дзе парыў трывожны,
Дзе творыць роздум цішыня.

Але калі ўжо хто пачуе
Спеў той,—
дык праз усё жыццё,
Дзе б ані быў,— яму вяшчуе
Святога шчасця пачуццё.

І нават сярод дыму,
грому,
У чорным полымі вайны,—
Ратўе сэрца голас дому,
Спеў любы роднай стараны.

*1977*

* * *

Калі зазвініць
У высокім блакіце
«Кур-лы...» —
Каб нанова
Вясну абвясціць,—
Ці ж не цяплеюць
Ад шчасця, скажыце,
Столькія сэрцы:
— Вырай ляціць!

Тады адступае
Прад радасцю смутак.
Сціхае наўсцяж
Кананада прамоў.
І нават ракеты
Зменяць маршруты
Перад выраем,
Што ляціць дамоў...

Стаім, углядаемся
Ў ціхія высі,
Адкуль далятае
Так звонка «кур-лы»...
І кожны ўлюбёна
Душой сваёй зліўся
З тым клічам вяртання,
З тым спевам хвалы...

Ды раптам
бяжыць
Устрывожана маці
У хату...
— А бож...
А мая ж галава!..—
А там —
і ў калысцы —
Маленькая Каця
Шле выраю песню:
— У-а, у-а...

*1977*

* * *

Звышказачныя хуткасці ўсялілі
Касмічную рамантыку ў людзей.
Але зямля,—
ці век з ёй быць, ці хвілю,—
Усім як дабрадзей і чарадзей.

На найвышэйшых, велічных арбітах
Не можам не тужыць, не летуцець,
Каб да рачулак ціхіх, да ракітаў,
Да гарадоў шумлівых даляцець.

Настройваем на Зоры апараты,
А сэрцамі, а сэрцамі між Зор
Спеў жаваранка чуем па-над хатай
І мову блізкіх — ласку ці дакор...

Касмічны век сваю звышхуткасць дорыць,
Сусветы адкрывае прад вачмі,—
Каб у людзей памножыць і паскорыць
Імкненне —
яшчэ болей быць людзьмі.

Што ж, хай гучыць сыноў нашых размова
Сярод Галактык,—
прагу не згасіць;
А знойдзеная старая падкова —
Па-над парогам бацькаўскім вісіць!..

*1977*

* * *

Іду да вас,
Курганы Славы
І агні Вечныя...
Даруйце, што так спазніўся...
І асабістыя,
І ўсечалавечыя
Не пускалі клопаты,
справы былі ўсё...

Курганы Славы
І агні Вечныя,
Іду да вас... Але верце, паверце —
Пад Высокім Шляхам,
Пад Бессмяротным Млечным
Не пра вас думаю,
не пра бяссмерце...

Мільёны вачэй ясных
І мільёны сэрцаў чыстых,
Калі згаралі,—
не марылі пра помнікі...
Бачу іх:
І ў муках сваіх вячыстых
Яны пра жывых думалі,
жывых помнілі...

Бачу іх,—
Як апошнім дыханнем яны
жыццё славілі,
Як для жывых праменіліся
І апошняй крывінкай сардэчнай...

Калі вас насыпалі,
Калі вас запальвалі,
Мы ведалі:
мы да вас прыйдзем,
але прыйсці спознімся,
Курганы Славы
І агні Вечныя...

*1977*

## РЭХА

Рэха ў лесе заўжды супакоіць.
Рэха ў лузе —
як спеў рачной кручы.
А вось рэха ў сонечным сваім пакоі,—
Як страшна яго чуць, як балюча!

Здаецца, усё тут, усё па-быламу:
І вокны, і дзверы, і рэчаў капа ўся.
А вымавіш слова —
і ў голасе громам
Загрыміць засведчанне,
што адзін ты застаўся.

Гудзе рэха ў пакоі:
— Чаму, чаму ты
Ахаваць не здолеў —
што да веку святое?..
І заходзішся думай, пакутаю скуты:
Дзе ж ты зараз, дзе сёння,—
дарагое ўсё тое...

І раптам успомніш... І, нібы ад навалы,
Кінешся хутчэй з пакоя, з не твайго назаўсёды...
Бяжыш, шэпчаш песню,
што — чуў — маці спявала:
— А я ж к свайму роду
хоць па шыю ў воду...

*1977*

* * *

Як часта так здараецца ў жыцці,
Што ўжо калі цябе
зусім надзея кіне,—
Знаходзіш той жаданы скарб адзіны,
Што век шукаў і ўсё не мог знайсці.

З якою горкай радасцю тады
Свой успамін пра век пражыты роніш...
Бо чуеш —
успамін той
не адгоніш, не прагоніш...
Бо чуеш,—
як і сам твой век,
ён — назаўжды...

Але ў бясконцых днях, што не суняць,
Хіба ж не ўцеха на шляху бурлівым,
Калі ўсвядоміш:
успамін той, і гаркотны, і шчаслівы,
Навошта адганяць і праганяць?

Бо, можа, ты таму толькі і змог прайсці
Нялёгкі шлях нялёгкага шукання,
Што ўсё ішоў —
без спыну, без палёгкі ў парываннях,
Усё шукаў —
і ўсё не мог чаканы скарб знайсці...

*1977*

* * *

Каб нягоды і радасці змераць
І прайсці праз надзеі і ростань,—
Трэба —
ў сябе паверыць,
А гэта — не так проста...

У сябе на шляхах пакручастых
Паверыць — гэта навука.
Гэта даецца часта
Самай вялікай мукай.

Не выхваленнем, не захапленнем
Самім сабою.
А горкім душы гарэннем
І па самім сабе —
пальбою.

Не раз давядзецца мо ўпасці,
І ўстаць будзе цяжка без меры...
І ўсё ж, калі ёсць яно, шчасце,—
Дык жыць для такое вось веры.

Дзе дума, дзе боль, дзе трывога,
Дзе з радасцю разам і страта...
Дзе знойдзеная перамога —
Не вынік, а толькі пачатак...

*1977*

## ПЕРАД ФОТАЗДЫМКАМ

Белая паляна, спрэс белая.
Тапалёў
          над палянай
                    строй гонкі.
І зачараваны квецепню
                    рукой няўмелай
Хлопчык
          у букецік
                    збірае рамонкі...

З позіркам замілавання,
                    далёкім ад ліха,
У зямлю, у сонца
                    шчыра ўлюбёны,
Хлопчык
          насустрач свету
                    глядзіць ціха,—
У белым каўнерыку,
                    у гальштуку чырвоным...

Цыгара і гітара...
                    Ухмылка нахабная...
Патлы за спіною...
                    Цырк штаноў расклёшаных...
Хлопец... Той жа хлопчык...
                    Стаіць нязграбна...
Ні захаплення,
          ні пытанняў
                    у вачах спустошаных...
Глядзіць бацька
          на фотаздымкі сынавы

І на свой побач —
у шынялі,
з-пад Берліна прынесеным...
І ламае галаву:
дзе ж яго ўдача пакінула,
Дзе ж ён, былы воін,
сваёй прысягі не здзейсніў?..

Дзе і калі
небяспекі не ўбачыў згубнай,
Не заўважыў,
як цаляе ў сэрца
горш кулі навала сумная?..
Глядзіць бацька
на фотаздымкі
разгублена
І не можа дадумацца —
думае, думае...

*1977*

* * *

Мы тады не ведалі,
што хтось і загіне...
Мы тады пра многае
шмат чаго не ведалі...
Далягляд свой бачылі
толькі ў сіняй сіні,
Дзе ў шляхах не збіцца
з сонечнага следу...
Мы тады не думалі,
што ў жыцці расстанне
Можа быць бясконцае,
а магчыма, вечнае...
Толькі з песняй зналіся,
калі сумна стане,
Без трывог спяшаліся
на цягнік сустрэчны...
Мы тады часамі
нават з адрасамі

Што рабіць — не званалі...
За імклівым лётам
На сяброўскі заклік
падоўгу не пісалі:
«Ат, яшчэ час будзе,
неяк потым, потым...»
На апошніх вёрстах
з перуновым бліскам
Шкадаваннем выбухне
успамінаў неруш...
Перад ціхай зоркай,
перад абеліскам,
Станеш на калені...
галава — аберуч...

*1977*

* * *

Якое сонца! —
Глядзіш у радасці:
Як многа ў свеце добрай цеплыні!..
Няўжо вярнуліся юнацтва дні?..
Няўжо яшчэ
і тваёй песні спець,
і твайму саду расці?..
Якое сонца!..

Якая далеч!
Зямля маёвая
Так кліча звонкай рупнасцю дарог,
Ажно здаецца: ты і сёння б змог
Ісці бясконца
ў нараджэнне захапленняў новае...
Якая далеч!..

Якое шчасце!
Як запаветнае,
Нясеш у ціхім сэрцы смутку пачуццё...
І чуеш: праз усё, усё жыццё
Цябе не пакідае
мір людскі і мара светлая...
Якое шчасце!..

*1977*

* * *

Раскладаюць крытычныя мэтры
паэтаў па палічках:
Гэты вось — талент,
а гэты — геній.
А гэты...
Ну ці ж раўня ім?..—
Зусім, маўляў, невялічкі —
Толькі, бадай, для затычкі,
і размоў аб ім меней.

І, закалыханыя словаблудствам,
сняць сябе ў лаўрах геніі.
А таленты заахвочаныя
гарланяць на ўвесь прасцяг —
Ад абвешчанай ім славы
у няўрымслівым захапленні:
«Каму,— крычаць,— па іх смерці
перадасца паэзіі сцяг?..»

А сама паэзія...
Паэзія,
збянтэжаная да колік,
Ну, нічога не можа ўцяміць
у той пахвальбе:
Колькі да яе прыпісана геніяў!
А талентаў колькі,
А чаму ж ёй так самотна часам,
так не па сабе?

І чаму,—
не можа даўмецца,—
гэты вось, маўляў, невялічкі,
Молячыся на яе,
як на бога,
адзінага на вяку,
І штодня, і штоночы з ёю,—
не думае пра палічкі,
А, як дзіця,
з ёй радуецца
кожнаму звонкаму радку?..

*1977*

* * *

Пазнаём непаўторнасць
                                        свету прыгожага:
Мерыдыяны, мацерыкі, акваторыі.
Толькі вывучыць ніяк не можам
Сэрца —
            маленечкай сваёй тэрыторыі.

Мо таму, што яно блізка, што яно нашае,
Што яно, безадмоўнае,
                                        б'ецца надзейна,—
Ці помнім аб радасці яго ўчарайшай?
Ці знаем аб сённяшняй яго надзеі?

Прывыкаем заклікаць яго,—
                                                і ў будні, і ў свята
Клянёмся ім горача і самавіта.
А ці чуем, ці непакоімся —
                                        чаго яно звініць, напятае,
Ці затрапеча — птушкай падбітай?

Ці чуем, ці знаем,
                                як яно просіць, чакае ўсё,
Каб мы ад Гімалаяў, акіянаў і нябёсаў
Прыйшлі да яго ўрэшце,—
                                                і ўрэшце спыталіся:
— Пра што ты, сэрца?
                                        Што трэба для твайго лёсу?..

*1977*

* * *

Пашапчы мне...
Пашапчы
На травы цёплыя,
На зару ясную,
На сінь бяздонную сваіх вачэй...
Толькі не голасам шаптухі,
Не варажбіткі,
Не заклінальніцы.

А голасам мары маёй —
пашапчы хутчэй...
Пашапчы мне...
Пашапчы —
Назаўжды пазбаў
Ад прыстанкаў ціхіх,
Ад дарог глухіх,
Ад дзён бяздумных,
Ад бязводгаласных далячынь.
А пакінь трывогі мае,
А пакінь хваляванні мае,
І расчараванні пакінь,
І нават боль мне пакінь...
Пашапчы мне...
Пашапчы горача,
Пашапчы вогненна,
Хай хоць і кара душы тваёй полымная
ў шэпце тваім імжыць...
Пашапчы —
Каб ішло са мной,
Што не дае тлець,
Што не дае забываць,
Што не ўмее старэць,
Што кліча няспынным быць,
І жыць, і жыць...

*1977*

* * *

Як у спякоту
Знойдзенай расінцы
Птушка радуецца;
Як струменьчык,
Прабіўшыся з глыбінь,
Смяецца
Ад сонечнага святла.
Так я,
Убачыўшы
Вачэй тваіх радугу,

Забываю,
Што ты доўга
Далёкай
былa.

Стаю разгублены:
Дзе мне дзець
Усё,
Што сабралася
Ў сэрцы
І зараз не можа
Ўтрымацца ў ім?..
Ды, пачуўшы гарэзнае:
«Ну, што стаіш, як мядзведзь?» —
Думаю шчасліва:
— Ты ўсё ж вярнулася...
Можа, і назусім...

*1977*

* * *

Пяшчотнае жаночае імя...
Няпіты сок тугіх гарачых вуснаў...
О бог!
Не дай мне ўпэўніцца,
што ўжо бязгрэшны я...
Не адбірай,
Не забірай з душы
Агонь спакусы...

Пакінь магчымасць
хоць калі на міг
Залюбавацца самым чыстым, светлым цудам!
Калі ты бог,—
дык ад усіх, усіх дароў сваіх
Аддай адзін —
Быць ля красы,—
І я да скону дзён удзячны буду.

Тады хаця і ў пекла кінь — усё сцярплю,
Усё стрываю, не пакрыўджуся няўцешна.
О сонечны!
Не дапусці забыць
гарачы шэпт «люблю»,
Узнагародзь высокай карай:
вечна грэшны!..

*1977*

* * *

Давай мы лепей з табой, як калісь,
Возьмем у хустку тваю харчы...
Па акрайчыку хлеба, па драбку солі...
Ды яшчэ па глытку вады для патолі...
І пойдзем...
аддаўшы суседзям ключы...

Давай мы пойдзем...
ад усяго...
ад багаццяў,
З антыкварным спалохам, з ярмом ярлычка...
Ад сноў сытых... ад нуды ў хаце...
Давай пойдзем...
да маладосці, да маці,
Да самых дарагіх званняў у свеце —
сын і дачка...

Давай адчуем нанова, як палавеюць росы,
Як нараджаецца ў жыце хлебны пах...
Давай успомнім
увесь твой свет шматгалосы,
Дзе мары, дзе песні,
дзе духмянасць пракосаў...
Дзе жылі калісь пацалункі на тваіх губах...

Давай... Давай зробім усё, што хочаш...
Толькі каб вярнуцца да жывой каляі...
Толькі каб па-сонечнаму
засвяціліся вочы,

Забіліся сэрцы горача
ад весткі прарочай,
Што на свеце яшчэ не змёрлі,
яшчэ пяюць салаўі...

Давай... Любая...
Кінь хоць і крыўды агонь колкі...
І самую злосную буру
мне ў вочы кінь!
Толькі б не клопат
пра пярсцёнкі і столкі...
Толькі б не асколкі
ад былой вясёлкі...
Толькі б не райская
душы стынь...

*1978*

## А ЯШЧЭ Ў МЯНЕ...

...А пад акном у мяне звонкі дамок:
На ліпе шпак месціцца.
А на ранку —
дзеці шпаковы песцяцца,
Збіваюць з галінак ліповы пылок.

А на палях у мяне — кожны дзень
Сонца лагодзіць жыты рослыя.
І звініць між сцяблінаў
цёплы прамень,
Як пакоціцца «шыць-палоць» у далі росныя.

А мой лес зеляніцца крохкім лісцём,
Гэтак многа ў ім сокаў з глыбінь сочыцца.
І жаваранкі трапечуць у небе —
іх крыльцам хочацца
Без спачынку трымцець над светлым жыццём.

А суседзі мае — ціхі, сонечны дзед,
А ў яго ўнучкі — гарэзы няўседлівыя.
І з ранку да вечара
задуменныя, ветлівыя
Чакаюць іх хлопцы, летуценячы ў свет.

А паўз дарог маіх касачы цвітуць.
Цвітуць,
каб юнакі тых унучак улесцілі.
А над дарогамі тымі птушкі лятуць,
Па пярынцы скідаюць
на падушкі нявесціны.

А яшчэ...
А яшчэ ў мяне спеў над сцежкай любой...
А яшчэ —
а яшчэ нясе радугу хмарка кожная...
А яшчэ —
а яшчэ ў мяне мара — такая прыгожая:
Колькі б часу ні жыў —
каб ішлі з душы словы гожыя —
Не спыняліся, не стамляліся
з маёй пахвальбой...

*1978*

## НАКАЗ

Дружа мой, сын мой,
Рамантык касмічнага веку,
На развітанне
ты просіш
Парады маёй...
Слухай жа:
Дзе б ты ні быў —
Адчувай сваю сувязь
з бацькоўскай зямлёй.
Памятай:
Край свой любіць —
Ёсць вышэйшы закон чалавека.
Будуць і радасць, і ўцехі,
І між перамог перамогі.
Але і скруху, і буры
Сустрэнеш не раз...
Ведай жа:
Ты пераможаш
І час,
І арбіты падсонечных трас,
Калі будзеш памятаць тыя,

Дзе крочыў з матуляй, дарогі.
Вернасць душы —
Вымярай толькі вернасцю краю,
Ленінскай справе
Адданасцю шчырай навек! —
Дружа мой,
Сын мой,
Рамантык эпохі
І мой дарагі чалавек,—
Гэткі
Табе я
Наказ абвяшчаю!..

*1978*

## ВЯСЁЛКА

Ад ліўня вострага
                    аж колка
Было,—
          не ступіш басанож...
Ды раптам яркая вясёлка
Так цёпла
Ўспыхнула
Паўз Сож...

І лівень стаў цішэць.
                    Зарніца
Стрымала тупат перуноў.
Хоць з хмар не перастала ліцца,
Ды неба ўжо яснела зноў.

Ля сцежак вабна пахла квецень.
Дужэлі ногі на бягу.
І пад вясёлку мчалі дзеці —
Як пад вясёлую дугу.

І нехта ім крычаў:
                    — Бяжыце,
Там сонца вунь, там лівень сціх!..
І васількі званілі ў жыцце
Званамі сінімі для іх...

*1978*

* * *

Настае часіна сузірання —
Нетаропкіх, сцішаных высноў...
Штосьці адышло без шкадавання...
Нешта ўспомніш: ах, ды каб наноў...

Штось калісьці вогнішчам гарэла...
Штось раней з маланкамі гуло...
Штосьці ўперад строілася смела...
Штось было... Хіба толькі было?..

Настае часіна сузірання...
Настае... Няўжо да скону дзён —
Без агню, без грому існаванне?..
Ціхі след ды мройна-ціхі сон?..

Не! Такога, каб і надзялілі
Скарбамі,— за ўсіх — ды аднаму,—
Не! Жыцця такога ні на хвілю,
Ні на момант нават не прыму.

Толькі шлях —
дзе з сонцам бурны вецер.
Песня — дзе пачуцці, як прыбой.
Нават калі смерць — дык што асвеціць
Дні і ночы для другіх сабой.

Хай ідзе часіна сузірання...—
Толькі як пара, як час трывог...
Час выпрабаванняў без ваганняў
Перад новай далеччу дарог...

*1978*

## УПЭЎНЕНАСЦЬ

Паэта не пытаюць, ён нядужы
Ці яшчэ ў сіле сэрца і рука.
Пакуль звініць
жывая сталь радка —
Упэўнен свет:
з ім моц юнацтва дружыць.

І гэта праўда.
Светлы лёс паэта —
Усё жыццё імкнуцца ў маладосць.
Заўжды ў паходзе быць,
пакуль дыханне ёсць —
Быць
маладосці песняром
для свету.

І ў лёсе тым
на ўсё ён мае права:
Кахаць,
Гарэць,
Цярпець,
Праменіць,
Сніць.
А толькі
прыпыніцца,
хоць на міг імкненняў шлях спыніць —
Яму ніколі не дазволяць
ані слава, ні няслава.

*

Упэўнен свет — свет Маці роднай, Краю,
Братоў і Сёстраў, сэрцу дарагіх,
І будучых, якіх яшчэ не знаю,
Нашчадкаў, прадаўжальнікаў маіх,—
Упэўнен свет:
калі ён пеў ці плакаў,
Трыумфаваў ці нікнуў ад тугі,
Ці ў працы рупнай цешыўся падзякай.
Ці ў бітву нёс агністыя сцягі,

Калі святло дарыў шляхам замглёным,
Са змрокам душ змагаўся векавым,—
Упэўнен,—
ты, адзін з яго мільёнаў,
Заўжды і ўсюды крочыў разам з ім...

Упэўнен,—
і не так, з якойсь нагоды,
Але таму, што твой заўважыў плён...

I гэта ёсць —
яго узнагарода;
Вышэйшае —
ты знай —
не мае ён!..

*

Дык захавай жа, лёс мой,
прагу пець і жыць,
I спеласцю, як зерне, наліваццa.
Хоць і на смерць ісці, а не здавацца
I справе, што душой абраў, служыць.

Дык захавай жа, лёс мой,
прагу кожны дзень
I сонцам ззяць, і прарастаць травою.
Гарачай непакорнай галавою
Страчаць і песціць цяжкіх дум прамень.

Дык захавай жа прагу —
гнеў, агонь аддаць
У смутак, у няўтульнасць, у трывогу.
I радавацца дай,
калі па мне дарогу
Хтось пракладзе
у маладую даль...

*1978*

## У БАБУЛІ ЎНУЧКІ, УНУКІ

У бабулі ўнучкі, ўнукі —
Ды адно ж ды пад адным.
Ледзьве ранак —
вось дакука! —
Панаробяць стуку, груку,—
Ну, няма ўгамону ім.

Сашка рыпае ў гармонік,
Ленка ў таз, што ў бубен, б'е,
Косцік сеў на апалонік,

Лідка плача: — То ж мой конік! —
Мішка пеўнікам пяе.

Толькі Светачка —
адна
У калысцы ля акна —
Ціха кліча:
— Ба... бу... бу...
Ба-бу... бу... Лю-бу... Лю-бу...

І так цэлы дзень да ночы —
Піск, ды віск, ды шум, ды тлум...
Сашка — то як танк грукоча,
То як кулямёт стракоча,
То з гарматы — бах ды бум.

Ленка ўслед за ім машынай —
Самаходкаю гудзе.
Косцік ставіць з цэглы міны,
Лідка б'е тыя цагліны,
«Ура-а!» — Мішка ў бой ідзе.

Толькі Светачка —
адна
У калысцы ля акна —
Усё кліча:
— Ба-бу... бу...
Ба-бу... бу... Лю-бу... Лю-бу...

Гэтых сцэн шумлівых сведкі,—
Сцэн то з мірам, то з вайной,—
Прыйдуць, быццам у адведкі,
Да бабулі ўсе суседкі —
Ды ўсё радзяць-раюць ёй:

Узялі б вы кій, бабуля,
Ды іх сцішылі б хоць раз!
Гэта ж трэба! — дзе вы чулі? —
Каб бабулю так прыгнулі? —
Ды яны ж загубяць вас!..

А бабуля:
— Што вы, людцы,
Так пра родненькіх маіх!

Што за клопат,—
хай таўкуцца,
Хай сквяруцца, хай смяюцца,
Што мне гэты свет без іх!..

І, сказаўшы так,—
бы стала
Млосна ёй,
застогне: «Вох!..»
І тады —
як па сігналу,
Сыпануць усёй навалай
Дзеці к ёй, нібы гарох.

Сашка бабку абнімае,
Ленка трэцца пад рукой,
Косцік сесці запрашае,
Лідка ласкай суцяшае,
Мішка ўсмешку дорыць ёй.

А ўслед Светачка —
адна
У калысцы ля акна —
Кліча звонка:
— Ба-бу... бу!
Ба-бу... бу!.. Лю-бу!.. Лю-бу!..

*1978*

## ПОДПІС НА ФОТАЗДЫМКУ

Пасылаю фотаздымак
Не сягонняшняга дня,—
Хай пабуду прыгажэйшым —
Маладым жрацам раўня...

Пасылаю фотаздымак —
Дзе ні ценяў, ні маршчын...
Мо запомніш назаўсёды,
Што такі — ўсяго адзін...

Пасылаю, заклікаю:
Вер, што гэта так і ёсць,—
Што жыццё ўсё — напачатку,
Напачатку — маладосць.

Буду ў песні, буду ў маршы,
З бліскавіцамі ў крыві...
Пасылаю фотаздымак...
А самога —
не заві...

*1978*

* * *

Ураніла лісток бярозка,
Засаромелася, затрымцела.
Крый бог,
пойдзе гуляць пагалоска,
Што нездарма пажаўцела.

Крый бог, пойдзе лясная плётка
Ды пра ўсё, што душы так люба:
Каб лісток яе
сцежкай кароткай
Дакаціўся да польнага дуба.

Каб сказаў там,—
хай знае асілак,—
Пра яе парыванні і мары —
Як ёй хочацца побач быць з мілым,
Як ёй страшна,
калі грымяць над ім хмары...

Ураніла лісток на світанні
І трапеча бярозка, шапоча...
І не ведае,
што дуб —
з прызнаннем
Ліст таксама пасладь ёй хоча.

Хоча паслаць ліст —
і пякучасці ў сівера просіць,
Ды не можа таго дачакацца.
І шуміць дуб гнеўна:
разгайдай мяне, восень,
Разгайдай,
каб мог ліст адарвацца!..

*1978*

* * *

Вясёлыя людзі
Вясёлай увагай
Усцешылі
Светлы лясок.
Хто з чым:
Хто з вядзерцам,
Хто проста з біклагай,—
Прыйшлі
Па бярозавы сок...

Пад смех ды пад жарты
Па белых ствалінах
Ударыла
Вострая сталь.
І жалем азваліся
Слёзы глыбіняў...
Ды хто мог пачуць
Гэты жаль...

Спявалі пра сонца...
Пра вёснаў паводкі...
Спяшалі
Вядзерцы наліць...
Пілі,
Захапляліся
Сокам салодкім...
Не зналі,
Што й дрэвам баліць...

Але надышло:
Сціхнуў голас завозны...
Сок выбралі ўвесь...
Ні душы...
І глянь —
Як залізваюць
Раны бярозам
З цярплівай тугой
Мурашы...

*1978*

* * *

«Што мінула цяжкое,—
няхай яно болей не вернецца!»
Любая мама,
бяру твае словы ў верш.
У добрае, мама,
заўсёды верыцца,
Таму і жывеш толькі,
што ў добрае верыш.

Якая гэта радасць, мама,
што ты да мяне прыехала.
Ад краю маленства.
Ад роднага дзіва-святла.
Лясоў і лугоў
успамінам-рэхам
Усю душу абдала.

Сядзь побач. Усміхніся.
Не хачу бачыць тваёй слязы.
Будзь заўсёды
маіх трывог абаронцай.
А раніцай —
будзі мяне, як калісьці:
— Вот вазьму матузы,
Дык адразу прачнешся,
убачыш,
што ўзышло сонца!..

*1978*

* * *

Дружа,
Не выключай тэлефон,—
Мне часам трэба з табой параіцца.
Асабліва
калі ў душы
агонь самалюбнасці разгараецца.
Калі на свет
з самаробнага п'едэстала,
што таксама здараецца,
Глядзіш, аддаўшыся ў пыхі палон...
Дружа, не выключай тэлефон...

Дружа,
Будзь гатоў мне цёплае слова сказаць...
Асабліва
калі ў душы
Пачынае патухаць полымнасць непаўторная...
Штось такое сонечнае і зорнае...
А халоднасць пакорная —
Адчуваеш — ідзе твае крылы звязаць...
Дружа,
будзь гатоў мне цёплае слова сказаць!..

*1978*

## ПАРТРЭТ

Вітаецца містэр яшчэ здалёк:
— Хау ду ю ду...
На белай манішцы —
бант-матылёк
Пад пухлую бараду.
У містэра —
вытанчаны этыкет.
Містэр пабачыў свет.

У містэра клопат:
яму для газет
Спатрэбіўся мой партрэт.

— Хау ду ю ду! — кажу ў адказ.
І ўсмешка — на ўвесь разбег.
Валяй, містэр!
Зафіксуй напаказ
Мой
з твайго клопату
смех!..

Смяюся...
Смехам
па містэру — залп...
Містэр збянтэжан:
— О сэр!..
Не гэткі,
мусіць,
хтось заказаў
Яму
партрэт з СССР.

Мусіць, чакалі:
калі паэт
Выліў
у песнях
сваю тугу,
Дык ужо ён —
на бляск замежных манет
Кінецца
з комам слёз на бягу;

Дык ужо ён
прад містэрам скрывіць рот,—
Маўляў, змардаваны ўшчэнт,
Як які-небудзь
гаўкала з-пад варот
Ці вырадак-дэсідэнт...

— О сэр!..—
у містэра ветлівы твар...
Ды ў голасе — новы лад...
Бачу —
таропка хавае ў футляр
Містэр
свой апарат.

— О сэр!..—
і задам
містэр хутчэй
Гуд бай, маўляў, сэр паэт...
О!.. Містэр мой ведае,
як з вачэй
Знікаць —
завучыў этыкет...

І я стаю, і гляджу яму ўслед,
І думаю:
вось небарак,
Што ён адкажа дзялкам з газет,
Чым апраўдаецца, як?

Што ён прыдумае,
што напляце
Пра стрэчу са мной, пра мой лёс,—
Каб ад няўдачы
не звар'яцеў
Ягоны газетны бос?..

*1978*

## ПІСЬМО МІСТЭРУ КАРТЭРУ

— Хело, містэр Картэр! —
не здзіўляйцеся,
містэр Картэр,
Што да Вас
па-простаму
звяртаецца камуніст.
Мы з Вамі, містэр Картэр,
як быццам аднолькава ўпартыя.
Дык на ліха нам здаўся
дыпламатычны свіст.
Да таго ж, містэр Картэр,
мы і па чынах роўныя.
Вы — прэзідэнт,
я — паэт.

А з паэтамі
рукаліся
самыя саноўныя
З тых часін,
як стаіць свет.

Ды ў паэта,
я скажу Вам,
становішча і вышэй на голаў:
Хто можа зняць паэта
з яго пасад?
А прэзідэнту —
толькі не ўгадзі вялікасці долару,—
Развернецца долар —
ды і дасць пад зад...

Але гэта, даруйце,
не для крыўды, а проста для слова...
Сядзіце сабе ў сваім крэсле
хоць і сотню год...
Толькі адкажыце, містэр Картэр,
ну чаго Вы, чаго Вы
Так пяклуецеся
не пра свой,
а пра мой народ?

Чаму Вам так рупіцца
наводзіць парадак у маёй старонцы?
Чаму Вам
не выходзіць
маё жыццё з галавы?
Адкуль Вы ўзялі, містэр Картэр,
што мне і маёй жонцы,
Калі б, маўляў, не Вы,
дык не далі б спраўдзіць свае правы?..

Я не буду гаварыць Вам
пра Ваша ўласнае логава.
Пра галодных, беспрацоўных і неграў,
якіх бачыў, як наведаў Ваш дом.
Я не буду Вам гаварыць
ні пра вашых гангстэраў,
ні пра шпікаў нічога.—
Вы і самі добра знаеце,
які ў Вашым краі садом.

Я не буду гаварыць Вам
прэ тых, што ў Вашых турмах згасаюць
За адну толькі мару —
быць людзьмі, а не гуртам валоў...
Але што мне здаецца, містэр Картэр,—
здаецца, што нават Вы самі
Не маеце ў сваёй Амерыцы
сапраўдных правоў.

Ну, скажыце,
ну, хіба ж гэта права
(jus, прабачце, згодна з лацінскай),
Калі Вы паўтараць змушаны,
захоўваючы тон і паўтон,
Усё, што Вам ні юскне
з філязофскім апломбам Бжэзінскі
Ці такі ж ваяка Браун,
што асядлаў Пентагон?

Ну, хіба ж гэта права,
калі Вас,
чалавека ад ніў зялёных,
Па-фермерску, па-гаспадарску
ўлюбёнага ў жывое жыццё,
Падштурхоўваюць у каршэнь —
смяротныя ўхваліць нейтроны,
Каб, забіваючы ўсё, што дыхае,
захоўваць рабаўнікам шмаццё?..

Містэр Картэр,
як я і прапаноўваў напачатку,
На ліха мне і Вам дыпламатыя
у пісьме, што ідзе ад душы?..
Скажу Вам шчыра:
калі мы абодва за мір і разрадку,—
Дык, па-мойму,
бяры пяро,
і, што думаеш,
адзін аднаму і пішы.

І калі гэта так,
то я Вам параю:
чым прымаць у Беладомаўскай зале

Якога-небудзь падонка,
што зарабляе хлуснёй медзякі,—
Узялі б Вы лепш, містэр Картэр,
сваю місіс Разалію
І прыехалі б да маёй сям'і ў госці —
на хоць два ці на тры дзянькі.

Ну, а калі місіс не можа
па якой-небудзь прычыне,
Дык прыязджайце без місіс —
не засумуеце ў нас і адзін.
Можаце не браць свайго «лінкальна»,
паедзем і на маёй машыне
І паездзім, колькі душа зажадае,—
у нас не кантралююць бензін.

Я чалавек без мільёнаў,
але і не бедны, нават па вашых стандартах;
І як размяркоўваў гасціннасць,—
не пакрыўдзіў нас з жонкаю бог.
Прымем Вас як належыць —
з усёй пачцівасцю, містэр Картэр,
Будзе і гарэліца горкая,
і салодкі дамашні пірог.

Паставіць нам жонка на стол
і яешню, і бліны, і аладкі.
Але пра адно папярэджваю:
калі яе гатаванне
не пахваліце Вы,
Дык будзем мы з Вамі бегчы
не менш, чым сто вёрст без аглядкі,
Тады Вы, містэр Картэр, пазнаеце,
якія ў яе правы!

Але гэта, даруйце,
зноў жа так, для звычайнага жарту.
Яна ў мяне і душэўна добрая,
і ўмее шанаваць гасцей.
І калі мы з Вамі
ў нашых лясах
назбіраем грыбоў, містэр Картэр,
Дык засмажыць іх так,
што не ўцерпіце крыкнуць «о кей!..».

І наогул, містэр Картэр,
скажу Вам,
без залішняй пахвальбы і азарту,
Скажу абсалютна ўпэўнена,
што, пабыўшы на нашай зямлі,
Ужо Вы больш
не здолееце
быць такім, як сягоння, містэр Картэр,
Ужо не здолееце паўтараць выдумкі,
што пра нас
Вам хлусы наплялі.

Мы з жонкай не будзем, містэр Картэр,
паказваць Вам адны толькі ружы,
Мы не станем, містэр Картэр,
перайначваць Ваш кругагляд светавы.
Але тое,
што мы з гордасцю
сваёй Радзіме служым,—
Гэта наша вялікае права —
мы ўпэўнены! —
з зайздрасцю адзначыце Вы!

Мы не станем,
містэр Картэр,
чарніць вашага ладу праявы.
Нашто нам чарніць яго? —
ён і так перад светам чарней ад жуды...
Але тое,
што мы ненавідзім
Вашу варожасць да нашай справы,—
Гэта наша свяшчэннае права,—
мы ўпэўнены,—
Вы адчуеце і прызнаеце Вы назаўжды!

І, вярнуўшыся ад нас у Амерыку,—
мы ўпэўнены,—
возьмеце добра за рогі
Усіх, хто Вас водзіць за нос,
абяцаючы правазмаганца вянок.
І самі Вы, містэр Картэр,
адмовіцеся ад дэмагогіі
І Бжэзінскаму свайму крыкнеце:
— Цыц, панок!..

Містэр Картэр,
як Вы бачыце,
мы за такія кантакты,
Каб і нашы народы ў міры
і нашы сем'і ў згодзе жылі.
А таму
прапаную Вам, містэр Картэр:
давайце з далікатнасцю і тактам
Гаварыць пра адзін аднаго,—
не пляціце пра нас кашалі.

Не прыпісвайце нам бяспраўя,
не дарыце нам сваіх фальшывых клопатаў,
Лепш падумайце,
як залатаць кайстру
амерыканскіх хвалёных правоў.
Каб у саміх у Вас, містэр Картэр,
шанавалі людзей, а не робатаў,
Каб панавала ў вас між людзьмі павага,
а не грыз чалавек чалавека, як воўк.

І, паверце, мы такі Ваш клопат ацэнім...
Ну, а на суровасць пісьма не зважайце.
Лепш адкрытасць размовы і шчырасць,
чым віхлявая слоў каляя...
Дык што, містэр Картэр?..
Прыедзеце?..
Прыязджайце!..
А пакуль — напішыце адказ,
будзем рады — і жонка, і я.

Пішыце — колькі жадаеце:
за адным пісьмом
і другое можаце слаць следам,
Пішыце на якой хочаце мове —
любую будзем вітаць.
Пішыце, не баючыся,
што пра Вашы думкі
хто-небудзь уведае,—
На нашай пошце не дазволена
чужыя пісьмы чытаць!

*1978*

## ГОРДАСЦЬ

Ёсць момант —
для мяне ён непаўторны ў свеце,—
Так шчодра дорыць велічнасць сваю:
Калі ў адным парыве
і бацькі, і дзеці
Галасаваць
Мандаты дастаюць.

Сівы, задумна-строгі, з ордэнамі Славы
Гвардзеец векапомнае вайны.
А побач з ім — ягоны сын русявы,
І аднакашнікі, і іх сыны.

— Хто «за»? — пытае старшыня ўрачыста.
І, быццам чырвань звонкая сцягоў,
Ўзвіваюцца мандаты камуністаў,
І палкасць душ не знае берагоў.

Не, не падказвае тут бацька сыну,
Бо шчыры аднадумец яму сын.
Усе — адзіны строй,
дзеля сваёй Айчыны
Адно ва ўсіх дыханне, гарт адзін.

Усе яны — вялікіх спраў салдаты,
У заўтра скіраваны іх паход.
І ў міг,
калі ўрачыста ўзнімуцца мандаты,
Я бачу:
галасуе тут
увесь народ.

Тады, ў такія светлыя імгненні,
Перад вачмі ўстаюць мне зноў і зноў —
У Смольным зала, на трыбуне Ленін
І наступ
Рэвалюцыі сыноў.

Тады, ў такія палкія хвіліны,
Мне бачацца Айчыннае франты,
Сцяг Перамогі
ў небе над Берлінам
І пад тым сцягам — воіны-браты.

Тады ўсім сэрцам бачу я і чую
У росквіце зямлі і каля зор
Савецкую Радзіму дарагую,
Сям'ю рэспублік — радасных сясцёр.

І з гордасцю за свой за век цудоўны
Кажу ад сэрца: слаўся, лёс такі! —
Бо дзеці ад бацькоў
усё ўзялі грунтоўна —
І значыць —
справе нашай
жыць вякі!

*1978*

## ПРЫВАЛУ НЯМА

Перапынку няма —
Ці, крывавячы рукі,
Каб жыта засеяць,
У вартоўныя крушні
З палеткаў
Зграбаць камяні;
Ці ў абвалах бамбёжкі
З-пад чорнай зямлі
Даставаць
Скарчанелых,
У пякельнай пакуце
сяброў;
Ці ў тайзе
З прадсмяротным усхліпам
Нечакана знайсці
І людзям перадаць
Кімберлітавы след,—
Перапынку няма,
У бясконцым жыцці
Ні на хвілю нідзе
Перапынку няма!

Пакуль дыхаюць грудзі —
Хай цяжка,
Пакутна,

Аж вочы шклянеюць ад мукі,
Аж рэбры выкручвае боль,—
Толькі праца,
Няспынная праца,
Бясконцая барацьба,—
Усё гэта — жыццё,
А ў жыцці —
перапынку няма,
Перапынку няма!

Толькі смерць,
Толькі, можа, яна —
Толькі, можа, яна
Назаўсёды і здольна спыніць
Перамогі, памылкі,
І цяжар, і мары,
Захапленні і ўцехі,
І мукі, і кроў...
Толькі смерць...
А інакш —
перапынку няма!..
Аніколі ў жыцці
Перапынку няма!

*1978*

## ЗАСТУПІЦЕ НА ВАХТУ, ПАЭТЫ

*Памяці Аркадзя Куляшова*

Заступіце на вахту, паэты,
Ды хутчэй! — з гулам высіцца вал...
Капітан ваш упаў перад светам
На пасту,—
яшчэ цёплы штурвал.
Капітан ваш упаў сярод ночы,—
Сцішваў крык — не застрашыць каб вас.
Але вочы,—
глядзяць яшчэ вочы
І трывожны даюць вам наказ.

Яшчэ
сэрцам
не ўсюды
сагрэты
У цунамі жыцця акіян...
Заступіце на вахту, паэты,
Ды хутчэй! —
наказаў капітан...

*1978*

## ПАЎНОЧНІК

Ўсе кветкі зніклі, як бы хто сурочыў.
Зямля цямнее ў восеньскай слоце.
І толькі сярод пасушы паўночнік
Яшчэ цвіце, яшчэ цвіце.

Стаіць ён чынна, горда перад ветрам,—
Такога больш, як ён, тут не знайсці...
І пад яго паглядам сіне-светлым
Лягчэй ісці, лягчэй ісці...

Лягчэй адчуць сябе ў святочным цудзе —
У сэрцы запраменіцца вясной...
Лягчэй паверыць,
што твой позірк
будзе
Заўжды са мной, заўжды са мной...

Іду... І хоць і знаю, што ніколі
Цябе ўжо не вярну, не даганю,—
Усё гляджу...
Як той паўночнік сярод поля —
Насустрач дню, насустрач дню...

*1978*

## ЧАРОМХАВАЯ КВЕЦЕНЬ

Крычала па-над ёй
машына «хуткая».
І хмурны доктар
падымаў павольна шпрыц.
І медсястра
старанна ўсцешвала, аж хукала...
А яна
сумная-сумная ляжыць...

Тады, зусім зняверaны, ускрушаны,
Каб хоць чым-небудзь заглушыць адчай,
Спытаў я:
— А ты помніш наш іскрысты, зацярушаны
Чаромхаваю квеценню ручай?

І бор над ім —
такі вясёлы, ўзвеснены,
У соснах — маладой жывіцы пах.
Ты там смяялася:
«Ну, вось і ўвесь ён мой
Прад намі — небагаты мой пасаг!..»

А я шчаслівы быў,
і шчасце гэтае
Мне стала лепшым скарбам на гады...
Вось папраўляйся,
ды хутчэй,
бо зноў цвітуць чаромхі светлыя...
А зараз —
пацалуй мяне, як там тады...

І раптам — як над той лясной, ручайнай сцежкаю,
Я ўбачыў позірк —
ён яснеў, майго шукаў...
І засвяціўся маладою твар усмешкаю,
І доўга, доўга ззяў, не патухаў...

...Назаўтра доктар з радасцю бязвіннаю
Сказаў:— Ну вось, падлекавалі вам...
І перад ёй, усмешлівай, адзінаю,
Я пакланіўся шчырым дактарам...

*1978*

* * *

Па рыбацкіх дарогах
З табою
Кружылі...
Ля кастроў піравалі,
Без кастроў гаравалі...
Што ж, мой дружа,
Відаць,
Так вякі варажылі —
Каб рачныя вятры
па-над намі тужылі
І на самым далёкім,
Апошнім,
прывале.

Можа, некаму
Гэта звычайна і проста:
Што травінка,
Што хваля,—
ці ёсць, ці няма іх...
Нам жа
Свет наш жывы
З дзіў маленькіх выроствaў;
У расінцы,
У посвісце ціхім бярости
Столькі ласкі
Гучыць,—
Аж слязою праймае...

Хай пяройдуць і ў бронзу
Трывогі і ўцехі,
Хай бы й мармурам сталі
Ўсе слёзы і ўсмешкі,—
Усё роўна
жыць будзе
Берагоў нашых рэха
І гукаць
не престане
Ад сценаў, ад стрэхаў,
Ад зацішкаў, ад сноў
на вятрастыя сцежкі...

*1978*

## ТКАЧЫХА

Я глядзеў на яе спрытныя рухі —
Як яна нітку лавіла...
Белыя, белыя рукі...
Што лебядзіныя крылы...

Я баяўся: тыя крылы ўзнімуць
Яе над машынай шматтоннай.
І паляціць яна...
І пройдзе міма —
Міма жыцця майго —
новая Джаконда...

А яна з усмешкай эдэмнай,
А яна, мілая мая ткачыха,
Штось сказала машыне таемна
І з другой пашапталася ціха;

Нейкае ім нарадзіла слова,
Такое па-святому жывое...
І пацяклі, пацяклі нанова,
Радасныя пацяклі сувоі...

Я глядзеў на яе спрытныя рухі —
Рухі ад натхнення і волі.
І маліўся на белыя рукі,
Як на нішто і ніколі.

І шкадаваў, што не ўмею
адпрасці
Гадоў сваіх,— коцяцца наперагонкі...
І што ўжо не пусцяць мяне
ў магазін «Шчасце»,
Шлюбныя не прададуць пярсцёнкі...

*1978*

## МАЛАДЫЯ ПАПЛЕЧНІКІ

Усё вы, ўсё пазналі і адчулі...
За ўсё даўно гатовы свой трымаць адказ...
Ну што ж, калі над вамі не свісталі кулі...
Затое
        неслі ношу
                        часам і за нас...

Гляджу і веру:
                        вы і на высокі,
                        на Гастэлы ўзлёт гатовы...
Адно прашу вас:
                        зразумейце —
                        што гэта за міг...—
Што, ідучы на смерць, не йграюць словам...
Не выпінаюць грудзі між другіх...

Ні ў сціпласць не гуляюць, ні ў вялікасць.
Ні радасць не вяшчаюць, ні тугу...
А так:
Магу, дык і зраблю...
                Усё зраблю, як родны свет паклікаў...
І нават і тады зраблю,
                        калі і не магу!..

*1978*

* * *

На спілаваных соснах
Жывіца,
Як і на жывых,
                        бруіць слязой бурштынавай тугой...
Жывіца,
Не дакарай мяне, не бі мяне такой тугой
На спілаваных соснах...

Хоць знаю ўсё:
Кроў гэтых прыгажунь
Не дзеля забаўкі, не проста так праліта...

А ўсё ж,
калі б я мог,
Я зняў бы іх святою сэрца акавітай...
Хоць знаю ўсё...

О любы лес!
Даруй нам...
Даруй і пашкадуй...
Калі тваю красу, тваю магутнасць рушым,
Мы і свае,
Мы і свае, як і тваю, глыбока ранім душы...
О любы лес!..

На спілаваных соснах
Звініць бурштын —
як быццам дух зямлі
яшчэ на векавечча не зачах...
І цэлы дзень
Стаіць туга,
Б'е мне праменным болем па вачах —
На спілаваных соснах...

*1978*

## ДРУГУ

Можа, калі-небудзь
Прасцей нам стане жыць.
Можа, калі-небудзь
Лягчэй будзе дружыць.
Можа, калі-небудзь
(Ці ў шчасці, ці ў журбе)
Прасцей будзе, лягчэй будзе
Прыйсці мне да цябе.

Світанкам летнім проста
Пастукаю ў акно.
На бераг выйдзем росны,
Дзе не былі даўно.
Закінем вуды ціха,

Ды ўраз забудзем іх
Ва ўладзе успамінаў,
Для сэрца дарагіх.

Тады, мой друг, мой штурман,
Настане, пэўна, час
Сказаць усім
пра штурмы,
Дзе ты гарэў не раз.
Дзе самалёт твой падаў
І разбіваўся спрэс.
А ты ўставаў
пад градам
Асколкаў —
бы ўваскрэс;
А ты ўставаў і ўпарта
Ішоў да новых стром,—
Па карце ці без карты,—
На свой аэрадром.
Зноў у строй арліны
Спяшаў —
ізноў у бой:
Ад ворагаў Айчыну
Аберагчы сабой...

...Можа, калі-небудзь...
Ў легендзе без прыкрас,
Можа, калі-небудзь
Згадаюць і пра нас...
Мо і пра нас раскажуць...
Мо і пра нас спяюць...
З агнём эпохі звяжуць...
З грамамі год зліюць...

Можа, калі-небудзь...
Ну што ж, калі і так...
Хай і зусім пад небам
Не ўспомняць тых атак,
Я знаю: ты, мой дружа,
Не закрыўдуеш, не,
Бо шчырым сэрцам
служыш
Айчыннай старане,—
Па-гордаму высока,

Па-мужнаму заўжды...
Хто быў як смелы сокал
У грозныя гады,
Хто быў жыццю адданы
Ў смяротным іх агні,—
Той
        для людзей
                        не стане
Інакшы
            ў дабрыні...

...Можа, калі-небудзь
Прасцей мы будзем жыць.
Можа, калі-небудзь
Лягчэй будзе дружыць.
Можа, калі-небудзь
(У шчасці ці ў журбе)
Прасцей будзе, лягчэй будзе
Прыйсці мне да цябе.

Тады людзям скажу я:
— Настаў нарэшце час —
Вось: друга абніму я
І за сябе й за вас,—
Вялікаю парою
За ўсіх, людзей сям'я,
Прайшоў ён шлях герояў...
І гэта бачыў я...

*1978*

* * *

Не падводзьце, не падводзьце, хлопцы, рысы.
Не заводзьце
                ў цень памінак
                            юбілей.
Не крышыце, не крышыце здобу ў місы.
Беражыце, зберажыце свой алей.

Не курыце, не курыце фіміяму.
Не свяціце юбілейнае вады.
Лепш скажыце,
што яшчэ, маўляў, ён самы,
Самы-самы недавука малады.

Лепш пашліце, лепш пашліце давучацца...
І калі сябры спытаюць «дзе ж ён, дзе?»,
Адкажыце:
не такая ўжо ён цаца,
Каб нам ведаць,
дзе ён едзе ці ідзе...

Адкажыце:
можа, блізка, мо далёка...
На зямлі ці каля зор спяшае жыць...
Ён, такі-сякі,
ад выраку і ўроку,
Ён, такі-сякі,
ад немачы
бяжыць...

*1978*

## У СКВЕРЫ ДЗЯРЖЫНСКАГА

Напіўшыся сонца над Мінскам,
Нястрымны, упэўнены, смелы —
На галаву Дзяржынскага
Сеў голуб белы.

Сеў, азіраецца горда:
Ці бача яго
шызачка-любка —
Лепшага ў свеце горада
Лепшая галубка?..

Галубка
бача каханага
І села б з ім побач ахвотна.

Ды толькі...
«Ах, што ж ты, абраны мой!..» —
Хоча крыкнуць маркотна.

«Ах, што ж ты,—
ёй хочацца крыкнуць,—
Хоць трошкі б
меў асцярогі!..
Бо гэта ж сам Дзяржынскі,
Самы са строгіх строгі...

Хоць і маўчыць ён,
навекі
Славай уліты ў бронзу,—
Ды раптам адкрые павекі
І ў гневе
пагляне
грозна!..»

Не ведае яна, ясачка,
Не ведае, не адчувае,
З якою
Дзяржынскі
ласкай
Голуба
на чале
трывае.

Не ведае,
з якою чуласцю
Усё ён стрываць гатовы,—
Толькі б
заўсёды чуліся
Яму
галубоў размовы...

Толькі б ведаць,
што ў клопаты
Спакойна крочыць Радзіма...
Што маці
дзяўчат і хлопцаў
З сонечнымі
гадуюць
вачыма...

Што хмары нідзе не збяруцца
Над роднай зямлёю мілаю...
І чысты
меч рэвалюцыі
Іржа забыцця
не выела...

...Коціцца з грукам па Мінску
Лета гарачае кола...
На галаве Дзяржынскага
Буркуе шчаслівы голуб...

Буркуе, іскрынку-роску
Ловіць з лісточка дзюбай...
«Ды не бойся ж!..» —
звонкагалосы
Падахвочвае любку любую...

І галубка —
быццам карункі
На шыі
шызыя
ніжа...
І галубка —
танцуе струнка
І да любага — бліжай, бліжай...

А навокал —
зяленіцца, звоніцца,
Шчырэе, шчыруе горад.
А на горад —
лье густа
сонца
Праменні
блакітнага мора.

А ў праменнях
на вуліцах Мінска
Пяюць
пра мам сваіх
дзеці...
На галаву Дзяржынскага
Падае з ліп квецень...

*1978*

## МА-МА!

Бяжыць дадому Каця,
І шчасця ёй замала.
Бо ў школе сёння слова
«Ма-ма» напісала...

Бяжыць яна —
бясконца
Ёй сонцам свет заліты,
Да сэрца прыціскае
Свой першы школьны сшытак.

— Глядзі, матуля, што тут! —
Крычыць яшчэ ад брамы.
І мама ўсхвалявана
Чытае ў сшытку:
— Ма-ма...

*1978*

## МІША

Зацерушыў на ранку
Зямельку белы снег.
Чые на ім слядочкі?
Хто тут у лес пабег?

Стаіць з пытаннем мама.
Але маўчыць зіма.
Ды глянуў
тата ў хату —
А Мішы і няма.

«От сын, от непаседа!» —
Хвалююцца бацькі.
А Міша цягне з лесу
З арэшыны цапкі.

— Ты што, сынок, прыдумаў?
Навошта гэта ўсё?

— А я зраблю,—
ён кажа,—
Кармушку для ласёў.

І як засыпле снегам
Усе куткі дуброў,
Я накармлю з кармушкі
Сваіх лясных сяброў.

— Ну, што ж,— бацькі сказалі,—
Ну, што ж, сынок, нясі...
Зрабі сваю кармушку —
Падзякуюць ласі...

*1978*

## ДЗЕВАЧКА-ПРЫПЕВАЧКА

Не спіць Андрэйкава сястрычка:
«Уа! — ўсю ноч.— Уа! Уа!»
— Ох! — стогне бабка.— Ну і пстрычка!
Баліць ад крыку галава.

І маці ў смутку:
— Дай ты рады,
Злітуйся, ноч, пашлі ёй сон!..

Адзін малы Андрэйка рады,
Сястрычкай ганарыцца ён.

— Бабуля! Мамка! — ледзь не скача
Андрэйка.— Ды яна ж не плача,
А проста наша Евачка —
Дзевачка-прыпевачка!

Ён ёй з ласкай ручкі гладзіць,
Ён яе усмешкай вабіць.
Ён пяе ёй казку-песню,
Ён яе спагадай песціць:
— Спачні, наша Евачка,
Дзевачка-прыпевачка!..

— Паглядзіце, ці не сніцца? —
Бабка кажа.— Сціхла быццам?..
— Спіць...— здзіўляецца і маці.
І так добра стала ў хаце.

А Евачка вочкам грае,
На браціка пазірае.
«Уа!» — смяецца Евачка,
Дзевачка-прыпевачка.

*1978*

## ЯШЧЭ РАЗ СПАТКАЦЦА

Яшчэ раз спаткацца
Са светлым і звонкім юнацтвам.
Яшчэ раз адчуць
Палымянасць імкнення ў жыцці.
Вялікае шчасце —
Душою наноў нараджацца,
Бясконцае шчасце —
З юнацтвам наперад ісці.

Юныя ленінцы,
Калі загрымяць барабаны,
Калі вашы горны
Ўладарна паклічуць у строй,—
Заўсёды, паверце,
Між вас я,
як вы, ўсхваляваны,
І з вашаю песняй —
Як з самаю добрай сястрой.

Хай славіцца шчасце —
Юнацкая, шчырая вера,
Бясконцае шчасце —
Гарачы ў душы неспакой.
Іду сярод вас,
Адчуваю сябе піянерам —
Шукальнікам новых
Шляхоў дзеля праўды людской!..

*1978*

## ПАЛЫМЯНКАМ

Ці хто забароніць,
ці хто калі спыніць?..—
Сівую з прызнаннем схілю галаву...—
Сяброўкі,
заўсёды між цуд-гераіняў
Я першымі вас, дарагіх, назаву.
Не, вы не ўставалі ваеннай парою
На подзвіг,—
ваш подзвіг штохвілі ў жыцці:
З руплівасцю сэрца, з душэўным настроем
Да сэрцаў людскіх з добрым словам прыйсці.
Чытаю ваш ліст, і жыцця спадзяванкі
Ўсе бачу наяве — хоць шчасцем паўней;
Вы — з гордага племя,
бо вы — палымянкі,
І заклік ваш чую гучней і гучней:
Калі нават
горшае выпрабаванне,
Калі нават
першая куля ў скронь —
Не выклікай
да сябе шкадавання,
Лепш выклікай
на сябе агонь!..
Усё гэта ўспомню я зноўку і зноўку,
Прызнання не спыняць ні бура, ні час!
З пашанай схілюся прад вамі, сяброўкі,
З падзякай —
што жыў і застаўся між вас!..

*1979*

* * *

А былі пралескі,
І былі цюльпаны.
І былі сяброўскія
Рукі —
з ласкай слоў...

І было прадонне,
І боль наканаваны.
І была надзея:
Сонцам дыхаць зноў.

І былі цярплівасць,
І пакута змогі.
І было жаданне —
Здацца забыццю.
І было чаканне:
Ўсё ж устаць на ногі,
Каб з паклонам нізкім
Дзякаваць жыццю...

*1979*

## ВОСЬМАЕ САКАВІКА

Мне, што б там ні стала,
Патрэбен ландыш...
Ну няхай хоць маленькі —
Светла-зыркіх хоць вочак з пяць...
Мне сказалі:
Далёка на схілах
Цянь-Шаняў і Андаў
Ужо расцвілі яны.
А мне...
Як мне адтуль іх узяць...

Людзі, людзі, паверце! —
Мне, што б там ні стала,
Патрэбен ландыш!..
Дзе каб радасць і сонца
І лятунку вясновага рух...
Прынясіце — прашу вас! —
Хто яшчэ здольны на ласку —
прынясіце мне ландыш —
Для самых спрацаваных
У свеце рук.

Мо адзін толькі бог
Ды зямля, наша маці,
дарэшты і ведаюць,
Як гарэлі
на гэтых руках
Самацветаў агні —
мазалі...
Колькіх яны
з самай шчырaю ласкай
Ратавалі ад бедаў,
Колькі яны і чаго
перамылі
і перарабілі
На нашай святой
і прывабна найгрэшнай зямлі!

Я ляжу, бы ўваскросшы,
Як пасля штурмавога налёту,
Прыкаваны да ложка
Кулямётам інфарктнай чаргі.
І яны,
гэтыя добрыя рукі,
рукі бясконцай работы,
турботы
і цёплай пяшчоты
Абмываюць мяне,
Саграваюць мяне,
Пояць сокам лагоды
з халадком мацярынскай тугі...

Як хацеў бы я зараз
Дацягнуцца да іх,
пацалункам аддаць
і пашану сваю ім, і радасць...
Як хацеў бы!
Ды сэрца
Сумна просіць: ляжы, не дабі, не скрышы...
А сягоння ж свята...
Такое свята!..
Прынясіце ж мне, людзі,
хоць маленечкі ландыш —
Для найчысцейшых у свеце рук
І найсвятлейшай у свеце душы!

*1979*

## СЯРОД ЗЕМЛЯКОЎ

Аб'ехаў свет, амаль з усіх планет
Глытнуў,
хоць і здалёку,
іх агню...
А тых, хто падарыў мне родны свет,
Убачыў сёння нібы ўпершыню.

Сяджу між іх, задуманых, сівых,
Бы вылітых з жалезнага ліцця.
І ў кожным слове
адчуваю мудрасць іх,
І нават у маўчанні —
мудры сэнс жыцця.

І што сказаць мне ім? Які такі сакрэт?
Як абвандроўваў свет? І сэнс знайшоў які?
Што ім той свет,
Калі яны стварылі цудаў
аж на ўвесь сусвет!
І што ім мой сакрэт,
калі у іх саміх
сакрэтаў на вякі!

І я маўчу. Я ведаю: лепш пачакаць,
Пакуль яны прыкінуць:
што і як —
Што ёсць для іх няпростага ўва мне...
А сэрца б'ецца гулка —
радасці балючай не суняць,
Як гэта ўсё бывае
толькі ў роднай старане...

*1979*

## ГУСІ

Ляцелі гусі.
Са здалёк, відаць, ляцелі —
І стаміліся, напэўна...
І селі гусі
Каля нашай хаты

На асеннюю раллю...
А тады апала шэрань.
І набраклыя
скавала птахам крылы.

І яны,
Калі адчулі,
Што ў палёт ім больш не ўзняцца,
Закрычалі
На ўвесь цэлы свет вялікі
Пра сваю бяду...

Гусі, гусі!..
Я пачуў іх
І збянтэжаны прыбег у нашу хату.
І знямелы я застыў перад табою,
І адно вачмі
табе паказваў у акно.
І тады
наўздзіў спакойна, ціха
Ты ўзяла сваю паркалевую хустку
І пайшла —
Як да дзяцей сваіх маленькіх,
На раллю
да тых спалоханых гусей.

Ты прыйшла да іх —
Звычайна, рупна, проста.
Так звычайна,
Быццам так было штодня, заўсёды.
І спакойна
Ты за птушкай птушку брала
Ў свае рукі,
І спакойна абцірала
Шэрань ліпкую
з іх крылаў і з іх ног.
І даверліва з табою
Гусі-лебедзі пра нешта гаварылі,
І шчаслівыя ўзнімаліся на крылы,
І ляцелі — паляцелі твае гусі
Ў свет вялікі,
пакружыўшы над табой...
З той пары —
Што ні адбудзецца ў жыцці —
я ўспамінаю

З верай, з яснаю надзеяй тую восень,
І раллю, і развітальны крык гусей.
З той пары —
Як толькі цяжка мне бывае —
Падыходжу да цябе, ўскіда́ю рукі
І чакаю —
каб сваімі дарагімі,
Дарагімі мне давеку і святымі
Дакранулася рупліва ты да іх...
Ці пяшчотна,
з ласкай матчынай,
паклала
Свае праведныя рукі
На маё плячо...

*1979*

* * *

— Цёрла ў горла,
соль у вочы,
Каб не бачыў
дня і ночы,
Згінь, паганец!..—
Так заўсёды,
Каб не ўрочыў хто нямілы,—
Помню,—
Ўнука ад нягоды
бабка шэптам бараніла.

— Цёрла ў горла,
соль у вочы!..—
— Ты?!
А ты — каму шапочаш?!
— Як каму?
Ўсім ліхам-бедам!
Хай абыдуць
майго дзеда!..

*1979*

## КАРЭЦ

Хоць у той карэц
Упалі слёзы маці,
Што ўсё чакала сына:
«Вось і ён,
і ён між іншых прыйдзе!..» —
А кожны, хто яго
Браў з рук матуліных гарачых
І піў ваду сцюдзёную
са студні,
Казаў з уздымам:
— Слава табе,
маці,
Нідзе яшчэ
Такой вады гаючай,
Такой салодкай
Піць не давялося!..
Сягоння тым карцом
І з той жа студні
П'юць з тых жа рук
Зусім другія людзі —
Ва ўнукі больш
І ў праўнукі
Бабусі годны...
Ды і яны не могуць утрымацца,
Каб не сказаць:
— Ах, што за цуд-вадзіца!..
Шчаслівыя,
Яны не бачаць,
Як
за імі,
Сардэчна пажадаўшы ім здароўя,
Глядзіць самотна
Ўся-уся сівая
Матуля
І з пяшчотай галавою ўслед ківае...

*1979*

## З АПОШНІМ БОЛЕМ У СЭРЦЫ

З апошнім болем у сэрцы
Чалавек забывае
страшныя свае нягоды,
Адчувае сябе трыумфатарам
І амаль
Верыць
У сваё бяссмерце —
З апошнім болем у сэрцы.

Так лёгка, так хвалююча-лёгка
існі па свеце,
Так радасна бачыць
красу зямлі,
Так верыцца,
што ўсё бясконцае, светла-праменнае,
Усё навокала — навекі тваё,
Калі знікае
ў сэрцы апошні боль.

А я, перажыўшы ўсё гэта,
Зведаўшы і пакуты, і шчасце,
Прашу людзей:
не даводзьце, людзі,
Каб знік у сэрцы апошні боль.
Бо тады раптам можаш забыць
сонечнае імя чалавека,
Які выхапіў цябе
з учэпістых рук смерці,
Можаш забыць,
Што на зямлі
не адзін ты вынасіў
боль у сэрцы,
Можаш не ўбачыць,
Як курчыцца ад жахлівага страху
ў некага твар,
Які не дачакаўся
ад кагось
выратавальнае дапамогі...
Людзі...
Хай трошкі, паверце,
чуецца ў сэрцы боль!..

*1979*

## ЯШЧАРКА

— Паглядзі, што я табе прынесла! —
Радасна сказала дзяўчынка
І падала мне
Папяровы карабочак,
У якім нешта ціха шкробала...—
— Гэта я сама, дзеду, злавіла,—
сказала дзяўчынка,— сама!
Сама злавіла ў полі нешта такое,
Каб зрабіць табе падарунак,
Паглядзі, паглядзі хутчэй, дзеду!
Цікава, а?!

Расчулены амаль да слёз,
Я адкрыў карабочак
І, збянтэжаны,
Убачыў у ім
зялёную яшчарку,
Якая, зняверыўшыся,
што ўжо можа вырвацца на волю,
Глядзела на мяне
Сумнымі вачыма
І зусім не чакала,
Што яе зменіцца лёс...

— А можна,—
спытаў я дзяўчынку,—
Скажы,
А можна мне яе выпусціць,
Гэтую тваю яшчарку,
выпусціць на волю?
Ты не будзеш крыўдзіцца,
любая, а?..
— Не! Не!
Можна, дзядулечка, можна! —
Закрычала ў захапленні дзяўчынка.—
Выпусці яе, выпусці, дзеду!..
І я выпусціў яшчарку,
І яна спачатку
павадзіла галоўкай,
Паглядзела то на мяне, то на дзяўчынку,
Быццам пытала:
«Ці праўда ўсё гэта, ці жарт?..»

А пасля
па пясочку
Пабегла, пабегла,
прабуючы ногі,
І шчаслівая,
Што за ёю ніхто не гоніцца,
Знікла з вачэй...
І, пакуль яна бегла,
радуючыся волі,
Дзяўчынка падскоквала весела
То на адной, то на другой назе
І крычала:
— Яе ўжо няма!
Яна ўжо схавалася, дзеду!..
А пасля
Падбегла ўзбуджаная
да мяне,
І абняла ручкамі
пяшчотна за шыю,
І пацалавала
ў сівую бараду...

*1979*

## ПРОСЬБА

Вышый мне сонца,
Самае яснае ў свеце вышый сонца,
І каб пад тым сонцам
Ляцелі мне насустрач
белыя птушкі,
Самыя белыя
за ўсе вякі.
Вышый мне неба,
А па ўсім небе вышый вясёлку,
Самую цёплую,
нават гарачую па краях вясёлку,
А над той вясёлкай —
Каб свяцілася ў травах
Знаёмая, летняя,
Незабыўная, родная,
Самая добрая ў жыцці рака.

Вышый мне так —
Каб да мяне
пад тым сонцам і пад тым небам
І над той у праменнях
дарагой ракою
Беглі ўсё, беглі,
І беглі, і беглі,
Мчалі навыперадкі
Дзеці гурмою,
Беглі і крычалі:
— Паглядзі, дзядуля,
Паглядзі, якія ў нас вочы —
што незабудкі,
Якія ў нас сінія,
добрыя вочы
І які ў нас сіні, добры пагляд!..
Вышый мне мару,
Хутчэй, прашу цябе,
вышый мне мару.
Самую бясконцую,
Светлую мару,
І каб з той мары
Ішлі ды ішлі ўсё да мяне
ціхія песні,
А ў песнях — як зоры
Плылі, і звінелі,
І лунапі над светам
Мудрыя словы
Аб тым,
Што адна ёсць —
адна толькі радасць,
Самая большая і непаўторная сярод людзей:
жыць, жыць, жыць!—
Жыць, каб ажно спяваць
І захапляцца жыццём.

Вышый мне шчасце,
А якое яно будзе —
я зусім не ведаю.
Не ведаю
і, мусіць, не спазнаю ніколі.
Але я табе, як заўсёды,
Ўсім сэрцам веру,
І ты прыдумай яго сама.

Вышый мне шчасце,
Павер —
Я яго душой
кожны міг адчуваю.
І хачу,
Каб прыйшло яно
толькі ад цябе,
Ад адной цябе толькі каб прыйшло,
Толькі ад адной цябе.

*1979*

## ПРАГА

Так грымнуў гром —
аж войкнула, знямела
Ваколле ўсё,
што за зіму жыць звыкла спакваля.
А ўраніцу — зазелянела,—
божа, як зазелянела! —
Дажджом вясны абмытая зямля.

Як ён блішчыць, мурог,
як пахне соладка лісцё парэчак!
І я дрыжу ад радасці
і ва ўрачыстай думаю цішы:
Што ўсё маё жыццё, ўсе ідэалы —
не супярэчаць,
не, не супярэчаць
Той нейкай святасці,
што зараз родзіцца ў душы.

Няхай плывуць сцягі,
грыміць агонь касмічны ў соплах,
Няхай усё,
што аджыло свой век,
спадае ў небыццё...
І хай заўжды пасля марозаў
на зямлі і ў сэрцах будзе цёпла-цёпла.
І хай нясуць нам слёзы
першы весні дождж і першае лісцё!..

*1979*

* * *

А нам загад нязменны —
жыць,
Ні ў век не забываць,
Што лёс наш —
радасці служыць,
Вёсны веснаваць.

Ісці няспынна ў даль дарог,
У свет свой дарагі.
А што за радасць —
без трывог?
Без вечнае тугі?

Няхай жа стрэне нас заўжды
Наш дзень — бы ўпершыню.
Няхай у душах праз гады
Не менее агню.

Няхай усё, чым рады свет,
Чым ёсць нам даражыць,
Адорыць сонцам
шлях і след
Бясконцай прагі — жыць...

*1979*

* * *

Ідзём па сцежцы маладога поля —
Рука ў руцэ —
на вогнішча зары.
Там перапёлка зранку жыта поле,
Там хмаркі ў сінь кідаюць якары.

Ідзём — і сэрцу
гэтак лёгка знацца
З красой жыцця, бясконцай і жывой.
Як быццам зноў вярнулася юнацтва
І зноў гучыць каханнем голас твой.

А можа, і напраўдзе —
так і стала?
А мо гадоў зусім і не было?
А можа, ў сэрцах —
не пераставала
Гарэць кахання звонкае святло?..

*1979*

* * *

Пагнаў у трубку жыта
цёплы дождж.
А сонца выйшла,
і зямля — як дымная.
І пахне хлебам
ніва неабдымная,
Нібыта ўжо
гарачы бохан
рэжа нож.

У промнях кроплі —
б'юць, як метраном;
Руку паклаўшы
на сцяблінкі чыстыя,
Нібы дзіця сваё
яшчэ ў калысачцы,
І мацае, і песціць
аграном.

Хусцінку вецер
скідвае з плячэй.
А жыта —
бы ў паклоне ёй
схіляецца.
І ўсмешкай яснай
шчокі заліваюцца.
І вусны шэпчуць:
— Ты ж расці хутчэй!..

*1979*

## ЛЮДЗІ ЎСЯЕ ЗЯМЛІ...

Людзі ўсяе зямлі,
Як добра памятаць,
што мы — людзі! —
Што ёсць у нас цёплае поле
З клічам зары «шыць-палоць».
З водарам белае грэчкі
У радасным пчол перагудзе.
З іржаннем каня над вадою,
Што
толькі што скінуў аброць.

Людзі ўсяе зямлі,
Як добра памятаць
пра нашу роднасць:
Што кроў нашых цёплых сэрцаў
Аднолькава ў свеце звініць;
Што,
калі нараджалі нас маці,
Былі яны з ласкаю ў згодзе;
І, каб нарадзіць нас прыгожымі,
Глядзеліся ў люстра крыніц.

Людзі ўсяе зямлі,
Каб ведалі вы,
як хочацца
Бясконца ісці разам з вамі
Пад водар прастораў і рэк.
Ісці разам з вамі заўсёды
Пад усмешкі, пад цёплыя вочы,
Ісці,
ад вас не адрываючыся,
У непаўторны наш век!

*1979*

## ЗАРАНКА

Так век і слухаў бы, як будзіць ранкі,
Каб край адчуў красу сваю наноў,
Чырванапёрае маёй заранкі
Малінавая песня між кляноў.

Я толькі раз яе ў лісці пабачыў —
Гарэлі на галоўцы прамяні.
А з той пары —
здаецца мне:
няйначай
Гару ў якімсьці радасным агні.

Ледзь толькі ўчую ранкам над палянкай
Пяшчотны спеў — бы роздум на струне,—
Ўсім сэрцам веру: кволая заранка
Нясе бясконца сілы для мяне.

І ўсё пытае: мала ці не мала?
І ўсё сабе адказвае сама:
Бяры, бо я ўсяго яшчэ не адспявала!
Бяры, бо шчасця іншага
ў мяне няма!

*1979*

## СЯМ'Я

Трава ласёў чакала на паляне,
Ля смолкаў завіхаліся чмялі.
І рэха бегла —
ў залатое ранне,
Кудысь праз бор —
мо аж на край зямлі.

Стаяў між соснаў лось і зваў кагосьці,
Нібы вітаў з вясёлым, ясным днём.
І ціха,
як на стрэчу, а ці ў госці,
Сюды ласіха выйшла з ласянём.

І на паляне ўтрох яны сышліся —
Што манументы ў ззянні сінявы.
І лось — і ласянятку, і ласісе
Пракладваў шлях да рослае травы.

*1979*

* * *

Калі мне будзе вельмі тужліва,
Калі апануюць смутак і золь,—
Дазволь мне наш дзень,
дзень прызнанняў, успомніць
І сэрцам паклікаць цябе дазволь.

Калі мне будзе вельмі тужліва
І з кожнай хвілінай — усё не лягчэй,—
Дазволь мне ў святую журбу тваю
верыць,
У даўні спалох тваіх сумных вачэй...

— Я дазваляю, я дазваляю,
Ды толькі прашу цябе, мой дарагі,
І згадвай, і клікай мяне —
як калісьці,
Не толькі ў хвіліну цяжкое тугі.

Далёкія радасці згадвай заўсёды,
Заўсёды трывогай той дзень узвяліч...
І вер — праз усё: праз агонь і праз воды
Да сэрца адданага
дойдзе твой кліч!..

*1979*

* * *

Пачуй — зязюлі ўсё яшчэ кукуюць
Па ўсёй зялёнай нашай старане.
І гадоў нікому не шкадуюць,—
Знаць, нікога шчасце не міне.

Значыць, будуць стрэчы і надзеі,
І вяселлі ў бубны будуць біць.
І жыццё святлом сваім надзеліць
Кожнага,
каб свет мацней любіць.

Значыць, і ў тваю душу на схову
Самы лепшы дзень, каб не пагас,
Прынясе вясна з таемнай мовай...
Ды таемнай —
                    толькі не для нас...

*1979*

## УСПАМІН І БУДУЧЫНЯ

Успамін і будучыня —
У адным сэрцы.
А ўсё ж будучыня —
Грэе цяплей.
Дык няўжо ж тое,
Што даўно мінула,
Няўжо ж не было яно
Ніколі сонечным,
Няўжо не жыло ў ім
Нічога,
        што мела
І цеплыню,
І пяшчоту,
І ласку,
Нічога, што грэе
                    ў пягодах душу?
Не, не! Усё было,
Усё адчуваеш
Нават і сёння,
Нібы не прайшло яно,
Не адгарэла,
А ходзіць і зараз
Шчасцем з табой.
А ўся справа
                ў тым,
Што чым цяплей спомін сэрца,—
Чым цяплей спомін сэрца
Аб сваім мінулым,
Тым больш яго грэе
Будучыні цеплыня...

*1979*

* * *

Расцвітаюць і купалінкі,—
І даўжэе дзень за днём.
Між купалінак —
праталінкі:
Мак з аранжавым агнём.

Кожны раз, расой абмытыя,
Ранкам сонца песціць іх,—
З прамяністаю малітваю
Перад працай рук тваіх.

Перад працай — перад мудраю
Тваёй верай на зямлі...
Вунь ужо чырванакудрыя
І півоні зацвілі...

*1979*

## І ТАК ПРАЗ ЖЫЦЦЁ...

Колькі разоў
Ты душу акрыляла чаканнем:
Сыдуць снягі,
Жаўруком
Зазвініць старана.
І зноў будзеш ты,
Ты — ўладарка салодкіх світанняў,
Сіняя казка,
Жаданая казка — вясна.

І так праз жыццё:
Пасяляюцца ў сэрцы пачуцці —
Імкненні і мары,
З якімі да скону жывеш,—
Дайсці, дачакацца,
Няхай сабе і ў шматпакуцці,
Вялікай хвіліны,
Дзе шчасце не ведае меж.

І з грому, і з ліўняў,
І з росаў, і парасткаў росту,
І з смутку, і зерняў,
Што не прыстаеш засяваць,—
Складаюцца песні,
Раджаюцца новыя вёсны
І вера —
што вечна
Нам вёсны свае веснаваць!

*1979*

## НОВЫ ДОМ

Маланкі — справа, злева,
Ажно рака — з двара.
Грымотная залева
Б'е ў вокны, бы з вядра.

Над дахам — з сілай мая
Ляскочуць перуны...
Так новы дом прымае
Камісія вясны.

Сама вясна сурова
Рашыла даць прысуд,
Ці добра ў доме новым
Сябе адчуе люд.

Ці ўтульна, ці прытульна?
Ці па залевах — дах?
Ці, можа, зноў —
агульна
Здалі вялізны гмах?..

І вось — яшчэ на ўздыме —
Раптоўна змоўкнуў гром.
Вясна падводзіць вынік:
Цудоўна зроблен дом!

Стой, дом, свой век даўжэзны!..
...I толькі сціхла ліць —
Выходзіць да пад'езда
Дзяўчына —
хто сасніць?!

Ажно,— як бы са скрухай,—
Залюбаваўся сквер —
Красуняй і фарсухай
Эпохі НТР.

Яна ж, каб скон быў справе,
З бетону, бы мастак,
Каля ўвахода ставіць
Свой тут апошні знак.

Малюе кельмай кола,
А ў ім — без лішніх слоў:
Наташа плюс Мікола —
Раўняецца — Любоў...

*1979*

* * *

Як белая ружа,
з пяшчотай заглянула ў вочы,
Як сіняя хмарка,
прабегла, бы цень, над чалом,
Як чыстая слёзка
упала, заззяла на вейках,
Як ціхі праменьчык,
прыйшла разбудзіць на світанку,
Як весняя мара,
у сэрца ўвайшла пазаўжды...

*1979*

* * *

Гаркавы пах чабору,
Трымценне пасушы, лясной травы.
Сцюдзёных росаў ззянне на світанні.
І голас бору —
Плынназвонны, вечавы...
Чаму ў іх чую
Сумны роздум развітання?

Аднекуль прыйдзе
І мацнее, што ні міг,
Як бы знянацку
Неспадзеўны нейкі смутак —
Па сонцу,
Па зямлі,
Па ўсіх прасторах векавых
З травой і росамі,
З дажджом і мятай-рутай.

Я неаднойчы
                    сэрцам
І гарэў, і гас,
У радасці,
У сумаванні
Па зямлі і лету.
Ці не таму,
Што ўсякі, ўсякі раз
Баяўся страціць
Гэту сонечную вабнасць свету?

Хоць знаеш:
Заўтра
Будзеш зноў і неадрыўна тут
Імкнуцца
Да зямной красы, такой гаючай.
А ўсё ж...
Душа трымціць,
Як быццам
Твой чароўны кут
Паўнее спевам
Аб расстанні немінучым...

*1980*

* * *

Знаю, знаю, лёс твой
не салодкі —
Прыгажуняй знацца на зямлі.
Прайдзісветы ў бліскаўках-бразготках
Кругам цябе цесным
абнялі.

Часам штось шапнуць няўзнак
на вуха,
Часам — вокал
з галасам гудуць.
Злоснай плёткай, звадай-пацярухай
Цягнуць крывадушную нуду.

Ты тады згадай бары, паляны,
Сцежкі нашы, лёгкі пасашок.
І, як заклік цуда-талісмана,
Ціха ўспомні:
«зайка» і «пушок».

Ім не зразумець, якая сіла
Ў гэтых словах і адкуль яна.
На якія подзвігі ўскрыліла
І каго —
нібы сама вясна.

«Зайка, дзе ты?» — запытай таемна.
І, каму належыць гэты кліч,
Нават з цемры пекла пад'ярэмнай
Да цябе, да любай, прыляціць...

*1979*

* * *

Іх было двое —
што тут летам кружылі,
Двое — шчырых, быццам сваіх,— лебядзёў.
Аднаго ў выраі,
мусіць, недзе забілі,
Другі прыляцеў дамоў.

Ідуць ля возера, спыняцца людзі,
Просяць лебедзя: не сумуй, дружбак...
А ён — то нясе перад імі
белыя грудзі,
То — нырне ў чаратах, як рыбак.

І, ўспамінаючы,
як тут было да адлёту
У вырай (як тут любілі іх),—
Думае:
каб людзі
не чулі сябе сіротамі,
Трэба яму жыць за дваіх.

І падплывае да рук кожных
шчыра-шчыра,
І шчыра прымае ласку ад іх.
А часам —
закіне голаў і, як з гучнай ліры,
Людзей прывітае —
што братоў сваіх...

*1979*

* * *

Калі цкавалі Каперніка,
Ён крычаў: «Усё роўна галоўнае — Сонца»,
Калі вялі каты на шыбеніцу
Майго аднагодка палоннага,
Ён крычаў: «Усё роўна жыццю — жыць!..»
Чаму ж я сягоння
Успомніў пра ўсё пра гэта
Толькі пасля таго,
Як прайшоў міма,
Міма найстрашнейшай вулічнай сцэнкі —
Дзе адзін чалавек калючым дротам
Аплятаў, агароджваў
ад суседзяў студню,
Каб яны
не бралі з яе вады?!

*1979*

* * *

Сябры былі яшчэ бязвусыя,
Яшчэ ў дзіцячых снах былі,
Калі ляглі пад Старай Русаю,
Над Волгай вогненнай ляглі.
Над Салаўёўскай пераправаю,
Па беларускіх хмызняках...
Хто з гучнай,
хто з нягучнай славаю.
А хто і проста —
лёг і спрах...
Сябры так моцна ў праўду верылі,
Так шчыра падалі ў агні...
Што толькі з іхняй,
з іхняй мераю
І можна жыць — гады і дні.
Таму так часта,
болем скутае,
Кідаю сэрца ў той паход,
Дзе хоць бы раз
сабой, пакутнае,
Чужы
закрыла
кулямёт...
Адкрыць дарогу
ўсім таварышам,
Каб пераможна скончыць бой...
Сябры мае
пра гэта марылі,
І клопат іх —
заўжды са мной...

*1979*

* * *

Аб чым ты, дружа,
Ў сне агнёвым трызніў?
Пра бой за вышыню
Ці аб дарагой вясне
На той зямлі,

Дзе лепш за ўсіх у свеце
Луг, і лес, і небакрай, і хмызнік
І дзе — ты гэтак верыў —
Нават смерць
Нас не разлучыць на вайне?..
Пра што, пра што,
Пра што ты зараз думаеш, мой дружа?..
З якою мрояй
Твар падставіў хмурна пад вятры?..
Калі цябе,
акрыўшы шынялём
ад золкай сцюжы,
Праносілі паміж зямлянак
Сумныя сябры?..
Звінела бель
Засіненай сярод хваін паляны.
Свяціла сонца —
Забівала вочы з самаробных партызанскіх
шыб...
І ўсім — чаму ён так гучаў?
Гучаў праз нашы слёзы
несціхана
Твой голас...
Як урачыста ён гучаў, твой голас,
Аб красе
тваіх сяліб!..

*1979*

* * *

«Настане час —
забудзе свет пра боль пакут;
Надыдуць дні —
не ўспомняць і пра слёзы людзі...»
Ах, дружа, адкажы,
які ж тады ён будзе,
той зялёны кут,
Дзе жвір-пясок
мае укрые грудзі?..

Няўжо над ім ніколі
не застогне сіні бор —
Не здрыганецца
сумным веццем над трунюю?
Няўжо ніхто
ні ў бляску дня, ні пад мігценнем зор
Не выплача
ўспамінаў
нада мною?!.

Не, я не веру...
Хоць і будзе новы век,
Не веру,
што на свеце знікнуць
жаль і смутак...
Інакш — навошта жыць?
Навошта ў шчасце верыць чалавек?
Навошта ўсе мы
да цяжкіх шляхоў прыкуты?..
Не, не! — не для пакуты
я ўслаўляў свой шлях жыцця
і не для слёз! —
Але, калі б я ведаў,
што, як упаду,
не ўстане жальба над парогам,—
Павер, хаця б і неўміручасць
прысудзіў мне лёс,
А я б пакінуў гэты свет —
яшчэ пакуль па людзях плакаць могуць...
Русявая, пяшчотная, харошка,—
у яе паглядзе бачу я
І радасць, і трывогу,
і слязіны цёплай сум адвечны...
І ўпэўнены: я ўсё прайду
і выстаю ў любых баях,
Каб захаваць
і для сябе і свету
гэту чалавечнасць...

*1979*

## ПЯТРУСЬ БРОЎКА

### Рэквіем

Няхай паэтаў будуць і мільёны,
Сягоння, можа, ў свеце іх не менш.
Ды на зямлі, журботаю замглёнай,
Адзін патрэбен —
светлы, як прамень.

Адзін, адзін — магчыма, і не першы,
І не наймодны, —
зразумелы ўсім.
Адзін такі, каб і жыццём, і вершам
Быў для цябе па-роднаму сваім.

Упэўнен нехта, што святыя строфы
Ён творыць чалавецтву на вякі.
А чалавецтву на вякі-эпохі,
Як хлеб той —
сама простыя радкі.

Магчыма, яму трэба толькі слова,
Дзе шчырасць юнака і мудраца.
І каб з людзьмі пясняр —
і ў днях суровых,
І ў шчасці —
быў як роўны.
Да канца.

*

Адкуль прыйшоў ты, хлопча, ў гэты свет,
Дарогамі якога запавету?
Ці думаў, свой вітаўшы першацвет,
Пра будучыню слынную паэта?

Ці думаў калі-небудзь, ці гадаў
Пра песнярову сонечную долю?
Што спеву твайго звонкага ў гадах
Не спыніць нават смерць?.. Нідзе, ніколі?..

— Прыйшоў я стуль, дзе багацееў кулі
Цалялі ў мяне ўночы праз акно.
Дзе для маёй — не матчынай — кашулі
Па ніткі ткалі людзі палатно.

Прайшоў я праз грымотныя пажары,
Будзёнаўцы — была мая радня.
Я жыць ішоў — і разам з камісарам
На баявога сеў тады каня.

Не, я зусім не марыў
у тыя дні
Пра слынную славутасць песнярову.
Другую вывучаў тады я мову
У грозным Рэвалюцыі агні.

І толькі там шукаў сваіх дарог,
Дзе грукат бою
быў мне як натхненне.
Радзіму вёў у перамогі Ленін,
І я быў сынам гэтых перамог.



А як жа ты, якой неспадзяванкай
Паэтам стаў, лятунку не ў дакор?..
— А ты хіба не чуеш кожным ранкам,
Як пахне над сцяжынкамі чабор?

А ты хіба за галасам жалейкі
Не слухаў кліч народнай барацьбы?
Не чуў хіба галошання Надзейкі —
Сірочы плач кахання і жальбы?

Не чуў душой спакутнелай, як звоняць
Па ўсёй зямлі трывожныя званы?
Як грозна Каліноўскага пагоня
Карала чужаніц у дні вайны?..

Я ўсёй душой пачуў і ўбачыў гэта,
І за жыццё Айчыны сэрцам сох...
Не думаў я, браток, пра лёс паэта,
Але гарачых слоў стрымаць не мог.

Не мог маўчаць —
з душы напевам біла,
І я — ці ў бой ішоў, ці вёў сяўбу —
Чуў — як з народам
слоў мацнее сіла,
Пра шчасце быў мой спеў ці пра журбу...

*

Пятрусь Усцінавіч, наш дарагі, паверце,
Я знаю:
з Вамі сёння
увайду ў свой дзень.
Я знаю:
гэткія, як Вы, і пасля смерці
Навечна застаюцца між людзей.

Але ж — як сумна,
як, паверце, сумна
Да непазбыўнай думкі прывыкаць,
Што ўжо не можна
ў светласці задумнай
Вас на шумлівых вуліцах спаткаць.

Як сумна,
як бясконца недарэчна,
Што Вашае акно
для нас больш не гарыць.
Даўно без Вас ні з кім, ні з кім сардэчна
Не выпала нідзе пагаварыць.

Адны — як і заўжды, па пальцах лічаць хвілі.
Другіх — з трыбун і бура не саб'е.
А іншыя —
як кажуць, «вазамнілі»
Святымі, неўміручымі сябе.

Што ім да нейкай думы ці надзеі?
Што боль чужы ім браць да галавы?..
Па шчырасці сказаць —
не ўсе і ўмеюць
Любіць людзей,
як іх любілі Вы...

*

Пятрусь Усцінавіч...
Хвалююся і чую,
Як пры спатканні чуў апошні раз:
— А мы сабе працуем і працуем,
І так да скону гэта будзе ў нас.

А нам ісці, а нам шукаць і верыць,
Што толькі ў рупных пошуках — жыццё!..
Ах, Пётр Усцінавіч! А хто калі ці змераць
Сваім мог сэрцам
Вашага біццё?!

І вось чаму — для ўсіх для нас экзамен:
Прайсці, як Вы, па сцежцы па любой.
І покуль гэткія, як Вы,
пякуць нам памяць —
Датуль не будзе слова ў нас «адбой».

Няхай паэтаў будуць і мільёны,
Сягоння, можа, ў свеце іх не менш.
Ды на зямлі,
журботаю замглёнай,
Адзін патрэбен —
светлы, як прамень.

І Вы такі былі, ў народзе знаны,
З такім за справу родную стаім.
Вы вершам і жыццём непараўнаным
Навечна сталі кожнаму — сваім.

З такім не страшна і ў змаганні пасці,
З такім за гонар — праўдзе паслужыць...
Мы вызналі сваёй душою —
шчасце
І з Вамі побач быць,
і ў Вас вучыцца жыць...

*1980*

## СЛОВА НАРОДА МАЙГО

Слова народа майго,
Родная мова,
Нават і ў рэху
на ростанях свету —
Чутна
Тваё мне гучанне.
Радасць ці смутак,

Дума цяжкая
                ці светлы лятунак —
Чую спагаду
І блаславенне тваё,
Маё вернае слова.

Слова народа майго,
Родная мова...
Як ад калыскі
Вяло ты мяне
Па дарогах жыццёвых нялёгкіх,
Так і далей —
Не пакінь без падтрымкі,
Дай сілу
Адужаць той боль,
Што над духам маім
Можа ўзняцца суровай часінай...
Будзь назаўжды
                вартавым для мяне,
Маё вернае слова.

Слова народа майго,
Родная мова...
Хоць ужо і не грэх
Гаварыць аб апошнім
                дыханні сваім,
Хоць ужо засталося
Так мала праменняў маіх
У высокім блакіце,—
А прашу:
Навучы мяне,
Родная мова мая,
Яшчэ больш адчуваць
Сваю сувязь
                з бацькоўскай зямлёй,
Гарачэй і мацней
Дарагую Радзіму любіць...
Як найлепей
Апошнюю сэрца крывінку
Аддаць
Для народа свайго —
Навучы мяне,
Вернае слова народа...

*1980*

## РАЗМОВА З СУСЕДАМ

Маўчаць
Аб пякельным агні ў сэрцах
Закаханыя.
І маўчаць
Аб зробленым і замысленым
Злачынцы.
Крычаць маці
Па-над сынамі забітымі.
І крычаць прайдзісветы,
Зарабляючы
новыя чыны.

Усміхаюцца
Ў адказ на пяшчотную ласку
Немаўляты.
І ўсміхаюцца
Над пакутамі ахвяр
Душагубы.
Сумуюць, пакідаючы свет,
Аб няпройдзеных шляхах
Вандроўнікі.
І сумуюць перад смерцю
Заваёўнікі,
Што не ўвесь
Ад іх
плакаў свет.

— Што ж гэта? —
Заходзіць да мяне
сусед-філосаф.—
Як гэта? —
Не можа адказаць на пытанні.—
Як яны могуць ужывацца,
Гэтыя
антаганістычныя катэгорыі?
Як выключыць
З існасці дабра
функцыю зла?

— Дружа,— кажу,—
Паглядзі ў гэтае чыстае шкло,
Ты бачыш? —
Колькі там

Самых дзіўных,
і самых розных,
І самых складаных, і самых простых,
І дарагіх,
і ненавісных для сэрцаў
Праяў жыцця!..
Ах, каб маглі мы ведаць,
Як зрабіць,
Каб вунь тое сіняе воблачка
Раптам не патанала
Ў чорнай хмары
Будучай навальніцы?
Як зрабіць,
Каб вось тая дзяўчына,
Што стаіць вунь
такая асветлена чароўная,
Ніколі-ніколі
Не знала журбы,
Што падае цяжка на сэрца?
І як растлумачыць —
Што ж гэта,
Што ж гэта робіцца,
Калі голас жалеза
Расцвітае цюльпанамі
Там,
Дзе развальваецца —
самы кветкавы,
З мармуру,
п'едэстал?..

— Але, можа, дружа,— кажу,—
Не ў гэтым
Нашае хваляванне?
Можа, гэта і добра,
Што не можам растлумачыць
Усяго,
Што нас акружае
І што да астатку ўзрушае;
Можа, гэта і добра,
Што ані на хвіліну
Не спыняецца ўпартае
На зямлі змаганне —
Вялікі бой мужны
За чалавека ў чалавеку,

За прыгажосць у прыгажосці,
За праяву ў праяве,
І што ўсе мы, усе —
Нават тыя,
Што ходзяць як неўміручыя,
Змушаны ўзірацца
У выпадак, у з'яву,
І ў кожны позірк,
І ў кожную ўсмешку —
З пытаннем:
што тояць яны ў сабе?

...Маўчыць,
Занепакоены,
Мой сябра-філосаф.
Маўчыць...
І я не магу зразумець,
у якіх ён думах...

І я маўчу...
Але добра знаю,
Чаго зараз прагнуць
Мае спадзяванні.
Я думаю пра тое,
Каб заўтра рана,
Спаткаўшыся з сябрам,
Глянуць на яго больш узнёсла
І каб ён адказаў мне
Простым, звычайным
Радасным бліскам
сваіх вачэй...

*1980*

* * *

Друг,
У цябе сягоння боль,
Дазволь жа быць з табой
у чорную хвіліну.
Не здатны рассцілаць я
лёстачак тканіну,
Дык з мужнасцю салдацкаю
з табою быць дазволь.

Я ран балючых не паварушу,
Не растрывожу скрухі,
што цябе скавала.
А толькі буду пільна пільнаваць,
каб анічым ні мала
Не раніла
тваю лагодную душу.
Я знаю,
Не так лёгка перажыць
Цяжкую крыўду
ад заўчаснай сумнай страты.
І ўсё ж прашу —
не забывайся: мы — салдаты,
Што ўмелі
нат пакутнай хвіляй даражыць.

Успомні
Чорны лабірынт траншэй,
Тады я ўпаў пад куляй,
і ў віхурнай сцюжы
Ты нёс мяне з агню,
прасіў: «Трымайся, дружа!..»
І смутак засцілаў
святло тваіх вачэй.

Пералажы ж ты сёння на мяне
Цяжар сваёй жальбы
і вер — я не пакіну
Цябе без вернасці сваёй
ні на хвіліну,
Як ты не пакідаў,
як тысячы сяброў адданых —
на вайне!..

Друг,
У цябе сягоння боль,—
І я з табой!..
І ў непазбыўны момант горкі
Я чую гаркату слязы
і пах акопнай гімнасцёркі,
І мне абняць цябе —
як там,
у той акопны дзень,
дазволь...

*1980*

## КВЕТКА НА КАМЕНІ

У чыстым полі
Трава зялёная
Шуміць, аж буяе ўлетку.
Адкуль у полі,
У чыстым полі
Чырвоная ружа-кветка?
Такая чырвоная,
Такая чырвоная
Ды ў чыстым, у чыстым полі.
Аж сэрца заб'ецца
Ад гэтай чырвані
На чыстым поля прыволлі.
Поле зялёнае,
Плачкі-бярэзінкі
Голле схілілі нізка —
Кветка чырвоная,
Ружа-кветка
Стала замест абеліска.
Гарыць ружа-кветка
На камені белым,
Дзе ў вечнасць выбіты словы
Пра партызан,
Што змагаліся смела
І смелыя склалі галовы.
А як яна ўстала тут,
Ружа-кветка,
Што ўсіх да сябе гукае?..
Вырасла ружа
З гарачых сэрцаў,
Таму і барвянасць такая.
Так б'е з яе чырвань
У чыстым полі —
Аж сэрцы замруць нярэдка,
Калі з дарогі
Ідуць сюды людзі
І хіляцца
перад кветкай...

*1980*

# ПОМСТА

## Драматычная паэма

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Ускраіна вёскі. Паміж вёскай і лесам, што ўстаў на даляглядзе,— загоны даспелага жыта. Край аднаго загона зажаты. Відаць, што снапы былі ў бабках, але параскіданы. У жыце — палявая дарога. На ўтрамбаванай пляцоўцы — проста пасярод паклычанай патаптанай збажыны — спынілася машына. З яе вылазіць фашысцкі генерал. Перад ім выцягнуліся ў струнку розныя вайсковыя чыны. З боку вёскі чуюцца стрэлы і спалоханыя крыкі.

Генерал
*(не павітаўшыся, злосна)*

Праклятая зямля!
Няма нідзе кутка
Спакойнага...
Яе заваяваць
Нам загадаў наш фюрэр,
Каб навек
Была яна
ў пакоры!..
Так!
Заўжды!
Заўжды рабы
Павінны тут страчаць нас!..
А яна
І заваяваная
Ўсё роўна не дае
Ні хвілі адпачыць...
А-а?..
Што значыць гэты шум?
Хто там страляў?
Па кім?!
Па нас?!.

Афіцэр

Гер генерал...

Генерал
*(махае пальчаткай)*

А-а!..

На пляцоўку ўвальваюцца некалькі салдат і афіцэраў — яны нясуць на руках акрываўленага эсэсаўскага маёра. Генерал, адхіляючы ўсіх, уважліва ўзіраецца ў твар параненага.

Мой сын!
Адзіны мой!
Навек адзіны сын!..

Усе фашысты стаяць як аслупянелыя. Маёра апусцілі на падасланы шынель. Паранены ляжыць нерухома.

*(Генерал становіцца на калена перад параненым.)*
Наследнік мой!
Адзіны, любы сын!..
Скажы хоць слова,
Паглядзі на свет!
То — я, твой бацька...
Вось я... Побач... Тут...
Скажы хоць слова,
Супакой душу...

Маёр застагнаў, расплюшчыў вочы. Генерал прыўзнімае галаву маёра.

Маёр

Фатэр... Майн лібер фатэр...
Майн лібер генераль...
*(Пасля паўзы, гучна.)*
Іх... майн лібер...

Генерал

О, мой любімы,
Мой адзіны сын!
Скажы,
Хто на цябе падняў руку?
Я нават пад зямлёй
Яго знайду,
Усё ўзніму,
Перавярну,
Спалю,
Знявечу
І зруйную ўсё наўсцяж!
О, мілы мой,
Дай абніму цябе,
Скажы —
хто ён,
Той, што цябе забіў?!

Маёр
*(выразна)*

Пом-ста...

Галава маёра адкінулася безжыццёва. Генерал моўчкі падымаецца. Лютымі вачамі азірае ўсіх, хто выструніўся перад ім. Сціскае лоб рукой.

Усе

Хайль!..

Генерал
*(паказваючы ў бок вёскі)*

Вы чулі ўсе,
Што адказаў мой сын?!
Шукаць!..
Перавярнуць зямлю!..
Знайсці!!!
Ідзіце!..
Не шкадуйце
Ні жывых,
Ні мёртвых!
Спапяляйце
кожны дом!
Хай выгарыць
Праклятая зямля.
Хай анямее
Ўсё тут
і самрэ!
Знайдзіце
Помсту,
Знішчыце
навек,
Каб ні адзін больш
фюрэра салдат
Той Помсты
не сустрэў!
Ідзіце!..
Ўсе!..
Шукайце Помсту!
Помсту!!!

Усе бягуць у бок вёскі. Здалёк наплывае мелодыя сумнай жніўнай песні. З мелодыі — маркотны жаночы голас.

*Ой, загон, загон, ды шырокі мой,*
*А дзе ж той ратай, што тут араў-а?*
*Што тут араў ды баранаваў-а?*
*А дзе ж ён долечку сваю*
*пасеяў-а-а?..*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Вёска. Гарацъ хаты. Страляніна. Фашысты дабіваюць параненых жыхароў. Прывязаны да бярозы с е л я н і н. Яго б'юць і дапытваюць. Падпальваюць снапы жыта, кладуць селяніну пад босыя ногі.

Н я м е ц к і а ф і ц э р

Скажы, дзе Помста,
быў ён тут?!

С е л я н і н
*(усміхаецца скрываўленымі вуснамі)*

Пом-ста...
Хочаш знаць, дзе помста...
*(Стогне.)*
А-а-а...
Дзе б ты ні ступіў...
Дзе б ні прайшоў...
Усюды...
Грымне гром...
Гром нашай кары грознай...
Так!.. Ён загрыміць...
І спапяліць...
Нянавісцю цябе...

А ф і ц э р
*(страляе ў селяніна)*

Русіш швайн!..

С е л я н і н
*(праз крОў, з апошняй змогі)*

Пазнаеш...
Пазнаеш...
нашу помсту...
кат...

Афіцэр
*(страляе зноў)*

Швайн!..

Селянін

Пом-ста... Пом-ста!..
*(Памірае.)*

Афіцэр страляе ў мёртвага. За сцэнай гучаць знаёмыя мелодыя і голас.

*Ой, жала я, жала, ой, жыта жала-а...*
*А нашто я жала ды снапочкі вязала-а...*
*Ой, ведаў мой ратаю, дзе поле араці-а...*
*Ды не ведаў, дзе долечку засяваці-а...*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Лес. Паляна. Групамі партызаны. Хто ўладкоўвае баявы рыштунак, хто размаўляе. На пяньку, пад высокай сасною, сядзіць Маці, сівая, задумная. Перад ёю — сын, камісар партызанскага атрада.

Камісар
*(нібы ў роздуме)*

Даруй, матуля,
што трывожу зноў
Цябе
Суровай думай пра вайну...
Але ж...
Ты ж знаеш, любая мая,
Як даражу
з маленства я
тваім
Найзапаветным словам...
Ты, і толькі ты,
Дала мне любасць
Да ўсяго ў жыцці,
Што знана сэрцам...
Ты,
з калыскі ты
Мяне вучыла
Так пражыць свой век,

Каб цэлы свет
У мой паверыў лёс...
Каб люд увесь —
і ў горы, і ў бядзе —
Чакаў спагады
ад маёй душы...
Мой позірк,
Маю песню,
Покліч мой,
Руку маю —
сабе ў апору браў...

Маці
*(як бы сама сабе)*

Так, так, мой сын.
Няма найвышай спраў,
Чым тыя,
Што нясуць
людзям жыццё...

Камісар
*(з узрушэннем)*

Скажы ж, матуля,
Як мне быць цяпер,
Калі ліхая сіла
сее смерць!..
Гарыць зямля.
Пакутуе народ.
Прыйшоў чужынец.
Сталлю і агнём
Руйнуе край...
Ні матак,
Ні дзяцей,
Ні старасці,
Ні слабасці людской —
Нічога не шкадуе...
У агонь
Кідае песню,
Мару і душу...
Дык як мне быць, матуля,
Як мне быць?..
Я ж вырас
не для смерці —
Для жыцця!

Як ты вучыла —
Не стаптаць, а ўзняць...
А тут...
Скажы, матуля,—
што ж рабіць?

Мацi
*(спакойна, крыху летуценна)*

Мой сын...
Ці помніш ты,
Мой любы сын,
Як падае ў даёнку
Малако?..
Калі яно звініць —
Тады душа,
Здаецца, пазнае,
Што значыць —
жыць...

Камісар

Так, так, матуля...

Мацi

Ты калісь любіў
З даёнкі
Піць набгом...

Камісар

Я помню ўсё.

Мацi
*(узбуджана)*

А ведаеш, сынок,
Як гаркавее
часам
малако?
Ты памятаеш...
Ты не мог забыць...
У дні,
Калі спякотны сухавей
Спячэ ўсё ў полі,
Ў лузе,
На лажках,
І нават
На палянах у бары

Трава пасохне —
Вось тады з цыцок
Не пахкі,
Звонячы,
Бяжыць струмень,
А цэдзіцца
Журботная туга
журботнай кропляй...
нават і з крывёй...
Дык вось у гэты час
Не спіць, бывала,
Сумнае сяло —
Уночы гонім статак на расу,
Каб ранкам мець
Хоць корчык малака...

Камісар

Я помню, маці...

Маці

А на той мяжы,
Дзе я цябе карміла
Ў дзень жніва,—
Ты помніш
Перапёлчына гняздо?
Яго падмыла ліўнем,
І над ім
Ты плакаў,
Каб сагнала я хутчэй
Ваду з мяжы;
І ручкаю сваёй
Ты засланяў гняздзечка
Ад бруі,
Што, пенячыся,
Бегла між травы...

Камісар
*(ківае галавой)*

Так, маці...

Маці

Сын!
З калыскі
праз гады
Вучыла я цябе

Любіць жыццё.
І сёння —
зноў
Даю такі ж наказ:
Любі, сынок, жывое
І заўжды
Сваім жыццём
Яго беражы...

К а м і с а р

Матуля...
Але ж вораг сее смерць...
Як можна
Ў гэтай лютасці й крыві
Любоў успамінаць?..

М а ц і

Мой родны, не пытай.
Любоў з табой
Павінна быць заўжды.
Яна ў крыві,
Яна ў душы тваёй,
Яна навекі,
І заўжды сама
Падасць свой кліч,
Падкажа,
што рабіць.
Ідзі, мой сын,—
Пакуль яшчэ наш край
Не выпалены ўвесь,—
Ідзі, вядзі
Людзей наперад
І любой цаной
Яго беражы... абарані...

К а м і с а р

Табе, матуля, дзякуй...

З-за дрэў выбягае малады п а р т ы з а н.

П а р т ы з а н
*(узрушана)*

Камісар!..

К а м і с а р

Што, дружа, ёсць навіны?

**П а р т ы з а н**

Камісар!
Мяне паслаў
З запіскай камандзір.
Вось тут!
*(Падае запіску.)*
Там бой...
Там ворагі сяло...
З людзьмі... спаліць...
Там бацька...
Камісар!..

**К а м і с а р**
*(прачытаў запіску.
Да партызана)*

Заві людзей!
Усе каб чулі кліч...
На бой.

**П а р т ы з а н**
*(бяжыць, гукае)*

Таварышы, хутчэй!

У лесе рух. Партызаны са зброяй бягуць групамі да камісара.

**К а м і с а р**

Матуля...

**М а ц і**

Не пытай, мой сын. Ідзі!..

**К а м і с а р**

За мной, сябры!
Усе хутчэй за мной!

Бягуць.

Заслона і песня.

*Ой, жала я, жала, ой, жыта жала-а-а,
Жала ды з сонейкам размаўляла-а:
А скажы мне, ясна сонейка-а,
А куды ісці мне дадомачку-у,—
А ці край саду вясновага-а,
А ці край бору зялёнага-а?..
Ой, ні край саду вясновага-а,
Ой, ні край бору зялёнага-а,
А там — дзе ўзышла долечка горкая-а-а...*

## КАРЦІНА ЧАЦВЕРТАЯ

Дагараюць, дымяцца дворышчы спаленай вёскі. Дзе-нідзе яшчэ пырскаюць іскры з пачарнелых камінoў на папялішчах. Дзесьці недалёка чутна густая страляніна, ідзе бой. Першы план: уцалелыя ад пажару, абпалены клён і бяроза, за імі — папялішча хаты. Над клёнам — студня... Перад ёй на каленях, упаўшы на зруб галавою з распушчанымі косамі, вясковая маладзіца.

Маладзіца
*(прытомнеючы, ломіць рукі, галосіць)*

Зялёны зруб!..
І студня!..
І майго маленства
любы клён!
О ты, сама зямля,
Ты, што спрадвек
Шукала шчасця
Ў нараджэнні і жыцці людзей!..
Няўжо не чулі вы
Пякельных плачаў
Дзетачак маіх?!.
*(Захліпваючыся.)*
О горачка!
О клён!
Чаму ты, клён,
Не засланіў сабой
Іх перад смертухнай?
Не ўратаваў
прад катамі?
Чаму
Галлём не высек
У ліхой бяды вачэй —
У душагубаў лютых,
Што кідалі
плачак
у агонь?!
*(Падае з глухім рыданнем перад студняй.)*
О горачка!
*(Надрыўна.)*
А-а-а!
О студня!
А хоць ты чаму
Не падала спатолі ім?
Жывой вадой

Не заліла агню,
Што жэр іх, слёзных...
Чаму, скажы,
Не загаіла ран?..
Няўжо табе іх боль быў —
як не боль...
А ты ж сама, о студня,
Ты ж сама,
Народжаная холадам глыбінь,
Так смягнеш,
Калі доўгі сухавей
Зямлю паліць пачне...
Тады крычыш,
Тады крычыш ты, студня...
А цяпер
Чаму маўчала і маўчыш, скажы?..
Маўчыш,
Гаротны чуючы
мой плач...

Раптам, як быццам нешта пачуўшы, кідаецца на зруб студні, глядзіцца ў ваду. Убачыла там свой адбітак — сівую, не падобную на сябе.

Што там?
Там нейчы твар...
*(Са спалохам.)*
Сівыя косы...
Чорныя кругі
Пад болем воч старэчых...
Зморшчкі губ?..
Чые яны?!.
*(Пазнае́.)*
Няпраўда!.. Не!..
Не я гэта, не я!
Я — маладая!..
Прывід, адыдзі,
Не муч мяне!..
*(Задумваецца,*
*нібы ўслухоўваецца ў самую сябе.)*
А можа, гэта ты,
Жахлівы лёс,
Завеш мяне...
туды —
Ў бяздонне,
ў прорву небыцця?..

*(Сціскае рукамі галаву, рыдае.)*
О божачка!..
Ну што ж —
Заві,
Бяры мяне!..
Бо для чаго мне жыць,
Нашто хадзіць па свеце,
Калі ў люты час
Я не была
ля дзетухнаў маіх!..
Не прыхінула
Да сваіх грудзей
Перад пакутай лютай...
Ў страшным тым агні
О хіба ж я
Дала б ім паміраць!
Не! Не!
З пякельнай мукай
Лепей бы сама
Я адышла ў нябыт,
А іх бы зберагла!
О божа!
Адкажы мне, лёс,
Нашто, скажы,
Нашто мне гэта сонца,
Калі іх няма,
Нашто мне неба
І вось гэты дзень,
Калі не ўчую
іхніх галасоў,
Нашто пясок мне
гэты жоўты,
На якім
Не ўбачу болей
Следу ад іх ног!..
Нашто, нашто мне ты,
Ўвесь белы свет,
Без іх,
Без ненаглядных
Дзетачак маіх!
Нашто!
Нашто!
Скажы, зямля!
*(З надрывам.)*

Нашто-о-о!
Нашто-о-о!

Рэха

О-о! О-о!
*(Маладзіца спыняецца, слухае.)*
О-о! О-о!

Маладзіца

Што там?
Адкуль пачуўся
голас мне?
А мо ажыў хто
ў попеле?
Не спапялелі сэрцы,
сталі біцца зноў?

Бяжыць на папялішча. Нечакана затрашчала галавешка, пасыпаліся іскры... Маладзіца кідаецца на іскры. Яны гаснуць.

Не трэба гаснуць, яскі!
Ясіначкі-ясінкі!..
Дайце паглядзець,
А можа, вы
зусім не іскры?
Можа, вы —
слязіны
З іх вачэй?
*(Крычыць.)*
Пастойце!
Пастойце!
Ляціце мне ў далонь!
Я вам скажу,
Скажу вам, іскры,
Слёзы вы ці не!

Маладзіца з глухім рыданнем падае ніцма на дол. Іскры стухлі. Сонца ласкава глядзіць з вышыні. З рэдкага хмызняку край вёскі выходзяць гуртам партызаны, некаторыя — параненыя, з перавязкамі. Аднаго нясуць на насілках.

Камісар

Сябры,
Глядзіце, слухайце,—
Дзесь тут
Чуваўся плач.

Маладзіца
*(з цяжкасцю ўзнімае галаву,*
*спалохана глядзіць*
*насустрач людзям)*

Хто там?
Мо зноў яны?
Зноў карнікі?
Бронь бог!
Лепш мне не жыць!..
Не жыць!..

Партызан
*(убачыў маладзіцу)*

Сюды!
Таварышы!
Жывая тут!
Сюды, сюды!

Маладзіца
*(пазнае сваіх. Але не можа ўзняцца з попелу.*
*Праз плач.)*

Свае?!
Ах, людцы!..
Не марудзьце ж вы!
Хутчэй ідзіце ўсе!
Вось хата мая светлая,
Вам будзе добра ў ёй.
І дзеткі ў хатцы —
Ясь і Ясечка...
Вы не зважайце, людцы,
Што яны маўчаць...
Яны паснулі...
Людцы!
Чуеце?
Лепш мне не жыць!..
Не жыць!..
*(Захліпваецца рыданнем.)*

Камісар
*(падыходзіць да жанчыны,*
*дапамагае ёй стаць на ногі.*
*Партызаны бяруць маладзіцу пад рукі.)*

Сястрыца наша...
Гора тваё слёзнае,
Павер,

І наша гора,
І попел гэты,
Дзе людскую кроў
І слёзы чыстыя
Паліў агонь,—
І нам нялёгка бачыць...
Ды трэба жыць...
Бо кроў і слёзы
Ўсіх ахвяр
У нас
Не проста
            паляць сэрцы...—
Як паходня,
Прад намі
            іх святло свяшчэннае...
Хадзем, сястра...
Душою
        уваскрэсні
                    для жыцця...

Маладзіца
*(абвялая, як сонная)*

Братухна!..
О братухна!..
*(Але раптам узрываецца.*
*Крычыць з болем і адчаем.)*
Людцы
Вы — усе,
Што нечапаныя
Усталі з полымя!
Вы ж, праўда,
Там былі
І незгарэлыя
Вярнуліся адтуль?!
Усіх,
        усіх прашу вас:
Паглядзіце вы пільней —
Мо вашы вочы
Ўбачаць
Хоць бы след
Ад дзетак маіх родных?!.
Мо яны
            пайшлі кудысь?
Мо іх тут не было,

Калі палалі
              сцены хат
І каміны
              трашчалі ад агню?!.
Пагляньце ўсе —
Мо іх сабой
Акрыла
Матухна-зямля?
Мо дзесь
Яны чакаюць?
Мо пад той вунь
Цэглай,
Што збялела ў полымі? —
Мо там
Спалохана
Глядзяць іх вачаняткі?..
О людзі добрыя,
Хутчэй пагляньце ўсе,
Знайдзіце іх,
Не дайце згаснуць
Іскрам іх вачэй!..

*(Як бы нешта ўбачыўшы, імкліва паказвае.)*

Вось, вось!
Глядзіце!
Вунь яны!
Вазьміце іх!
Я не магу сама
Ступіць да іх,
Бо ног не маю...
    *(Спалохана.)*
А дзе ж яны?..
Няма ў мяне і ног?!.
Святая сіла!..
Божа!..

Камісар падае знак. Маладзіцу адводзяць ад папялішча.

Партызаны

— Хадзем, сястра...
— Слязамі
Гору не паможаш тут...
— Хадзем...
Сям'я лясная
Будзе табе
              роднаю цяпер...

Партызаны рушаць у паход. Ідзе жалобны гурт — байцы нясуць самаробныя насілкі. Крыху адзаду — пад рукі вядуць маладзіцу, яна галосіць.

Камісар

*(падзывае рукой партызана, які ідзе побач з насілкамі)*

Як з вартай, дружа?
У засадах
Хопіць сіл,
Каб груганнё сустрэць?
Напэўна ж,
Карнікі
Не спыняцца
на гэтым...

Партызан

Так, камісар.
Надзейная
Пакінута ахова
На ўсіх шляхах,
На подступах лясных.

Камісар

Ну што ж...
Хадзем...
Цяпер, браток,
За ўсё
Ў адказе
Мы з табой...

Заслона і жніўная песня.

*Ой, жала я, жала, ой жыта я жала-а,*
*Ой, нарабіліся ручкі мае-а,*
*Ой, натаміліся ножкі мае-а,*
*Дый наплакаліся вочкі мае-а-а...*
*Аёй, долечка ж, доля ты мая-а-а...*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ПЯТАЯ

Пажаўцелы загон жыта падступае да самага лесу. З жыта — дарога, па якой падышла да ўскраінных соснаў калона партызан. З глыбіні лесу выходзіць Маці, яна паволі ступае між рэдкіх стромых дрэў. Спыняецца на мяжы лесу і жыта. У руках у Маці — клупачак. Яе абступаюць партызаны на чале з камісарам. Падводзяць маладзіцу — вочы закрыла хусцінкай, плача.

Камісар
*(схіляе галаву перад Маці)*

Матуля...
Даруй нам, горным,
Што прынеслі
Сэрцу твайму жаль...
Не гневайся,—
З суровай весткай
Мы прыйшлі
Адтуль,
Дзе столькі душ людскіх
Чакалі
Дапамогі шчырай...
Цяжкою мерай
Вымярае лёс
Сягоння
мужнасць нашу...
У баі
Загінуў сябра любы —
Камандзір...

Маці
*(спыняе камісара)*

Пастой...
Сынок...
*(Да маладзіцы.)*
Хадзі сюды,
Гаротніца мая...
Да матчыных грудзей
Нясі
Святы свой боль...
Цяжкую муку,

Што за ўсіх
Сягоння прыняла...

Маладзіца ўткнулася ў грудзі Маці, калоціцца ад плачу.

Хоць слёзы
З воч тваіх
Пякуць мацней агню
І працінаюць
Сэрца
Стрэламі грамоў,
А ўсё ж — ты плач,
Плач, мая доня...
Мо зямля
Чысцейшай стане
З гэтых слёз...
Мо наступны дзень
Для ўсіх людзей у свеце
Зробіць
Днём святла
Святы твой плач...
Аплаквай
Душы светлыя,
Што засталіся там —
На здратаванай
боем
Ніўцы нашай,
Пад попелам,
На папялішчах
чорнай смерці —
Усіх,
Каго ніштo ўжо
Не падыме
да жыцця.
*(Да камісара, паказваючы рукой на загінуўшага камандзіра.)*
Што ж ты,
Мой сын...
Што ж вы
Не ўберaглі
Такога —
светлага з найсветлых...

Камісар

Матуля...
Але ж ён...

Ты ж ведаеш,
Які ён быў заўжды...
Хто мог
З ім смеласцю
І рызыкай адвагі
Параўнацца?
Хто мог глядзець
Так мужна
Ў вочы смерці?..

Маці
*(у роздуме, мацней прыхінаючы да сябе змарнелую маладзіцу)*

О доля маці!
Ці гадала я...
Як і яна вось,
Доня слёзная,
Што пад рукой маёй,
Бы птушка, зараз б'ецца...
Ох, ці ж гадала я,
Што пад канец
жыцця
Мець буду
Столькі смутку!..
Не хаваць,
Не назіраць,
Як дол капаць
пачнуць,
Каб аднаго
Найлепшага з сыноў
аддаць зямлі.
Не!..
А даставаць
вяселля ручнікі,
Маністы і каралі
прымяраць.
Да ног сыноў
Кідаць зярнятаў жмені.
Падводзіць маладых
Да іх кубла.
Праводзіць
блаславеннем
У жыццё.
І ў слёзах шчасця

Бачыць
        прад сабой
Унукаў
Прамяністыя усмешкі!..
О доля маці...
Як суцешыць боль,
Што наліць сэрца...
    *(Да камісара.)*
Сын!..
Патрэбна ж пахаваць
Нам
Абаронцу нашага...
Ці ўсё гатова,
Каб яго ў апошні шлях
Правесці?

К а м і с а р

Так, матуля,
Вунь на той гары,
Адкуль відаць
                усяя наша зямля,
Магілка яго будзе...

П е р ш ы   п а р т ы з а н

Як любіў
Адтуль глядзець ён
На абсяг палёў
І часта думаў
Думы там услых,
Каб чулі мы,
Жылі душою з ім!

Д р у г і   п а р т ы з а н

На тым кургане стоячы,
Не раз
Ён марыў
            пра шчаслівыя дзянькі,
Калі вайны навала
                    скончыцца...

Т р э ц і   п а р т ы з а н

«Тады,—
Казаў ён,—
Вернемся ў сяло...
Тады...»

З якой ён ласкай гаварыў
Пра час,
Калі зноў прыйдзе
У школу
Да дзяцей!
Як маляваў ён
Першы школьны ўрок
Пасля вайны! —
Са словам
пра баі,
З наказам
Шанаваць і берагчы
Усё, што дарагой цаной
народ
Змаганнем за жыццё
заваяваў!

Камісар

Так, гэта праўда...
Хараша любіў
Ён і людзей сваіх,
і родны свет...
Няхай жа
пухам
Будзе яму дол
Зямелькі роднай...
У апошні шлях
Да будана апошняга свайго
Няхай ён пройдзе
светла і без слёз,
Як воін
Сярод воінаў...

Маці
*(да камісара)*

Чакай...
Пастой, сынок... Дай маці
Хоць хвілінку па-над ім
Пагараваць...
*(Цалуе камандзіра,*
*доўга ўзіраецца ў твар,*
*хрысціць яго.)*

Камісар

Хрысціць навошта?.. Маці...

Маці

Не таму
Хрышчу,
каб перадаць
Душу яго
Якомусь богу...
Не!..
Не богу
ён служыў,
Не райскіх кушчаў,
Не святой уцехі
прагнуў —
Не!..
Служыў
Душою праведнай
Людзям
І з імі
Ў памяці
І ў сэрцах —
Вечна будзе
Сярод вечных!..
А хрышчу —
Каб дух чужынцаў лютых,
Што яго крануў,
Наслаўшы смерць,
Зняць назаўжды
І назаўжды ачысціць
Воблік дарагі
Прад тым, як у зямельку
Чыстую пакласці...
*(Яшчэ раз цалуе твар камандзіра, махае рукой.)*
Ну што ж,
Ідзіце зараз...

У гэты момант з боку спаленай вёскі пачулася страляніна.

Камісар

Хлопцы!..
Дзесь страляюць?..
Бой?!

Партызаны

— Аберажыце Маці!
— У лес вядзіце, ў лес!

— І маладзічку з ёй...
— А дзе ж яна?..

Камісар

Сюды!
Сюды, матуля!
Тут вось
Будзьце з маладзіцай!..

Страляніна як раптоўна ўсчалася, так і сціхла. Але партызаны занялі абарону. Заслона і песня.

*Ой, жала я, жала, не зжала па сонейку-у,*
*Ой, ці буду жаці, ці дажну пры месіку-у,*
*Ой, а пры месіку раса сцюдзёная-а,*
*Ой, ды сцюдзёная-а ды пякучая-а...*
*А ты ж, мая долечка, доля плакучая-а...*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Тое ж прылессе. Партызаны, якія ў хвіліны трывогі акружылі Маці, расступаюцца. Маці сядзіць на расквечанай купіне — як быццам зямля спецыяльна ўтварыла для яе ў кветках троннае ўзвышэнне. Каля яе, з тварам у хустку, маладзіца. Некалькі партызан па дарозе з жыта вядуць фашысцкага генерала, які ўпарціцца і крычыць.

Маці

О, мусіць, птушка важная,
Што так дзярэцца.

Партызаны
*(якія прывялі генерала)*

— Камісар!
— Матуля!
— То галоўны кат!
— Сам генерал,
Што загадаў
Знішчаць сяло...
— З людзьмі...
— Паліць...
— На след
Сваіх злачынстваў,

На ахвяры
Ехаў паглядзець...

Мацi

А-а-а...
Дык вось хто завітаў
Да нас у госці...
Генерал...
Чаго ж
Крычыш ты, пане?..

Генерал

Іх бін генераль!
О русіш швайн!

Маладзіца

*(Скаланулася, пачуўшы нямецкую мову.*
*(Падхопліваецца з месца, крычыць.)*

То ён!
Матуля, ён!
Я бачыла!
Я за ракой была!
Я бачыла!
Ён аддаваў загад
Забіць дзяцей маіх!
*(Прабуе вырвацца з рук партызан.)*
Ён!
Ён аддаваў загад!
Я бачыла!
Я за ракой была!
Ён згубіў
Дзетачак маіх!
*(Рыдае.)*
О, для чаго мне жыць,
Калі сама
Я не магла згарэць
Там, побач з імі...
Маці!..
Гэта ён!..
Паліць! —
То ён загадваў!
*(Кідаецца на генерала, яе стрымліваюць.)*

Генерал

*(засланяецца рукамі)*

Не, не!

Я не даваў загад!
Я генерал.
Я не паліў дзяцей.
То ўсё салдат.
Ён біў.
Ён сам страляў.
Не, не!
Я не паліў дзяцей!

Маці

А-а...
Дык ты
І нашай мовай,
Бач, загаварыў...

Камісар

І нашы словы
Вывучыў,
Каб лепш
знішчаць народ...

Партызаны
*(у адзін голас)*

Матуля,
Смерць яму!
*(Звяртаюцца да камісара.)*
Чаго чакаць,
Дазволь нам,
камісар!

Генерал
*(як заведзены, са страхам)*

Я не паліў!
Матуля, матка, маці!
Я не біў!
То ўсё салдат!
Салдат страляў!

Партызаны

— Іш, артыст!
— Цяпер ён маці ўспомніў
І матулю кліча...
— Бляе авечкай,
а дасюль...
— Пакуль гуляў па краі

З куляй і агнём...
— І ў душагубках
нішчыў немаўлятак...
— Не ўспамінаў
матуляў...
— Смерць, смерць яму,
Чаго чакаць!..

Мацi
*(падымае руку. Хітаючы галавой.)*

Смерць... Кроў...
Ён знае гэта ўсё...
Ён добра знае,
Колькі тут праліў
Народнай кроўкі...
І колькі жыццяў загубіў
Са зграяй катаў,
Што прывёў сюды,—
Душыць Радзіму нашу...
Таму ён зараз
і трымціць...
*(Паказвае рукой на генерала.)*
Глядзіце, людцы,
Як ён страхам
поўніцца...

Генерал
*(істэрычна)*

О не!
Я не паліў!
О маці!..

Мацi

Бачыце, дрыжыць...
Чакае, што і мы
Распалім вогнішча
І кінем яго,
помсцячы за ўсё,
Гарэць у полымі...

Камiсар

Матуля...
Але ён жа заслужыў
Адплату, помсту!
Смерцю!

Толькі смерцю
Можа заплаціць
Ён за сваю
ліхую лютасць!
Гэта ж ён,
Руйнуючы наш край,
Хацеў знайсці і знішчыць
Помсту нашу.
Хай жа паглядзіць
У вочы ёй
ён зараз.
Хай ніц падзе,
Як занясе
яна
Над ім
Свой меч суровы!

Галасы партызан

— Так!
— Ліхадзею ёсць адзін прысуд,
адзін!..

Маці

Не, дзеці, не...
Не ў смерці
Хай убача нашу помсту кат!
Не ў кулі,
Што па ім ударыць
І залье
Крывёй паганай
Гэты чысты дол...
А будзе помстай нашай
Для яго —
Жыццё зямелькі нашай,
Непарушнае жыццё,
Якое
Марыў ён
спаліць...
Дыханне ніў.
Прамені сонца.
Жытні пах.
Птушыны грай
на золаку.
Людскія галасы.

Сякераў звон
І бёрнаў грук
На дворышчах старых,
Дзе будзем ставіць
хаты новыя.
Святло
Ў шырокіх вокнах.
Гул дарог,
І ў школах
Песні звонкія дзяцей —
Вось будзе
наша помста
для яго!
Дык развяжыце
рукі кату
І завядзіце яго
Ў Грабскі лес.
Сцяжынай той,
Ход па якой
З маленства
Ведам
Толькі вам,—
Між выдмаў,
Паміж прорваў,
Па хмызах
Вядзіце ката
На Сталетнікаў закут —
На выспу балацяную
ў дрыгве —
І там пакіньце...

П а р т ы з а н ы

— Маці!
Але ж колькі там красы,
На высне той!
І ліхадзею ўсё аддаць?..
— Крынічкі там...
З крынічак
Будзе піць ваду
кацюга...
— А чабор,
А нерушы суніцаў
На грудках!
— Матуля!

Колькі там ажыны
між дубкоў!
— Не пасылай туды паганца,
Маці,
Пашкадуй
Зямную волю...

Маці

Даўно было,
Калі я чула сказ
Пра час далёкі...
Ад сівых вякоў,
Ад прадзедаў
Дайшла
Пра наш Сталетнікаў закут
Легенда...
Чуйце, дзеці...
Заўжды, заўжды —
Сцвярджае даўні сказ —
На выспу нашу
Вольна
Мог заходзіць
толькі той,
Хто з добрым,
чулым сэрцам
Між людзей пражыў.
Любіў людзей
І ўсё рабіў для іх
З душою светлай...
І вы не раз
З маленства
Па грыбы туды,
Па ягады
Без боязі
Хадзілі...
Але — гаворыць сказ —
Спакон вякоў
Жыве
над выспай тою —
Вартаю святой —
Замова грозная
Зямелькі нашай:
Хто трапіць
З чорнаю душой,

З душою лютай
У Сталетнікаў закут,
На выспу ў багне,—
Там і застанецца...
Не, няма
Адтуль яму
Між прорваў ходу,
Няма збавення
Ад сябе самога,
Выратавання
Сэрцу лютаму
Няма...
Вядзіце ж, дзеці,
І яго —
Таго, што зараз
Стогне перад вамі,
На той закут...
Вядзіце і не бойцеся —
Ад кары
Нікуды не ўцячэ ён:
Правам маці,
Мне дадзеным
Зямелькай нашай роднай
Ад прадзедаў,
Я праклінаю ката!..
На выспе той
Днём,
Ад усходу сонца да заходу,
Ён будзе чуць
Стозвонным
Гулкім рэхам
Жывыя галасы жыцця...
Пачуе ён,
Як грымнуць бубны
На вяселлях вашых,
Як жаваранак
Зазвініць у небе,
Каб прывітаць
У мірным полі вас,
І будзе рады ён
Хутчэй памерці там,
Але не зможа —
Смерць яго жахнецца...
І будзе ён насіць

Сваё бяссілле —
Як закляты...
А ўночы да яго
З усіх кірункаў
Прыйдуць
І паўстануць
Па-над ім —
Ахвяраў яго,
Мучанікаў стогны,
Енк немаўлят,
Што ён паліў жывымі,
Праклёны мацярок,
Удоваў плач...
І будзе ён
Крычаць
Прад імі
Немым крыкам,
Заходзіцца ад страху,
Ды ніколі
Ніхто яго, кацюгу,
Не пачуе,
Апроч савы
ці пугачоў балотных,
Апроч ваўкоў галодных,
Апроч рысі,
Апроч вужакаў,
Што яго абкружаць
І будуць пазіраць,
Як чэзне ён...
Па праву маці,
Дадзеным вякамі
Мне ад зямелькі роднае,
Магу я
Сваім закляццем
Кожную сунічку
Зрабіць
Крывінкай млоснаї
для яго,
Вадзіцы кроплю
З чыстае крыніцы
Магу
Для ліхадзея
Нестатольнай
Зрабіць...

Але няхай...
Няхай жыве...
І хай там
Усё больш і больш
Чарнее,
Няхай заходзіцца там
люты гэты кат,
І чуючы, і бачачы,
З якой —
З бясконцай,
з неўміручай —
прагай жыць
Ідзе сваёй дарогаю
Наш край...

Камісар

Ну што ж, матуля...
Будзе так...
*(Загадвае партызанам-вартавым.)*
Вядзіце!

Генерал

Я не хачу!
Я генерал!
Я чуў усё!
Страляйце лепш,
Або зарэжце,
Або ў пятлю вядзіце,
толькі не туды!

Маці

Не, генерал!..
Не, з галунамі
залатымі кат!..
Не ўмеем мы,
Не вучаны спрадвек
Ні рэзаць горла
Так, як вы навучаны,
Ні шыбеніцы ставіць...
Страляць умеем,
Вымусілі нас
Трымаць
вайны закон...

Ды толькі ты
Сваю,
Сваю, вярхоўны кат,
Спазнаеш кару!..

Генерал

Не!!!

Першы партызан

Кроч, ліхадзей паганы!
Не стагні!
Жыві, калі сказала маці...

Другі партызан
*(з пагрозай)*

Гэй!..

Генерала павялі ў глыб лесу. Ён крычыць ад страху і бяссільнага шаленства. Чуваць здалёк: «Іх бін генерал!.. А-а!»

Маці
*(падзывае да сябе камісара)*

Сын.
Паднясі мне
Клуначак вунь той...
Сярпочак там...
Пакуль вы будзеце
Магілку
Насыпаць
Над братам,
Над героем нашым...
Мы будзем
жаць...
Дачушка!
*(Падзывае маладзіцу.)*
Вазьмі сярпок.
Патрэбна жыць.
Жаць трэба.
Зажні жытцо...

Камісар і партызаны падымаюць насілкі і нясуць да высокага ўзгорка на ўскраі лесу. Маладзіца ўсёй жменяй забірае жытнёвыя сцяблінь і падразае сярпом. «Жа-жах» — зазвінелі перастаялыя сцябліны. Жанчына зрабіла вязьмо, нажала сноп, пачала вязьмо завязваць. І раптам зноў захлінаецца рыданнем. Да яе падыходзіць Маці.

М а ц і

Што ж,
Акрапі жытцо слязой.
Хай кожны,
Хто з'есць хлеб
                з твайго снапка,
Адчуе ў сэрцы
Назаўжды
Твой боль...
І з гэтым болем
Хай яшчэ мацней
Трымае зброю...
                Што ж, паплач...
Але і жні...
І плач, і жні...
Патрэбна жыць.
                Жаць трэба...

Маладзіца ўсё смялей набірае ў рукі жыта і жне. Вось ужо некалькі снапоў легла на загон. Маці збірае снапы, ставіць іх у бабку. Маладзіца, зусім як гаспадыня, позіркам працавітай жняі пазірае на Маці. Маці падыходзіць да маладзіцы, гладзіць яе па галаве.

Ну, вось і добра.
Вось і жні.
Нямала яшчэ бураў,
Можа,
Наляціць на наш загон.
Нямала, можа,
Слёз
      яшчэ пральецца
З набалелых сэрцаў...
Але жыць трэба.
                Жаць трэба.
І горкі
Трэба зберагаць
                у нашай долі
                                хлеб...
Жні,
      любая дачушка,
                жні...

Па ўсім прылессі ідуць партызаны. Маці падбірае за маладзіцай снапы. Наплывае жніўная песня — спачатку адзін жаночы голас, а пасля — гучанне хору.

*Ой, жала я, жала, ой, жыта я жала-а*
*Ды свайму сярпочку, плачучы, казала-а:*
*— А мой жа ты сярпочку-а,*
*спарней жні, сярпочку,*
*А не дай мне ў полі спаткаць сваю ночку-у...*
*Бо пайду шукаць долю —*
*долю-далёчку-у...*

*1981*

## ЗМЕСТ

### ВЕРШЫ І ПАЭМЫ

**1962—1981**

#### Кніга ста песень

*

**Кірэнка К.**

К 43 Збор твораў: У 3 т. Т. 2. Вершы, паэмы, 1962—1981.— Мн.: Маст. літ., 1987 — 495 с., 1 л. партр., 4 л. іл.

Другі том склалі вершы і паэмы са зборнікаў «Кніга ста песень», «Цёплая радуга», «Дэкрэтам сэрца» і інш. У іх апяваецца любоў да роднай зямлі і Камуністычнай партыі, гераізм савецкіх людзей у гады вайны, іх самаадданая праца ў імя міру і светлай будучыні чалавецтва.

К $\frac{4702120200-050}{М 302(03)-87}$ 95—87 **ББК 84Бел7**

**Константин Тихонович**

**КИРЕЕНКО**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ТРЕХ ТОМАХ

**Том**

**2**

**Стихи**
**поэмы**
**1962—1981**



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі *Р. І. Барадулін.* Рэдактар *Хв. Д. Жычка.* Мастак *Ю. М. Цюрын.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар *Я. А. Бебель.*

ІБ № 2647

Здадзена ў набор 09.06.86. Падп. да друку 13.02.87. АТ 08037. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,04+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 27,2. Ул.-выд. арк. 25,64. Тыраж 3700 экз. Зак. 2582. Цана 2 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвон[illegible], 23.